# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 24 Сшыткі 1–2 (46–47) Снежань 2017

## ЗМЕСТ

### Артыкулы



### Класіка літоўскай гістарыяграфіі



### Архівалії



### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

**In Memoriam**

# Даследаванне структуры Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі ў XVII–XVIII ст.

**Войцех Вальчак**

Пасля таго як частка іерархаў і вернікаў праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі ў 1596 г. прынялі Брэсцкую унію, новаўтвораная грэка-каталіцкая царква сутыкнулася з праблемай арганізацыі сваёй унутранай структуры. Праваслаўнае духавенства і вернікі, перайшоўшы пад юрысдыкцыю папы рымскага, не хацелі займацца ўтварэннем новай структуры з нуля, бо гэта супярэчыла б самой ідэі уніі. А таму лагічным рашэннем было захаваць арганізацыйную структуру, атрыманую ў спадчыну ад праваслаўнай царквы, роўна як і пакінуць пры сабе яе інвентар (вядома, там, дзе гэта было магчыма ў акрэслены перыяд).

Тым самым адбылося своеасаблівае раздваенне рускай царквы: ніводная з епархій Кіеўскай мітраполіі з таго моманту не магла пахваліцца канфесійнай аднастайнасцю – праваслаўныя прыходы на яе тэрыторыі суседнічалі з уніяцкімі, а абедзве супольнасці – праваслаўная і ўніяцкая – лічылі сябе непасрэднымі спадкаемцамі ранейшых традыцый мітраполіі. Унутраныя падзелы разгортваліся ў межах асобных епархій, а часам ім спадарожнічала і пэўнае карэктаванне саміх епархіяльных межаў, на якое дадаткова ўплывалі шматлікія ваенна-палітычныя пертурбацыі ў Рэчы Паспалітай, асабліва характэрныя для XVII ст. Усё гэта цягнула за сабой пераўтварэнні ў маёмаснай структуры праваслаўнай царквы і ўніятаў[1],

[1] Kołbuk W. Kościoły wschodnie w Rzeczypospolitej około 1772 roku. Struktury administracyjne. Lublin, 1998. S. 30.

а ў другой палове XVII ст. урэшце прывяло да канчатковага разбурэння традыцыйных структурных формаў.

Згаданыя пераўтварэнні не абмінулі і Пінска-Тураўскай епархіі, дзе ў адказ на імклівыя перамены як у асяроддзі ўніятаў, так і ў праваслаўнай царкве адбываўся – асабліва актыўна ў другой палове XVIII ст. – злом ранейшых арганізацыйных структур. Гэты працэс пераходу асобных цэркваў у рукі то ўніятаў, то праваслаўных ішоў няспынна, у сувязі з чым цяжка акрэсліць перыяды, калі тая ці іншая канфесія дамінавала на землях гэтай епархіі.

Уніяцкая арганізацыйная структура, калі не лічыць Левабярэжнай Украіны, якая з 1668 г. адышла да Маскоўскай дзяржавы, захавалася аж да падзелаў Рэчы Паспалітай. У канцы XVII – пачатку XVIII ст. яна налічвала восем епархій – столькі ж, колькі мела ў XVI ст. праваслаўная царква Рэчы Паспалітай[2].

У 1720 г. Замойскі сабор вярнуў Кіеўскай мітраполіі адносна стабільную адміністрацыйна-тэрытарыяльную структуру, якая, аднак, разыходзілася – і часам істотна – з ранейшым укладам[3]. Каля 1772 г. Кіеўская архіепархія займала тэрыторыю блізу 200 тыс. км$^2$, што складала амаль палову ўсяго арэалу ўніятаў. Значна меншы памер мела другая па велічыні Полацкая архіепархія, следам за якой ішлі Львоўская, Луцкая, Уладзімірская, Пінска-Тураўская, Перамышльская і найменшая Холмская епархіі.

[2] Уніяцкія епархіі: мітрапаліцкая Кіеўская (званая таксама Кіеўска-Віленскай), Полацкая, Львоўская, Луцкая, Уладзімірская, Пінска-Тураўская, Перамышльская і Холмская. Гл.: Bieńkowski L. Oświecenie i katastrofa rozbiorów (druga połowa XVIII wieku) // Chrześcijaństwo w Polsce. Zarys przemian 966–1979 / red. J. Kłoczowski. Lublin, 1992. S. 864.

[3] Пар. заўвагі, якія намінальна адносяцца да Холмскай епархіі, што ілюструе больш шырокі маштаб згаданай з’явы, у публікацыі: Gil A. Chełmska diecezja unicka 1596–1810. Dzieje i organizacja. Lublin, 2005. S. 141–149. Пар. таксама: Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce // Kościół w Polsce. T. 2 / red. J. Kłoczowski. Kraków, 1969. S. 860–861.

Як мы бачым, прынята было лічыць, што Пінска-Тураўская епархія займала шостае месца ў Кіеўскай мітраполіі паводле плошчы (пасля найбуйнейшай Кіеўскай, Полацкай, Львоўскай, Луцкай і Уладзімірскай епархій)[4]. Меншымі за яе былі дзве епархіі: Перамышльская і Холмская. Тут варта адзначыць, што ў выпадку епархіі, пра якую ідзе гаворка, мы маем справу са спецыфічным балоцістым рэгіёнам Палесся, а таму вялікая плошча, якая прыпадае на адзін прыход, стварае памылковае ўражанне, бо папраўдзе значную частку епархіі займала мясцовасць, непрыдатная для пражывання. Як удалося давесці аўтару гэтай працы, плошча названай епархіі была значна большай, чым лічылі ранейшыя даследчыкі, бо дагэтуль у як склад не ўключаўся Мазырскі павет. Праведзеныя даследаванні дазваляюць сцвярджаць, што Пінска-Тураўская ўніяцкая епархія ў сярэдзіне XVIII ст. мела плошчу каля 35 тыс. км$^2$, што выводзіць яе на пятае месца пасля мітрапаліцкай, Полацкай, Львоўскай і Луцкай епархій. Варта пры гэтым звярнуць увагу, што ўключэнне ў склад нашай епархіі Мазыршчыны азначае неабходнасць адняць яе плошчу ад плошчы мітрапаліцкай архіепархіі, што змяншае тэрыторыю апошняй прыблізна на 10 тыс. км$^2$.

## Тэрытарыяльны абсяг Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі

Мы не маем у сваім распараджэнні крыніц, у якіх прыводзіліся б дакладныя геаграфічныя звесткі наконт Пінска-Тураўскай епархіі ў XVII ст. Гэта, відаць, тлумачыцца тым, што епархія ў названым стагоддзі сутыкалася

[4] Згодна з высновамі В. Колбука, Пінска-Тураўская епархія каля 1772 г. мела плошчу 24 тыс. км$^2$, затое паводле Л. Бянькоўскага – 25,2 тыс. км$^2$. Гл.: Kołbuk W. Kościoły wschodnie w Rzeczypospolitej około 1772 roku. S. 33; Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 864; Dylągowa H. Kościół unicki na ziemiach Rzeczypospolitej 1596–1918. Zarys problematyki // Przegląd Wschodni. 1992/1993. T. II. Z. 2 (6). S. 265.




**Межы ўніяцкіх епархій у Рэчы Паспалітай**
**у другой палове XVIII ст.**

з няспынным ціскам, а таму цяжка было апісаць стан царквы, вымушанай увесь час змагацца за ўжо здабытыя душы, якія ўсё часцей пераходзілі ў праваслаўе. Дадатковай праблемай былі ўзаемаадносіны ўнутры самой епархіі: землеўладальнікі імкнуліся адцяць у епіскапаў як мага большы кавалак царкоўных уладанняў, выкарыстоўваючы для гэтага перманентнае змяншэнне ўплыву ўніяцкіх іерархаў. Нярэдка самі епіскапы дакладна не ведалі, якія землі павінны ўваходзіць у склад іх епархіі.

Апрача таго, розныя палітычныя віхуры таксама маглі прыводзіць да змянення межаў епархіі. Ёсць падставы меркаваць, што ў перыяд уніі да тэрыторыі, якую ў XVI ст. займала праваслаўная епархія, была далучана Мазыршчына[5]. Відаць, гэтыя землі ўвайшлі ў склад названай епархіі пасля канфлікту паміж Мазырскім паветам і Кіеўскім ваяводствам, які завяршыўся толькі пры пасрэдніцтве спецыяльна скліканай у 1609 г. камісіі па размежаванні спрэчных земляў[6]. Размежаванне было пацверджана ў 1613 г.[7]. З моманту вынясення гэтых прысудаў

[5] А. Мірановіч у найноўшай публікацыі па гісторыі праваслаўнай Турава-Пінскай епархіі не ўключае ў яе межы Мазыршчыны, што пацвярджае тэзіс пра далучэнне гэтых земляў толькі ў перыяд уніі. Гл.: Mironowicz A. Biskupstwo turowsko-pińskie w XI–XVI wieku. Białystok, 2011.

[6] Volumina Legum. T. 2. Petersburg, 1859. S. 473–474. Гл. таксама: Сборник материалов для исторической топографии Киева и его окрестностей, изданный Комиссией для разбора древних актов, состоящей при Киевском, Подольском и Волынском генерал-губернаторе. Киев, 1874; Шпилевский П. Мозырщина (из путешествия по западнорусскому краю) // Архив исторических и практических сведений, относящихся до России. Кн. 3. Отд. 2. С.-Петербург, 1859. С. 1–49; Bobiński W. Województwo kijowskie w czasach Zygmunta III Wazy. Studium osadnictwa i stosunków własności ziemskiej. Warszawa, 2000; Rulikowski E. Opis powiatu kijowskiego. Kijów – Warszawa, 1913.

[7] Volumina Legum. T. 3. Petersburg, 1859. S. 101. Варта адзначыць, што Жыгімонт III у 1597 г. надаў русінскаму духавенству права “свабоды ад уплываў ваяводы”. Несумненна, гэта паспрыяла канфлікту паміж ваяводам і Мазырскім паветам. Гл.: Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich (далей SGKP). T. VI. Warszawa, 1885. S. 755–756.

у 1609–1613 г. Мазыршчыну разам з усімі яе прыходамі пачалі адносіць да Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі[8]. І хоць у 1769 г. у пінска-тураўскага епіскапа ўзнікла чарговая тэрытарыяльная спрэчка з кіеўскім мітрапалітам наконт Мазыршчыны, землі апошняй ужо так і не вярнуліся ў склад мітрапаліцкай архіепархіі[9].

Гаворачы пра далучэнне Мазыршчыны да цікавай нам епархіі, варта на хвілінку запыніцца над пытаннем аб тым, каму належала гэтая зямля, бо адказ на яго дазволіць праілюстраваць механізм пераходу земляў пад юрысдыкцыю пінска-тураўскага епіскапа, а таксама дасць уяўленне пра аргументы, якімі карыстаўся гэты ўладыка, каб давесці правамернасць сваёй улады над тымі землямі. Прычынай спрэчкі аб прыналежнасці Мазыршчыны, як і іншых падобных спрэчак, былі разыходжанні паміж адміністрацыйнымі межамі і межамі зямельных надзелаў, спалучаныя з глыбокай рэлігійнасцю ўладальніка пэўных земляў, у выніку чаго іх насельніцтву даводзілася прымаць веравызнанне свайго пана. Так было і ў выпадку Мазыршчыны, што засведчыў дакумент пад назвай "Інфармацыя пра становішча мазырскіх парафій, якія выдаюцца за прыналежныя да Тураўскай епархіі"[10]. З яго мы даведваемся, што ўладанні Тураў і Снядзін былі нададзены Жыгімонтам Аўгустам пінска-тураўскаму епіскапу пасля выгасання лініі рускіх князёў Астрожскіх[11]. У канцы 1563 – пачатку 1564 г. Канстанцін Васіль Астрожскі атрымаў Тураў, 9 фальваркаў і ажно 48 вёсак (сярод якіх больш за дзесяць вёсак былі пад юрысдыкцыяй пінска-тураўскіх уладык, а адна з вёсак непасрэдна адносілася да аднаго з тураўскіх прыходаў) у спадчыну ад сваёй маці Аляксандры, якая паходзіла са слуцкіх князёў. Слуцкая княгіня атрымала гэтыя ўладанні ў пажыццёвае ўладанне ад свайго мужа

[8] Гэта пацвярджаюць і крыніцы XVIII ст.: Informatio de Statu Mozyrensium… // Lietuvos valstybės istorijos archyvas (далей LVIA). F. 634. Ap. 2. Bylų 94. K. 21–22v.

[9] LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 9r–13r.

[10] Тамсама. K. 21–22v.

[11] Тамсама. K. 21r.

гетмана Канстанціна Астрожскага (тастамент ад 1528 г.; памёр у 1530 г.). Таму, у сваю чаргу, гэтыя землі, якія раней належалі здрадніку Міхаілу Глінскаму, перадаў кароль – ва ўзнагароду за падаўленне мяцяжу Глінскага супраць Жыгімонта Старога; наданне было канчаткова пацверджана каралеўскім судом пры Жыгімонце Старым у 1539 г., які разбіраў працэс паміж удавой гетмана і яго сынам ад першага шлюбу Іллёй. У 1564 г., праўда, аб сваіх прэтэнзіях на названыя землі заявіла Іллёва ўдава Беата, у той час ужо Лаская, але Жыгімонт Аўгуст заняў у гэтай спрэчцы бок К. Астрожскага, які, відаць, дзякуючы гэтаму без лішніх праблем увайшоў у правы ўласнасці над спрэчнай маёмасцю[12].

Згодна з дакументам, які зберагаецца ў Санкт-Пецярбургу, у 1603 г. Астрожскія перадалі пад юрысдыкцыю Пінска-Тураўскай епархіі, у прыватнасці, наступныя землі: вёскі Альгомле, Сіманічы, фальварак пад горадам Тураў, а таксама Ашавец, Замошша, Снядзін, Шастовічы (вёска з фальваркам), Балажэвічы, Глініца, Дарашэвічы, Выролкі, Капцэвічы, Галубіца, Турок, Майсеевічы, Мардзвін, Макарычы, Мялаўскае, Востраў, Махнавічы. Затое вёскі Дварэц і Хоцім належалі “папу Мікулінскаму”. Дзякуючы таму што Астрожскія перадалі такую вялікую колькасць маёнткаў, у XVI ст. яны займелі вырашальны ўплыў на кадравую палітыку цікавай нам епархіі[13].

Значэнне прыведзенай крыніцы, якая дазволіла атрымаць пададзеныя вышэй звесткі, яшчэ больш узрастае дзякуючы таму, што ў ёй ёсць інфармацыя пра іншыя дакументы, што зберагаліся ў колішняга пінска-тураўскага епіскапа Гедэона Дашковіча-Гарбацкага. З іх, як сцвярджае крыніца, вынікала, што ў 1608 г. Мазыр разам з ваколіцамі належаў Астрожскаму, а значыць, і ўвесь

[12] Малиновский И. Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского. Ч. 2. Томск, 1912. № 40; Kempa T. Konstanty Wasyl Ostrogski (ok. 1524/1525–1608). Wojewoda kijowski i marszałek ziemi wołyńskiej. Toruń, 1997. S. 172–173.

[13] Российский государственный исторический архив (С.-Петербург). Ф. 823. Оп. 1. Д. 262.

Мазырскі павет быў уласнасцю гэтага роду. На думку аўтараў "Інфармацыі пра становішча мазырскіх парафій...", юрысдыкцыя пінска-тураўскага епіскапа над гэтымі землямі на пачатку XVII ст. выключала якія-небудзь правы на іх з боку кіеўскага мітрапаліта. Апрача таго, пінска-тураўскі епіскап аргументаваў прыналежнасць Мазырскага дэканата да ўласнай епархіі адсутнасцю згадак пра яго ў перапісах часоў мітрапаліта Афанасія Шаптыцкага (1728–1746)[14].

Пра тое, як выглядала Пінска-Тураўская епархія пасля канчатковага далучэння да яе Мазыршчыны, даволі шмат можна сказаць, абапіраючыся на крыніцы, якія датычацца другой паловы XVIII ст. У склад епархіі ў той час уваходзілі наступныя тэрыторыі: землі Палесся, Пінскага і Мазырскага паветаў, а пасля адміністрацыйнай рэформы, праведзенай у 1566 г., і некаторыя фрагменты Брэсцкага Літоўскага ваяводства[15] (называнага таксама Брэст-Літоўскім), а менавіта два паветы – Пінскі і Брэсцкі. Больш за дзесяць прыходаў адносіліся да Слонімскага павета[16]. Поўныя звесткі, якія дазваляюць ахарактарызаваць тэрытарыяльны склад разглянданай епархіі, утрымлівае падрыхтаваная нунцыятурай[17] справаздача епіскапа

[14] "...бо ёсць жа дакумент (пад літарай Ж) найяснейшага мітрапаліта Шаптыцкага, і ў ім няма нават згадкі пра Мазырскі дэканат, а ёсць толькі прызнаная дэлегаваная духоўная ўлада над іншымі мітрапаліцкімі епархіямі. І паколькі з таго дакумента не вынікае ніякіх згадак пра Мазырскі дэканат, можна хутчэй меркаваць, што быў ён пад юрысдыкцыяй пінскага епіскапа, і гэта прызнаваў мітрапаліт Шаптыцкі". Гл.: LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 21v.

[15] Назва прыводзіцца паводле: Metryka litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo brzeskie litewskie 1667–1690 r. / oprac. A. Rachuba. Warszawa, 2000.

[16] Archivio Segreto Vaticano (далей ASV), Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 431–431v; Dylągowa H. Kościół unicki na ziemiach Rzeczypospolitej 1596–1918. S. 265.

[17] Апостальскім нунцыем у Рэчы Паспалітай у той час (20 сакавіка 1772 – 16 сакавіка 1776 г.) быў Джузэпе Гарампі, пазнейшы кардынал, які ў 1752 г. заняў пасаду прэфекта архіва сабора

Гедэона Гарбацкага, якая была адказам на пытанні, зададзеныя Апостальскай Сталіцай усім уніяцкім епіскапам. У гэтым дакуменце пад назвай “Responsio ad questia Ill[ustrissi]mi Exc[e]ll[issi]mi ac Rev[erendissi]mi D[omi]ni Nuncii Apostolici in Regno Poloniarum et magno Ducatu Litt[uaniae] prius diligenter rebus omnibus examinatis per me Gedeonem Horbacki Ep[isco]pum Pinscensem et Turoviensem Datum Anno 1773. Mense Februarii Die 26”, якi зберагаецца сёння ў Ватыканскім сакрэтным архіве[18], закранаецца, у прыватнасці, пытанне пра межы Пінска-Тураўскай епархіі: “Ad quaesitum quousque extenduntur limites istius dioecesis Pinscen[sis] Graeco-Uniti Populi? Quot et quos Palatinatus, Castellanias, aliosque Districtus Terrestres, nec non Latinorum Ep[isco]porum dioeceses comprehendat vel intesecet?”[19].

У адказе епіскап пералічвае землі, якія знаходзіліся пад яго юрысдыкцыяй: “Тэрыторыяй памянёнай Пінскай епархіі з’яўляецца амаль выключна Пінскі павет, калі не

Святога Пятра, а ў 1761–1764 г., будучы адным з архівістаў Апостальскай Сталіцы, зрабіў вялікі ўнёсак у арганізацыю ватыканскага архіва. Плёнам яго працы ў ролі архівіста стала падрыхтоўка падрабязных дакументаў, прысвечаных, у прыватнасці, уніяцтву ў Рэчы Паспалітай. Пра дзейнасць біскупа Дж. Гарампі гл.: Vanysacker D. Cardinal Giuseppe Garampi (1752–1792): an Enlightened Ultramontane. Brussels, 1995.

[18] ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 431v. Гэты дакумент уяўляе сабой адказ на пытанні Дзяржаўнага сакратарыяту Апостальскай Сталіцы, разасланыя ў форме анкеты ва ўніяцкія парафіі, наконт колькасці цэркваў, святароў, вернікаў, манастыроў. Наколькі вядома, аналагічныя пытанні ставіліся ў анкеце і наконт стану праваслаўнай канфесіі. У Ватыкане зберагаецца ліст Дзяржаўнага сакратарыяту Апостальскай Сталіцы за 1771 г., адрасаваны пінскім епіскапам, у якім ёсць дакладныя пытанні, на якія ўладыкі павінны былі адказаць: ASV, Segreteria di Stato: Polonia. Vol. 285. K. 124v.

[19] ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 431v: “Адказ на пытанне, як далёка распасціраюцца межы той жа Пінскай епархіі грэка-ўніяцкага веравызнання? Колькі і якія ваяводствы, кашталяніі, іншыя зямельныя паветы, а таксама дыяцэзіі лацінскіх біскупаў яна ў сябе ўключае або перасякае?”

лічыць некаторых парафіяльных цэркваў, размешчаных у Навагрудскім і Брэсцкім ваяводствах; гэтая тэрыторыя з бакоў абмежавана Навагрудскім ваяводствам, Слонімскім паветам, Брэсцкім ваяводствам, Холмскай зямлёй, Луцкім паветам, Кіеўскім ваяводствам, яўным чынам паловай Оўруцкага павета, Мазырскім паветам; яна, такім чынам, уключае ў сябе дыяцэзіі лацінскіх біскупаў, якія, аднак, не супадаюць з Пінскай епархіяй, г. зн. Луцкую і Віленскую дыяцэзіі. Тураўская ж епархія – гэта ўвесь Мазырскі павет і частка Пінскага, да якіх з розных бакоў прымыкаюць Навагрудскае ваяводства, Рэчыцкі павет, Оўруцкі павет. Большая частка гэтай Тураўскай епархіі – гэта лацінская дыяцэзія віленскага біскупа, за выключэннем аднаго толькі Тураўскага касцёла, які належыць да Луцкай дыяцэзіі"[20].

Можна сцвярджаць, што згаданы дакумент – гэта крыніца, якая дае найбольш дакладнае ўяўленне пра тэрыторыю Пінска-Тураўскай епархіі. Апрача таго, цікавае для нас пытанне ён асвятляе ў поўнай меры, бо называе ў якасці тэрыторыі ўніяцкай Пінска-Тураўскай епархіі ў другой палове XVIII ст. у тым ліку і землі Луцкага, Навагрудскага і Брэсцкага ваяводстваў, а менавіта Слонімскі павет, Холмскую зямлю, Луцкі, Оўруцкі, Мазырскі і Рэчыцкі паветы.

Як відаць з прыведзенага фрагмента, апісваючы межы Пінска-Тураўскай епархіі, епіскап дзеліць яе на дзве

[20] "Ecclesias Parochialos, quae sitae sunt in palatinatu Novogrodensi et Brestensis, et sic circum circa limitati nempe palatinatu Novogrodensi, districtu Słonimscensi, palatinatu Brestensi, Terra Chełmensi, districtu Luceoriensi, palatinatu Kijovensi, signanter semi-districtu Ovrucensi, et districtu Mozyrensi, dioeceses autem Latinorum Ep[isco]porum comprehendit, licet [k. 431v] non integras Dioecesis Pinscensis has, nempe, Dioecesim Luceoriensem et Vilnensem. Dioecesis autem Turoviensis est totus districtus Mozyrensis, et ex parte Pinscensis, limitatur autem circumcirca palatinatu Novogrodensi, districtu Rzeczycensi, districtu Ovrucensi. In hac autem dioecesi Turoviensis maxima ex parte est diocesis latini Ep[isco]pi Vilnensis, preater unicam Ecclesiam Turoviensem, quod ad Luceoriensem Ep[isco]pum Latinum pertinent". Тамсама. К. 431r–431v.

часткі – Пінскую і Тураўскую, што падаецца слушным, калі ўлічыць, якую вялікую тэрыторыю яна займала. Такі адміністрацыйны падзел епархіі на дзве часткі фігуруе і ў створаным, хутчэй за ўсё, у 1754 г. спісе базыльяніна з Тараканскага манастыра, афіцыяла пінска-тураўскага епіскапа Тадэвуша Зарускага пад назвай "Status Episcopatus Pinscensis et Turoviensis"[21]. У Пінскай епархіі ён згадвае дзесяць дэканатаў: Пінскі, Янаўскі, Драгічынскі, Бездзежскі, Лагішынскі, Кажангарадоцкі, Пагосцкі, Столінскі, Нобельскі і Любяшоўскі[22]. У тураўскай частцы было тры дэканаты: Тураўскі, Петрыкаўскі і Мазырскі, а пачынаючы з 1770-х гадоў – яшчэ і Убарцкі[23].

Дадатковыя звесткі наконт памянёнага падзелу можна знайсці ў дакументах, падрыхтаваных канцылярыяй пінска-тураўскага епіскапа[24], а таксама ў пратаколах візітацый, з якіх вынікае, што тураўскай часткай ад імя епіскапа кіраваў афіцыял, які адказваў таксама і за правядзенне візітацый[25]. У пінскай жа частцы ўсе рашэнні прымаў сам епіскап ці яго пасланец.

## 1. Крыніцы, якія даюць магчымасць вызначыць структуру Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі

Найпаўнейшае ўяўленне пра структуру паасобных епархій, іх падзел на дэканаты і сетку парафій сёння мы можам атрымаць з візітацыйных пратаколаў. Такога роду крыніцы маюць тры бясспрэчныя перавагі: па-першае, яны дастаткова поўныя (г. зн. утрымліваюць пералік асобных парафій); па-другое, паведамляюць пра маёмаснае

[21] LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 18r–18v. Спіс з'явіўся, відаць, на аснове дадзеных візітацыі, ажыццёўленай Зарускім у якасці генеральнага афіцыяла Пінска-Тураўскай епархіі ў 1754–1755 г. Гл.: Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі (Мінск). Ф. 10977.

[22] LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 18.

[23] Тамсама. K. 18v.

[24] Львівська національна наукова бібліотека України імені В. Стефаника (Львів). Ф. 3. Спр. МВ-820. Арк. 62.

[25] Прыкладам выступае дакумент: ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 431v.

становішча асобных цэркваў – апісваюць тое, што заспеў і бачыў візітатар; па-трэцяе, даюць праўдзівы матэрыял для ацэнкі структуры епархіі і маёмаснага становішча асобных храмаў[26], паколькі рыхтаваліся ў першую чаргу

[26] У назапашанай дагэтуль літаратуры не было звестак пра візітацыі з уніяцкай Пінска-Тураўскай епархіі (бо гэтыя акты былі невядомыя гістарыяграфіі), таму прапаную ўвазе чытачоў літаратуру, прысвечаную візітацыйным актам як гістарычнай крыніцы ў цэлым. Гэтую праблематыку закранаюць: Litak S. Akta wizytacyjne parafii z XVI–XVIII wieku jako źródło historyczne // Zeszyty Naukowe KUL. R. V. 1962. № 3 (19). S. 41–58 (тут таксама прыводзіцца літаратура, пры стварэнні якой візітацыі часта выкарыстоўваліся ў якасці галоўнай крыніцы, напрыклад гістарычныя атласы); Sygowski P. Unicka diecezja chełmska w protokołach wizytacyjnych biskupa Maksymiliana Ryłły z lat 1759–1762 // Polska – Ukraina. 1000 lat sąsiedztwa. T. 5: Miejsce i rola Kościoła greckokatolickiego w Kościele powszechnym / red. S. Stępień. Przemyśl, 2000. S. 233–285; Budzyński Z. Nieznane spisy dekanalne eparchii lwowskiej jako źródła do dziejów pogranicza polsko-ruskiego w drugiej połowie XVIII w. // Historia – archiwistyka – ludzie. Księga pamiątkowa w pięćdziesiątą rocznicę powołania Archiwum Państwowego w Rzeszowie / red. J. Basta, G. Zamoyski. Warszawa – Rzeszów, 2000. S. 39–56; Bodzioch-Kazanowska B. Unickie parafie patronatu królewskiego w dekanacie gródeckim w świetle wizytacji z lat 1764–1765 // Nasza Przeszłość. 2000. № 93. S. 49–81; Kaznowski M. Parafie unickiego dekanatu krośnieńskiego w świetle akt wizytacyjnych z 1742 r. // Prace Historyczno-Archiwalne. 1999. № 7. S. 31–51; грунтоўна каментаваныя публікацыі першакрыніц: Księga wizyty dziekańskiej dekanatu podlaskiego przeze mnie księdza Bazylego Benedykta Guttorskiego dziekana podlaskiego, plebana golniewskiego w roku 1773 miesiąca Novembra dnia 17 iuxta vetus kalendarza sporządzona / oprac. J. Maroszek, W. Wilczewski. Białystok, 1996. S. 5–19; Sygowski P. Dekanat kaszogrodzki unickiej diecezji chełmskiej // Zamojszczyzna i Wołyń w minionym tysiącleciu. Historia, kultura i sztuka / red. J. Feduszko i in. Zamość, 2000. S. 120–126; Szanter Z. Opis dekanatu jaśliskiego sporządzony w 1761 roku przez księdza dziekana Aleksandra de Unihof Stebnickiego, parocha szklarskiego // Sztuka cerkiewna w diecezji przemyskiej. Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej 25–26 marca 1995 roku / red. J. Giemza i A. Stepan. Łańcut, 1999. S. 340–361. Да цікавых прац, прысвечаных уніі, якія ў значнай ступені грунтуюцца на візітацыйных актах, адносяцца тэксты ўкраінскага вучонага праф. Ігара Скачыляса: Скочиляс І. Акти духовних судів українських церковних установ XVII–XVIII ст. (за матеріалами виїзних засідань эпископсь-

для ўлад епархіі як “першачарговая крыніца інфармацыі пра яе тагачасны стан”[27]. Сучасны гісторык знойдзе ў гэтых актах практычна ўсебаковае адлюстраванне гісторыі ўніяцкай царквы. “Яны могуць служыць асновай для самых разнастайных манаграфій шмат у якіх галінах навукі, а таксама для правядзення геаграфічна-статыстычнага аналізу пераважна ў канфесійнай сферы. Кожнае

ко-консисторського суду Львівської эпархії 1700–1725 років) // Вісник Львівського університету. 1999. Серія історична. Вип. 34; Яго ж. Генеральні візитації в українсько-білоруських эпархіях Київської уніатської митрополії. 1596–1720 роки // Записки НТШ. Т. 238 (Праці Історично-філософської секції). Львів, 1999; Яго ж. Дволикий Янус: Шаргородська протопопія на Поділлі в першій третині XVII ст. // Вісник Львівського університету. 2002. Серія історична. Вип. 37; Яго ж. Джерельна евристика візитаційної документації Львівської эпархії XVIII ст. у Галичині та на Поділлі в другій половині XIX – 1930-х роках // Студії з архівної справи та документознавства. Т. 7. Київ, 2001; Яго ж. Документи архіву кам'янецкої уніатської консисторії XVIII ст. у фондах Кам'янець-Подільського музею-заповідника // Матеріали засідень Історичної та Археографічної комісій НТШ в Україні. 2 / ред. Я. Грицак та ін. Львів, 1999; Яго ж. Недатований реэстр духовенства, церков і монастирів Львівської эпархії за владицтва Йосифа Шумлянського // Записки НТШ. Т. 240 (Праці Комісії спеціальних (допоміжних) історичних дисциплін). Львів, 2000; Яго ж. Неопублікована праця з історії уніатської Церкви на правобережній Україні XVIII ст. // Матеріали засідань. 2. Львів, 1999; Яго ж. Протоколи генеральної візитації Львівської эпархії 1730–1733 рр. як історичне джерело. Київ, 1999; Яго ж. Протоколи эпископських і деканських візитацій церквов Київської уніатської митрополії XVIII ст. // Рукописна україніка у фондах Львівської наукової бібліотеки ім. В. Стефаника НАН України та проблеми створення інформаційного банку даних. Матеріали міжнародної науково-практичної конференції, 20–21 вересня 1996 р. Львів, 1999. Да найважнейшых прац варта аднесці і манаграфію: Генеральні візитації Київської унийної митрополії XVII–XVIII століть. Львівсько-Галицько-Кам'янецька эпархія. Т. 2: Протоколи генеральних візитацій. Львів, 2004. Шэраг прац, прысвечаных візітацыям, выйшаў на Захадзе: Le Bras G. Enquète sur le visites de paroisses // Revue d'historie de l'Église de France. 1946. T. 35. № 125. P. 39–41; Greinacher N. Soziologie der Pfarrei. Wege zur Untersuchung. Colmar – Freiburg, 1955.

[27] Litak S. Akta wizytacyjne parafii z XVI–XVIII wieku jako źródło historyczne. S. 46.

з вышэйзгаданых пытанняў дзякуючы візітацыйным актам, з прыцягненнем пэўных дадатковых матэрыялаў, можа быць раскрыта ў картаграфічным і статыстычным разрэзе. Цалкам магчыма, што з гэтага пункту гледжання **яны з'яўляюцца нават адзінай крыніцай, здольнай даць звесткі практычна пра ўсе аспекты жыцця той ці іншай парафіі**" (вылучэнне маё. – *В. В.*)[28].

У выпадку разгляданай епархіі у нашым распараджэнні ёсць – апрача выпадкова знойдзенага рэестра візітацыі з вёскі Моладава за 1698 г.[29] – перш за ўсё пратаколы візітацый, падрыхтаваныя пасля Замойскага сабору 1720 г. На гэтым саборы распрацавалі фармуляр пытанняў, якія візітатар павінен быў задаваць парахам асобных парафій, што забяспечыла аднастайнасць сабранага такім спосабам дакументальнага матэрыялу ў маштабах усіх уніяцкіх епархій. У візітацыях, якія датычаць тэмы нашых разваг, заўсёды асвятляўся пэўны шэраг пытанняў. Так, у кожным візітацыйным пратаколе адлюстроўваўся падзел на дэканаты, а ў іх межах – на парафіі; у апісанні кожнай парафіі абавязкова ўказвалася яе назва і дата візіту. Далей візітацыйны акт уключаў у сябе наступныя раздзелы: "Выгляд і інвентар вышэйназванай царквы, яе рыштунку, фундушовых земляў, плябаніі і парафіі", "Алтары, абразы і іх раскоша", "Серабро, медзь, цынк", "Памяшканне для святара і келіха", "Алтарнае памяшканне", "Царкоўныя кнігі", "Званы, званіца", "Плябанія", "Фундушовыя і царкоўныя землі", "Парах", "Парафія" і нарэшце – "Рэфармацыйны дэкрэт"[30]. Асобным пунктам ішло патрабаванне да епіскапаў і візітатараў складаць візітацыйныя пратаколы

[28] Тамсама. S. 57.

[29] Институт российской истории Российской академии наук в Петербурге (далей ИРИ РАН). Коллекция П. Н. Доброхотова (Колл. 52). Оп. 2. Д. 5/7. Л. 22–22об.

[30] Гэта найчасцей ужываная схема. Часам дапускаліся адхіленні ў некаторых пунктах, у залежнасці ад стану царквы і абавязковасці перапісвання рэфармацыйнага дэкрэта. Пар.: Księga wizyty dziekańskiej… S. 5–19.

ў двух экзэмплярах, адзін з якіх заставаўся ў парафіі, а другі перадаваўся ў епархіяльную кансісторыю[31].

Гэтая праца грунтуецца перш за ўсё на візітацыйных актах, што зберагаюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі (абодва ў Мінску), а таксама ў Інстытуце гісторыі Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу; былі выкарыстаны таксама асобныя выпіскі з Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве. Візітацыйныя акты, даступныя ў гэтых архівах, датуюцца ў асноўным XVIII ст., але не ўтвараюць вычарпальнага збору. Сярод іх адсутнічаюць дакументы за 1754, 1761, 1700–1771 і 1786–1787 г., якія згадваюцца ў пазнейшых візітацыйных запісах[32].

Пададзеная ў даследаванні спроба рэканструкцыі гісторыі Пінска-Тураўскай епархіі была таксама ўзбагачана дзякуючы фрагментарным справаздачам пра стан асобных парафій, якія зберагаюцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве[33]. Шмат інфармацыі дадалі і матэрыялы, прысвечаныя пазнейшай гісторыі парафій – у прыватнасці, датаваныя XIX ст. Гэтыя архіваліі, даступныя ў Беларускай бібліятэцы і Музеі імя Францішка Скарыны ў Лондане[34], каштоўныя для даследчыкаў уніі перш за ўсё тым, што дазваляюць прасачыць за падзеямі, якія адбываліся пасля таго, як той ці іншы

[31] Наконт распараджнняў Замойскага сабору гл.: Synod prowincjonalny ruski w Mieście Zamościu Roku 1720 odprawiony… Wilno, 1735; перадрук аднаго з раздзелаў гл. у: Pytania, które się maią czynić na Wizytach // Księga wizyty dziekańskiej… S. 161–184. Гл. таксама: Ciołka A. Synod Zamojski z 1720 r. i jego postanowienia // Almanach Diecezjalny. 2006. № 2. S. 9–39.

[32] Гл. візітацыі за 1777 і 1787 г., сярод якіх у актах асобных парафій прысутнічае інфармацыя пра візітацыйныя пратаколы, што зберагаюцца ў парафіі: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей НГАБ). Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41240 і наст.

[33] Archiwum Główne Akt Dawnych (далей AGAD), Archiwum Radziwiłłów. Dz. VIII. Sygn. 179, 275, 443, 444, 445, 446, 455, 500, 503, 553, 554, 688, 720.

[34] Pinsk Vicariate of the Ortodoxe Diocese of Minsk, The Library and Museum of Francisk Skaryna, London. Папкі I–VI.

прыход пераходзіў у рукі праваслаўных. Яшчэ адна разнавіднасць крыніц, якія дазволілі высветліць арганізацыйную структуру, – разнастайныя перапісы агульнага і статыстычнага характару. Гэтыя справаздачы пра стан паасобных уніяцкіх епархій, якія рыхтаваліся паводле распараджэння Дзяржаўнага сакратарыята Ватыкана, а таксама для патрэб епархіяльнай адміністрацыі, уяўляюць сабой каштоўную крыніцу звестак, верыфікаваных варшаўскай нунцыятурай. Апісанні, зробленыя нунцыямі – г. зн. замежнікамі, незаангажаванымі ў палітыку Рэчы Паспалітай, – вельмі цікавая крыніца, дзякуючы якой можна ацаніць становішча ў Рэчы Паспалітай вачыма незалежнага назіральніка[35].

Важнае значэнне для прадстаўленых у гэтай працы даследаванняў меў і "Дзённік дзейнасці Юрыя Булгака", складзены ў 1730-я гады Ежы Пакоўскім[36]. У ім можна знайсці спіс духавенства пад назвай "Рэестр святароў Пінска-Тураўскай епархіі з усімі вакансіямі"[37], які ў значнай ступені пацвярджае прынамсі некаторыя звесткі іншых крыніц за 1730-я гады, але датычыць выключна ўніяцкай часткі цікавай нам епархіі.

## 2. Дэканальны падзел

Пераняты з праваслаўя падзел епархіяльнай структуры ў каталіцкай царкве ўсходняга абраду на пратапопіі, або намесніцтвы, або дэканаты, захоўваўся ў XVII і XVIII ст., прычым у апошнім стагоддзі існавання ўніяцкай Пінска-Тураўскай епархіі выразна праявілася тэндэнцыя да

[35] Тут маецца на ўвазе перш за ўсё т. зв. "Табліца Гарампі" – адказ на ліст Дзяржаўнага сакратарыята Апостальскай Сталіцы з просьбай перасляць звесткі пра тагачасны стан уніяцкай і праваслаўнай канфесій (ASV, Segreteria di Stato: Polonia. Vol. 285. K. 124v). Зборам звестак займаўся апостальскі нунцый Джузэпе Гарампі. Гл.: ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 110. K. 2–22.

[36] Biblioteka Narodowa (Warszawa), Biblioteka Ordynacji Zamojskich (далей BN BOZ). № 930.

[37] BN BOZ. № 930. K. 97–98.

павелічэння колькасці пратапопій, а тым самым да змяншэння іх плошчы, што яўна палягчала кіраванне асобнымі адзінкамі царкоўнай адміністрацыі і кантроль над імі[38]. Гэтыя змены практычна абмінулі літоўскую частку мітрапаліцкай епархіі, дзе, як заўважае Л. Бяньkoўскі, абрысы пратапопій амаль не мяняліся з другой паловы XVII да канца XVIII ст., што тлумачыцца слабейшым развіццём сеткі прыходаў у гэтым рэгіёне. Затое адваротную тэндэнцыю можна канстатаваць для той часткі мітрапаліцкай епархіі, што апынулася ў складзе Каралеўства Польскага, дзе можна назіраць значны рост колькасці дэканатаў (у 1694 г. – 6 пратапопій, а ў 1781–1787 г. – ужо 52)[39]. Гэта было звязана з больш актыўным развіццём парафіяльнай сеткі на землях, якія былі спустошаны ў другой палове XVII ст. і зрабіліся нечым накшталт "новых" абшараў для каланізацыі, больш лаяльных да ўкаранення уніі, чым землі ВКЛ[40].

Сёння няпроста вызначыць, як выглядала дэканальная сетка Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі ў XVII – пачатку XVIII ст. Вядома, што пасля Брэсцкай уніі, як мы ўжо згадвалі, быў захаваны ранейшы падзел на пратапопіі (яшчэ іх называлі намесніцтвамі), які з XVIII ст.ператварыўся ў дэканальную сістэму са строга вызначанымі абавязкамі дэканаў[41]. Да нядаўняга часу мы маглі карыстацца толькі даследаваннямі В. Колбука, які пісаў: "Можна дапусціць, што тут [у Пінска-Тураўскай епархіі напярэдадні 1772 г. – *В. В.*] існавала каля 10–12 дэканатаў, якія, відаць, атрымлівалі свае назвы ад найбуйнейшых населеных пунктаў (мястэчак) на той ці іншай

[38] Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 916. Падобная сітуацыя мела месца ў XVIII ст. у Пінска-Тураўскай епархіі, дзе быў утвораны новы дэканат, які атрымаў назву Убарцкага (ад назвы ракі Убарць). Гл.: НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41240. Арк. 247–274.

[39] Epistolae metropolitarum Kiioviensium catholicorum. T. 2 / wyd. A. G. Welykyj. Rome, 1956. P. 304.

[40] Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 916.

[41] Kołbuk W. Kościoły wschodnie na ziemiach dawnej Rzeczypospolitej 1772–1914. S. 83–85.

тэрыторыі. Гэта маглі быць такія дэканаты: Давыдгарадоцкі, Дубровіцкі, Кажангарадоцкі, Лагішынскі, Лахвенскі, Любяшоўскі, Мазырскі, Нобельскі, Петрыкаўскі, Пінскі, Тураўскі, Янаўскі, але не выключана таксама, што існавалі яшчэ і Гародзенскі, Капаткевіцкі, Скрыгалаўскі, Целяханскі, Тамашгародскі ды Высоцкі»[42]. Падаецца, аднак, што гэтыя звесткі няпоўныя, бо з крыніц першай паловы XVIII ст. вынікае, што ў Пінска-Тураўскай епархіі налічвалася 13 дэканатаў: 10 у пінскай частцы епархіі – з цэнтрамі ў Пінску, Століне, Пагосце, Нобелі, Любяшове, Янаве, Драгічыне (які ў той час зваўся Дарагічынам-на-Палессі[43]), Бездзежы, Лагішыне, Кажан-Гарадку – і тры ў тураўскай, з цэнтрамі ў Тураве, Петрыкаве і Мазыры, а пасля 1772 г. – яшчэ і ў Лельчыцах (чатырнаццаты Убарцкі дэканат)[44]. Такі пералік можна скласці на аснове перапісаў і візітацый.

[42] Яго ж. Kościoły wschodnie w Rzeczypospolitej około 1772 roku. S. 42–43. Л. Бяньkoўскі ў сваёй працы першы паспрабаваў вызначыць колькасць дэканатаў у асобных уніяцкіх епархіях, аднак толькі для Пінска-Тураўскай епархіі яму не ўдалося прывесці ніякіх ацэнак. Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 919.

[43] Старапольская назва Драгічына. Пар.: SGKP. T. II. S. 149–150; SGKP. T. XV. Cz. 1. S. 439.

[44] У дакуменце, што зберагаецца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве, не хапае адной старонкі, дзе, як можна меркаваць, быў спіс парафій Пінскага і Кажангарадоцкага дэканатаў, што дае падставу лічыць Пінск і Кажан-Гарадок дэканальнымі цэнтрамі. Гэты дакумент дакладна перадае пералік парафій і колькасць цэркваў (пра гэта ніжэй). Гл.: LVIA. F. 634. Ap. 2. Bylų 968. K. 2–5. У каталогу ён памылкова датуецца канцом XVII – пачаткам XVIII ст., хоць на самай справе быў створаны, відаць, у 1770-я г. Пэўна, што гэта адбылося не раней за 1772 г., калі паводле распараджэння Апостальскай Сталіцы быў падрыхтаваны спіс парафій. Гэты дакумент шмат у чым дапаўняе цытаваны раней дакумент з Ватыкана (Responsa ad questia Illustrissimo // ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 430–431). Наяўнасць дакладнага пераліку парафій і святароў даводзіць, што гэта быў хутчэй дадатак да дакумента Апостальскай Сталіцы, амаль пазбаўленага статыстычнай інфармацыі.

Адна з крыніц, якія ляжаць у аснове гэтага пераліку, – “Дзённік дзейнасці Юрыя Булгака” аўтарства Ежы Пакоўскага[45], створаны ў 1730-я г. У гэтым дакуменце ў якасці цэнтраў пратапопій згадваюцца наступныя населеныя пункты: Лагішын, Пагост (Зарэчны і Сухадольны), Нобель, Янаў, Бездзеж, Столін, Драгічын, Любяшоў, Пінск і Тураў[46]. Гэта не вычарпальны пералік дэканатаў, бо няма згадак пра Кажан-Гарадок, Петрыкаў і Мазыр, што можа тлумачыцца непаўнатой перапісу духавенства, які ахоплівае выключна пінскую частку епархіі[47].

Няпоўны спіс з “Дзённіка дзейнасці Юрыя Булгака” дапаўняюць справаздачы аб візітацыях, што праводзіліся ў названай епархіі ў другой палове XVIII ст., дзе ў якасці сядзіб дэканатаў называюцца Мазыр, Драгічын, Кажан-Гарадок, Лагішын, Любяшоў, Пінск, Пагост, Столін і Янаў[48]. Праўда, і гэтыя дакументы, як можна меркаваць, няпоўныя. Хоць сёння яны зберагаюцца ў адной папцы, некаторыя з іх – выразна неаднародныя паводле аб’ёму – складаліся ў розныя гады (найчасцей датуюцца

[45] Хутчэй за ўсё, базыльянін, які перад службай у Булгака жыў у Вільні. Паводле запіскі, датаванай 1727 г., “кс. Ежы Пакоўскі, архідыякан ордэна базыльян і правінцыял гэтага ордэна ў Вільні, пяць гадоў пакутаваў ад падагры і пры хадзьбе ці нейкіх рухах адчуваў нязмерны боль. Ён лячыўся шмат у якіх дактароў, ужываў самыя розныя лекі, але нічога не давала яму палёгкі. Прыгнечаны гэтай хваробай, у 1727 г. ён вырушыў да Маці Божай Чанстахоўскай, да якой адчуваў вялікую святасць. Усе сваякі, знаёмыя і ўвесь канвент няспынна маліліся Найсвяцейшай Маці. І хворы, якому найслыннейшыя дактары не здолелі дапамагчы, неўзабаве адчуў сябе зусім здаровым. Каб засведчыць сваю ўдзячнасць, ён адразу ж паехаў у Чанстахову, дзе ў знак удзячнасці паставіў Марыі дзве вялізныя свечкі і ахвяраваў срэбраную шыльду з выявай рук і ног, скурчаных хваробай”. Гл.: Cuda i łaski zdziałane za przyczyną Najśw[iętszej] Maryi Panny Częstochowskiej / wyd. R. M. Łaziński. Częstochowa, 1938. S. 93.

[46] Dziennik czynności Jerzego Bułhaka, późniejszego biskupa pińsko-turowskiego pisany ręką Jerzego Pakowskiego w latach 1729–1737 // BN BOZ. Rkps № 930. K. 97–98.

[47] ИРИ РАН. Л. 1–3об., 10–13об.

[48] Тамсама. Л. 1–37об.

1783–1784 г.), з чаго можна зрабіць выснову, што першапачаткова яны не захоўваліся разам[49]. Акурат гэтыя акалічнасці дазваляюць сцвярджаць пра непаўнату матэрыялу першакрыніц і лічыць прыведзены вышэй пералік з 14 дэканатаў (разам з новаўтвораным Убарцкім) у межах Пінска-Тураўскай епархіі вычарпальным прынамсі для XVIII ст.

Форма дэканальнага падзелу ў згаданай епархіі захавалася да самага канца яе існавання, хоць і неаднаразова апыналася пад пагрозай. Барацьба за зямлю прымушала некаторых ставіць пад сумненне царкоўную структуру, цікавым прыкладам чаго з'яўляецца спрэчка за дэканат, датаваная 1769 г. 15 сакавіка гэтага года тагачасны кіеўска-віленскі мітрапаліт Феліцыян Піліп Валадковіч накіраваў ліст мазырскаму дэкану, у якім загадаў вярнуць Мазырскі дэканат у склад мітрапаліцкай епархіі[50]. Д. Лісейчыкаў лічыць, што патрабаванне мітрапаліта аб вяртанні

[49] Пра каштоўнасць візітацыйных актаў пісаў Станіслаў Літак: Litak S. Akta wizytacyjne parafii z XVI–XVIII wieku jako źródło historyczne. S. 41–58.

[50] Феліцыян Піліп Валадковіч мазырскаму дэкану, Прылепы, 15 сакавіка 1769 г.: "Правялебнаму святару Мікалаю Правалкоўскаму, дэкану мазырскаму, параху юравіцкаму, нам у Хрысце міламу, збаўення ў Госпадзе. Паколькі з даўніх часоў згодна з усімі пацверджанымі законамі дэканат Мазырскі да архіепархіі нашай мітрапаліцкай належаў і належаць павінен, а яснавяльможны ягамосць святар Юрый Булгак, епіскап пінскі і тураўскі, з ласкавага толькі святой памяці ягамосця Фларыяна Грабніцкага, архіепіскапа і мітрапаліта Усяе Русі, нашага папярэдніка, дазволу, а потым з нашага пацвярджэння ad vitae suae tempora [да канца свайго жыцця] гэты дэканат меў да Пінскай епархіі далучаным, то ж цяпер, калі пэўна атрымалі мы вестку пра скончанае яго смяротнае паводле Боскага выраку жыццё, просім Правялебнасць Вашу, каб з усім дэканата свайго духавенствам з гэтага часу да нас або да падначаленых нашых ва ўсіх патрэбах звярталіся, бо той дэканат павінен належаць да Палескай сурагацыі, да ягамосця святара Івашкевіча, сурагатара палескага, і каб сам асабіста, выбраўшы двух з дэканата свайго святароў, неадкладна да нас прыбыў, строга патрабуем і загадваем лістом нашым, дзеля лепшай веры". LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 9r.

пад свой кантроль мазырскіх парафій тлумачылася яго змовай з дэканам Праваўкоўскім[51], які нібыта пагадзіўся на пераход парафій гэтага дэканата ў склад мітрапаліцкай епархіі. Крыніцы, аднак, не пацвярджаюць гэтага тэзіса. У іх святле дэкан Правалкоўскі выступае заступнікам духавенства свайго дэканата, які падтрымаў пратэст сваіх падначаленых супраць прапанаванага Валадковічам перападпарадкавання найбуйнейшага дэканата Пінска-Тураўскай епархіі, накіраваны епіскапу Гедэону Дашковічу-Гарбацкаму[52]. На гэты ліст уладыка адрэагаваў у вельмі рашучым тоне, выказваючы свой жаль і абурэнне несправядлівасцю, якая яго закранула: “Дзіўна да таго ж, што праслаўлены мітрапаліт яшчэ ўбогую, як усім вядома, епархію намагаецца пакрыўдзіць. Але ж ведаеш, ваша высокамагутнасць, адкуль да мяне гэтая беспадстаўная непрыязнасць узнікла і, пашыраючыся ў плётках, мучыць мяне не перастае. Мая віна ў тым, што праслаўлены мітрапаліт, нарабіўшы піва, знік быў недзе ў той час, калі мне высвячацца трэба было. Вось тое высвячэнне і ёсць усяму прычынай. Калі б, аднак, справядліва ў мяне той дэканат збіраліся адабраць, я б не скардзіўся і не ўпіраўся, але ж я прысягаў дбаць пра дабро сваёй епархіі, а таму мушу бараніцца. Гэта з жалю было напісана, а вось што наконт справы”[53].

Прыведзены ліст уладыка напісаў пасля атрымання ад сваіх парахаў пісьма, у якім святары прасілі яго дапамагчы і ўмяшацца, апелюючы да пастаноў Замойскага сабору і таго факта, што Мазырскі дэканат стагоддзямі адносіўся да Пінска-Тураўскай епархіі[54]. У гэтым лісце святары

[51] Лісейчыкаў Д. Фарміраванне сеткі ўніяцкіх парафій на тэрыторыі “Тураўскай епархіі” ў 1596–1795 гг. // Kościół unicki w Rzeczypospolitej. Seria: Zachowanie Polskiego Dziedzictwa Narodowego. № 4 / red. W. Walczak. Białystok, 2010. S. 90–91.

[52] Ліст духавенства Мазырскага дэканата Гедэону Дашковічу-Гарбацкаму, Кажан-Гарадок, 15 верасня 1769 г. LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 11v.

[53] LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 13r.

[54] Ліст духавенства Мазырскага дэканата Гедэону Дашковічу-Гарбацкаму, Кажан-Гарадок, 15 верасня 1769 г. LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 11r.

сцвярджалі: “Ніякіх пастараў, апрача ягамосцей епіскапаў пінскіх і тураўскіх, ведаць не хочам”[55].

У сваім адказе мітрапаліт упіраў на тое, што шмат цэркваў у спрэчным дэканаце застаюцца “ad Dioecesem Vilnensem” (“ва ўлонні Віленскай епархіі”), што, зрэшты, было праўдай, бо некаторыя цэрквы на самай справе былі ў калятарстве віленскага епіскапа, хоць яны і знаходзіліся на тэрыторыі Пінска-Тураўскай епархіі, якая іх утрымлівала і апекавалася імі. Апрача таго, уладыка спасылаўся на дакументы, паводле якіх Мазырскі дэканат спачатку належаў да Тураўскай епархіі, а пасля да Пінскай[56]. Як мы ўжо згадвалі на пачатку раздзела, Мазыршчына ў пачатку XVII ст. адносілася да Кіеўскага ваяводства, а яе парафіі ўваходзілі ў склад мітрапаліцкай епархіі, на чым, відаць, і грунтаваліся прэтэнзіі мітрапаліта.

Апісаныя падзеі дазваляюць зрабіць некалькі каштоўных высноў наконт функцыянавання цікавай нам епархіі ў другой палове XVIII ст. Па-першае, тое, што канфлікт быў вырашаны на карысць пінска-тураўскага епіскапа, сведчыць пра ўзмацненне пазіцый гэтага ўладыкі, які тэарэтычна, маючы значна меншую вагу ў царкоўнай іерархіі, павінен быў прайграць больш магутнаму ўніяцкаму мітрапаліту. Дадатковай увагі ва ўсёй гэтай гісторыі заслугоўвае адданасць духавенства дэканата свайму епіскапу. Відаць, зрэшты, што нават у 1770-я г. парафіяльная і дэканальная структура была яшчэ не зусім трывалая, раз даходзіла да такіх спрэчак, а для прыхільнікаў праваслаўя гэта было сігналам таго, што ўніяцкія структуры далёкія ад маналітнасці. Антыўніяцкія настроі ўзмацняла і актыўная дзейнасць праваслаўнай іерархіі ў 1770-я гады[57].

Варта адзначыць, што не толькі падобныя канфлікты паміж царкоўнымі іерархамі ставілі пад пагрозу стабільнасць структуры Пінска-Тураўскай епархіі, у якой

[55] Тамсама.

[56] LVIA. F. 597. Ap. 2. Bylų 94. K. 13v.

[57] Лісейчыкаў Д. Фарміраванне сеткі ўніяцкіх парафій на тэрыторыі “Тураўскай епархіі” ў 1596–1795 гг. С. 91–92.

тэрытарыяльныя змены дэканальнай сеткі не поўнасцю кантраляваліся царкоўнымі ўладамі. Пэўную ролю адыгрываў тут і свецкі фактар: з'яўленне і функцыянаванне дэканатаў пачынаючы з XVII ст. было цесна звязана са структурай зямельнай уласнасці, на якую, у сваю чаргу, мацней за ўсё ўплывала палітычная сітуацыя. У рэгіёне, пра які мы гаворым, яна заставалася досыць складанай, а таму епіскапы не мелі вялікага ўплыву на стварэнне новых царкоўных структур. Лёс царквы вызначаўся хутчэй землеўладальнікамі, якія вырашалі, з'явіцца на іх землях храм ці не. Як зазначае Л. Бянькоўскі, у наступным стагоддзі ў большасці ўніяцкіх епархій гэтае становішча змянілася – епіскапы вярнулі сабе ўладу над пратапопіямі і пратапопамі. Пінска-Тураўская епархія, аднак, хутчэй за ўсё не належала да гэтай большасці, бо нават у другой палове XVIII ст. тут практыкаваўся кантроль землеўладальнікаў над парахамі ці парафіямі – так, амаль палова парафій Мазырскага павета (Мазырскі і Петрыкаўскі дэканаты) былі ў калятарстве роду Аскеркаў, якія займалі ў Мазырскім павеце значныя пасады[58]. І хоць для XVIII ст.

[58] Гэта былі парафіі: Скрыгалаў (НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41240. Арк. 35адв.–38, 233адв.–237адв.), Васькаўшчына (Тамсама. Арк. 53адв.–54адв., 203адв.), Беседкі (Тамсама. Арк. 38–39), Міхнавічы (Тамсама. Арк. 45адв.), Касцюковічы (Тамсама. Арк. 39адв.–40адв., 195адв.–197адв.), Барыскавічы (Тамсама. Арк. 41–42адв., 204–205адв.), Стрэльск (Тамсама. Арк. 45–46адв., 207адв.–208адв.), Бабічы (Тамсама. Арк. 46адв.–47адв.), Ельск – Каралін (Тамсама. Арк. 49–49адв., 224адв.–226адв.), Мялешкавічы (Тамсама. Арк. 52–53адв.), Раманаўка (Тамсама. Арк. 232адв.), Барбароў (Тамсама. Арк. 210адв.–212адв.), Нароўля (Тамсама. Арк. 118–119адв.), Цешкаў (Тамсама. Арк. 215адв.–217адв.), Антонаў (Тамсама. Арк. 220адв.–222адв.), Дзямідавічы (Тамсама. Арк. 222адв.–224адв.), Маканавічы (Тамсама. Арк. 101–103, 167адв.–169), Старчыцы (Тамсама. Арк. 103–105), Алексічы (Тамсама. Арк. 105–106адв., 171адв.), Барыскавічы (Тамсама. Арк. 108адв.–109), Бярчоўка (Тамсама. Арк. 120–121адв., 176–178), Цішкаўка (Тамсама. Арк. 111–113, 173адв.), Мухаеды (Тамсама. Арк. 113адв.–115), Калінкавічы (Тамсама. Арк. 125адв.–127адв., 182адв.), Гарбавічы (Тамсама. Арк. 128адв.–131, 190адв.), Багрымавічы (Тамсама. Арк. 193–195).

гэта была ўжо даволі архаічная мадэль, на Палессі ў той час яна па-ранейшаму сустракалася. Заключалася яна ў тым, што пратапопы перад прызначэннем на сваю будучую пасаду мусілі ўнесці высокую плату і атрымаць ад калятара прадстаўленне, і толькі пасля гэтага іх кандыдатура магла разглядацца епіскапам[59].

Такая практыка мела гістарычныя карані. Упершыню яна знаходзіць адлюстраванне ў крыніцах пачатку XVI ст., у кантэксце канфлікту тагачаснага пінска-тураўскага епіскапа Васіяна з уладальнікамі Пінска князямі Іванам Яраславічам і яго сынам Фёдарам Іванавічам Яраславічам. Абодва Яраславічы, хоць і былі вялікімі апекунамі праваслаўнай царквы, пачалі ўмешвацца ў прэрагатывы епіскапа, імкнучыся цалкам падпарадкаваць сабе ўсе аспекты царкоўнага жыцця ў межах сваіх уладанняў, у тым ліку паставіць пад свой кантроль будаўніцтва новых храмаў і прызначэнне пры іх святароў без ведама і згоды іерарха. У адказ на скаргу апошняга вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелон забараніў падобную практыку і перадаў усю гэтую сферу царкоўнага жыцця пад кантроль уладыкі Васіяна. Прывілей, атрыманы епіскапам Васіянам, пацвярджаўся каралеўскімі канцылярыямі аж да панавання Аўгуста III[60], але не трэба думаць, што

[59] Титов Ф. И. Русская православная церковь в Польско-Литовском государстве в XVII–XVIII вв. Т. 3. Киев, 1916. С. 145.

[60] Пра сам прывілей для Васіяна вядома з дакумента, выдадзенага пазнейшаму пінска-тураўскаму ўладыку Іону Жыгімонтам Старым у 1522 г.; пар.: Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Т. 1: 1340–1506. С.-Петербург, 1846. № 109. С. 134–135. Дакумент часоў Аўгуста III, які пацвярджаў ранейшыя прывілеі, выдадзеныя Жыгімонтам Старым у Гродне 9 лютага 1522 г., Уладзіславам IV 11 сакавіка 1633 г. і Янам III Сабескім 28 сакавіка 1695 г., гл. у: Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. F. 48–32732. K. 116–116v. ("уладыка Іона I сказаў перад намі, што брат наш слаўнай памяці Аляксандр, кароль польскі, у Вялікім Княстве Літоўскім судзіў продка <…> уладыку пінскага і тураўскага Васіяна з князем Янам Яраславічам і Фёдарам Іванавічам, што яны пачалі былі крыўды чыніць і новыя рэчы ўводзіць, цэрквы новыя без волі і дабраславення яго па гарадах і вёсках нашых закла-

свецкія землеўладальнікі адмовіліся ад сваіх ранейшых правоў і звычаяў.

* * *

Дадзеныя крыніц паказваюць, што найбольш эфектыўную дэканальную сетку павінна была мець якраз Пінска-Тураўская епархія, у якой на адзін дэканат прыпадала 19 парафій, а, напрыклад, у Перамышльскай – 40. Меншая колькасць парафій у межах дэканата натуральным чынам вядзе да больш дзейснага кантролю над асобнымі прыходамі. Варта заўважыць, што названай епархіі была ўласціва досыць вялікая разбежка паміж колькасцю парафій у розных дэканатах – так, у Любяшоўскім (пра які ёсць найпаўнейшыя звесткі) было толькі 11 прыходаў, а ў Мазырскім – сорак сем. Такая разбежка тлумачылася, як можна меркаваць, структурамі адміністрацыйна-гаспадарчай уласнасці, якія існавалі ва ўсіх епархіях[61].

### 3. Парафіяльная сетка ў XVII–XVIII ст.

Вызначыць, якой у лічбавым выражэнні была парафіяльная сетка ў XVII–XVIII ст., вельмі цяжка, асабліва калі ўлічыць дэфіцыт крыніц з дакладнымі дадзенымі ў абсалютных лічбах для XVII ст. Для другой паловы XVIII ст. у нашым распараджэнні ёсць толькі агульныя звесткі, якія перасылаліся ўніяцкімі епіскапамі нунцыю Дж. Гарампі[62], аднак дадатковую даследчую праблему

даць і будаваць, а таксама святароў у тых цэрквах прызначаць і імі кіраваць, не даючы ім быць у паслушэнстве і пад уладай ягонай”).

[61] Пры гэтым, як заўважыў Л. Бянькоўскі (Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 920), “фактарам, які найбольш уплываў на велічыню дэканатаў, была, як правіла, колькасць парафій, а не іх плошча”.

[62] Гэтыя крыніцы ўяўляюць сабой адказы на пытанні анкеты, якую рассылаў архібіскуп Гарампі (пра гэта ніжэй). Такога роду адказы прыслалі ў варшаўскую нунцыятуру наступныя епіскапы: холмскі (ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 137. K. 46–54, 71–71v.), луцкі (ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 169–170,

стварае адначасовая прысутнасць на адных і тых жа землях дзвюх цэркваў – уніяцкай і праваслаўнай[63], у выніку чаго ў той ці іншай мясцовасці нярэдка суіснавалі дзве парафіі розных канфесій.

Задача гісторыкаў ускладняецца і тым, што крыніцы датуюцца рознымі перыядамі, даступныя візітацыйныя акты ствараліся ў розныя гады (а па некаторых дэканатах – Нобельскім і Бездзежскім – іх наогул няма) і паміж гэтымі гадамі парафіі маглі мяняць сваю дэканальную ці нават канфесійную прыналежнасць. Апрача таго, як мы ведаем, у XVII–XVIII ст. адбывалася развіццё парафіяльнай сеткі, але ў розных рэгіёнах епархіі гэты працэс ішоў з неаднолькавай інтэнсіўнасцю і сустракаў розныя перашкоды.

Усё гэта не дае магчымасці сучаснаму даследчыку рэканструяваць структуру ўсёй епархіі (з падзелам на дэканаты і парафіі) у той ці іншы канкрэтны момант, а таму прапанаваны ў гэтым падраздзеле аналіз, як бы старанна ён ні ажыццяўляўся, не будзе вычарпальным.

### а) Фактары, якія спрыялі з’яўленню новых цэркваў

Перад тым як пачаць гаварыць пра колькасць парафій, што налічваліся ў Пінска-Тураўскай епархіі, варта

173–174); пінскі (ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 431–431v.), полацкі (ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 141. K. 2–4v.), перамышльскі (Тамсама. K. 422–423), уладзімірскі (ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 143. K. 281–288), а таксама афіцыялы мітрапаліта ў Вялікім Княстве Літоўскім (ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 139. K. 287–290) і ва Украіне (ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 32. K. 54–58, 62–70).

[63] Бывалі і выпадкі, калі ў сітуацыі суіснавання абедзвюх канфесій царква заставалася пад патранатам праваслаўнага фундатара, які для ўніяцкіх вернікаў фундаваў новую, уніяцкую царкву. Здаралася і наадварот. Гл. шматлікія прыклады: Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 928–929.

запыніцца над фактарамі, якія спрыялі з’яўленню новых парафій або тармазілі гэты працэс.

Згодна з высновамі прафесара Ежы Урвановіча, у XVIII ст. узрасла інтэнсіўнасць будаўніцтва храмаў – ва ўсёй Рэчы Паспалітай у той час узнікла каля 800 хрысціянскіх храмаў, з якіх 500 (62%) былі рымска-каталіцкімі касцёламі, 243 (30%) – уніяцкімі цэрквамі, а 42 (5%) – праваслаўнымі. Пры гэтым у ВКЛ у названым стагоддзі колькасць новых і перабудаваных уніяцкіх цэркваў відавочна пераважала над праваслаўнымі, што, на думку Е. Урвановіча, сведчыць аб “узмацненні акаталічвання хрысціянства ў Вялікім Княстве Літоўскім, перш за ўсё ў рымскім абрадзе, у меншай жа ступені – у грэчаскім”[64].

Нярэдка цэрквы будаваліся землеўладальнікам рымска-каталіцкага веравызнання, якія фундавалі іх па просьбах вернікаў. У такіх выпадках пэўную ролю адыгрываў і матэрыяльны фактар, бо пабудова царквы абыходзілася танней, чым будаўніцтва касцёла[65].

Нярэдкай была і практыка заснавання парафіі пробашчам іншай парафіі. Так, напрыклад, была створана парафія Ушэсця Гасподняга ў Грабаве, калятарам якой быў петрыкаўскі пробашч Ілля Бародзіч, апостальскі протанатарыус і афіцыял Пінска-Тураўскай епархіі, а фундатарам будаўніцтва – смаленскі канонік Тамаш Яленскі. З гэтай прычыны петрыкаўскі пробашч захаваў за сабой права прызначаць у памянёнай парафіі святароў[66].

Апрача пералічаных фактараў, якія спрыялі з’яўленню парафій, Л. Бяньkоўскі адзначае, аднак, наяўнасць і пэўных акалічнасцяў, што тармазілі гэтыя працэсы, звязаных перш за ўсё са знікненнем “элемента матэрыяльнай зацікаўленасці феадалаў з прычыны паступовай ліквідацыі сіманійскай практыкі гандлю прадстаўленнямі ці

[64] Urwanowicz J. Profanum i sacrum. Próba analizy XVIII-wiecznych fundacji sakralnych z terenów Wielkiego Księstwa Litewskiego // W kręgu sacrum i pogranicza / red. E. Matuszczyk, M. Krzywosz. Białystok, 2004. S. 236–237.

[65] Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 929.

[66] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41240.

абкладання парахаў чыншам і данінай"[67]. Разам са скасаваннем такой практыкі знікала і матывацыя феадалаў да ажыццяўлення фундацый.

Скептыцызм магнатаў, абумоўлены фінансавым бокам справы, узмацняўся і з прычыны значнага аслаблення рэлігійнага фактару на хвалі ўласцівай XVIII стагоддзю ідэалогіі Асветніцтва, якая вельмі асцярожна падыходзіла да пытанняў веры. Немалаважнае значэнне мела і ўсё большая самаўпэўненасць магнацтва, становішча якога, як піша Е. Урвановіч, «у дзве першыя трэці XVIII ст. дасягнула апагею. У гэтай сацыяльнай групы ўжо не засталося патрэбы штосьці камусьці даводзіць. З'яўленне новых магчымасцяў прыбытковага інвеставання назапашаных сродкаў – напрыклад, у мануфактуры ці гандлёвыя кампаніі – прывяло да таго, што якраз туды магнаты з большай ахвотай спрабавалі <…> укладаць свае грошы, чым у "беспрыбытковыя інвестыцыі", якімі былі рэлігійныя фундацыі»[68].

З прычыны ўсяго гэтага ў XVIII ст. больш як палова рэлігійных фундацый былі ажыццёўлены шляхтай, што супярэчыць гіпотэзе, паводле якой менавіта магнацкія фундацыі ў гэты перыяд нібыта пераважалі[69]. Больш пільныя даследаванні прымушаюць прыйсці да высновы, што магнаты паводле абсалютнай велічыні ахвяраванняў на будаўніцтва храмаў стаялі на трэцім месцы пасля духавенства і шляхты. Гэта тым больш красамоўна, калі ўлічыць, што шляхта ў той перыяд перажывала працэс збяднення: крыніцы згадваюць пра выпадкі перадачы епіскапу права калятарства на царкву, бо шляціч больш ужо не мог яе ўтрымліваць[70].

[67] Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 929.

[68] Urwanowicz J. Profanum i sacrum. S. 238–239.

[69] Тамсама. С. 238. Следам за магнацтвам у гэтым рэйтынгу ішлі парафіяльная супольнасць і манарх.

[70] У сярэдзіне XVIII ст. да уніі далучаліся новыя цэрквы. Захаваўся, напрыклад, датаваны 1760 годам акт перадачы шляхтай царквы ў вёсцы Вылазы Пінскага павета епіскапу Юрыю Булгаку. "Гэтая царква, якая раней знаходзілася ў руках ды-

## б) Парафіі ў XVII ст.

Сёння мы маем няшмат матэрыялаў, якія дазволілі б нам скласці хоць прыблізнае ўяўленне пра асобныя парафіі епархіі ў сярэдзіне XVII ст. Пададзеныя ніжэй звесткі паходзяць усяго з трох крыніц, якія грунтуюцца, відаць, не на праведзеных належным чынам парафіяльных перапісах, а на агульных, зусім не дэталізаваных ускосных дадзеных, на карысць чаго гавораць яўна акругленыя лічбы.

Першая са згаданых крыніц – гэта ананімны дакумент 1647 г. пад назвай "Relatio", падрыхтаваны для Пінска-Тураўскай епархіі яшчэ да паўстання Хмяльніцкага і спрычыненых ім разбурэнняў. У ім можна знайсці інфармацыю пра 400 праваслаўных і ўніяцкіх прыходаў пад кіраўніцтвам епіскапа Пахомія Войны-Аранскага, які, наколькі можна меркаваць, больш цікавіўся паляваннем, чым царкоўнымі справамі[71]. Колькасць парафій, пра якую паведамляе "Relatio", наўрад ці адпавядала рэальнасці – хутчэй за ўсё, яна была значна завышана[72].

Яшчэ адна крыніца XVII ст., але крыху пазнейшая[73], – справаздача Якуба Сушы, холмскага архіепіскапа ў 1652–1687 г., пад назвай "Amplissima relatio Ep[iscopus] Jac[obo] Susza de laboribus Unitorum et progressu Unionis, post

зунітаў [праваслаўных. – *В. В.*], адгэтуль далучана да святой уніі, і мы самі пад уплывам Духа Святога зрабіліся ўніятамі": Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленскаго учебнаго округа. Т. 6. Вильна, 1869. С. 329.

[71] Litterae basilianorum in terris Ucrainae et Bielarusjae / Paravit, adnotavit editionemque curavit P. A. G. Welykyj OSBM. Vol. I: 1601–1730. Romae, 1979. № 29. P. 57–59.

[72] Гл.: Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce. S. 926–927; Praszko J. De Ecclesia Ruthena Catholica sede metropolitana vacante 1655–1665. Romae, 1944. P. 11–14.

[73] Мы пакідаем тут па-за ўвагай крыніцу ў асобе мітрапаліта І. Руцкага, які ў 1624 г. згадаў пра 8000 парафій у "епархіях епіскапаў рускіх, падначаленых польскаму каралю". Ён таксама дадаў, што на Русі столькі ж вернікаў рускага абраду, колькі ва ўсім Каралеўстве Польскім – лацінскага. Гл.: Epistolae metropolitarum Kiioviensium catholicorum. T. 1. P. 113.

Synodum Brestensem (1596) et tempore belli Cosacici"[74]. Гэтая праца, напісаная ў час знаходжанна Сушы ў Рыме ў 1664–1666 г., утрымлівае звесткі пра ўсю унію, у прыватнасці пра колькасць парафій у асобных епархіях. Аднак пра Пінска-Тураўскую епархію ў гэтай справаздачы інфармацыі менш, чым пра ўсе іншыя. Аўтар згадвае толькі, што пасля казацкіх войнаў тут было 100 парафій – значна менш, чым да паўстання, бо казакі, маўляў, вельмі спустошылі гэтыя землі[75] (фрагмент быў напісаны пасля цяжкага для Рэчы Паспалітай перыяду, калі праз актыўнасць казакоў насельніцтва пераходзіла з уніяцтва ў праваслаўе): "Ep.patus Pinscensis amplitudo. Ep.patus Pinscens., usque ad tempora Cosatica, nullibi nisi in civitate Pinscen. Habuit Schismaticos, et sicubi schismatici vel haeretici Nobiles in bonis suis Eos aluerunt. Extenditur ad 40 milliaria in longum et latum, nunc parochos ad 100 habet, continuis Cosacorum Schismaticorumque incursionibus depopulationibusque magna ex parte labefactus"[76].

[74] Archivio Storico per l'Evangelizzazione nei Popoli, Pontificia Universitas Urbaniana (Roma). Scrritture Orginali Riferite nelle Congressi Generale, Fondo Vienna. Vol. 17. Fol. 87–111; ASV, Fondo Garampi. Vol. 20A; ASV, Segreteria di Stato, Polonia. Additamenta: Memoriali, biglietti e carte diversae, 1656–1699. Цалкам справаздача надрукавана ў: Litterae episcoporum historiam Ucrainae illustrantes (1600–1900) / Paravit, adnotavit editionemque curavit P. A. G. Welykyj OSBM. Vol. II: 1641–1664. Romae, 1973. № 181. P. 296–335.

[75] "Казакі шнырылі па Пінскім павеце і шляхту жорстка забівалі, а яшчэ тады ў той час і цэрквы, і касцёлы палілі": ИРИ РАН. Коллекция П. Н. Доброхотова (Колл. 52). 11.4.19. Л. 1.

[76] "Вялебны епіскап пінскі. Епіскап пінскі аж да часоў казацкіх нідзе больш, апрача як толькі ў Пінску, не меў схізматыкаў, і там схізматыкам, ці, інакш кажучы, ерэтыкам, шляхта ў маёнтках сваіх дапамагала. Раскінуліся на 40 міль у даўжыню і шырыню парафіі, лікам пад сотню, якія пацярпелі ад няспынных набегаў казакоў ды схізматыкаў і былі спустошаны імі". Гл.: Archivio Storico per l'Evangelizzazione nei Popoli, Pontificia Universitas Urbaniana (Roma). Scrritture Orginali Riferite nelle Congressi Generale, Fondo Vienna. Vol. 17. Fol. 87–111; ASV, Fondo Garampi. Vol. 20A; ASV, Segreteria di Stato, Polonia. Additamenta: Memoriali, biglietti e carte diversae, 1656–1699. Цалкам справаздача надрукавана ў: Litterae episcoporum

Назіранні архіепіскапа, зробленыя ў XVII ст., пацвярджае Д. Лісейчыкаў, які даводзіць у сваіх даследаваннях, што працэс пашырэння уніі быў гвалтоўна перапынены з-за пастаяннай прысутнасці казацкіх атрадаў[77]. У канцы XVI – першай палове XVII ст. толькі асобныя цэрквы Тураўшчыны пераходзілі ва ўніяцтва.

Лічбы ў справаздачы Я. Сушы яўна акругленыя і ў многіх выпадках выклікаюць у гісторыкаў сумненні[78], але саму працу варта прызнаць каштоўнай з гістарычнага пункту гледжання перш за ўсё за тое, што яна дае апісанне уніі паводле стану на 1664 г. з перспектывы ўдзельніка падзей. Апрача таго, пішучы сваю справаздачу, Суша абапіраўся на рымскі матэрыял, што значна ўзбагачае вартасць яго працы[79].

Апошні дакумент, які дае пэўнае ўяўленне пра стан асобных епархій у сярэдзіне XVII ст., – гэта справаздача пратапопа Пятра Курціловіча, выкананая паводле распараджэння епіскапа Марціна Белазора ў другой палове XVII ст. З яе вынікае, што ў склад уніяцкай Пінска-Тураўскай епархіі ўваходзіла каля 100 парафій на тэрыторыі Пінскага, Мазырскага і паўднёвай часткі Навагрудскага паветаў. У справаздачы прыводзіцца і колькасць уніяцкіх святароў: 40 уніяцкіх святароў у цэрквах на дзяржаўных землях і 46 – на землях, што знаходзіліся ў прыватнай

historiam Ucrainae illustrantes (1600–1900) / Paravit, adnotavit editionemque curavit P. A. G. Welykyj OSBM. Vol. II: 1641–1664. Romae, 1973. № 181. P. 298–299.

77 Лісейчыкаў Д. Фарміраванне сеткі ўніяцкіх парафій на тэрыторыі “Тураўскай епархіі” ў 1596–1795 гг. С. 88–89.

78 Mironowicz A. Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza / Białystok, 1996. S. 221–223; Gil A. Chełmska diecezja unicka 1596–1810. S. 19–20.

79 Плохий С. Н. Від Якова Суші до Атанасія Великого (огляд видань римських джерел з історії української церкви) // Український археографічний щорічник. Нова серія. Т. 5. Вип. 2. Київ, 1993. С. 6–7; Яго ж. Папские послания как источник по истории католической экспансии на Украине в XVI–XVII вв. // Историографические и источниковедческие проблемы отечественной истории. Днепропетровск, 1985; Яго ж. Папство и Украина: Политика римской курии на украинских землях в XVI–XVIII вв. Киев, 1989.

уласнасці[80]. Апрача таго, у складзе сямей святароў дадаткова жылі 74 чалавекі абодвух полаў. Пры некаторых вялікіх цэрквах маглі адначасова працаваць двое святароў, прычым, паводле прыведзеных падлікаў, у 1674 г. у названай епархіі існавала 80 парафіяльных цэркваў. Гэтая справаздача не знаходзіць пацвярджэння ў іншых крыніцах, а таму да яе варта ставіцца з асцярожнасцю.

### в) Парафіі ў XVIII ст.

Высвятленне стану парафіяльнай сеткі ў другой палове XVIII ст. і змен, якія ў ёй адбываліся, магчыма перш за ўсё дзякуючы візітацыям за 1777–1778 і 1787 г. – яны ўяўляюць сабой найбольш інфарматыўны (хоць, на жаль, і не поўны) комплекс крыніц для нашых даследаванняў. Іншая разнавіднасць даступных нам важных крыніц – гэта справаздачы і перапісы, створаныя для статыстычных патрэб. Адна з такіх справаздач – згаданы ўжо на пачатку гэтага раздзела дакумент пад назвай "Responsio ad questia Ill[ustrissi]mi Exc[e]ll[issi]mi ac Rev[erendissi]mi D[omi]ni Nuncii Apostolici in Regno Poloniarum et magno Ducatu Litt[uaniae] prius diligenter rebus omnibus examinatis per me Gedeonem Horbacki Ep[isco]pum Pinscensem et Turoviensem"[81] за 26 лютага 1773 г. – адказ Гедэона Гарбацкага, пінска-тураўскага епіскапа ў 1769–1784 г.[82], архібіскупу Джузэпе Гарампі, які папрасіў усіх уніяцкіх епіскапаў апісаць стан кіраваных імі епархій[83].

[80] Археографический сборник документов… Т. 6. С. 354.

[81] ASV, Archivi delle Rapresentanze Pottificie: Varsavia. Vol. 140. K. 431r.–431v.

[82] У 1766–1769 г. каад'ютара.

[83] Нунцый дзейнічаў у адпаведнасці з распараджэннем Дзяржаўнага сакратарыята Апостальскай Сталіцы за 1771 г., якім прадугледжваўся збор звестак наконт уніятаў і праваслаўных: ASV, Segreteria di Stato: Polonia. Vol. 285. K. 124v. Тым самым была створана каштоўная крыніца па гісторыі Усходняй царквы ў другой палове XVIII ст., якая атрымала назву "Табліц Гарампі". Яна ўтрымлівае звесткі не толькі пра ўніятаў, але і пра праваслаўных. Гл.: ASV, Segreteria di Stato: Polonia. Vol. 285. K. 124v; ASV. Vol. 110. K. 2–22.

Вынікі працы на тэму структуры Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі сведчаць, што дагэтуль адсутнічалі даследаванні уніі, якія грунтаваліся б на ўсебаковым выкарыстанні крыніц. Удалося давесці, што структура гэтай епархіі была досыць зменлівая, а яе тэрыторыя – значна большая, чым вынікала з даследаванняў іншых вучоных.

Гэта наглядна дэманструе, што прысвечаныя уніі першакрыніцы дагэтуль чакаюць сваіх адкрывальнікаў, а вычарпальнае апісанне уніі ў кантэксце гісторыі каталіцызму ў Еўропе – задача, да вырашэння якой мы толькі пачынаем набліжацца.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

# Research on the Structure of the Uniate Turaŭ-Pinsk Eparchy in the 17th and 18th Centuries

**Wojciech Walczak**

The author of the article presents his research on the structure of the Uniate Turaŭ-Pinsk eparchy in the 17th and 18th centuries. Detailed research on this issue has never been carried out so far due to difficult access to source material. After studying the archives in Lviv, Vatican, Vilnius, St. Petersburg and Minsk, dr Wojciech Walczak presents the network of parishes and deaneries in this likely least recognized eparchy.

After a part of hierarchs and believers from the Orthodox Archdiocese of Kiev concluded the union with Rome in Brest in 1596, the Greek Catholic Church faced the problem of how to organize its internal structure. Since it could have been contrary to the idea of the union, the Orthodox clergy and believers had no intention of forming the structure from the scratch after the transition to papal supremacy, so they adopted the logical solution of taking over the whole church organization and equipment from the Orthodox Church (wherever it was possible at the time). The author of the article analyzes the number and size of parishes and deaneries in the 17th and 18th centuries.

The presented results of the study of the structure of the Turaŭ-Pinsk eparchy show that the union has not been studied before with the use of comprehensive sources. The study proved that the structure of the eparchy was quite mobile and its area was much bigger than suggested in studies described by other scholars.

# Рэвалюцыйная армія свабоднай Расіі ў люстэрку беларускага перыядычнага друку


## Аляксандр Гужалоўскі


*Страшна робіцца за вольнасьць дзяржавы Расійскай, як прыглядзішся што за хуліганьё хаваецца цяпер пад штандарам волі, рэспублікі і дэмакратызму. Гэтыя цёмныя сілы цёмнай Расіі дэмаралізуюць ціпер армію, робюць пагромы, гвалтуюць, рабуюць, наводзюць жах навокала.*

Язэп Лёсік, рэдактар газеты
"Вольная Беларусь", 3.08.1917.

Рэканструкцыя штодзённага вопыту выжывання людзей у экстрэмальных умовах вайны і рэвалюцыі ў пераломным 1917 г. застаецца адным з перспектыўных кірункаў даследавання ў беларускай гістарычнай навуцы. Шэраг важных крокаў ужо зроблены[1]. Самая вялікая перашкода для далейшага развіцця даследаванняў – невялікі масіў першакрыніц, што дазваляюць зазірнуць за бачную паверхню ваенных і палітычных падзей. Частка першакрыніц

[1] Гапоненко Л. С. Солдатские массы Западного фронта в борьбе за власть Советов (1917). Москва, 1953; Рудовіч С. Вайна і рэвалюцыя без геразацыі // Acta Anniversaria. 2015. Т. 1. С. 233–241; Смольянинов М. М. Морально-боевое состояние российских войск Западного фронта в 1917 г. Минск, 2008; Сяменчык М. Я. Расійская армія і жыхары Беларусі на зломе Першай сусветнай вайны // Труды Белорусского государственного технологического университета. 2009. Вып. 17. С. 110–113.

(успамінаў, дзённікаў, лістоў), якія дазволілі б рэканструяваць вопыт "простага" чалавека ў віхуры 1917 г., загінула пад час войнаў і акупацый, частка – свядома знішчана пад час макулатурных кампаній у савецкіх архівах. Адсутнасць тэкстаў, што адлюстроўваюць персанальную рэфлексію звычайных людзей, абумоўлена таксама нізкім узроўнем пісьменнасці тагачаснага насельніцтва, асабліва на вёсцы. Бракуе сёння таксама метадалагічнага інструментарыю, які дазволіў бы даследаваць "ніжнія паверхі" гістарычнага працэсу з выкарыстаннем наяўных крыніц.

У гэтых умовах падаецца актуальным аналіз беларускага перыядычнага друку 1917 г., які дазваляе змяніць оптыку, убачыць людзей і падзеі зблізу, на мікраўзроўні. Газеты ў той час былі асноўнай крыніцай аператыўнай інфармацыі для гараджан, мелі з чытачамі адваротную сувязь, таму яны могуць распавесці шмат новага. Асаблівую каштоўнасць перыёдыцы 1917 г. надае факт яе выдання без кантролю палітычнай цэнзуры. Апошняя была скасавана 4 сакавіка загадам камандуючага Заходнім фронтам А. Е. Эверта[2] і ўведзена зноў 25 кастрычніка загадам № 1 выканкама Мінскага савета[3]. Перыядычны друк Беларусі 1917 г. ужо рабіўся аб'ектам крыніцазнаўчага аналізу беларускіх гісторыкаў[4], але інфармацыйны патэнцыял гэтай першакрыніцы яшчэ далёка не вычарпаны.

З пачаткам Першай сусветнай вайны, паводле мабілізацыйнага плана, беларускія землі ўвайшлі ў склад дзвюх вайсковых акруг – Мінскай і Дзвінскай. Створаны пасля "вялікага адступлення" ў жніўні 1915 г. на тэрыторыі Беларусі Заходні фронт заняў участак даўжынёй 500 км ад Відзаў да ракі Прыпяць. Складаўся фронт з трох армій.

[2] Вестник Комитета Западного фронта Всероссийского Земского Союза. 1917. 4 мар. № 266. С. 4.

[3] Буревестник. 1917. 27 окт. № 17 (52). С. 1.

[4] Сяменчык М. Я. Перыядычны друк Беларусі 1917 г. як гістарычная крыніца па вывучэнні рэвалюцыйных падзей // Сучасныя падыходы да вывучэння крыніц па гісторыі Беларусі. Да 1000-годдзя летапіснай Літвы: матэрыялы Рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, Мінск, 18 снеж. 2009 г. / [рэдкал.: А. П. Жытко і інш.]. Мінск, 2009. С. 180–184.

2-я армія са штабам у Нясвіжы, а потым у Слуцку трымала левы фланг фронту і займала балоцісты ўчастак ад Прыпяці да Бярэзіны. 3-я армія са штабам у Полацку займала правы фланг. Нарэшце, цэнтральны ўчастак фронту займала 10-я армія са штабам у Маладзечне. Штаб Заходняга фронту знаходзіўся ў Мінску. Менавіта там на пачатку сакавіка генерал ад інфантэрыі А. Е. Эверт атрымаў рашэнне Часовага ўрада аб перайменаванні Рускай імператарскай арміі ў Рэвалюцыйную армію свабоднай Расіі.

Калі ў Петраградзе адбылася лютаўская рэвалюцыя, на Заходнім фронце ўжо амаль паўтара года цягнулася пазіцыйная вайна, у якой стратэгічнай мэтай бакоў было эканамічнае і дэмаграфічнае спусташэнне праціўніка. Баявыя дзеянні на фронце былі малаэфектыўныя і нават пры спрыяльных умовах давалі абмежаваныя вынікі. Перыяды пасіўнай абароны рабіліся ўсё даўжэйшымі, а спробы наступу ўсё радзейшымі.

Апошнюю буйную аперацыю Заходняга фронту, якая ўвайшла ў ваенную гісторыю як "Крэўская", здзейснілі падраздзяленні пераважна 10-й арміі. Баявы дух салдат напярэдадні правядзення аперацыі прыехаў уздымаць ваенны "міністр-сацыяліст" А. Ф. Керанскі. Газеты пераказвалі змест "моцных, палымяных" прамоваў, якія міністр рабіў на перадавой каля Маладзечна, трымаючы ў руках чырвоны сцяг[5]. Пасля трохдзённай артпадрыхтоўкі 9 ліпеня 1917 г. рэвалюцыйныя салдаты атрымалі загад наступаць, але ахвотнікаў выконваць яго амаль не знайшлося. Тым не менш, героі Крэўскай аперацыі ўсё ж былі. Аднаго з іх – камандзіра жаночага батальёна смерці М. Л. Бачкарову мінчане-добраахвотнікі выгружалі 11 ліпеня разам з іншымі параненымі з санітарнага эшалона на Віленскім вакзале. У той жа дзень мінчане ўбачылі каля дзвюх тысяч захопленых нямецкіх ваеннапалонных, якіх дэманстратыўна правялі па вуліцах горада[6].

[5] В. Г. На ст. Молодечно // Варшавское утро. 1917. 1 июля. № 397. С. 2.

[6] Известия Витебского совета крестьянских, солдатских и рабочих депутатов. 1917. 13 июля. № 2. С. 3.

Да 1917 г. германская авіяцыя на Заходнім фронце атрымлівала дамінаванне за кошт хуткага ўкаранення тэхнічных інавацый кшталту самалётаў-знішчальнікаў. Вялікую ўвагу немцы таксама аддавалі стратэгічным бомбавым ударам па тылах праціўніка – населеных пунктах, чыгуначных вузлах, складах. Парк расійскіх аэрапланаў складаўся пераважна з састарэлых мадэляў замежнай вытворчасці. На працягу 1917 г. германскія дырыжаблі і шматматорныя бамбавікі рэгулярна атакавалі тылавыя аб'екты на прыфрантавой тэрыторыі. Удзень нямецкія аэрапланы бамбілі станцыі – Стоўбцы, Маладзечна, Вілейку, Замір'е (сёння Гарадзея) і іншыя аб'екты, у т. л. цягнікі. Уначы над прыфрантавой тэрыторыяй з уключанымі пражэктарамі з'яўляліся цэпеліны. 27 жніўня "Варшаўская раніца" пісала: "Трэці дзень над Мінскам лятае нямецкі аэраплан, публіка прызвычаілася і не звяртае на яго асаблівай увагі"[7]. Праз месяц тая ж газета паведаміла пра трагічную гібель у час пасадкі на аэрадром у Адампалі блізу Валожына двух пілотаў аэраплана "Марыс Фарман 40" – мінчаніна паручніка І. І. Мігая і прапаршчыка М. В. Рахманінава (брата славутага кампазітара)[8]. Германскае камандаванне выкарыстоўвала супраць салдат Заходняга фронту псіхалагічную зброю, перыядычна запускаючы ў расійскі бок паветраныя шары з антываеннымі ўлёткамі[9].

Ва ўмовах пазіцыйнай вайны з мэтай прарыву абароны праціўніка вясной 1917 г. абодва бакі на Заходнім фронце выкарыстоўвалі хімічную зброю. Найбольш эфектыўнай тактыкай ужывання баявых газаў былі камбінаваныя атакі: стварэнне газавай хвалі (газабалонная атака) і артылерыйскі абстрэл недасягальнай для яе тэрыторыі хімічнымі снарадамі. Адна з апошніх падобных германскіх атак у в. Лабузы 15 сакавіка прымусіла расійскія часці адступіць за раку Шчару[10]. У ноч на 2 красавіка,

[7] Варшавское утро. 1917. 27 авг. № 440. С. 3.
[8] Варшавское утро. 1917. 24 сент. № 462. С. 3.
[9] Минский голос. 1917. 4 мая. № 2419. С. 3.
[10] Минский голос. 1917. 15 мар. № 2378. С. 2.

карыстаючыся спрыяльным ветрам, газавыя хвалі на пазіцыі праціўніка каля в. Кухары пад Маладзечна выпусцілі з расійскага боку. Аднак, калі пяхота паспрабавала атакаваць акопы немцаў, праз якія толькі прайшло воблака хлору, іх сустрэў кулямётны агонь. Сур'ёзных страт немцы не панеслі[11].

Трэба адзначыць, што цікавасць як журналістаў, так і чытачоў беларускіх газет у 1917 г. выклікалі не столькі ваенныя бітвы (якіх, па сутнасці, не было), колькі працэсы, што адбываліся ў самой Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі, а таксама іх уплыў на жыццё людзей у прыфрантавой зоне. Так, усе газеты ў розных кантэкстах паведамілі пра Загад № 1 Петраградскага савета, які асобным пунктам уводзіў салдацкія камітэты. Гэта азначала фактычную адмену прынцыпу аднаасобнага камандавання ў войску. Салдацкія камітэты адразу ж увайшлі ў канфлікт з афіцэрскім корпусам. У выніку да ліпеня 1917 г. на Заходнім фронце было звольнена каля 60 палкоўнікаў і генералаў[12].

Гэта адбылося не ў апошнюю чаргу дзякуючы дзейнасці прапаршчыка А. Ф. Мяснікова, які ў траўні атрымаў магчымасць весці работу па распальванні варожасці паміж салдатамі і афіцэрамі, разлажэнні арміі ўвогуле на легальнай аснове, атрымаўшы пасаду старшыні юрыдычнай камісіі выканкама З'езда салдацкіх, рабочых і сялянскіх саветаў Заходняга фронту[13]. 15 ліпеня пры камандуючым Заходнім фронтам (на той час генерал-лейтэнант А. І. Дзянікін) з'явіўся камісар – адвакат па прафесіі і сацыял-дэмакрат "з катаржным вопытам" У. А. Жданаў. Камандуючы мусіў узгадняць з ім усе загады, прычым сам камісар, які разумеў свае паўнамоцтвы вельмі шырока, як "міністра абароны фронту", шэраг пытанняў франтавога жыцця ўключыў толькі ў сваю кампетэнцыю[14].

[11] Витебский вестник. 1917. 6 апр. № 73. С. 2.
[12] Деникин А. И. Очерки русской смуты. Т. 1. Вып. 2. Париж, 1921. С. 28.
[13] Фронт. 1917. 9 (22) мая. № 2. С. 4.
[14] Варшавское утро. 1917. 9 авг. № 428. С. 3.

Працэсы разлажэння і падзення баяздольнасці Рэвалюцыйнай арміі падштурхнулі Часовы ўрад да фармавання асобых часцей, створаных паводле прынцыпу добраахвотніцтва. Акрамя батальёнаў смерці, якія, на думку іх арганізатараў, павінны былі паспрыяць аздараўленню войска, надзеі таксама ўскладаліся на нацыянальныя фармаванні. Аднак, як і ў выпадку з добраахвотнікамі-смертнікамі, нацыянальныя часці не дапамаглі захаваць войска, бо іх камандзіры ставілі перад сабой зусім іншыя мэты.

Ужо на першым пасяджэнні прэзідыума Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску 27 сакавіка 1917 г. было вырашана стварыць спецыяльную камісію па выпрацоўцы праекта беларускага народнага апалчэння, у склад якой увайшлі сябра камітэта А. Смоліч, а таксама афіцэры В. Гурыновіч, І. Крапец і студэнт Лышчык[15]. 15 траўня адбыўся ўстаноўчы сход "Ваеннае Беларускае Арганізацыі ў Мінску". На ім ўхвалілі статут арганізацыі, згодна з якім яе сябрамі маглі быць "ваенныя беларусы, што жывуць у Мінску, як людзі аднаго краю, звычаю і мовы і маючыя аднолькавыя патрэбы"[16]. З лета 1917 г. пачалі фармавацца беларускія арганізацыі і гурткі ў вайсковых падраздзяленнях. Адным з першых уласную нацыянальную арганізацыю на Заходнім фронце ў чэрвені стварылі салдаты 1-й роты 541-га пяхотнага Веліжскага палка[17]. Тады ж паўстала арганізацыя матросаў-беларусаў на Балтыйскім флоце, якая налічвала каля 800 чалавек[18]. З сярэдзіны жніўня пачала дзейнічаць моцная беларуская арганізацыя ў 12-й арміі Паўночнага фронту[19].

Працэс стварэння беларускіх арганізацый у Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі паскорыўся ўвосень 1917 г., у ім удзельнічала ўсё большая колькасць салдатаў і афіцэраў. Важныя ініцыятывы прагучалі на З'ездзе беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту, які

[15] Минский голос. 1917. 31 мар. № 2392. С. 3.
[16] Вольная Беларусь. 1917. 11 іюня. № 2. С. 3.
[17] Вольная Беларусь. 1917. 20 іюня. № 3. С. 4.
[18] Вольная Беларусь. 1917. 8 снеж. № 33. С. 3.
[19] Могилевская жизнь. 1917. 20 авг. № 34. С. 3.

адкрыўся 18 кастрычніка ў Мінску ў будынку губернскага камісарыята (былым доме губернатара)[20]. У прыватнасці, удзельнікі з'езда выказаліся за "паступовае фармаванне асобных беларускіх падраздзяленняў, напрыклад, Мінскі, Віленскі, Магілёўскі палкі… наколькі будуць дазваляць ваенныя абставіны". Сур'ёзным аргументам на карысць гэтага захаду быў, па словах выступоўцаў, фактар прысутнасці ў Быхаве 1-га Польскага корпуса Ю. Доўбар-Мусніцкага. Напрыканцы работы з'езда дэлегаты, сярод якіх былі прадстаўнікі генералітэту (К. Кандратовіч), а таксама беларускіх арганізацый Паўночнага, Паўднёва-Заходняга, Румынскага франтоў і Балтыйскага флоту, выказаліся за аўтаномію Беларусі ў складзе федэратыўнай, дэмакратычнай Расіі[21]. Падобная рэзалюцыя была ўхвалена на З'ездзе беларусаў-вайскоўцаў Паўночнага фронту, які адбыўся 16 лістапада 1917 г. у Віцебску, а таксама на з'ездах беларускіх воінаў-інвалідаў у Мінску і воінаў-беларусаў у Маскве[22].

Працэс стварэння беларускага нацыянальнага войска яшчэ больш паскорыўся пасля ўтварэння ў лістападзе Цэнтральнай беларускай вайсковай рады з выканаўчым камітэтам на чале з С. Рак-Міхайлоўскім. Варта адзначыць, што мясцовы бальшавіцкі друк у нейтральным тоне падаваў інфармацыю пра намаганні вайсковай рады па фармаванні беларускіх вайсковых адзінак на розных франтах ("ва Украіне ім дзейсную дапамогу аказвае С. Пятлюра"), стварэнні першага беларускага палка ў Мінску, а таксама коннага эскадрона ў Оршы[23]. Гэта тлумачылася дазволам на стварэнне беларускіх вайсковых фармаванняў, які Цэнтральная беларуская вайсковая рада атрымала ад камандуючага Заходнім фронтам

[20] У кастрычніку 1917 г. Цэнтральная рада беларускіх арганізацый "рэквізавала" гэты будынак для ўласных патрэб, паставіла ўзброеную варту і нават адбіла спробу "большэвікоў" яго захапіць. Вольная Беларусь. 1917. 30 кастр. № 27. С. 4.

[21] Могилевская жизнь. 1917. 27 окт. № 84. С. 3.

[22] Вольная Беларусь. 1917. 30 ліст. № 32. С. 3–4.

[23] Минская искра. 1917. 28 нояб. № 1. С. 3; Советская правда. 1917. 14 (27) дек. № 11. С. 4.

А. Ф. Мяснікова[24]. Адначасова з беларускімі дзеячамі падобны дазвол атрымалі кіраўнікі іншых нацыянальных арганізацый. Так, 30 снежня 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд яўрэяў – воінаў Заходняга фронту, на якім абмяркоўваліся "пытанні нацыяналізацыі войска"[25].

Важнай падзеяй, якая асвятлялася многімі газетамі, стаў З'езд дэпутатаў армій Заходняга фронту 7–8 красавіка 1917 г. у Мінску. На з'езд, які праходзіў у гарадскім тэатры, прыбыло 1200 дэлегатаў і каля 100 гасцей. Сярод апошніх быў старшыня Дзяржаўнай думы М. У. Радзянка, аўтамабіль якога ўвечары 7 красавіка мінчане сустракалі ва ўзнёслым настроі, з кветкамі і гукамі "Марсельезы". На наступны дзень прыбылых на з'езд членаў Дзяржаўнай думы М. І. Скобелева, І. Г. Цэрэтэлі і М. С. Чхеідзэ мінчане вынеслі з вагона на руках, закідалі кветкамі, прымусілі выступаць перад натоўпам на плошчы. Пад час з'езда па вуліцах Мінска ездзілі ўпрыгожаныя чырвонымі стужкамі аўтамабілі, з якіх вайскоўцы раскідвалі ўлёткі рэвалюцыйнага зместу. Быў арганізаваны збор сродкаў у "фонд дапамогі ахвярам палітычнага і сацыяльнага ладу", куды гараджане перадалі на працягу трох дзён 28 тыс. рублёў. Не меншы патрыятычны пад'ём назіраўся сярод удзельнікаў з'езда, якія шчодра перадавалі ў прэзідыум "на алтар айчыны" залатыя і срэбныя пярсцёнкі, крыжы, ланцужкі. Напрыканцы з'езда быў абраны франтавы камітэт, дзе, нягледзячы на намаганні М. А. Міхайлава (М. В. Фрунзэ), бальшавікі склалі меншасць[26].

Паспяховае завяршэнне З'езда дэпутатаў армій Заходняга фронту было вырашана адсвяткаваць 9 красавіка маштабным мітынгам на перайменаванай у плошчу Свабоды былой Саборнай плошчы, а таксама "маніфестацыяй яднання вайскоўцаў з цывільным насельніцтвам". Адкрыў мітынг старшыня Мінскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў Б. П. Позерн. Потым выступалі М. У. Радзянка,

[24] Бюллетень Белорусской рады XII армии. 1917. 18 дек. № 1. С. 2.

[25] Советская правда. 1917. 29 дек. (11 янв.) № 22. С. 4.

[26] Минский голос. 1917. 16 апр. № 2405. С. 3.

камандуючы войскамі Заходняга фронту генерал В. І. Гурко, гарадскі камісар С. Б. Хржанстоўскі, начальнік міліцыі М. А. Міхайлаў (М. В. Фрунзэ). Пасля заканчэння прамоваў выступоўцы селі ў аўтамабілі і ў суправаджэнні авацый рушылі па маршруце плошча Свабоды – Губернатарская – Захар'еўская – Каломенская – Падгорная – плошча Свабоды. За аўтамабілямі ішлі шыхты вайскоўцаў, а за імі – цывільнае насельніцтва, арганізаванае паводле нацыянальных, партыйных і прафесійных прыкмет[27].

Працэс дэмакратызацыі Рэвалюцыйнай арміі меў свае межы. Напрыклад, грашовая сума ў памеры 150 рублёў на набыццё металічнай труны, а таксама на транспартаванне і пахаванне на радзіме па-ранейшаму распаўсюджвалася толькі на забітых афіцэраў, вайсковых чыноўнікаў, лекараў і святароў[28]. Ніжніх чыноў хавалі на могілках пры лазарэтах.

Дэмакратызацыя суправаджалася не толькі з'ездамі і мітынгамі, але і шматлікімі недазволенымі камандаваннем дзеяннямі. Адно з іх атрымала назву "братанняў". Немцы, у якіх не было сухога закону, неслі ў акопы салдатам Рэвалюцыйнай арміі спіртовыя напоі, апошнія частавалі немцаў хлебам і тушонкай. Праціўнікі, прымацаваўшы да шынялёў чырвоныя банты, абменьваліся адрасамі, каб ліставацца пасля вайны, мяняліся сувенірамі – капшукамі, нажамі, біклагамі.

1 жніўня 1917 г. Вярхоўны галоўнакамандуючы Л. Г. Карнілаў выдаў загад па Мінскай ваеннай акрузе разганяць інтэрнацыянальныя салдацкія "вячоркі" артылерыйскім і кулямётным агнём і разглядаць іх як германскую ідэалагічную дыверсію. У дзень выхаду гэтага загаду ваенна-рэвалюцыйны суд у Маладзечне прыгаварыў за братанне з немцамі пяцярых салдат да 10 гадоў катаргі, чатырох – да арыштанцкіх рот, дваіх – апраўдаў[29]. Тым не менш братанні адбываліся і пазней, пра што паведамлялі

[27] Минский голос. 1917. № 2400. 11 апр. С. 3.
[28] Известия Комитета Западного Фронта. Всероссийский союз городов. 1917. 30 авг. № 15. С. 37.
[29] Варшавское утро. 1917. 2 авг. № 434. С. 3.

тагачасныя беларускія газеты ў рубрыках, прысвечаных франтавым падзеям. 31 жніўня "Варшаўская раніца" распавядала пра працэс у мінскім ваенна-рэвалюцыйным судзе над 34 салдатамі, якія выйшлі братацца з праціўнікам на чале з камандзірам-прапаршчыкам[30]. 6 верасня тая ж газета паведамляла: "Пачаліся дажджы, дарогі размыла, і баявыя дзеянні на Заходнім фронце амаль спыніліся. Салдаты ходзяць у нямецкія акопы за каньяком"[31]. 16 лістапада "Магілёўскае жыццё" змясціла паведамленне ў тэлеграфным стылі: "Заходні фронт. Перастрэлка. На поўдзень ад возера Нарач звычайнае братанне"[32].

Дэмакратызацыя войска не магла не адбіцца на знешнім выглядзе салдат, прычым не ў лепшы бок. З'яўленне агіднага "чалавека са стрэльбай" было нечаканым наступствам дэмакратызацыі нават для саміх рэвалюцыйных уладаў. У адным з матэрыялаў, змешчаных на старонках перыядычнага органа Віцебскага савета, знаходзім наступныя радкі: "На вуліцах Віцебска заўважана вялікая колькасць салдат, апранутых у змешаную форму, у форменнае адзенне без пагон, без рамянёў, якія выглядаюць надзвычай неахайна. Заўважаюцца таксама вайсковыя чыны без зброі, якую яны, паводле статута, павінны мець пры сабе"[33]. З загада камандуючага войскамі Заходняга фронту П. С. Валуева, які з'явіўся ў тым жа жніўні 1917 г., можна даведацца пра тое, што салдаты Мінскага гарнізона не толькі ўхіляліся ад нашэння пагон, але нават займаліся розьнічным гандлем на вуліцах горада[34].

Паводзіны салдат Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі змяніла адмена смяротнага пакарання, ваенна-палявых судоў, а таксама абавязковасці выканання загадаў, якія цяпер падзяляліся на "баявыя" і "небаявыя". 9 траўня 1917 г. была абвешчана "Дэкларацыя правоў салдата", якая зраўняла салдат у правах з цывільным

30 Варшавское утро. 1917. 31 авг. № 443. С. 3.
31 Варшавское утро. 1917. 6 сент. № 448. С. 3.
32 Могилевская жизнь. 1917. 16 нояб. № 101. С. 3.
33 Известия Витебского совета крестьянских, солдатских и рабочих депутатов. 1917. 2 авг. № 19. С. 3.
34 Варшавское утро. 23 авг. 1917. № 436. С. 3.

насельніцтвам. Гэта азначала свабоду вядзення палітычнай агітацыі ў войску, чым адразу ж скарысталіся ўсе палітычныя партыі, але найперш – сацыялістычнай арыентацыі. На фронт, разам з агітатарамі кадэтаў, эсэраў, сацыял-дэмакратаў і іншых палітычных партый, пайшлі тоны прапагандысцкай літаратуры – газет, брашур, улётак.

Нягледзячы на папулярнасць сярод салдацкай масы ідэі ўсеагульнай роўнасці, заклікі бальшавікоў да звяржэння легітымнай улады і дэзерцірства значная яе частка, прынамсі летам 1917 г., не прымала. Так, 6 ліпеня гомельская міліцыя ледзь выратавала ад самасуду натоўпу канторшчыка Палескай чыгункі Гаўрылу Карпусіка, які намаўляў салдат з эшалонаў не ехаць на фронт[35]. Праз пяць дзён на гомельскім вакзале салдаты затрымалі яшчэ аднаго бальшавіцкага агітатара – салдата 3-га карэннага парка Іосіфа Ткаленку[36]. У ноч на 12 ліпеня ў Мінску на Віленскім вакзале да беспрытомнага стану быў збіты салдат-артылерыст Аляксандр Малаканаў, які спрабаваў прасоўваць бальшавіцкія ідэі ў вайсковых эшалонах[37]. Пра цяжкасці, з якім гэтыя ідэі распаўсюджваліся сярод салдат Заходняга фронту, згадваў ва ўспамінах А. Ф. Мяснікоў: "Прапаганда сярод салдат ішла надзвычай цяжка, бо гэта былі ўсе салдаты мікалаеўскага духу... Мы імкнуліся раскалоць салдат на два лагеры... У той час, як ужо пачаўся наступ, мы агітавалі ў задніх шэрагах супраць яго. Гэта ішло па ўсім фронце. Быў поўны крах. Паклалі цэлую дывізію, але з наступу нічога не атрымалася. Гэты крах даў нам тое, да чаго мы прыйшлі ў мінскім савеце"[38].

Бальшавіцкая прапаганда спрыяла пашырэнню адной з найбольш негатыўных масавых з'яў, з якой насельніцтва Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў сутыкнулася яшчэ да лютаўскай рэвалюцыі[39], а менавіта масавага

[35] Гомельская копейка. 1917. 8 июля. № 1335. С. 4.
[36] Гомельская копейка. 1917. 13 июля. № 1340. С. 4.
[37] Варшавское утро. 1917. 14 июля. № 407. С. 3.
[38] НАРБ. Ф. 60п. Воп. 4. Спр. 149. Арк. 8.
[39] Тут ідзе размова пра дэзерцірства як масавую з'яву, якая ў сучаснай расійскай гістарыяграфіі атрымала назву "стыхійнай

дэзерцірства. Дэзерцірамі рабіліся пераважна былыя сяляне, з якіх амаль на 90% складалася расійскае войска. Яны імкнуліся паспець у свае вёскі да "чорнага перадзелу", што пачаўся з вясны 1917 г. у выглядзе самазахопаў зямлі. Да пачатку жніўня сітуацыя на Заходнім фронце набыла ўжо незваротны характар. Вось як яе маляваў адзін з аўтараў рубрыкі "Лісты з фронту", якую перыядычна змяшчала мінская газета "Варшаўская раніца": "У раёне Маладзечна некаторыя палкі самавольна сыходзяць з пазіцый у тыл, дзе рабуюць мірных жыхароў. Учора мы арыштавалі каля 10 тыс. салдат каўказскага грэнадзёрскага корпуса... Папаўненне разбягаецца. Каманда сапёраў, якая складалася са 150 чалавек, не даходзячы да пярэдняй лініі тысячы крокаў, разбеглася як дзікія зайцы. Засталіся толькі два афіцэры... Тое самае адбылося з іншымі палкамі. Ударны батальён просіць падмацавання, а падмацаванне разбягаецца ў тыл"[40]. Агулам з Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі за няпоўны год яе існавання сышло да 2 млн узброеных чалавек. Толькі невялікая іх частка вярнулася да мірнай працы, большасць займалася рабаўніцтвам і тэрарызавала мясцовае насельніцтва. Дэзерціры значна паспрыялі рэвалюцызацыі вёскі, абуджэнню ў сялян старажытных анархічных інстынктаў.

Напрыклад, жыхары мястэчка Гарадзец Рагачоўскага павета абралі старшынёй валаснай зямельнай управы дэзерціра Снігірова. Той разагнаў усіх законна абраных прадстаўнікоў мясцовай улады, пасля чаго пачаў раздаваць бяднейшым жыхарам землі буйных землеўласнікаў. Спроба Рагачоўскага савета салдацкіх і рабочых дэпутатаў арыштаваць Снігірова не скончылася нічым, бо на

дэмабілізацыі". У Рускай імператарскай арміі дэзерцірства на працягу Першай сусветнай вайны ўвесь час павялічвалася, але да пачатку 1917 г. не набыло пагрозлівага характару. Напрыклад, напярэдадні рэвалюцыі амаль у кожным палку Заходняга фронту мелася па некалькі дзясяткаў дэзерціраў, а ў найгоршым падраздзяленні фронту – распрапагандаваным сацыялістамі 703-м Сурамскім пяхотным палку іх было каля 300. Гомельская копейка. 1917. 13 июля. № 1340. С. 3.

[40] Варшавское утро. 1917. 3 авг. № 423. С. 3.

яго абарону сталі мясцовыя жыхары. Для нейтралізацыі дэзерціра спатрэбілася правядзенне спецаперацыі з прыцягненнем сіл рагачоўскай павятовай міліцыі[41].

Па-іншаму, як з'яву выключна негатыўную, што разбэшчвала мясцовае насельніцтва, ацэньваў дэзерцірства карэспандэнт газеты "Магілёўскае жыццё" з Нічыпараўскай воласці Горацкага павета. Ён, у прыватнасці, пісаў: "З'яўленне салдат з фронту ўнушае ўсім нянавісць, падазронасць, але з-за боязі да іх фармальна ставяцца як да абаронцаў. Шмат іх па вёсках: у Даманах да 50 налічваюць, а ў Пудоўні і Заходах, кажуць, амаль усе па хатах жывуць адкрыта. Старастам быў загад даносіць, але яны баяцца за сябе, за дзяцей, за хаты і маўчаць, праклінаючы іх у душы"[42].

Дэзерціры хаваліся ад вайсковай службы не толькі ў вясковай глушы. Некаторыя з іх наймаліся на працу ў беларускіх губернскіх гарадах у якасці рознарабочых, конюхаў, хатняй прыслугі. Гараджане, не абцяжараныя прававой свядомасцю і высокімі маральнымі якасцямі, з задавальненнем наймалі дэзерціраў, бо праца тых, хто знаходзіўся на нелегальным становішчы, каштавала менш. Да таго ж дэзерціры не маглі абараняць уласныя правы, у адрозненне ад легальных наёмных работнікаў, якія ў той час актыўна самаарганізоўваліся ў прафесійныя саюзы[43].

Пераўтварэнне дэзерцірства ў масавую з'яву непазбежна пагаршала крымінальную сітуацыю на прыфрантавых тэрыторыях. Частка сялян-салдат, адарваных ад уласных абшчын, сям'і, сваякоў, разам з імі губляла на фронце сацыяльныя табу, якія рэгулявалі іх паводзіны ў традыцыйным аграрным грамадстве. Адсутнасць традыцыйных сацыяльных кантралёраў разам з уздзеяннем на непісьменную салдацкую масу агітатараў-сацыялістаў стварала ілюзію ўсёдазволенасці.

[41] Могилевская жизнь. 1917. 25 окт. № 82. С. 3.
[42] Могилевская жизнь. 1917. 5 окт. № 68. С. 3.
[43] Р. Г. О чем говорят // Известия Витебского совета солдатских и рабочих депутатов. 1917. 10 июня. № 20. С. 2.

30 верасня 1917 г. трое дэзерціраў абрабавалі хутар А. М. Кажамякіна, што знаходзіўся за сем вёрст ад Гомеля, захапіўшы ў закладнікі жонку гаспадара[44]. У Дрысенскім павеце Віцебскай губерні дэзерцір Дзядун арганізаваў крымінальную групу ў складзе 11 салдат, якая штоноч нападала на дамы заможных гаспадароў, забіраючы ў іх скаціну, хлеб, грошы, адзенне і інш.[45]. 14 чэрвеня міліцыя затрымала на месцы злачынства банду чыгуначных злодзеяў-дэзерціраў на станцыі Гомель Лібава-Роменскай чыгункі[46]. У ноч з 28 на 29 верасня група, што складалася прыблізна з 30 узброеных збеглых з пазіцый салдат, на працягу трох гадзін рабавала маёнтак Борхаў Гомельскага павета, які належаў І. А. Крушэўскаму. Гэтае злачынства вылучалася надзвычай добрай арганізацыяй – напярэдадні была праведзена выведка, перарэзаны тэлефонны кабель, расстаўлены каравул, падрыхтаваны транспарт для вывазу нарабаванага[47].

Адным з распаўсюджаных спосабаў ухілення ад службы ў Рэвалюцыйнай арміі былі сімуляцыя, членашкодніцтва, выраб фальшывых медычных дакументаў, а таксама ўцёкі са шпіталяў. Але гэты “медычны” шлях уцёкаў з войска не заўсёды вёў на волю. Так, 13 чэрвеня гомельская міліцыя затрымала салдата, які дэзерціраваў з мясцовага шпіталя Чырвонага Крыжа, прыхапіўшы гаманец аднаго з санітараў. Затрыманы быў дастаўлены для высвятлення абставін уцёкаў у шпіталь, дзе яго, нягледзячы на пратэсты міліцыянераў, санітары збілі да непрытомнасці[48].

У барацьбе з такой небяспечнай з’явай, як дэзерцірства, армейскае камандаванне Заходняга фронту спрабавала спалучаць метады прымусу і тлумачэння. Перавага аддавалася апошняму метаду. Так, на сустрэчах з салдатамі Вярхоўны галоўнакамандуючы Рэвалюцыйнай

[44] Гомельская копейка. 1917. № 1402. 4 окт. С. 3.

[45] Эдельсон Г. По губернии // Известия Витебского совета крестьянских, солдатских и рабочих депутатов. 1917. 20 авг. № 34. С. 4.

[46] Гомельская копейка. 1917. 17 июня. № 1319. С. 3.

[47] Гомельская копейка. 1917. 30 сент. № 1399. С. 4.

[48] Гомельская копейка. 1917. 15 июня. № 1317. С. 4.

арміі М. В. Аляксееў на пытанне “Чаму не расстрэльваюць дэзерціраў?” нязменна адказваў: “Тым, хто адмовіўся абараняць Радзіму, трэба тлумачыць шкоднасць іх паводзінаў”[49].

Перыяд з 14 траўня да 14 чэрвеня быў абвешчаны месячнікам добраахвотнага вяртання ў войска без пакарання збеглых салдат. Пры гэтым камандаванне ў сваім звароце нагадвала тым, хто не збіраўся вяртацца ў войска па сваёй волі, што, паводле законаў новай улады, іх чакае ад 8 да 24 гадоў катаргі. Вынікі месячніка былі даволі сціплыя – да сярэдзіны чэрвеня на Заходні фронт вярнулася 9536 чалавек[50].

Адначасова 28–29 траўня вайсковае камандаванне разам з мінскай міліцыяй правяло масавую аблаву на дэзерціраў у грамадскіх месцах – у рэстаранах, кавярнях, кінематографах, а таксама на трэку. У выніку гэтага мерапрыемства ў ваенную камендатуру было адпраўлена больш за 150 салдат, якія пакінулі баявыя пазіцыі без дазволу камандзіраў. За законнасцю затрыманняў назіралі члены Гарадской думы і Мінскага савета, якіх можна было пазнаць па чырвоных павязках на рукавах. 30 ліпеня – 1 жніўня ў Мінску прайшла яшчэ адна больш маштабная аблава на дэзерціраў, для ўдзелу ў якой з фронту выклікалі 900 сібірскіх стралкоў і казакоў. У выніку рэалізацыі распрацаванага міліцыяй плана 60 сумесных міліцэйска-вайсковых атрадаў затрымалі каля тысячы дэзерціраў. Да кожнага з атрадаў быў прыкамандзіраваны прадстаўнік савета або франтавога камітэта, з затрыманых здымалі паказанні прадстаўнікі пракуратуры[51].

У Магілёве да рэгулярных аблаў на дэзерціраў прыцягваўся Георгіеўскі батальён, у непасрэдныя абавязкі якога ўваходзіла ахова Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага. На думку мясцовых цывільных уладаў, эфектыўнасць дзеянняў “георгіеўцаў” павінен быў павысіць

[49] Фронт. 1917. 13 (26) мая. № 4. С. 3.
[50] Варшавское утро. 1917. 18 июня. № 386. С. 3.
[51] Варшавское утро. 1917. 4 авг. № 424. С. 3.

штраф памерам 500 рублёў для тых, хто хаваў уцекачоў[52]. Падобныя захады з падобным вельмі абмежаваным поспехам праводзілі вайсковыя і цывільныя ўлады ў Віцебску[53] і Полацку. Для ўтаймавання хваляванняў на гомельскім размеркавальным пункце, дзе фармаваліся маршавыя роты для адпраўкі на фронт, камандаванню давялося выклікаць казакоў і драгун. Навабранцы наладзілі антываенны мітынг, збілі прадстаўнікоў франтавога камітэта і спрабавалі ўчыніць у Гомелі пагром. Вярнуліся яны ў казармы толькі пад пагрозай выкарыстання супраць іх зброі[54].

Часам дзеянні тых, хто змагаўся з дэзерцірамі, набывалі камічны характар. Так, у чэрвені ў Гомельскі савет з'явіліся са скаргай бацькі братоў Айзенштэйнаў, якія напярэдадні былі арыштаваны сумесным вайскова-міліцэйскім патрулём і праз размеркавальны пункт накіраваны на перадавую лінію на Заходні фронт. Адпаведна дакументам, якія паказалі бацькі затрыманых хлопцаў, аднаму з іх было 16 гадоў, другому – 17, трэці меў "белы білет", які вызваляў яго ад службы ў войску[55].

Нягледзячы на ўсе пералічаныя захады, плынь дэзерціраў з Заходняга фронту спыніць было ўжо немагчыма. Пасля падзення Часовага ўрада крымінальныя дзеянні дэзерціраў, якія ў вачах сялян, што іх падтрымалі, разумеліся як акты ўзнаўлення сацыяльнай і маёмаснай справядлівасці, набылі масавы характар. Ананімны аўтар паведамляў у рэдакцыю газеты "Вольная Беларусь" пра разгромленыя і спаленыя дэзерцірамі на пачатку лістапада маёнткі Глінін, Слабодка, Зарэчча, Лісін, Бараў-

[52] Известия Витебского совета солдатских и рабочих депутатов. 1917. 10 июня. № 20. С. 4.

[53] У сярэдзіне жніўня 1917 г. на віцебскай гаўптвахце ўтрымлівалася 55 салдат, 29 з якіх абвінавачваліся ў дэзерцірстве, 11 – у дэзерцірстве і выкарыстанні фальшывых дакументаў, 9 – у дэзерцірстве і крадзяжы. Известия Витебского совета крестьянских, солдатских и рабочих депутатов. 1917. 17 авг. № 31. С. 4.

[54] Фронт. 1917. 23 сент. № 58. С. 3.

[55] Гомельская копейка. 1917. 15 июня. № 1317. С. 3.

ляны, Бузонкі, Казімірава, Скуплін на Барысаўшчыне, Грушына, Калюжніца, Крушчына, Камейкі на Ігуменшчыне, Труханы на Наваградчыне, Тарахомск на Піншчыне, Малева, Альба і Робертава каля Нясвіжа. 5 лістапада салдаты і сяляне разграмілі маёнтак Нарцэвічы на Ігуменшчыне, які належаў графу Чапскаму. 9 лістапада былі разрабаваны маёнткі Манькавічы князя Радзівіла і Лунін князя Друцкага-Любецкага. У некаторых выпадках пагромы заканчваліся гвалтам над гаспадарамі. Аўтар нататкі адзначаў, што беларускі селянін сам не адважыўся б на падобныя ўчынкі. “Прышлы элемент з Волагды, Вяткі, Кастрамы і іншых мясцін усялякімі абяцанкамі верадуюць маласвядомыя, а то і саўсім несвядомыя масы”[56].

Падобны рамантычны погляд на беларускае сялянства абвяргала само жыццё. Дэзерціры, безумоўна, правакавалі сялян на гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да былых абшарнікаў, але не былі іх адзіным чыннікам. Больш за тое, пад час перадзелу зямлі сяляне ўжывалі гвалт не толькі ў адносінах да гаспадароў захопленай маёмасці, але і ў адносінах адзін да аднаго. Найбольш крывавы і працяглы канфлікт за права валодаць 18 дзесяцінамі захопленай зямлі пана Навакоўскага паўстаў паміж сялянамі трох навакольных вёсак Невельскага павета Віцебскай губерні. У яго выніку на працягу лета 1917 г. 14 сялян было забіта, 36 засталіся інвалідамі, 70 атрымалі лёгкія раненні[57]. Крывавыя канфлікты правакавалі таксама дзеянні найбяднейшых сялян, якія захоплівалі землі, што належалі іх заможным аднавяскоўцам.

Злачыннасць традыцыйна была адной з найбольш запатрабаваных чытачом тэм перыядычнага друку. У разгляданы час назіралася рэзкае павелічэнне артыкулаў і нататак пра забойствы, рабаўніцтва, крадзяжы, суб’ектамі і аб’ектамі якіх рабіліся вайскоўцы. Ва ўмовах рэзкага падзення дысцыпліны ў Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі вельмі пашырылася марадзёрства – ваеннае злачынства, якое традыцыйна прадугледжвае жорсткае

[56] Вольная Беларусь. 1917. 19 ліст. № 30. С. 4.
[57] Вольная Беларусь. 1917. 15 снеж. № 34. С. 4.

пакаранне аж да расстрэлу. Многія салдаты ішлі на гэтае злачынства не пад уплывам цяжкіх жыццёвых абставінаў[58], а з-за адсутнасці перспектывы непазбежнай расплаты. Часта дзеянні марадзёраў мелі наіўна-дзіцячы характар з трагічным фіналам. Так, у пачатку верасня каля в. Макулеўшчызна салдаты, нягледзячы на забарону афіцэраў, пачалі разбіраць на сувеніры збіты нямецкі аэраплан. Нечакана ў аэраплане выбухнула бомба, у выніку чаго 50 чалавек было паранена, 4 – забіта[59].

Мінскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, ад пачатку добра ведаючы пра праблему марадзёраў, не ішоў далей за ўгаворы і растлумачэнні: "Таварышы салдаты! На рынках Мінска многія з нашых таварышаў прадаюць розныя рэчы салдацкага абмундзіравання. Кожны з нас павінен ведаць і памятаць, што пасля звяржэння самаўладдзя ўся маёмасць, якая раней мела назву казённай, цяпер зрабілася народным здабыткам, які мы павінны зберагаць. Рускі салдат – не марадзёр. Ён грамадзянін вольнай Расіі"[60]. Як і ў Мінску, салдаты Віцебскага гарнізона былі таксама сталымі пастаўшчыкамі вайсковай маёмасці на мясцовы рынак. Канкурэнцыю ім складалі вайскоўцы з армейскіх эшалонаў[61]. У жніўні галоўнакамандуючаму Заходняга фронту генералу П. С. Балуеву далажылі аб выкрыцці групы злачынцаў, якая займалася ўвозам з Каўказа гарэлкі "арак" і вывазам з Беларусі ў адваротным кірун-

[58] 1 траўня Часовы ўрад у 10 разоў павысіў грашовае ўтрыманне шарагоўцаў – іх баявы аклад склаў 7,5 рублёў (тылавы – 5 рублёў). У 2–3 разы павысіліся таксама аклады малодшых камандзіраў: баявы аклад яфрэйтара склаў 8 рублёў (тылавы – 6 рублёў), баявы аклад унтэр-афіцэра – 11 рублёў (тылавы – 8 рублёў), баявы аклад старшага унтэр-афіцэра – 14 рублёў (тылавы – 11 рублёў), баявы аклад фельдфебеля – 17 рублёў (тылавы – 14 рублёў). Известия Комитета Западного Фронта. Всероссийский союз городов. 1917. 15 июня. № 11. С. 38.

[59] Варшавское утро. 1917. 11 сент. № 452. С. 3.

[60] Известия Совета рабочих и солдатских депутатов. Минск. 1917. 31 марта. № 11. С. 2.

[61] Известия Витебского совета солдатских и рабочих депутатов. 1917. 7 июня. № 17. С. 4.

ку скрадзенай з вайсковых складаў зброі[62]. На працягу ўсяго 1917 г. аб’ектам рабаўніцтва марадзёраў былі вагоны з прадуктамі на чыгуначных станцыях. У снежні, калі зброя, абмундзіраванне і прадукты былі ўжо прададзены, салдаты распачалі дэмантаж і продаж канструкцыйных элементаў рухомага складу, у т. л. вагонных печаў[63].

Найбольш частай ахвярай марадзёраў было цывільнае насельніцтва, якое жыло ў сельскай мясцовасці. У канцы красавіка жыхары Рэчыцкага павета былі шакаваны забойствам святара вёскі Лучына Стратановіча і яго 24-гадовай дачкі, якое здзейснілі рабаўнікі – салдаты Яфім Цароў і Сямён Мармозаў[64]. У ноч на 7 ліпеня гаспадары фальварка Курасоўшчына пад Мінскам пад дулам рэвальвера мусілі аддаць тром салдатам усю наяўнасць у памеры 700 рублёў[65]. Трагедыя адбылася ў ноч на 22 ліпеня ў маёнтку Анелева, які знаходзіўся за 10 вёрст ад Мінска па Ігуменскім тракце. Марадзёры звязалі сям’ю гаспадароў Цераховічаў, потым сям’ю бежанцаў Суботкаў, якія ў іх кватаравалі, забралі грошы і каштоўныя рэчы, а перад тым як з’ехаць, засеклі ўсіх шашкамі[66].

З сярэдзіны лета 1917 г. асмялелыя марадзёры распачалі крымінальны тэрор супраць насельніцтва беларускіх гарадоў. Так, 8 ліпеня ў кватэру ўладальніка лазняў мінчаніна Райнеса ўварваліся салдаты мясцовай матацыклетнай каманды і пачалі ператрус, шукаючы грошы і каштоўнасці. План злачынства парушыла жонка гаспадара, якая паклікала на дапамогу суседзяў. Жыхары 2-га Семінарскага завулка не толькі выратавалі сям’ю Райнесаў, але і забілі аднаго з марадзёрам яго ж кінжалам[67]. Сям’і мінчан Мікулёнкаў, якія жылі на Праваднай вуліцы, таксама пашанцавала. 14 ліпеня да іх уварвалася група марадзёраў, куды ўваходзіла некалькі малодшых

[62] Варшавское утро. 1917. 7 сент. № 449. С. 3.
[63] Известия Витебского революционного совета солдатских и рабочих депутатов. 1917. 28 дек. № 48. С. 4.
[64] Гомельская копейка. 1917. 10 мая. № 1289. С. 4.
[65] Варшавское утро. 1917. 9 июля. № 403. С. 3.
[66] Варшавское утро. 1917. 25 июля. № 415. С. 3.
[67] Варшавское утро. 1917. 11 июля. № 404. С. 3.

афіцэраў, але злодзеі мусілі збегчы пры набліжэнні міліцыі[68]. Стралянінай скончыўся напад марадзёраў 15 жніўня на адну з заможных кватэр на Мільённай вуліцы ў Гомелі. Гаспадар кватэры – штабс-капітан Шпіркан, які нечакана вярнуўся дамоў, аказаў моцны супраціў пяцярым рабаўнікам, у выніку чаго адзін з іх быў паранены[69]. 27 верасня марадзёры ўчынілі ў Магілёве дзёрзкі налёт на кватэру адстаўнога палкоўніка Гіжыцкага па Капітанаўскай вуліцы[70].

Увосень 1917 г. мясцовыя гарадскія ўлады з мэтай барацьбы з марадзёрамі, напады якіх рабіліся ўсё больш частымі, былі вымушаны звярнуцца да вайсковага камандавання з просьбай дапамагчы ў справе аховы цывільнага насельніцтва. Неўзабаве ў гарады Беларусі накіравалі вайскоўцаў з нешматлікіх кавалерыйскіх і артылерыйскіх падраздзяленняў, дзе яшчэ захавалася дысцыпліна. Яны ўвайшлі ў склад сумесных ваенна-міліцэйскіх патрулёў. У Бабруйску гэтыя патрулі спынілі ўжо пачаты 1 кастрычніка яўрэйскі пагром, да якога актыўна далучыліся салдаты[71]. У Гомелі, дзе на размеркавальным пункце знаходзілася вялікая колькасць вайскоўцаў, за парадкам разам з міліцыяй сачыў атрад драгун[72].

Беларусь у 1917 г. уяўляла сабой тэрыторыю гвалту, прычым апошні выйшаў за межы ўзброенага ваеннага канфлікту, які адбываўся на лініі фронту і быў рэгламентаваны правіламі вядзення вайны. Тэрыторыя гвалту пашырылася за кошт прыфрантавой зоны, дзе ў канфліктных сітуацыях пачалі ўдзельнічаць ваенныя і цывільныя ўзброеныя бакі. Імі рухалі розныя сацыяльна-палітычныя, этнічныя, рэлігійныя, нарэшце і крымінальныя мэты.

Пазазаконны гвалт, у тым ліку ў выглядзе самасуду, паступова набываў статус нормы ў адносінах паміж ваеннымі Рэвалюцыйнай арміі. Напрыклад, салдаты Мінскага гарнізона, перш чым перадаць злоўленага калегу-злодзея

[68] Варшавское утро. 1917. 15 июня. № 408. С. 3.
[69] Могилевская жизнь. 1917. 20 авг. № 34. С. 3.
[70] Могилевская жизнь. 1917. 3 окт. № 66. С. 3.
[71] Бобруйский курьер. 1917. 3 окт. № 945. С. 4.
[72] Гомельская копейка. 1917. 2 окт. № 1400. С. 3.

ваенна-следчым органам, практыкавалі яго фізічнае пакаранне ў выглядзе аднаго ўдару ад кожнага салдата роты[73]. Аднак большасць выпадкаў пазазаконнага гвалту ў войску мела сацыяльную, класавую глебу, іх удзельнікамі з аднаго боку былі салдаты, з другога – афіцэры. Адзін з падобных канфліктаў адбыўся напрыканцы ліпеня ў Калінкавічах паміж салдатамі вайсковага эшалона і маладымі афіцэрамі братамі Абрамчукамі, якія прыехалі дамоў на адпачынак з фронту. У адказ на заўвагу і просьбу не рваць яблыкі ў садзе Абрамчукоў салдаты адсеклі шашкай галаву аднаму з братоў[74]. Увечары 4 кастрычніка каля 300 салдат узялі ў аблогу магілёўскі гатэль “Кантынент” з мэтай помсты афіцэру, які ўдарыў іх таварыша. Пасланы камендантам горада да гатэля нарад георгіеўскіх кавалераў выратаваў афіцэра толькі пасля яго моцнага збівання раз’юшанымі “ніжнімі чынамі”[75]. У той жа дзень салдаты акружылі бабруйскі вайсковы шпіталь, каб адпомсціць падпаручніку, які абразіў санітара. Аблога скончылася зверскім забойствам – параненага афіцэра закідалі камянямі[76]. 7 чэрвеня наведвальнікі віцебскага рэстарана “Ялагі” былі сведкамі сцэны, калі шараговец схапіў паручніка за горла, зрабіў некалькі стрэлаў у паветра і, паабяцаўшы забіць яго ў бліжэйшы час, павольна сышоў[77].

Значная частка ўзброенага гвалту ў прыфрантавой зоне выходзіла за межы канфрантацыі паміж вайскоўцамі і была накіравана супраць цывільнага насельніцтва. Прыкладам падобных гвалтоўных дзеянняў можа быць інцыдэнт 25 траўня на станцыі Замір’е вакол тэндэра вайсковага эшалона, які сышоў з рэек. Угледзеўшы ў аварыі злы намер, салдаты спачатку накіравалі на станцыю кулямёты, а потым, уварваўшыся ў хату чыгуначнага

[73] Варшавское утро. 1917. 17 июня. № 385. С. 3.
[74] Варшавское утро. 1917. 30 июля. № 420. С. 3.
[75] Могилевская жизнь. 1917. 7 окт. № 70. С. 3.
[76] К самосуду над офицерами // Бобруйский курьер. 1917. 6 окт. № 948. С. 3.
[77] Известия Витебского совета солдатских и рабочих депутатов. 1917. 9 июня. № 19. С. 4.

майстра, пачалі яго збіваць. Майстра, ужо без аднаго вока, выратаваў мясцовы доктар, які прыбег на выратаванне суседа з уласнай зброяй[78].

Атмасферу, што панавала тым часам на вуліцах прыфрантавога Мінска, перадае наступная нататка, якая з'явілася на старонках газеты "Варшаўская раніца": "23 чэрвеня позна ўвечары казацкі афіцэр выйшаў нападпітку са сталоўкі па Багадзельнай і рассек шашкай твар дзяўчыне, якая ішла па вуліцы па сваіх справах. Параненая дзяўчына накіравана ў шпіталь"[79].

Вайскоўцы з задавальненнем бралі на сябе функцыі цывільных судова-следчых органаў. Так, самасудам скончылася затрыманне зняволеных, якія ў верасні ўцяклі з бабруйскай турмы. Пакліканыя міліцыяй на дапамогу, салдаты мясцовага гарнізона па дарозе ў турму "запаролі злоўленых зняволеных штыкамі"[80]. 21 кастрычніка натоўп салдат уварваўся ў камісарыят чыгуначнай міліцыі Магілёва і, нягледзячы на пратэсты міліцыянераў, выцягнуў злодзея, які абрабаваў вайскоўца, пасля чаго зверскі яго збіў[81]. Увечары 19 лістапада невядомы салдат з крыкам "Дайце хоць некалькі тысяч рублёў!" пачаў ламаць дзверы ў Гомельскім аддзяленні Віленскага банка. Выкліканая міліцыя арыштавала хулігана, але неўзабаве адпусціла пад ціскам таварышаў арыштаванага[82].

Канцэнтрацыя ў Мінску вялікай колькасці тылавых арганізацый з уласным аўтатранспартам правакавала ў горадзе, планіроўка якога не была разлічана на хуткасны рух, шматлікія аўтаздарэнні. Пра іх рэгулярна паведамлялі газеты: "6 жніўня на рагу Захар'еўскай і Губернатарскай ваеннае аўто наехала на Еўдакію Семянюк і перарэзала ёй ногі", "9 жніўня матацыкліст № 210, які праязджаў па вуліцы Глухой, наскочыў на воз – конь забіты, фурман Зільберштэйн цяжка паранены", "11 жніўня

[78] Варшавское утро. 1917. 3 июня. № 349. С. 3.
[79] Варшавское утро. 1917. 25 июня. № 393. С. 3.
[80] Варшавское утро. 1917. 17 сент. № 456. С. 3.
[81] Могилевская жизнь. 1917. 2 нояб. № 89. С. 4.
[82] Рабочая мысль. 1917. 21 нояб. № 127. С. 4.

на Захар'еўскай вуліцы аўтамабіль Чырвонага Крыжа наскочыў на 15-гадовага Іосіфа Азаркевіча, зрабіў яму цяжкія пашкоджанні, ад якіх той сканаў у яўрэйскім шпіталі"[83].

Ахвярамі гвалту з боку вайскоўцаў былі не толькі людзі. Цярпелі і гісторыка-культурныя каштоўнасці. Падобныя дзеянні не мелі рацыянальнага зерня і мелі характар помсты абшарнікам апранутых у шынялі сялян за стагоддзі прыгнёту і прыніжэнняў. Як гэта ні парадаксальна, але першай па часе падобнай ахвярай рэвалюцыйных салдат стаў манумент на плошчы Свабоды ў Мінску – помнік імператару Аляксандру II, які адмяніў прыгоннае права. Неўзабаве скульптурныя выявы гэтага цара, якія ў вялікай колькасці тыражаваліся па ўсёй былой імперыі, зніклі і ў іншых беларускіх гарадах. Напрыклад, у Смілавічах помнік Аляксандру II скінула "этапная рота"[84].

Падобны ірацыянальны характар мелі дзеянні "шайкі салдат", якія ў лістападзе разграмілі маёнткі Даўцэвічы і Панятоўшчына каля Гарадка Віцебскай губерні. "Усе дарагія рэчы ламалі і грабілі: фортэпьян, каштоўныя люстры, маганёвыя шкапы, сталы і камоды, пасекшы, злажылі на дварэ і, абліўшы газаю, падпалілі"[85]. У тэлеграме, дасланай міністру-старшыні А. Ф. Керанскаму, Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму Л. Г. Карнілаву і адміністратару Магілёўскай архіепархіі Я. Цепляку, ксёндз-пробашч Місевіч наступным чынам скардзіўся на вандалізм, здзейснены салдатамі, што кватаравалі ў касцёле св. Дзевы Марыі ў вёсцы Гарадзішча Пінскага павета: "Вокны пабіты, рэліквіі святых украдзены, фісгармонія разбіта на дробныя кусочкі, крыж і аўтарныя ліхтары паломаны, антымінс знайшоўся ў садзі без святошчаў, якія выняты, гіпсавая фігура святога папсавана, у закрыстыі выкручаны замкі з шафаў, усе рэчы пакрадзены на хорах, на фрэсках

[83] Варшавское утро. 1917. 9 авг. № 428. С. 3; 10 авг. № 429. С. 3; 13 авг. № 431. С. 3.
[84] Варшавское утро. 1917. 19 сент. № 458. С. 3.
[85] Л-к. М-ко Горадок, Віленск. гб. // Вольная Беларусь. 1917. 23 ліст. № 31. С. 3.

напісаны імёны, прозвішча, розныя выразы, партрэт фундатара п. Ольшамоўскага паколаты”[86].

Напярэдадні Першай сусветнай вайны быў выдадзены ўказ аб забароне вытворчасці і продажу усіх відаў алкагольнай прадукцыі на тэрыторыі Расійскай імперыі. Нягледзячы на станоўчыя вынікі гэтага захаду, ён меў таксама адмоўныя наступствы ў выглядзе таемнага самагонаварэння, спажывання сурагатаў, атручвання імі, а таксама шматлікіх парушэнняў сухога закону ў дзейнай арміі. У 1917 г. алкаголь зрабіўся звычайным атрыбутам вайсковай паўсядзённасці дзякуючы індустрыі самагонаварэння і ачыстцы дэнатураванага спірту, у чым удзельнічала ўсё прыфрантавое вясковае насельніцтва, нават дзеці.

Звышзаробкі пераважалі боязь пакарання. Пры двухрублёвым сабекошце бутэлькі самагону яна прадавалася па значна вышэйшых коштах. Вышэйшы гатунак або “крышталізацыя” каштавала 28 рублёў за бутэльку, другі гатунак каштаваў ад 8 да 20 рублёў, найтаннейшую “ханжу” можна было набыць за 5 рублёў. Акрамя самагону сяляне прадавалі салдатам дзевяностаадсоткавы спірт па 50 рублёў за бутэльку. Пры цвёрдых дзяржаўных закупачных цэнах на збожжа, якія вагаліся ў памерах 6–8 рублёў, вытворцы самагону давалі сялянам 25–30 рублёў за пуд. Толькі ў адным Веліжскім павеце на выраб самагону ў сярэднім за месяц ішло да тысячы пудоў жыта, што адпавядала яго месячнаму спажыванню шасцю тысячамі сялянскіх сем’яў[87]. Сучаснік канстатаваў: “Моцна п’е вёска, тое самае адбываецца ў войску… не шкадуюць аддаць апошнія грошы за спірт або самагонку”[88].

Масавае п’янства было найбольш простым і даступным спосабам зняць баявы стрэс у дзейнай арміі. Газеты рэгулярна змяшчалі паведамленні пра непрыемныя здарэнні,

[86] Dz. Kijow. Гарадзішча, Пінск. пав. // Вольная Беларусь. 1917. 28 жн. № 16. С. 3.

[87] И. П-ов. По губернии. Г. Велиж // Витебское слово. 1917. 6 окт. № 1. С. 4.

[88] “Ханжа” и “самогонка” // Варшавское утро. 1917. 30 авг. № 442. С. 3.

у якія траплялі вайскоўцы пасля спажывання алкаголю. Так, 27 чэрвеня віцебская чыгуначная міліцыя затрымала і склала пратакол на “зусім п’янага” ваеннага святара 45-й артбрыгады Уладзіміра Бокава[89]. Праз месяц на віцебскім вакзале затрымалі і даставілі да ваеннага каменданта дваіх п’яных салдат з германскімі тапаграфічнымі картамі і некаторымі іншымі рэчамі нямецкай вытворчасці[90]. У ноч на 2 кастрычніка гомельскія міліцыянеры знайшлі на вуліцы ў непрытомным стане 18-гадовага навабранца Дзям’яна Сапучэнкава, які неўзабаве сканаў ад атручвання дэнатуратам[91]. Перыядычна міліцыя выкрывала наладжаныя салдатамі падпольныя бровары. Адзін з іх дзейнічаў на беразе возера Шапар у Нова-Беліцы Гомельскага павета[92].

Салдаты вялі сапраўднае паляванне на чыгуначныя цыстэрны са спіртам, якія ішлі на фронт для медычных і тэхнічных патрэб. Яны накідваліся на знойдзеную цыстэрну паасобку, ротамі, палкамі, адстойваючы сваё права на яе штыкамі і кулямётамі. Узброеныя інцыдэнты вакол грузаў, дзе змяшчаўся спірт, адбываліся на таварных станцыях у Мінску, Бабруйску, Оршы, Гомелі і інш. У сувязі з павелічэннем іх колькасці кіраўніцтва Рыга-Арлоўскай чыгункі ў канцы 1917 г. разаслала па ўсіх сваіх аддзяленнях тэлеграму, якая забараняла чыгуначнікам “указваць салдатам на цыстэрны са спіртам і падобныя грузы”[93].

Новай небяспечнай з’явай, з якой сутыкнулася камандаванне Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі, былі п’яныя салдацкія пагромы, якія спалучаліся з вандалізмам і гвалтам, перш за ўсё ў дачыненні да мірнага насельніцтва. Часта вызваленая “рэвалюцыйная стыхія” салдацкай масы была накіравана на армейскія склады

[89] Витебский листок. 1917. 30 июня. № 519. С. 3.

[90] Известия Витебского совета крестьянских, солдатских и рабочих депутатов. 1917. 28 июля. № 15. С. 4.

[91] Гомельская копейка. 1917. 3 окт. № 1401. С. 3.

[92] Гомельская копейка. 1917. 17 июня. № 1319. С. 3.

[93] Известия Витебского революционного совета солдатских и рабочих депутатов. 1917. 28 дек. № 48. С. 4.

са спіртам і прыватныя вінныя склепы. Частка вайсковых падраздзяленняў, якіх пасылалі спыніць п'яны пагром, з ахвотаю далучалася да пагромшчыкаў.

Адзін з найбуйнейшых п'яных пагромаў адбываўся ў Мірскім замку на працягу трох дзён, з 9 да 11 траўня 1917 г. Зачэпкай стала знаходка 3 тыс. пудоў збожжа, схаваных у маёнтку Чырвоная Горка, блізу Міра, які належаў князю М. М. Святаполк-Мірскаму. Раскватараваныя ў мястэчку салдаты запасных батальёнаў, што знайшлі тое збожжа, пусцілі чуткі пра запасы ў замку хлеба і зброі, нібыта падрыхтаваныя князем для немцаў. Неўзабаве ў Мірскі замак уварваліся раз'юшаныя "здрадай" салдаты. Першым аб'ектам іх "помсты" стала знойдзенае ў скляпеннях віно і старка. Пасля спусташэння запасаў алкаголю пачаўся пагром – былі знішчаны старажытная бібліятэка, карцінная галерэя, мэбля, а таксама прадметы інтэр'еру. Пачаўся пажар. "Сярод п'яных былі цвярозыя, якія метадычна абыходзілі пакоі і прапаноўвалі знішчыць усё, што было ў замку"[94].

Падобны сцэнар мелі шматлікія п'яныя пагромы, што ладзілі вайскоўцы ў іншых прыватнаўласніцкіх маёнтках Беларусі. Напрыклад, неўзабаве пасля падзей у Міры адбыўся п'яны пагром у рэзідэнцыі Хелхоўскіх, якая знаходзілася "на мяжы Віленскай і Мінскай губерняў". Яго справакавала знаходка казакамі замураванага віннага склепа, дзе захоўвалася больш як 200 вёдзер старкі і 100 вёдзер мёду. Пад час знаходжання казакоў у маёнтку загінула каштоўная бібліятэка, якую збіралі некалькі пакаленняў уладальнікаў. Разлагальнае ўздзеянне п'яных пагромаў на войска разумела камандаванне Заходняга фронту. Пра гэта сведчыць загад па 2-й арміі фронту, паводле якога запасы алкаголю ў прыватнаўласніцкіх маёнтках у прыфрантавой зоне павінны былі бязлітасна знішчацца[95].

Першая сусветная вайна паўплывала на пераасэнсаванне традыцыйных поглядаў на гендэр, сексуальныя

[94] Минский голос. 1917. 18 мая. № 2429. С. 3.
[95] Варшавское утро. 1917. 24 июня. № 392. С. 3.

паводзіны людзей. Мабілізацыі, бежанства, доўгатэрміновае размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі вялікіх вайсковых кантынгентаў прывялі да размывання традыцыйных уяўленняў пра секс і мараль. Лютаўская рэвалюцыя выклікала далейшую дэзарганізацыю сямейных і маральных каштоўнасцяў, павелічэнне пазасямейнай арыентацыі, а таксама дэструкцыю формаў сацыяльнага кантролю за сексуальнасцю. Неўпарадкаваныя сексуальныя сувязі з прастытуткамі, бежанкамі, сёстрамі міласэрнасці, жыхаркамі прыфрантавой зоны сталі масавай з'явай у Рэвалюцыйнай арміі.

Спажывецка-пагардлівае стаўленне да жанчын (перш за ўсё сёстраў міласэрнасці) з боку вайскоўцаў было галоўнай прычынай іх масавага сыходу з фронту летам 1917 г.[96]. У салдатаў сёстры міласэрнасці часта выклікалі раздражненне, бо яны былі даступныя пераважна для афіцэраў. Газетныя публікацыі на тэму ўзаемаадносінаў салдат і медсёстраў таксама не надавалі аптымізму апошнім. Так, у ноч з 24 на 25 чэрвеня добраахвотнікі ўдарнага батальёна смерці на чале з яго камандзірам здзейснілі групавое згвалтаванне шасці магіляўчанак ва ўзросце ад 16 да 20 гадоў. Напярэдадні на дабрачыннай вечарыне дзяўчаты пагадзіліся ўступіць у батальён сёстрамі міласэрнасці пры ўмове, што да іх будуць ставіцца "не як да жанчын, а да таварышаў"[97].

Некаторыя салдаты, пераважна тылавых падраздзяленняў, не схільныя да гвалту або набыцця "кахання" за грошы, завялі сужыцелек у прыфрантавой зоне. Але і ў гэтым выпадку традыцыйныя шлюбныя адносіны хутчэй імітаваліся, часта яны набывалі крымінальны характар або заканчваліся зваротам у праваахоўныя органы. Напрыклад, летам 1917 г. у мястэчку Насовічы Гомельскага павета салдат Раман Вільгун разам з сужыцелькай Марыяй Кроцікавай утварыў злачынную групу, якая займалася рабаўніцтвам на дарогах[98]. Сужыццё гамяльчанкі

[96] Варшавское утро. 1917. 4 июля. № 398. С. 2.
[97] Варшавское утро. 1917. 14 июля. № 407. С. 3.
[98] Гомельская копейка. 1917. 7 июля. № 1335. С. 3.

Еўфрасінні Касцюк з салдатам Самуілам Дронавым скончылася знікненнем апошняга на платформе вакзала, адкуль пара мусіла ехаць вянчацца да яго бацькоў. Перад знікненнем салдат забраў у жанчыны сабраныя на вяселле 1,5 тыс. рублёў[99].

Неўпарадкаваныя сексуальныя сувязі спрыялі павелічэнню колькасці венерычных захворванняў, з якімі па ступені распаўсюджанасці на фронце канкуравалі толькі дызентэрыя і тыф. Праблема пашырэння венерычных хваробаў сярод жыхароў Мінска, а таксама вайсковых чыноў абмяркоўвалася ў чэрвені на пасяджэнні ваенна-санітарнай камісіі Мінскай ваеннай акругі. Удзельнікі пасяджэння канстатавалі, што галоўным месцам канцэнтрацыі публічных дамоў у Мінску была вуліца Нова-Чырвоная, дзе амаль кожную ноч адбываліся скандалы і бойкі з удзелам салдат. У якасці сродкаў барацьбы з гэтай негатыўнай з'явай называліся: узмацненне кантролю за прастытуцыяй у горадзе, а таксама адкрыццё новых шпіталяў і амбулаторый для "венерыкаў"[100]. 18–19 чэрвеня ў Мінску адбыўся з'езд урачоў-венеролагаў Заходняга фронту, на якім таксама падкрэслівалася неабходнасць пашырэння медычнай дапамогі венерычным хворым[101].

Другім непрадказальным наступствам сексуальных кантактаў вайскоўцаў з мясцовым насельніцтвам было рэзкае павелічэнне колькасці адзінокіх маці, не здольных утрымліваць дзіця. У 1917 г. выгляд кінутага ля ўваходу ў розныя дзяржаўныя ўстановы немаўляці ўжо не надта здзіўляў жыхароў беларускіх гарадоў. Падобныя шматлікія выпадкі абыякава фіксавала прэса: «5 чэрвеня а 12-й гадзіне ночы на Задунаўскай вуліцы на ганку банка землеўласнікаў знойдзена немаўля з запіскай: "Ахрышчана імем Ганна, салдацкае дзіця". Адпраўлена ў прытулак падкідышаў па Спаскай вуліцы, 3»[102].

[99] Гомельская жизнь. 1917. 25 дек. № 1473. С. 4.
[100] Варшавское утро. 1917. 15 июня. № 408. С. 3.
[101] Гомельская копейка. 1917. 8 июля. № 1335. С. 3.
[102] Известия Витебского совета солдатских и рабочих депутатов. 1917. 7 июня. № 17. С. 4.

Ва ўмовах павольнага затухання пазіцыйнай вайны ў салдат Рэвалюцыйнай арміі было шмат вольнага часу, які яны бавілі па рознаму – чыталі газеты, што дастаўлялі вайсковыя камітэты, глядзелі фільмы ў арганізаваных Усерасійскім земскім саюзам перасоўных франтавых кінатэатрах. Прыкметай новага часу было з’яўленне ў ліпені ў памяшканні віцебскай Талмуд-торы салдацкага клуба, на адкрыцці якога “прысутнічала шмат дам”[103]. Адным з найбольш папулярных спосабаў баўлення вольнага часу і адначасова зняцця выкліканага вайной траўматычнага стрэсу былі азартныя гульні. Апошнія перыядычна рабіліся аб’ектам крытыкі на старонках афіцыйнага перыядычнага выдання камандавання Заходняга фронту: “Раней салдат атрымліваў 75 капеек. Цяпер 7 рублёў 50 капеек. Але запытайце, куды ён гэтыя грошы падзеў? А вось куды – прайграў у карты. Купіць тут няма чаго. Куды іх дзець? Як толькі атрымаюць грошы, адразу ж з’яўляецца шмат гульцоў, нават не хапае месцаў. Хутка гуляюць ужо ледзь не ўсе. Грошы сабраны ў некалькі рук і гульня ідзе ўжо зусім іншая. Напрыканцы двое-трое салдат, якія выйгралі, усе грошы адпраўляюць дамоў. Ёсць такія, хто прайграў па 800 і па 1000 рублёў”[104]. Найбольш распаўсюджанай сярод салдат картачнай гульнёй была “бакара”, што прыйшла ў той час з Францыі (у расійскім варыянце “жалезка”), якая дазваляла шмат выйграць і ў той жа час шмат прайграць.

Нярэдка жыхары прыфрантавой зоны былі сведкамі выпадкаў суіцыду як выніку цяжкага псіхалагічнага стану вайскоўцаў, дэпрэсіі, выкліканай працяглай вайной. “У маёй смерці прашу нікога не вінаваціць. Крывавая вайна страшэнна надакучыла. Прашу добрых грамадзян пахаваць мяне на гарадскіх могілках”, – такі апошні запіс у сваім нататніку зрабіў унтэр-афіцэр Зімін, труп якога з рэвальверам у руцэ быў знойдзены ў чэрвені на лаўцы ў мінскім гарадскім садзе[105]. Неўзабаве ў Мінску ў шпіталі Чырвонага

[103] Известия Витебского совета крестьянских, солдатских и рабочих депутатов. 1917. 16 июля. № 5. С. 4.
[104] Фронт. 1917. № 45. 6 сент. С. 3.
[105] Минский голос. 1917. 8 июня. № 2447. С. 3.

Крыжа застрэліўся прапаршчык Гунін[106]. 12 ліпеня ў мінскіх збройных майстэрнях застрэліўся пісар Якаў Вальин[107]. Раніцай 9 жніўня суседзі па доме знайшлі цела ваеннага чыноўніка Гардзеева, які перарэзаў сабе шашкай горла[108].

Трохгадовыя баявыя дзеянні не спрыялі ўмацаванню сямейных сувязяў яе ўдзельнікаў і ўплывалі на псіхалагічны стан іх сваякоў. Пра гэты псіхалагічны стан сведчыць учынак 18-гадовай жонкі афіцэра-франтавіка Цігбанава, якая 8 траўня ў Гомелі стрэліла сабе ў сэрца з кавалерыйскага карабіна[109]. Некаторыя з прадстаўнікоў афіцэрскага корпуса вырашаліся на апошні крок, бо псіхалагічна не маглі вытрымаць развалу былой імператарскай арміі. Так, 2 красавіка Заходні фронт абляцела навіна пра самазабойства камандзіра 2-га Каўказскага корпуса генерал-лейтэнанта У. В. Бенескула. Публічнае самагубства як апошні спосаб утрымаць дысцыпліну сярод салдат выкарыстаў у Гомелі начальнік ваеннага эшалона прапаршчык Цярэшчанка[110]. Летам 1917 г. штодня павялічвалася не толькі колькасць інвалідаў вайны (у верасні толькі ў Мінску іх было каля 6 тысяч[111]), але і колькасць псіхічна хворых, у тым ліку вайскоўцаў, якія паступалі ў адпаведнае аддзяленне мінскага губернскага земскага шпіталя. У сярэдзіне чэрвеня іх агульная лічба склала 148 чалавек[112].

Увосень 1917 г. баявыя дзеянні на Заходнім фронце сцішыліся (апошнія баі адбыліся 26 і 31 кастрычніка) і зусім спыніліся пасля бальшавіцкага перавароту. На працягу лістапада асобныя падраздзяленні фронту – палкі, дывізіі, карпусы – заключалі лакальныя перамір'і з праціўнікам. 23 лістапада было падпісана агульнае франтавое перамір'е ў Солах, якое дзейнічала да 2 снежня, калі ў Скоках пад Брэст-Літоўскам бакі пагадзіліся на 28-дзённае перамір'е па ўсім руска-германскім фронце.

[106] Варшавское утро. 1917. 28 июня. № 395. С. 3.
[107] Варшавское утро. 1917. 14 июля. № 407. С. 3.
[108] Варшавское утро. 1917. 10 авг. № 429. С. 3.
[109] Гомельская копейка. 1917. 10 мая. № 1289. С. 4.
[110] Гомельская копейка. 1917. 20 июня. № 1321. С. 3.
[111] Варшавское утро. 1917. 6 сент. № 448. С. 3.
[112] Варшавское утро. 1917. 17 июня. № 385. С. 3.

Два апошнія мірныя месяцы 1917 года на Заходнім фронце характарызаваліся перамяшчэннем вялікай колькасці людзей. Перапоўненыя вайсковыя цягнікі з дэмабілізаванымі і адпускнікамі рухаліся з фронту на ўсход, пераважна ў гомельскім напрамку[113]. У адваротным кірунку ішлі бежанцы, а таксама салдаты, забраныя з Царства Польскага, Гродзенскай і Віленскай губерняў, якія безвынікова імкнуліся трапіць праз дэмаркацыйную лінію на радзіму[114]. Сама лінія фронту ўсё менш нагадвала такую. Ішоў дэмантаж артылерыі, кулямётных кропак, адпраўка вайсковых кантынгентаў у тыл. Тыя, хто засталіся, арганізавалі ўздоўж лініі фронту шматлікія гандлёва-абменныя пункты. “Немцы прадаюць галоўным чынам розныя металічныя вырабы, брытвы, гадзіннікі і іншае, у вялікай колькасці прапануюць напоі, у асноўным фруктовыя. За іх просяць харчовыя тавары і мыла. За паўфунта мыла з ахвотаю даюць брытву, дзясятак ці два сігар. Ад расійскіх папяровых грошай не адмаўляюцца”[115].

Перамір’е ніяк не паўплывала на крымінагенную сітуацыю ў прыфрантавой зоне, якая ў значнай ступені вызначалася злачынствамі, што здзяйснялі палітызаваныя салдаты Рэвалюцыйнай арміі. Ва ўмовах галоднага існавання[116] яны рэгулярна рабілі ўзброеныя начныя налёты на дамы і кватэры цывільнага насельніцтва. Шэрагі рабаўнікоў павялічвалі насельнікі гарнізонных гаўптвахт, якія, карыстаючыся безуладдзем, на агульных сходах прымалі рашэнні аб самавызваленні. У Мінску справа дайшла да таго, што рабаўнікі ў шынялях спрабавалі рабаваць службоўцаў паштова-тэлеграфнага ведамства,

[113] Гомельская жизнь. 1917. 22 дек. № 1471. С. 2.

[114] Советская правда. 1917. 15 (28) дек. № 12. С. 4.

[115] Советская правда. 1917. 9 (22) дек. № 7. С. 4.

[116] Салдаты і афіцэры Рэвалюцыйнай арміі па-рознаму змагаліся з недахопам прадуктаў, пра што сведчыць наступная абвестка, якая з’явілася на апошняй паласе адной з магілёўскіх газет: “Прадаецца будуарны раяль, спытаць Быхаўская, 46 ад’ютанта Георгіеўскага батальёна штабс-капітана Кудзінава” // Могилевская жизнь. 1917. 2 нояб. № 89. С. 4.

якія па начах рамантавалі лініі электраперадач[117]. Асобныя спробы вярнуць вайскоўцаў да палітычна нейтральных хрысціянскіх каштоўнасцяў, як гэта рабіў у сваім мінскім салдацкім клубе Амерыканскі хрысціянскі саюз маладых людзей, ва ўмовах умацавання ўлады бальшавікоў не мелі перспектывы[118].

Такім чынам, аналіз медыятэкстаў паказаў, што Рэвалюцыйная армія свабоднай Расіі паказана ў іх пераважна ў негатыўных фарбах. Жыхары прыфрантавой зоны, якія былі галоўнымі персанажамі газетных матэрыялаў і адначасова іх спажыўцамі, усё часцей бачылі ў "чалавеку са стрэльбай" крыніцу небяспекі, узброенага гвалту, агрэсіі. Запачаткаваныя салдатамі і афіцэрамі такія грамадскія ініцыятывы, як утварэнне беларусамі – салдатамі і афіцэрамі 30-га артдывізіёна "Фонду на адкрыццё вышэйшай народнай сельскагаспадарчай школы"[119] або здзейсненыя высакародныя ўчынкі, кшталту затрымання ў Мінску дваіх узброеных рабаўнікоў ваенным лётчыкам Віктарам Глінскім[120], патаналі ў віры злачыннасці, анархіі, палітычнай дэмагогіі.

Разбуральныя працэсы, якія адбываліся ў Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі, у дадзеным выпадку ў яе падраздзяленнях, што ўваходзілі ў склад Заходняга фронту, негатыўна паўплывалі на стан грамадства ва ўсходняй частцы Беларусі. Да старых імперскіх канфліктаў дадаліся новыя, якія нарадзіла рэвалюцыя. Глебу для павелічэння канфліктнасці ў грамадстве стваралі, з аднаго боку, сацыяльнае напружанне, выклікане ваеннымі дзеяннямі, эканамічны заняпад, левы радыкальны папулізм, міграцыі; з другога – няспраўджаныя чаканні ключавых сацыяльных груп таго часу, а менавіта вайскоўцаў і цывільнага насельніцтва. Разам з тым знікненне Рэвалюцыйнай арміі свабоднай Расіі стварала ўмовы для нацыянальнага ваеннага будаўніцтва, давала шанс утварыць на яе парэштках нацыянальныя арміі, у тым ліку беларускую.

[117] Советская правда. 1917. 31 дек. (13 янв.) № 24. С. 4.
[118] Советская правда. 1917. 29 дек. (11 янв.) № 22. С. 4.
[119] Крестьянская газета. 1917. 19 июля. № 11. С. 3.
[120] Варшавское утро. 1917. 5 сент. № 446. С. 3.

# Revolutionary Army of Free Russia in the Mirror of the Belarusian Periodicals

**Alexander Hužaloŭski**

The article presents an analysis of such a complex and contradictory socio-political and institutional phenomenon as the disintegration of the Revolutionary Army of Free Russia in the sector of the Western Front. The analysis was performed on the basis of the 1917 Belarusian periodicals, which allowed to change the research optics, to study people's behavior and events sequence at a closer look, on micro level. The process of the Army disintegration took place against the backdrop of the last year of World War I. It was a direct consequence of the revolutionary events of 1917 and the measures taken by the Provisional Government and the Petrograd Soviet of Workers' and Soldiers' Deputies to democratize all aspects of the life of the country, as well as anti-war propaganda conducted by representatives of the leftist political parties in the Army. Destructive processes that took place in the Revolutionary Army of Free Russia had negative impact on the population of the eastern part of Belarus. To the old imperial conflicts added new ones, generated by revolution, such as mass desertion, grave crime, moral degradation. The result of the disintegration of the Revolutionary Army of Free Russia was not only the cessation of its existence as an armed force of the Russian state, but also the separation from its composition of new units formed on a national basis including the Belarusian ones.

# Установа аддзелаў ЗАГС у ССРБ: грамадзянізацыя і індывідуалізацыя праз устанаўленне парадку

**Дыяна Зіберт**

Сёння па-ранейшаму пішуць пра тое, што савецкая дзяржава сталінскіх часоў выжыла ў 30-я гады мінулага стагоддзя дзякуючы паўсюднаму тэрору. Але камуністычная ўлада ўмацавалася не тэрорам, а тагачаснай тэхналогіяй улад, яна штодзённа рабіла са сваіх падданых савецкіх людзей. Якую ролю тут выконвала ўстанова аддзелаў ЗАГС? Ці было ўтварэнне гэтага інстытута адным з мерапрыемстваў, якім на землях былой Расійскай імперыі стварылі масавае грамадства?

Пасля адмены прыгоннага права па законе ніхто не валодаў сялянамі асабіста. Але гэта, як вядома, ні суб’ектыўна, ні аб’ектыўна не азначала, што сяляне хоць бы юрыдычна адразу сталі “сапраўднымі” грамадзянамі. Саслоўная сістэма з прывілеямі і абмежаваннямі, якія перашкаджалі эканамічнай і грамадзянскай мадэрнізацыі, захавалася да Лютаўскай рэвалюцыі. Часовы 1917 г. урад зрабіў крокі да мадэрнізацыі ў адносінах паміж грамадзянамі і дзяржавай. Напрыклад, “Палажэнне аб выбарах ва Устаноўчы сход” прадугледжвала, што “Права ўдзелу ў выбарах [маюць] расійскія грамадзяне абодвух палоў, якім да дня выбараў споўніцца 20 гадоў”[1]. Раўнапраўнымі грамадзянамі сталі не толькі мужчыны ўсіх былых саслоўяў, але і жанчыны (у той час калі жанчыны

[1] Законодательство эпохи буржуазно-демократических революций / отв. ред. О. И. Чистяков. Москва, 1994. С. 137 (глава 11, статья 3). (= Российское законодательство X–XX веков; 9)

іншых краін, якія мадэрнізаваліся, гэтым правам яшчэ не валодалі).

Афіцыйна адмяніў саслоўны лад толькі адпаведны дэкрэт ЦВК Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які быў прыняты на паседжанні 10 лістапада 1917 г.[2] – менавіта тая ўлада, якая прынцыпова адрознівала адны пласты насельніцтва (рабочыя, бednякі) ад іншых і ў імя якіх РКП(б) паспела ўсталяваць сапраўдную дыктатуру.

З'явай саслоўнай сістэмы Расійскай імперыі – у тым ліку на беларускіх землях – была і рыса яўрэйскай аселасці. Пад час Першай сусветнай вайны царская ўлада сама, часцей за ўсё гвалтоўна, выселіла нямала яўрэйскіх сем'яў за рысу аселасці на ўсход і поўдзень. Гэтым яна хацела прадухіліць кантакт яўрэйскіх сем'яў з германскімі і аўстра-венгерскімі войскамі, якія з 1915 г. займалі даволі вялікую частку Беларусі. Пазней, у 1917 г., Часовы ўрад ужо афіцыйна адмяніў рысу аселасці.

Акрамя саслоўнай, палавой і нацыянальна-этнічнай грамадзянізацыі пад час дзвюх рэвалюцый 1917 г. маладая Савецкая ўлада выканала і грамадзянізацыю веравызнання ў выглядзе не толькі настойлівай секулярызацыі, але і ідэалагічна абгрунтаванага жорсткага атэізму. Не забываючыся пра звязаны з гэтым брутальна-"сярэднявечны" тэрор з боку ўлады, варта адзначыць, што "Дэкрэт аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы" 2 лютага 1918 г. таксама быў знакам мадэрнізацыі: напрыклад, у арт. 3 гаворыцца, што "з усіх афіцыйных актаў усялякае ўказанне на рэлігійную прыналежнасць і непрыналежнасць грамадзян ліквідуецца"[3].

[2] Декреты Советской власти. Т. 1. Москва: Гос. изд-во полит. лит-ры, 1957. С. 72 // http://www.hist.msu.ru/ER/Etext/DEKRET/soslov.htm

[3] Газета Временного Рабочего и Крестьянского Правительства. 5.02 (28.01) 1918 г. = СУ РСФСР, 1918, М 18, ст. 269 // http://constitution.garant.ru/history/act1600-1918/5325/

## ЗАГС

Рэгістрацыю нараджэння, шлюбу, смерці і іншых паказчыкаў да рэвалюцый "выконвалі праваслаўная царква, каталіцкі касцёл і яўрэйская сінагога"[4]. Перайсці з адной рэлігіі ў іншую можна было з дазволу свецкіх царскіх ведамстваў[5]. Кожны індывід і кожная сям'я належалі да пэўных калектываў па саслоўі і рэлігіі, і, больш за тое, само кіраванне асабістымі дадзенымі было зроблена праз рэлігійныя (г. зн. калектыўныя, недзяржаўныя) установы. Стварэнне аддзела ЗАГС, на ўкараненне якога ў асобных рэгіёнах былой імперыі спатрэбілася некалькі гадоў, было прадугледжана ўжо Дэкрэтам СНК РСФСР ад 18 снежня 1917 г. "О гражданскомъ браке, о детяхъ и о веденіи книгъ актовъ состоянія". Гэта значыць, такое наватарства было для савецкай улады важнай і прыярытэтнай справай.

Які гэта быў зрух, паказвае міжнароднае параўнанне. У Францыі грамадзянскі шлюб быў узаконены ўжо ў напалеонаўскім кодэксе[6].

Пасля таго як адбылося аб'яднанне ў адзіную кайзераўскую Германскую імперыю, у 1875 г. быў уведзены інстытут абавязковага грамадзянскага шлюбу насуперак жаданню самога кайзера, які быў і кіраўніком пратэстанцкай царквы[7]. Па сутнасці гэты закон – яскравы прыклад барацьбы супраць Ватыкана і каталіцкай царквы ў перыяд *Культуркампфа*[8]. З іншага боку, да гэтага часу існуюць нават дэмакратычныя краіны, якія не ўвялі інстытуцыі грамадзянскага шлюбу, дзе дзяржавы атрымліваюць

[4] http://kraism.by/info-region/4380-k-95-letiyu-so-dnya-obrazovaniya-organov-zagsa.html (у мястэчку Смалявічы).

[5] Напрыклад, заява пра пераход у каталіцтва ў 1914 г. // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 295. Воп. 1. Спр. 8942. Арк. 11.

[6] https://www.legifrance.gouv.fr/affichCode.do?cidTexte=LEGITEXT000006070721, арт. 21; руская версія: http://dlib.rsl.ru/viewer/01002907921#?page=1

[7] https://de.wikisource.org/wiki/Gesetz_%C3%BCber_die_Beurkundung_des_Personenstandes_und_die_Eheschlie%C3%9Fung

[8] http://abtei-kornelimuenster.de/spirituelles/weitere-impulse/1002-pflichtzivilehe.html#3

звесткі пра сямейнае становішча толькі рэлігійных інстытутаў.

У Польскай Рэспубліцы з 1920-х г. існавалі законапраекты па грамадзянскім шлюбе. Пры гэтым розная прававая спадчына ў гэтым раздзеле юрысдыкцыі на польскіх тэрыторыях былых Германскай, Аўстра-Венгерскай і Расійскай імперый павінна была ўніфікавацца[9]. Але да 1939 г. Польская Рэспубліка не ведала ні грамадзянскага шлюбу, ні аддзелаў ЗАГС. Некаторыя функцыі аддзелаў ЗАГС выконвалі пэўныя ўпраўленні ваяводстваў[10]. Рэлігійныя інстытуты, якія прызнавала дзяржава (на Крэсах Усходніх, г. зн. у тым ліку і ў Заходняй Беларусі, гэта былі перш за ўсё праваслаўная царква, сінагога і каталіцкая царква), павінны былі не радзей чым кожныя тры месяцы перадаваць звесткі ў дзяржаўныя ўстановы ваяводстваў[11]. Пры станаўленні польскай дзяржаўнасці ў Заходнім Палессі ствараліся кур'ёзныя сітуацыі. Так, нейкая "Яўрэйская абшчына горада Брэста" ("Gmina Izraelicka m. Brześcia") старанна і спакойна засведчвала нараджэнні, шлюбы і смерці без магчымасці праверкі яе кампетэнтнасці яшчэ маладой дзяржавай[12]. Апрача таго, існаваў дзяржаўны аддзел для прызнання міжканфесійных шлюбаў.

Уніяцкая царква, якая ў Расійскай імперыі была забаронена і зазнавала пераслед, адраджалася тут марудна; спроба заснавання ў 1925 г. "Царквы візантыйска-славянскага абраду" (або "неаунія"), якую падтрымліваў Ватыкан, адмаўлялі беларускія каталікі і аспрэчвалі польскія ўладныя структуры[13], амаль правалілася[14]. У выніку сялянскія

[9] Kraft C. Europa im Blick der polnischen Juristen: Rechtsordnung und juristische Profession in Polen im Spannungsfeld zwischen Nation und Europa 1918–1939. Frankfurt/Main, 2002. S. 216–241.

[10] Dziennik Ustaw RP 1928, nr 32, poz. 309, гл.: http://isap.sejm.gov.pl/DetailsServlet?id=WDU19280320309

[11] Тамсама, арт. 3.

[12] "Gmina Izraelicka m. Brześcia"; Archiwum Akt Nowych (AAN). Ф. 9. Спр. 1314. Арк. 17.

[13] Obrządek wschodnio-słowiański (bizantyjski), гл.: AAN. Ф. 14/0. Спр. 416. Арк. 314–318.

[14] Stegner T. Wyznania // Metamorfozy 10. Warszawa, 2015. S. 189–223, тут s. 193.

сем'і ў пераважнай большасці заставаліся ў праваслаўнай царкве, аўтакефальнасць якой прызнаў у 1924 г. канстанцінопальскі патрыярх[15]. У 1930-я г. польская ўлада настойвала на тым, каб метрычныя кнігі праваслаўнай царквы вяліся на польскай мове[16]. Гэта палегчыла б чытанне дакументаў чыноўнікамі менавіта з цэнтральных і заходніх земляў Польшчы. Прыхільнікі Юзафа Пілсудскага, палітыкі польскай "санацыі" ў прынцыпе не спрабавалі знішчыць праваслаўную царкву, а хацелі яе паланізаваць.

## ЗАГСы ў ССРБ

Упраўленне аддзеламі ЗАГС у Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы Беларусь (ССРБ)[17] стварылі ў верасні 1920 г., г. зн. яшчэ да перамір'я РСФСР і УССР з Польскай Рэспублікай у кастрычніку таго ж года. Сам факт, што тады такія ніжэйшыя ўстановы, як "Аддзел запісаў актаў грамадзянскага стану", выконвалі пісьмовыя прадпісанні з Расіі (напрыклад, ад Народнага камісара юстыцыі РСФСР Д. Курскага[18]), яшчэ раз сведчыць пра тое, што ССРБ не была незалежнай ад РСФСР; тады яшчэ законы і дэкрэты РСФСР у ССРБ прымаліся да выканання аўтаматычна.

Пасля шасці гадоў розных войнаў і звязаных з гэтым рээвакуацыямі ўстаноў[19] не было магчымасці для хуткага стварэння ведамстваў, не хапала паперы[20] і дасведчаных супрацоўнікаў. Так, у снежні 1920 г. дробныя службоўцы скардзіліся на тое, што "ў Ігуменскім [павеце] з 23 мясцовых загсаў функцыянуе толькі 1 – гарадскі"[21]. А яшчэ

[15] Разуванава К. С. Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры ў Заходняй Беларусі (1926–1936). Мінск, 2013. С. 52.

[16] Cichoracki P. Polonisation projects for Polesia and their delivery in 1921–1939 // Acta Poloniae Historica 109, 2014. S. 69; Śleszyński W. Województwo Poleskie. Kraków, 2014. S. 110.

[17] https://be.wikipedia.org/wiki/Дэкларацыя_аб_абвяшчэнні_незалежнасці_Савецкай_Сацыялістычнай_Рэспублікі_Беларусь.

[18] https://ru.wikipedia.org/wiki/Курский,_Дмитрий_Иванович. НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2.

[19] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 4, ад 20.12.1920 г.

[20] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 3, ад 17.12.1920 г.

[21] Тамсама. Горад Ігумен у 1923 г. перайменавалі ў Чэрвень.

ў 1924 г. у Мазырскім павятова-гарадскім выканаўчым камітэце выявілася адсутнасць “Кодэкса законаў аб актах грамадзянскага стану”[22].

Узнікла неабходнасць, каб сетка аддзелаў ЗАГС даволі хутка распаўсюдзілася і ў паветах, і ў валасцях тагачаснай “карлікавай” ССРБ. Але пасля таго, як высветлілася, “што некаторыя Сельсаветы праводзілі рэгістрацыю актаў грамадзянскага стану без ведама цэнтральнага п/аддзела”, 7 кастрычніка 1921 г. Цэнтральнаму аддзяленню ў Мінску давялося распарадзіцца, каб “загадчыкі павятовых п/аддзелаў” “неадкладна спынілі рэгістрацыю актаў грамадзянскага стану пры тых сельскіх саветах, на якіх не было асобага дазволу” з цэнтра[23]. Яшчэ ў кастрычніку 1922 г. Мінск вызначыў, якія дакументы, даведкі і пасведчанні дазволена выдаваць валасным пададдзелам ЗАГСа[24]. Якраз у маланаселеных рэгіёнах тады было нялёгка прызначыць адміністрацыю, якая прафесійна замяніла б дзеянні царквы. Нарэшце Мінск дазволіў, каб грамадзяне змаглі паехаць у сваю сталіцу для атрымання пасведчання аб хрышчэнні[25]. Але не трэба забывацца, што ў час вайны і пасля ваенных дзеянняў нямногія паехалі б далёка ад дому, каб атрымаць, напрыклад, пасведчанне аб смерці кагосьці са сваякоў.

Аддзелы ЗАГС, як новыя ўстановы, і ў Беларусі вырашалі многія пытанні, з якімі дзяржаўныя ўстановы раней рэдка сутыкаліся, напрыклад, як быць з разводамі[26], ці трэба рабіць пазнаку пра шлюб і развод у працоўных кніжках і пашпартах, як пасля смерці пагашаць гэтыя дакументы[27], што рабіць пры “рэгістрацыі шлюбу глуханямых”, як быць з “душэўнахворымі”[28], ці маюць “пасынкі (!) <…> права ўступаць у шлюб з мачахамі”[29], “калі адзін (адна) з тых, што ўступаюць у шлюб,

[22] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 77. Арк. 21, напэўна – ад 4.11.1924 г.
[23] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1, 25.
[24] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 91.
[25] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 81, ад 6.10.1922 г.
[26] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5, 98.
[27] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 22, ад 14.09.1921 г.
[28] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 57.
[29] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 78, ад 6.09.1922 г.

удавец (удава)", то ці абавязкова "патрабаваць метрычны выпіс аб смерці першага сужэнца"[30] і г. д.

## Змена прозвішча

Дэкрэт аб праве грамадзян змяняць сваё прозвішча[31] таксама належаў да кампетэнцыі аддзелаў ЗАГС. Тут, напэўна, можна не здзіўляцца, чаму падобны дэкрэт быў такі важны для маладых савецкіх рэспублік (Ленін, Троцкі і Сталін памянялі прозвішчы раней). Аддзелы ЗАГС у ССРБ павінны былі растлумачваць многія пытанні, напрыклад, чаму муж і жонка могуць памяняць прозвішча толькі разам[32], чаму для юнакоў да 14 гадоў існавалі іншыя правілы пры змене прозвішча, чым для старэйшых маладых людзей (да 18 гадоў)[33]. Цыркулярам ад 27.06.1921 г. (ужо з новай пячаткай на рускай, беларускай, польскай мовах і ідыш)[34] яшчэ раз растлумачылі, што такое змяненне павінна быць апублікавана[35] ў СМІ. Сапраўды, у газеце "Известия" ССРБ знайшліся такія публікацыі[36]. Аддзел ЗАГС у Мінску, напрыклад, дазволіў мяняць прозвішчы *Таракан*, *Заянчкоўскі*, *Музыкантаў*[37].

## Смерць

Для супрацоўнікаў аддзелаў ЗАГС важна было на месцы тлумачыць, што пры выдачы дазволаў на пахаван-

[30] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 98.
[31] Собрание узаконений и распоряжений правительства за 1917–1918 гг., 1918 г., № 37, ст. 488: "О праве граждан изменять свои фамилии и прозвища" от 4 марта 1918 г. // http://istmat.info/node/29991.
[32] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1, 4.
[33] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4адв.
[34] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 18.
[35] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4адв.
[36] Известия центрального исполнительного комитета Советов Рабочих, Крестьянских и Красноармейских Депутатов ССРБ от 2.11.1921 г. (гл.: НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 8адв.).
[37] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 15, 23, 44.

не неабходна патрабаваць даведку ад доктара[38] па дзвюх прычынах: “з аднаго боку, для папярэджання небяспекі пахаваць нібы-памерлага, з другога – для ліквідацыі магчымасці схаваць злачынства”[39].

## Нараджэнне

Для рэгістрацыі нараджэння намеснік Народнага камісара ўнутраных спраў ССРБ вызначыў “3-дзённы ад дня падзеі тэрмін”, але камісарыят у тым самым цыркуляры сам дазволіў падаўжаць гэты тэрмін, “не больш, аднак, як на адзін месяц”, менавіта там, дзе “раскіданасць сельскіх мясцовасцяў Беларусі, аддаленасць некаторых з іх ад цэнтра, г. зн. месца, дзе адбываецца запіс актаў грамадзянскага стану”, стварала “нязручнасці”, там, дзе “бездарожжа, адсутнасць перавозачных сродкаў у большасці насельніцтва” і “недахоп свабоднага часу, калі каштоўная кожная хвіліна”[40].

## Шлюбы

Шлюбы часам рэгістраваліся без выканання неабходных фармальнасцяў. Цыркулярам ад 27 чэрвеня 1921 г. Цэнтральны пададдзел запісаў актаў грамадзянскага стану загадаў сваім ніжэйшым упраўленням рэгістраваць толькі такія шлюбы, якія былі зацверджаны якой-небудзь “установай, а не прыватнай асобай, што факт акта сапраўды адбыўся”[41].

З іншага боку, узніклі праблемы з рэгістрацыяй пазашлюбных дзяцей. Гэта было звязана не толькі з тым, што савецкая дзяржава не прызнавала шлюбы, якія правялі рэлігійныя арганізацыі, але і з тым, што ўлада напачатку не вітала саму працэдуру заключэння шлюбу. У выніку павятовыя пададдзелы ЗАГС павінны былі весці “таксама запіс аб зачацці пазашлюбных дзяцей”; яны павінны былі абавяз-

[38] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 17.
[39] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 9.
[40] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 10.
[41] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 17.

ваць цяжарных жанчын, якія не былі ў шлюбе, "не пазней, як за тры месяцы… падаць заяву ў Павятовы пададдзел ЗАГС, указваючы час зачацця, імя, прозвішча і месца жыхарства бацькі"[42]. Тут мы выразна бачым спалучэнне клопату савецкай дзяржавы пра людзей і кантролю за імі.

## Вызначэнне ўзросту

Задачай мясцовых ЗАГСаў было і вызначэнне ўзросту. Выканаць гэта было не так і лёгка, бо пасля шасці гадоў войнаў многія дакументы наогул адсутнічалі, а дакументы тых людзей, што нарадзіліся "на тэрыторыі, якая адышла цяпер да Польшчы і Украіны" (!)[43] або да Літвы і Латвіі, былі цяжкадаступныя. У ССРБ да 1924 г. уваходзіла толькі невялікая тэрыторыя шасці паветаў былой Мінскай губерні, таму атрымлівалася, што сапраўды многія падданыя ССРБ нарадзіліся па-за рэспублікай.

Але паколькі дзяржава лічыла неабходным грунтоўна падлічваць сваіх падданых, то "Завед. Центрозагсом Белоруссии" паведаміў, што "неабходна выпатрабаваць ад Цэнтразагса пасведчанні аб іх нараджэнні і толькі пасля атрымання такіх пасведчанняў… кіравацца апошнімі пры вызначэнні ўзросту па знешнім выглядзе"[44]. Напрыклад, у склад "Камісіі па вызначэнні ўзросту" Мазырскага выканкама ў 1921 г. увайшлі загадчык аддзела ЗАГС, прадстаўнік ад аддзела Упраўлення і доктар[45]. "Маласвядомае сялянства"[46] мела тут свой інтарэс. Маладым людзям ды іх бацькам, вядома ж, было неабыякава, які ўзрост будзе ў іх зарэгістраваны – ад гэтага залежалі тэрміны абавязковага школьнага навучання і выканання вайсковага абавязку. Пры гэтым узнікалі міжведамасныя праблемы з-за таго, што "павятовыя ваенкаматы без даведак ЗАГС аб неадшуканні метрык вызначаюць узрост па знешнім выглядзе"[47].

[42] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 20, ад 29.081921 г.
[43] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 39.
[44] Тамсама.
[45] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 27. Арк. 1 (у Мазыры), 5.06.1921 г.
[46] Так у: НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 73адв. (у Мазыры).
[47] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 41, ад 13.03.1922 г.

Але ваенкаматы сталі на абарону сваіх дзеянняў, спасылаючыся на тое, што адказ з “Цэнтральных губерняў [РСФСР] і галоднага (!) Паволжа <…> прыйдзе, вядома ж, не раней як праз месяц”[48].

Не абыходзілася і без службовых злоўжыванняў, а менавіта хабару. Бралі ад праваслаўнага сялянства, якое здаўна прывыкла афіцыйна плаціць за вяселлі і пахаванні, цяпер, па паведамленні сакратара ваеннага пракурора Заходняга фронту ў мясцовы аддзел ЗАГС, “за рэгістрацыю нованароджанага… 5 пуд. хлеба, за запіс шлюбу 18 пуд., не ўлічваючы матэрыяльнае становішча” чалавека. Толькі “за засведчанне розных даведак бярэцца 1 руб. 20 кап.”. У выніку “ўсе гэтыя з’явы выклікаюць нараканні з боку сялянства”[49].

## А царква?

Епархіяльныя саветы царквы часткова працягвалі рэгістраваць нараджэнне, шлюб і смерць. НКВД РСФСР (!) тлумачыў у 1920 г., што адміністрацыі рэлігійных аб’яднанняў сапраўды пазбаўлены права рэгістрацыі сямейных падзей[50]. Напэўна, не без падстаў Цэнтральны аддзел ЗАГС у Мінску ў наступным годзе зноў паведаміў, што праваслаўная царква “незаконна” па-ранейшаму ўпэўнена, што рэгістрацыя шлюбаў уваходзіць у яе кампетэнцыю і працягвае карыстацца адпаведнымі пячаткамі. Тлумачылася, што спачатку трэба зарэгістраваць шлюб у аддзеле ЗАГС, і толькі потым муж і жонка могуць прайсці вянчанне ў адпаведнасці з рэлігійным абрадам[51]. Цэнтральнаму аддзелу ЗАГС было важным наступае тлумачэнне: калі «запісы актаў грамадзянскага стану вядуцца, акрамя адпаведных п/аддз. З.А.Г.С. <…> духоўнымі асобамі праваслаўнага веравызнання <…> кнігамі старых узораў… то духоўныя асобы праваслаўнага веравызнання

[48] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 42, ад 11.04.1922 г.
[49] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 77. Арк. 29.
[50] Без даты, наступны архіўны дакумент ад 25.09.1920 // НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2.
[51] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 16.

прысвойваюць сабе незаконныя функцыі. Такім чынам канстатуецца факт існавання “дзяржавы ў дзяржаве”», што “падрывае аўтарытэт адзінай установы, якая загадвае запісамі актаў грамадзянскага стану”[52].

## Метрычныя кнігі

Але і Савецкай уладзе, безумоўна, былі неабходныя звесткі з метрычных кніг. Аддзел ЗАГС Камісарыята ўнутраных спраў ССРБ 25 верасня 1920 г. паведаміў, што захоўваюць законную сілу “ўсе метрычныя дакументы аб рэлігійных шлюбах, здзейсненых не пазней за 20 снежня 1917 г.”[53]; наконт дакументаў аб нараджэнні, смерці і разводзе вызначаўся тэрмін да 31 снежня 1917 г.

Спачатку прадстаўнікі рэлігійных суполак у пэўных выпадках зацвярджалі выпіскі з метрычных кніг круглай пячаткай[54], але дзяржаўныя органы паклапаціліся, каб самі метрычныя кнігі трапілі ў архівы аддзелаў ЗАГС. Але сусветная, грамадзянская і польска-савецкая войны прывялі да таго, што да 1922 г. “не паступілі ў ЦентраЗАГС першыя экзэмпляры кніг за 1919–1921 гг.”[55]. Дзяржаўныя структуры хацелі сабраць метрычныя кнігі ў сябе, і ў 1922 г. “давялося пачаць выняцце метрычных кніг з рук служак розных культаў, дастаўляць <...> у архіў ЦэнтраЗАГСа”[56]. У 1923 г. у архіве горада Мазыра было толькі некалькі гадавых камплектаў метрычных кніг, здадзеных “Мазырскім грамадскім рабінам па прадпісанні пададдзела Запісаў актаў грамадзянскага стану пры мазырскім павятовым выканкаме”[57], а таксама “забраных ад мясцовага духавенства”[58].

[52] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 13, прыблізна снежань 1920 г.
[53] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 3.
[54] Як, напрыклад, мінскі равін, гл.: НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 34. Арк. 93, ад 26.10.1920 г.
[55] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 45.
[56] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 128.
[57] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 95. Арк. 4.
[58] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 95. Арк. 5; пра касцёлы гл. арк. 38–42.

## Урачыстасць

У 1922 г. Народны камісар унутраных спраў ССРБ Язэп Адамовіч выказаў заклапочанасць недастатковай урачыстасцю пад час узяцця шлюбаў: “Надаючы ўрачыстае і сур’ёзнае значэнне выкананню названых актаў і прымаючы да ўвагі асаблівыя адносіны службовых асоб да гэтай справы <…> прапануецца аддзелам упраўлення Павятовых выканкамаў Беларусі неадкладна, пасля атрымання гэтага, прыняць адпаведныя меры да выдзялення ва ўсіх падведамасных ім валасных п/аддзелах актаў грамадзянскага стану асобных пакояў, надаўшы ім дастаткова строгі і ўрачысты выгляд, упрыгожыўшы сцены партрэтамі правадыроў Рабоча-Сялянскай Савецкай улады, стол чырвонай тканінай і абставіўшы патрэбнай колькасцю мэблі”[59]. Ужо тады савецкія ўлады адышлі ад “тэорыі шклянкі вады”, калі ўвогуле чулі пра яе. Палічылі за лепшае прывязаць мужа і жонку да маладой дзяржавы. Таму было пажадана, каб заключэнне шлюбу адбывалася “пры наяўнасці вопытных, сур’ёзных і ўсебакова знаёмых з гэтай работай супрацоўнікаў”[60].

Ва ўрачыстасці правядзення свецкіх (савецкіх) вяселляў можна лёгка ўбачыць запазычанне з рэлігійных абрадаў і традыцый: так, праваслаўныя абразы замяняліся партрэтамі правадыроў партыі і ўрада, замест фрэсак – упрыгожаныя сцены, а функцыі святара цяпер выконваў па магчымасці “вопытны і сур’ёзны супрацоўнік”. Такім чынам, храм быў заменены аддзелам ЗАГС, дзе заключэнне шлюбу павінна адбывацца ва ўрачыстай атмасферы, а не праводзіцца як бюракратычны акт.

* * *

Гэты семіятычны аналіз можа адвесці ўвагу ад таго факта, што адбылася глыбокая змена: калі раней сям’я стваралася на рэлігійнай аснове, то цяпер шлюб (г. зн. стварэнне сям’і) стаў уваходзіць непасрэдна ў задачы дзяржавы, і індывід (не толькі галава сям’і) меў прамое

[59] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 32.
[60] НАРБ. Ф. 41. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 32, ад 19.01.1922 г.

дачыненне да савецкай дзяржавы, да якой належаў. Праз інстытуцыі ЗАГС людзі рабіліся грамадзянскімі сужэнцамі, яны нараджаліся як грамадзяне, паміралі як грамадзяне, і ўсё гэта зацвярджалася ведамаснай пячаткай.

Камуністычная ідэя наконт таго, што чалавек атрымлівае годнасць праз рабочую брыгаду, праз камсамол, праз разнастайныя калектывы, вядома ж, зрабіла вялікае ўздзеянне на грамадскую свядомасць. Але, нягледзячы на гэта, савецкі чалавек атрымліваў маленькае шчасце шляхам рэгістрацыі ў аддзеле ЗАГС. Многія пакаленні савецкіх грамадзян фатаграфаваліся на прыступках перад будынкамі аддзелаў ЗАГС. І звонку, і ўсярэдзіне гэтыя будынкі павінны былі выглядаць велічна і годна. У многіх гарадах (напрыклад, у Пінску) аддзелы ЗАГС размясцілі ў шляхецкіх сядзібах, якія перажылі рэвалюцыю. Афіцыйная, дзяржаўная працэдура рэгістрацыі шлюбу займала цэнтральнае месца ў шматдзённым (па магчымасці) святкаванні вяселля.

Такім чынам, стварыўшы аддзелы ЗАГС, савецкая ўлада мадэрнізавала парадак рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану і наладзіла непасрэдны кантроль над грамадзянамі, што раней уваходзіла ў сферу ўплываў царквы, касцёла і сінагогі. Так адбылося адзяржаўленне дачыненняў паміж сям'ёй і ўладай, а адначасова індывідуалізацыя падданых.

Чым менш савецкай уладзе ўдавалася рэгістраваць сваіх індывідуалізаваных падданых у час грамадзянскай вайны, антыкамуністычных інтэрвенцый і пазней, тым больш людзі мелі магчымасць хаваць пэўныя паказчыкі сваёй ідэнтычнасці.

Намнога больш вядомай (і ў гістарыяграфіі апісанай) была мадэрнізацыя дачыненняў паміж дзяржавай і падданым праз пашпартызацыю і перапіс насельніцтва.

## Пашпартызацыя

З сумнай пашпартызацыяй[61] заходнія беларусы маглі "пазнаёміцца" пад нямецкай ваеннай уладай у часы

[61] Strazhas A. Deutsche Ostpolitik im Ersten Weltkrieg: Der Fall Ober Ost, 1915–1917. Wiesbaden, 1993. S. 27.

Першай сусветнай вайны, а менавіта ў “Обер Ост”, куды ўвайшла частка тэрыторыі Беларусі.

Кантроль над грамадзянінам, яго фізічнымі і сацыяльнымі якасцямі, яго перамяшчэннямі савецкая ўлада замацавала ўвядзеннем у 1932 г. унутраных пашпартоў[62]. Вось як абгрунтавалі ЦВК і СНК СССР “увядзенне адзінай пашпартнай сістэмы”: “у мэтах <…> разгрузкі гэтых населеных месцаў ад асобаў, не звязаных з вытворчасцю і працай ва ўстановах або школах і не занятых грамадскакарыснай працай (за выключэннем інвалідаў і пенсіянераў), а таксама ў мэтах ачысткі гэтых населеных месцаў ад… кулацкіх, крымінальных і іншых антыграмадскіх элементаў…”[63].

Улада дзейнічала прамым і ўскосным шляхам: той, хто меў пашпарт, мог перамяшчацца, але яго фізічныя і сацыяльныя прыкметы былі пад кантролем дзяржавы. Той, хто жыў у горадзе і не меў пашпарта, рабіўся аўтсайдэрам (калі гэта было дзіця, то яно станавілася беспрытульным)[64]; у вёсках грамадзяне пазбавіліся магчымасці свабодна перамяшчацца, ім давалі пашпарт тэрмінам толькі на год[65].

Побач з той дыскрымінацыяй, калі адны атрымлівалі пашпарты, а другія – не, антымадэрнісцкай з’явай было таксама знакамітае ўвядзенне ў савецкіх пашпар-

[62] Гл.: СУ РСФСР. 1917. № 11. С. 160 // https://ru.wikipedia.org/wiki/ЗАГС#история; першая старонка: https://i1.wp.com/littlehistoriesdotorg.files.wordpress.com/2016/06/wrgpezarh9s.jpg; Эканамічная гісторыя Беларусі. 1993. С. 168.

[63] Гл.: СЗ СССР 1932. Нр. 81. Арт. 516 ад 27.12.1932; гл. https://ru.wikisource.org/wiki/Постановление_ЦИК_и_СНК_СССР_от_27.12.1932 “Об установлении единой паспортной системы по Союзу ССР и обязательной прописки паспортов”.

[64] Siebert D. Bäuerliche Alltagsstrategien in der Belarussischen SSR. Die Zerstörung patriarchalischer Familienwirtschaft. Stuttgart, 1998. S. 158.

[65] https://ru.wikisource.org/wiki/Постановление_СНК_СССР_от_28.04.1933_№_861 С. 3. Пашпарт, выдадзены на 5 гадоў “да 1957 г.” http://img11.nnm.me/6/b/7/9/d/f3a30aeb08e4db6919611b31037.jpg

тах трэцяга[66], пазней пятага[67], пункта (так званай "пятай графы").

Ліквідаваўшы саслоўі, не лічачы патрэбнай у пашпарце адзнакі прыналежнасці да інстытутаў веравызнання і нават забараняючы яе, савецкая дзяржава праз маркіраванне нацыянальнасці вярнула актуальнасць пазафізічным прыкметам, якія не толькі супярэчылі "пралетарскаму інтэрнацыяналізму", але і дапускалі – менавіта ў Беларусі! – магчымасці для вызначэння (былой?) рэлігіі і былога саслоўя. Больш за тое: унясенне "нацыянальнасці" і "сацыяльнага становішча"[68] (або "сацыяльнага паходжання"[69]) стала своеасаблівай меркай "новага саслоўя".

## Перапісы насельніцтва – "ад падданых да даных"

Грамадзянская рэгістрацыя і пашпартызацыя маюць дачыненне да індывідаў (або сем'яў). Перапіс жа насельніцтва мае на мэце здабыць статыстычныя звесткі. Сёння мы схільныя бачыць у перапісе больш за ўсё рэдукцыю "ўсебаковага індывіда" для атрымання некаторых простых дадзеных. Але трэба, на мой погляд, дапусціць, што шляхам "усеагульнага" (!) перапісу падданы – з пункту погляду дзяржавы – адначасова рабіўся і індывідам з пэўнымі якасцямі, насуперак таму, што раней ён быў толькі "душой". Гэта, вядома ж, увогуле не цікавіла тых, каго пыталіся. З часоў Ірада I людзі баяліся перапісу, і не без падстаў. Як вядома, рэспандэнты (і не толькі на беларускіх землях), адказваючы на пытанні, гаварылі тое, што лічылі патрэбным[70].

[66] Узор "3-га" пункта: http://valaamov-osel.livejournal.com/203901.html?thread=909693 https://ru.wikipedia.org/wiki/Паспорт_гражданина_СССР#/media/File:Brezhnev_LI_Pasport_1947.jpg (Л. Брэжнеў).

[67] https://ru.wikipedia.org/wiki/Паспорт_гражданина_СССР#/media/File:Паспорт_СССР.jpg

[68] https://ru.wikipedia.org/wiki/Паспорт_гражданина_СССР#/media/File:Brezhnev_LI_Pasport_1947.jpg (Л. Брэжнеў).

[69] fax.by/http://www.interarticle/100500 (Іван Грыгор'еў).

[70] Паводле карэспандэнцыі, якую атрымліваў беларускі дзеяч Тамаш Грыб (былы лідар БПС-Р) у Празе, беларусы ў Латвіі

* * *

Часта можна сустрэць меркаванне, што савецкі мадэрнізм даволі хутка (па меншай меры з 30-х гадоў) ператварыўся ў антымадэрнізм: кароткі шлях ад тэорыі "шклянкі вады" да ўвядзення льгот шматдзетным сем'ям (1936) і ордэна "Маці-гераіня" (1944) можна лічыць праявай гэтай тэндэнцыі, як і ўвядзенне прапускной сістэмы, якой абмежавалася свабода перамяшчэння "ў адной краіне". Калгасная сістэма сапраўды нагадвала некаторымі рысамі памешчыцкую. Але нельга забывацца, што – хоць бы на паперы – раўнапраўе жанчын і неадзначэнне прыналежнасці да веравызнаўчых інстытутаў у ЗАГСе адпавядала сучаснаму погляду на сучасных грамадзян – гэта былі дасягненні, якіх грамадзянам іншых сучасных дзяржаў давялося чакаць яшчэ доўга.

Савецкая ўлада хацела ахапіць класавы строй усяго насельніцтва, а пазней усесаюзны калектыў, але гэтае ўсебаковае апісанне насельніцтва запатрабавала спачатку паставіць на ўлік кожнага асобнага чалавека, цяпер ужо як юрыдычнай асобы, як грамадзяніна, г. зн. адбывалася грамадзянізацыя і індывідуалізацыя.

Такім чынам, можна пацвердзіць, што кантроль над падданымі ў Савецкім Саюзе стаў больш прамым. Гэта магло пракласці шлях да выразных праяў рэпрэсіўнай савецкай улады, пра якія шмат пісалі: да прымусовых высяленняў, расстрэлаў. Але былі і менш заўважныя праявы ў галіне кантролю. Заснаванне аддзелаў ЗАГС воляй-няволяй прыводзіла да грамадзянізацыі і індывідуалізацыі падданых.

Нягледзячы на слабасць мясцовых савецкіх упраўленняў БССР у першым дзесяцігоддзі[71] і на жорсткасць гвалтоўных метадаў у 30-я гады, дзяржава панавала над сваімі грамадзянамі і сучаснымі спосабамі, у тым ліку ўлікам праз ЗАГС, пашпарт і перапіс насельніцтва: улада праз кіраванне, праз парадак.

пад час перапісу насельніцтва ў 1930-я г. сцвярджалі, што яны латышы, бо ўлады абяцалі перадачу зямлі нібыта толькі латышам. НАРБ. Ф. 567. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 15.

[71] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 2. Мінск, 1995. С. 111.

# The Establishment of Civil Registry Offices in the SSRB: Citizenizing and Individualizing through State Administration

**Diana Siebert**

One of the first activities of early Soviet Power – and in its importance often not observed – was the establishment of Civil Registry Offices throughout the Soviet space. As shown by the example of the multi-religious and multi-denominational Soviet Socialist Republic of Belarus (SSRB), the Bolsheviks snachted away the power from religious communities to carry out and to register changes in the marital status of their members.

Certainly, this was due to ideological reasons and those of power, but, nevertheless, through the tearing-down of barriers of estates and denominations the subjects became citizens and registered individuals, particular regarding things very important to the people, such as birth, death, marriage, and increasingly also divorce.

In contrast to other institutions established during the founding period of Soviet republics the civil registry offices exist to this day, and soon their 100$^{th}$ anniversary will be celebrated.

For Soviet power in this area did not exercise through terror but through bureaucratic acts of well-regulated solemn celebrations in preferably representative buildings. And this was hardly objected by anyone.

# Беларусы і індзейцы: Другая сусветная вайна

## Алесь Сімакоў

Іранічнае, "экзатычнае" вымярэнне вайны ўключае крыху маргінальны, але рэальны ўдзел у ёй прадстаўнікоў "еўрапейскай ультраперыферыі" на практыцы і больш істотна – у публіцыстычным, мастацкім дыяпазонах. Тэма гэтага артыкула ўзнікла як здрабненне перыядызацыі пры вывучэнні пяці стагоддзяў беларуска-індзейскіх сувязяў, часткі "беларуска-амерыканскіх (венесуэльскіх і г. д.) адносінаў", з утварэннем трыяд кшталту "Беларусь – індзейцы – Германія (і інш.)". Выбарка фактаў па перыядзе 1939–1945 г. дае магчымасць ацаніць, наколькі ваеннае напружанне стварыла "нагрузку" і на кантакты паміж практычна максімальна аддаленымі адзін ад аднаго народамі праз пасрэдніцтва Германіі ("беларуска-нямецка-індзейскія адносіны") і іншых важных сусветных "гульцоў".

Беларуска-індзейская кампаратывістыка як комплексная субдысцыпліна развіваецца з 1984 г., але, без уліку навукова-прапагандысцкіх намаганняў беларускіх індзеяністаў, мы не ведаем нікога, хто б актыўна выкарыстоўваў, спецыяльна для параўнання, адначасова факты гвалту еўрапейцаў за акіянам і немцаў, венграў ды іншых іх саюзнікаў, а таксама літоўцаў, латышоў, украінцаў (г. зн. уключаючы "міжплемянную вайну" паміж "індзейцамі") у Беларусі. Найбліжэйшы – А. Адамовіч, які ў (анты)ваеннай серыі, выкарыстоўваючы як працы гуманістаў XVIII і XIX ст., у прыватнасці немца І. Гердэра, з яго прыкладам пра індзейскую "дзеву міру"[1], так

[1] Адамович А. Overkill: (Адекватна ли реакция?) // Адамович А. Ничего важнее: современные проблемы военной прозы. Минск, 1987. С. 184, 262–263.

і пасляваенныя, між іншым Б. Поршнева (пры гэтым Адамовіч спрабаваў растлумачыць "псіхоз разбягання па ўсёй планеце", яшчэ ад першачалавека, не адным "калумбавым комплексам", а "перадусведамленнем" усеагульнай адсутнасці забароны на забойства іншапляменнікаў; "комплекс" спрыяў і першаму засяленню Амерыкі: "два племені на адным кантыненце – і ўжо дыскамфорт!"[2]), стварыў своеасаблівы пласт[3], матываваны сувяззю "апошняя вайна – пагроза новых"[4]. А. і В. Брэскія, без належнага абгрунтавання, заяўляюць, што месца Польшчы, Венгрыі, Славакіі і Літвы як адпаведнай часткі дыскурсу "варварства – цывілізацыя" ў Еўропе часткова ўсвядомленае, а Беларусі, Украіны і Малдовы – не, пры гэтым заваяванне Амерыкі і Халакост – у пераліку ўжо "асвоеных" частак "еўрапейскай палітыкі"[5].

Распрацоўка тэмы "Беларусь – індзейцы – Другая сусветная вайна" не патрабуе вялікіх намаганняў у аргументацыі таго, хто "канкістадоры" ці "заваёўнікі Дзікага Захаду", а хто "індзейцы", хоць і назіраецца некаторая непаслядоўнасць бакоў ва ўжыванні тэрмінаў і паняццяў. На Захадзе выдадзена шмат прац пра ўдзел індзейцаў у вайне, якія могуць

[2] Адамович А. Война и литература: проблемы нового мышления // Милитаризм и современное общество: материалы научной конференции. Москва, 1987. С. 210.

[3] Адамович А. Война и деревня в современной литературе. Минск, 1982; Адамович А. Лев Толстой и белорусская литература: (Война и человек). Минск, 1978; Адамович А. О современной военной прозе. Москва, 1981; Адамович А. Отвоевались! Москва, 1990.

[4] Англійскі пераклад (1980) кнігі "Я з вогненнай вёскі…", як прачытаны тады ж рэжысёрам, рызыкоўна звязаны з фільмам "Пекла канібалаў" (Cannibal Holocaust), забароненым да паказу ў Беларусі: Дранько-Майсюк В. Алесь Адамовіч: чалавек, які вышэй за ўсё цаніў свабоду // Літаратура і мастацтва. 2017. 15 верас. С. 5: «Прынцып быў узяты Адамовічаў: паказаць дзікую, невытлумачальную жорсткасць прадстаўнікоў "высокай культуры" (у Адамовіча – нацыстаў, у Дэадата – групы журналістаў) да "дзікуноў" (простых беларусаў, а ў фільме – насельнікаў амазонскіх джунгляў). І там і там паляць вёскі, забіваюць, рабуюць, гвалцяць».

[5] Бреский О., Бреская О. От транзитологии к теории Пограничья: очерки деконструкции концепта "Восточная Европа". Вильнюс, 2008. С. 119.

дазволіць знайсці прыклады прамога баявога беларуска-індзейскага супрацоўніцтва. Аднак мы канцэнтруемся пакуль пераважна на айчынным матэрыяле (бібліяграфічныя запісы ў заўвагах – выключна з Беларуска-індзейскай бібліяграфіі; БІБ), які можа пацвердзіць ідэалагічны антыкаланіяльны патэнцыял карэнных народаў, нягледзячы на ўніверсальнае распаўсюджанне калабарацыянізму.

Пры магчымасці пачаць кампанію па заваяванні кантынента Гебельс меў бы некаторы поспех сярод індзейцаў у прапагандзе ідэі іх вызвалення ад "горшага" тыпу еўрапейскага заняволення, чым нямецкае (метад, які ўжываўся ў дачыненні да поліэтнічнай "Расіі", поўнай унутранага канфлікту), але мы не ўзяліся б прагназаваць маштаб калабарацыі. Т. Морган у "Армі хістары" (1995, № 35) сцвярджае, што нямецкія агенты пад выглядам антраполагаў спрабавалі весці падрыўную работу сярод індзейцаў, стараючыся сарваць прызыў іх у войска. У гэтым кірунку дзейнічаў Германа-амерыканскі саюз, адносна якога можна прыйсці да высновы, што ў "братэрства свастыкі" ён хацеў уцягнуцьадначасова індзейцаў і беларусаў (у слуханнях 1940 г. па змяненні закона Уілера – Говарда ў Камітэце па справах індзейцаў прыводзіліся пункты з "канстытуцыі" гэтай арганізацыі, у якой "ужо" канстатаваўся супольны характар свастыкі як сімвала "прызнання абаронцаў арыйскага нацыяналізму супраць бальшавіцкай напасці ў Германіі, Вялікабрытаніі, Беларусі (White Russia), Нідэрландах, скандынаўскіх краінах, Канадзе і іншых", незалежна ад формаў кіравання і рэлігій у іх[6]). Але ўжо ў пачатку 1940 г. было вядома, што наваха, апачы, папага і хопі адмовіліся ад ужывання сваёй традыцыйнай свастыкі як мастацкага дызайну[7].

[6] Wheeler-Howard Act – exempt certain Indians: hearings before the Committee on Indian Affairs… Washington, 1940. P. 76.

[7] Агібалава А. Абяззброіць "Пагоню"? // Чырвоная змена. 1991. 11–17 лістап. С. 4; Валахановіч А. Свастыка на савецкіх грошах // Згода. 2001. 9 чэрв. С. 9; Дзярновіч А., Квяткоўская А. "Свастыка" як касмалягічны й этнавызначальны сымбаль // Kryŭja: Crivica. Baltica. Indogermanica. 1994. № 1. С. 76; Мячикова И. И., Жевняк О. Г. Индоевропейские корни белорусской символики. Минск, 2002. С. 77; Свастику в Уинстон // 7 дней. 1997. 4 окт. С. 6.

Некалькі індзейскіх народаў, найбольш вядомых і без сусветнай вайны, выступаюць на пярэдні план як сімвалы. Першыя з іх – гэта “апошнія”, “апошнія з магікан”, якія з’яўляюцца ў мастацкіх інтэрпрэтацыях, “паэтычных” параўнаннях падзей 1939–1945 г., безумоўна, зніжаючы прадмет абмеркавання да менш сур’ёзнага, “дзіцячага” ўзроўню (“Чынгачгук і маршал Сакалоўскі”[8]). Названы ў п’есе “Тутэйшыя” “апошнім з роду магіканаў” нямецкі вайсковец не стаў апошнім на беларускай зямлі ў яго адвечнай місіі, і ў “гераічнай драме” У. Караткевіча “Млын на Сініх Вірах” ужо немец з наступнай вайны, Адлерберг, кажа: “О, апошні магікан. Сфатаграфуй яго, Ганс”. Н. Гілевіч перадае ў паэме[9] атмасферу выжывання ў партызанскіх лясах: “А кніг я не чытаю, / І ў адзінаццаць год – / Ні Купера не знаю, / Ні Сойера прыгод”. Хтосьці за партай шукае на карце Мічыган. “Я ж сам хаджу па лесе / Апошнім з магікан. / Іх зараз хітры Купер / Праз багнішча вядзе. / Я ж сам ляжу між купін <…> / З трывогаю адной – / Каб людаед у касцы / Не вырас нада мной”. “Магікан”, універсальны, але нейтральны маральна эпітэт, адносілі і да тых, хто “збег” на Захад (вандроўнае “племя” “бебурнацаў” Л. Прокшы), і да савецкіх ветэранаў[10]. Нягледзячы на трагікамізм і прыналежнасць да міфа, ён па-свойму ўмацоўваў жыццёвы аптымізм (сапраўдныя магіканы працягвалі жыць і пасля Купера).

“Лясны дзікун” З. Астапенкі, які быў нібы з рамана капітана Майн Рыда, адлюстроўваў момант з’яўлення перад немцамі дэзерціра, сына кулака, “дзікунскае азлабленне” – гэтае двайное літаратурнае перакрыжаванне з паўсядзённай рэальнасцю вайны ўзнікла ў адным з самых моцных лірычных твораў пра яе непасрэдна ў час яе (“канчатковая”

[8] [Электронны рэсурс] https://www.svaboda.org/a/27746899.html – Дата доступу: 21.10.2017.

[9] Гілевіч Н. Сто вузлоў памяці // Гілевіч Н. Бальшак. Мінск, 1965. С. 76–119.

[10] Прыходзька П., Прануза П., Аўрамчык М. “Апошнія з магікан” вялікай вайны [Гутарка з паэтамі-ветэранамі] // Крыніца. Славянскі свет. 2003. № 5. С. 11–14; Падаляк Т. Кароткі расказ пра доўгія імгненні вайны // Звязда. 1997. 9 жн.

версія – 7.7.1944 г.). У дадаткова ўведзеных, верагодна, у сувязі з актывізацыяй за 10 гадоў руху і тэмы індзейцаў у СМІ, сцэнах п'есы[11] былога апалчэнца і "ваеннага" сцэнарыста В. Зуба дзеці "трэніруюцца": "Каршуновы кіпцюр", "Дзікі вяпрук" і Марат страляюць з лука… "Масток. Магчыма, той самы, каля якога трое сяброў у самым пачатку гулялі ў індзейцаў". Тры мёртвыя партызаны і Марат, які прымае апошні бой. Але не столькі "індзейская літаратура", колькі рэальная фенаменальная баяздольнасць, напрыклад, апачаў можа быць дастаткова сур'ёзным кампанентам курсу ваеннай падрыхтоўкі.

Цікавасць да індзейцаў у Германіі падтрымлівалі К. Май і заакіянскія вестэрны, але з адаптацыяй (гл., напр., раман пра Шцірліца "Бомба для старшыні", дзе ўпамінаюцца ўступныя цітры да іх пра тое, «як янкі прыгнятаюць карэннае "арыйскае" насельніцтва Амерыкі»). У большай ступені, чым немцаў, індзейцы, не столькі сучаснікі-вайскоўцы, колькі гістарычныя, натхнялі, верагодна, амерыканцаў. Пра гэта сведчыць баявы кліч іх дэсантнікаў "Джэроніма!". Але і гебельсаўская прапаганда "скідвала" або распаўсюджвала ў асобе "фюрэра Кёнігсберга" Вагнера заклікі да сваіх салдат змагацца, "як чырванаскурыя індзейцы" (Красная звезда, 10.4.1945 г.), з часцямі 2-га і 3-га Беларускіх франтоў. А. Васільчанка агучвае дату (1 сакавіка), а таксама версію фармулёўкі ўключэння індзейцаў у прапаганду крайсляйтарам Кёнігсберга: "Барацьбу трэба весці хітра, як індзейцы. Для барацьбы з бальшавікамі добрыя ўсе сродкі". Ён таксама ўскосна ўказвае на некаторы ўплыў не толькі індзейскіх, але і беларускіх партызан: «Падобныя партызанскія метады пачаліся, калі вермахт быў выбіты з тэрыторыі Беларусі і Францыі. Армейскія часці, якія абаранялі Паўночна-Заходнюю Германію, былі ў тэрміновым парадку навучаны тактыцы вядзення партызанскіх дзеянняў ("індзейскай вайны")»[12].

Для ЗША вайна пачалася ў снежні 1941 г., але ў 1942 г. вайну Германіі і краінам "Восі" аб'явіла Ліга іракезаў.

[11] Зуб В. Марат Казей // Зуб В. П'есы. Мінск, 1972. С. 71–120.
[12] Рут Ф. Вервольф: осколки коричневой империи. Москва, 2007.

Назіральнікі, аднак, прыгадалі, што іракезы не заключылі мірны дагавор з Германіяй пасля аналагічнай ноты ў Першую сусветную. Дэзінфармацыя аб сенека сярод продкаў Чэрчыля паўтараецца па законах міфа[13], што дазваляе англічанам ганарыцца і гэтай сувяззю іх "правадыра" з іракезамі.

Статыстыка вар'іруе, але гавораць пра больш за мільён беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі ў войску і амаль 400 тыс. партызанаў, каля 44 тыс. "карэнных амерыканцаў" у войску ў канцы вайны[14] і больш за 3 тыс. карэнных у канадскай арміі (варта ўлічыць таксама андэрсаўцаў, тыл і індзейцаў у нацыянальнай гвардыі). Індзейцы найбольш праславілася як сувязісты, якія перадавалі паведамленні на родных мовах[15] (наваха, менш вядомы ўдзел чокта, каманчаў, кры і інш.) і паветраныя дэсантнікі (сярод якіх і апачы). Сярод найбольш славутых ветэранаў-індзейцаў – А. Хэйс[16] (піма, ЗША) і Т. Прынс[17] (аджыбва, Канада), не ў апошнюю чаргу дзякуючы іх сумнаму лёсу пасля вайны.

Індзейцам у час вайны прысвечаны абзац у артыкуле мінскага амерыканіста: служба ў арміі – мова наваха як код – купля акцый індзейскай абшчынай – перасяленне ў гарады – рэзервацыі пад вучэнні, вучэбныя бамбёжкі, лагеры для інтэрнаваных японцаў – фармаванне пратэставай меншасці сярод індзейцаў – "Федэральнае бюро па справах індзейцаў губляла кантроль над сітуацыяй"[18].

[13] Трухановский В. Г. Уинстон Черчилль: политическая биография. Москва, 1968. С. 10.

[14] Ziółkowska-Boehm A. Otwarta rana Ameryki. Bielsko-Biała, 2007. S. 117.

[15] Асіпчук А. М., Маршэўская В. В., Садоўская А. С. Беларуская мова: прафесійная лексіка. Гродна, 2009. С. 178; Новік Г. Ня сілай, а розумам // Наша Ніва. 2005. 11 ліст. С. 19; Репин А. Язык американских индейцев был военным кодом в США // Труд. 1999. 23 окт.

[16] Орлов А. П. Вторая мировая война: Монеты. Люди. События. Фотохроника. Минск, 2010. С. 316.

[17] Палладин А. Жизнь и смерть Томми Принса // Знамя юности. 1978. 2 февр.

[18] Варывончык І. В. ЗША ў Другой сусветнай вайне: праблемы ўнутранага развіцця // Весці БДПУ. Сер. 2. 2009. № 2. С. 22.

Такім чынам, вайна прынесла некаторую новую дынаміку ў жыццё індзейцаў. Мусіў актывізавацца і іх вобраз абрабаванага, падманутага і амаль знішчанага, але здольнага да барацьбы народа, які стаяў на шляху больш развітага і ўпэўненага ў сваёй расавай перавазе (квазі)еўрапейца.

Паводле Гебельса, вайна вялася не толькі "за хлеб", але і за сыравіну – "за каўчук і жалеза", у цэлым – за "жыццёвую прастору" і "першынство ў свеце", што магло выклікаць асацыяцыі з заваяваннем, эксплуатацыяй рэсурсаў, асадніцтвам у Амерыцы і мусіла выкарыстоўвацца савецкімі прапагандыстамі, але гэта было палітычна немэтазгодна, бо вядучая краіна – ЗША – станавілася саюзнікам СССР і, акрамя таго, "Сталін даў многа мудрых парад людзям", для якіх залатаносная Каліфорнія была на Байкале, Лене, і адна з іх: "Пачытайце Брэт Гарта"[19]. А. Шары ("Знак W", 2007) лічыць, што запланаваны ў 30-я гады маскоўскі шматтамовы збор твораў Мая, відаць, рэалізаваць проста "не паспелі". Пры гэтым СССР не павінен быў крыўдзіць гістарычнымі паралелямі, пасля аналагічнай практыкі пры збліжэнні з Германіяй, і іншых з патэнцыяльных памочнікаў, паколькі практычна ўсё краіны кантынента ў розны час аб'явілі сябе ў стане вайны з адной або ўсімі краінамі гітлераўскага блока (хоць калі Канада, Мексіка і Бразілія паслалі вайсковыя часці, то Аргенціна абмежавалася разрывам дыпадносінаў з Германіяй; у Балівіі "містык зямлі" У. Пальса і пасля вайны працягваў верыць у "зорку Гітлера"; у Гватэмале, далёкай ад актыўных падзей, у 1944 г. пачалася антыфеадальная рэвалюцыя[20]).

Дакор М. Мід – у 1955 г., калі і прапагандысты СССР вылучаліся неверагоднай рэзкасцю, у "антысавецкага дзеяча" А. Уайта (Я. Арцюка): «амерыканцы зусім адкрыта пішуць, што іх палітыка самазахавання заключаецца <…> у неабходнасці "здабыць прасторы, падобныя да

[19] Гершэнзон М. Фрэнсіс Брэт Гарт: 1839–1902 // Гарт Ф. Б. Маленькі старацель. Мінск, 1940. С. 3–5.

[20] Адзярыха В. У. Гватэмальская рэвалюцыя 1944–54 // Беларуская энцыклапедыя. Т. 5. Мінск, 1997. С. 102–103.

шырокіх прастораў Новага свету, на якіх мы, амерыканцы, маглі б працягваць дзейнічаць <…> наш доўг біцца за права выканаць гэтую задачу без перашкоды: калі індзейцы і іншыя <…> перашкаджалі нам у справе, якую мы вырашылі ажыццявіць на <…> кантыненце, мы адштурхнулі іх без усякай сарамлівасці…” (Margaret Mead. “Foreign Affairs”, 1942)»[21].

Генеральны план “Ост” уключаў, сярод найважнейшых, і такія пункты, як каланізацыя, высяленне і анямечванне (аналаг амерыканізацыі-англізацыі, усё – формы еўрапеізацыі). У прапановах начальніка аддзела каланізацыі 1-га Галоўнага палітычнага ўпраўлення Міністэрства па справах акупаваных усходніх тэрыторый (аналаг Bureau of Indian Affairs, калі яно знаходзілася ў складзе ваеннага міністэрства) Ветцэля фігуравалі паняцці “найбольш бяскрыўдны і таму самы бяспечны… народ” (Гітлер таксама быў “лепшай думкі” пра беларусаў, чым пра ўкраінцаў, верагодна, з-за большай “арыйскасці” першых, хоць, як выявілася, у прасавецкай партызанцы яны бадай што абышлі ўкраінцаў, магчыма, аднак, больш з-за балотналясной дэтэрмінанты свайго краю, а не з-за фактараў галадамору і да т. п.) і “непажаданае ў расавых адносінах беларускае насельніцтва”. Паколькі з апошнім генеральнаму камісару (Commissioner of Indian Affairs) давядзецца яшчэ доўга мець справу, уяўлялася “крайне неабходным” выбраць з яго “беларусаў нардычнага тыпу” ў якасці рабочай сілы ў Германіі, а таксама прапанаваўшы ім, “у сваіх інтарэсах”, “лепшыя землі” (рэзервацыі?). Зыходзячы з “бяспечнасці” і найбольшай перспектыўнасці выкарыстання “ў сваіх інтарэсах” “з усіх народаў усходніх абласцей”, прапаноўвалася “высяленне” “па расавых меркаваннях” 75% беларусаў, якія нібы і так схільныя да змены месцаў, у Заходнюю Сібір, а найбольш “нардычных” – на Урал або Паўночны Каўказ (“якія часткова маглі б таксама быць рэзервовымі тэрыторыямі для еўрапейскай каланізацыі”). Амерыканскія палітыкі і генералы

[21] Уайт А. Русская политика самосохранения // Политический собеседник. 1991. № 7. С. 22.

таксама ацэньвалі розныя плямёны як самыя горшыя ці найбольш прымальныя, па розных крытэрыях, і таму, але часам і без логікі, адны ішлі па “Дарозе слёз” у другую частку кантынента, а іншым пакідалі кавалкі зямлі ў месцах першых кантактаў, з перспектывай маруднай, але немінучай метысацыі. Ветцэль абдумваў для палякаў варыянт перасялення ў Паўднёвую Амерыку, які б закрануў і “касцельных”, якія, у дадатак да міжваенных, часам нямірных[22], уступілі б у кантакты з індзейцамі Бразіліі, Аргенціны і Парагвая.

Не менш важныя для кампаратывістыкі “Беларусь – індзейцы” “Застольныя размовы” Гітлера. Яны выйшлі асобнымі выданнямі на нямецкай (Г. Пікер, які і запісваў іх; першае выданне – 1951, да 1941–1942 г.; пазней дапоўнена больш познім перыядам, са шматлікімі ўзнаўленнямі), французскай (у апрацоўцы адваката і нацыянал-сацыяліста Ф. Гену), англійскай (Х. Трэвар-Ропер – з 1953 г.), рускай (пераклады версій Пікера, 1993; Трэвар-Ропера, 2004), польскай (“група” С. Дэйкалы) мовах[23]; яшчэ ў 1977 г. часткова, у часопіснай версіі, яны сталі даступныя на ўкраінскай. У цэлым, хоць абмежаваныя ў абарачэнні ў кніжным фармаце на частцы постсавецкай прасторы рашэннямі судоў, гэтыя тэксты працягваюць часта цытавацца ў іх “індзейскіх” месцах.

Гітлер выказаўся пра планы, палітыку і практыку на ўсходзе з ужываннем індзейскіх параўнанняў: 1) 17.10.1941 г., 2) 11.04.1942 г., 3) 8.8.1942 г., 4) 22.8.1942 г., 5) 30.8.1942 г., 6) 13.6.1943 г. Усе гэтыя месцы ў большай ці меншай ступені тычыліся Беларусі, хоць сама назва краіны ці народа не ўжывалася непасрэдна ў сказах, дзе

[22] Шабельцаў С. Беларусы ў Аргенціне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930–1960-я гг.). Мінск, 2009. С. 263.

[23] Monologe im Führerhauptquartier 1941–1944. Hamburg, 1980; Genoud F. Adolf Hitler: libres propos sur la guerre et la paix. Paris, 1952; Hitler’s table talk 1941–1944: his private conversations. New York, 2000; Пикер Г. Застольные разговоры Гитлера 1941–1942. Смоленск, 1993; Тревор-Ропер Х. Застольные беседы Гитлера, 1941–1944 гг. Москва, 2004; Hitler A. Rozmowy przy stole 1941–1944. Warszawa, 1996.

былі прамыя ўказанні на індзейцаў. Тым не менш у сукупнасці яны дазваляюць уключыць усе кніжныя выданні “Застольных размоў” у БІБ. Паколькі гітлераўскія выказванні зроблены ў адносінах да народаў на ўсход ад Германіі так, што не зусім зразумела, што ён мае на ўвазе пад Расіяй і які народ канкрэтна (або больш) падпадае пад “індзейскую” палітыку Рэйха, то гэта можа быць пытаннем таксама для даследчыкаў расійска- і ўкраінска-індзейскіх сувязяў, і не толькі: у блізкім кантэксце ў “размовах” – і краіны Прыбалтыкі, і кіргізы, і, натуральна, яўрэі. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што яны адносяцца да ўсёй усходняй часткі СССР, але ёсць і прымяненне немцамі “заакіянскіх метадаў”, калі меркаваць па іх успрыманні некаторымі аўтарамі, нібы толькі ў адносінах да ўкраінцаў / Украіны і беларусаў / Беларусі[24] або нават у дачыненні да адной Украіны: П. Ярвстад (Ісландыя) у дыс. МА па гісторыі, травень 2017.

1) 17.10.1941 г. Пра абыходжанне з насельніцтвам як з індзейцамі – у меншай ці большай ступені – Беларусь, Украіна, Расія: Гітлер прапаноўвае германізаваць іх перасяленнем туды немцаў, а мясцовае насельніцтва разглядаць як індзейцаў (“die Ureinwohner als Indianer zu betrachten”). Л. Рэйн[25] узяў гэтае месца з кнігі, падрыхтаванай Ч. Мадайчыкам[26]. У папулярнай “кароткай гісторыі” вайны М. Лаянс каментуе: “Нацысты імкнуліся да гэтага падыходу не толькі ў адносінах да рускіх, але таксама і беларусаў, украінцаў і прынамсі некаторых жыхароў прыбалтыйскіх краін. Гэтая палітыка каштавала Германіі супрацоўніцтва гэтых народаў, асабліва ўкраінцаў, многія з якіх віталі немцаў як вызваліцеляў ад савецкай

[24] Gellately R. The Third Reich, the Holocaust, and visions of serial genocide // The specter of genocide: mass murder in historical perspective. N.Y., 2003. P. 258.

[25] Rein L. The kings and the pawns: collaboration in Byelorussia during World War II. New York, 2011. P. 85. [Рэйн Л. Каралі і пешкі: калабарацыя ў Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. Смаленск, 2015.]

[26] Vom Generalplan Ost zum Generalsiedlungsplan. München et al., 1994. S. 23–25.

тыраніі”[27]. Тут жа прымыкае выказванне пра абрабаваных, г. зн. пазбаўленых зямлі, канадскіх індзейцаў, пра якіх Гітлер не думае, калі есць прадукты з канадскай пшаніцы[28]. “Абыякавы” падыход Гітлера характарызуе – справа толькі ў ступені – таксама Сталіна (што мог бы аспрэчыць[29] адзін з галоўных даследчыкаў партызанскага руху ў Беларусі, яго этнограф, і аўтар брашуры “Православной инициативы” “Парушэнне правоў чалавека ў ЗША”, 2000) і дэмакратычных лідараў свету, якія яўна або скрыта, але цынічна і “непрадбачліва” не лічыліся з “Native grassroots”.

Як адзін з сімвалаў абыходжання захопнікаў з насельніцтвам Хатынь параўноўвалі з індзейскімі паселішчамі, якія мелі той жа лёс як да, так і пасля Другой сусветнай вайны. Р. Гамзатаў у “паэме-вандраванні” “Востраў жанчын” (1981) пісаў, крытыкуючы Калумба, а таксама Картэса: “Скорбящие индейские селенья, / Предшественники Лидице, Хатыни, / Здесь кактусы торчат вокруг вигвамов, / Как ржавая колючка лагерей”[30]. Газета Мінскага ваеннапалітычнага вучылішча “Ленинец” апублікавала разважанне “Памяць пра Вундэд-Ні” (“Гістарычныя паралелі: Вундэд-Ні – Хатынь”, 17.1.1991). У святле ўдзелу ў знішчэнні Хатыні пераважна “іншых індзейцаў”, пра што стала вядома пазней, больш блізкім параўнаннем можа быць разня каля Кэмп-Гранта, калі 92 папага, што ў асноўным і забівалі, 6 амерыканцаў і 48 мексіканцаў пакінулі мёрт-

[27] Lyons M. J. World War II: A short history. Englewood Cliffs, NJ, 1989. P. 141; World War II: an expanded history. Needham Heights, MA, 2000. P. 125.

[28] Rhodes R. Masters of death: the SS-Einsatzgruppen and the invention of the Holocaust. New York, 2002. P. 93.

[29] Залесский А. И. И. В. Сталин и коварство его политических противников. Кн. 1: Поражение оппозиционных группировок. Минск, 1999.

[30] Гамзатов Р. Остров женщин: поэма-странствие // Знамя. 1981. № 1. С. 72–113. [ХІамзатов Р. Руччабазул чІинкІиллъи // БагІараб байрахъ. 1979. 1–6 сент.] На славянскім індзеянісцкім фоне: Веретюк О. М. Антивоєнна тема в поезії Ї. Тауфера // Проблеми слов’янознавства. Вип. 27. Львів, 1983. С. 10–11.

вымі 144 апачаў аравайпа і піналь, з іх толькі 8 мужчын[31]. Тое, што "індзейцы" (украінцы і беларусы) узаемна забівалі адны адных, упісваецца ў карціну "індзейскіх войнаў" "да і пасля Калумба".

Хатынь і індзейскія вёскі ў краінах, ахопленых грамадзянскай вайной, параўноўвалі ў розных частках планеты: выданне "ІСЛА" (Окленд, 1982) спаслалася на газету "Правда" ў выпадку з в. Эль-Масотэ, у якой больш за 700 ці 900 (сустракаецца ўдакладненне – "індзейскіх") жыхароў і сялян з наваколля, што прыйшлі, як і ў Кэмп-Грант, у надзеі выратавацца ў час карнай аперацыі, былі забіты ў 1981 г. элітным батальёнам сальвадорскай арміі "Атлакатль" (параўнаў з Хатынню і А. Чалядзінскі[32]); адносна вёскі, знішчанай у 1982 г. у выніку напалмавай бамбардзіроўкі, мінскі лацінаамерыканіст сцвярджае, што параўнанне было зроблена самімі гватэмальцамі (магчыма, і па некаторым сугуччы назваў): «"Гватэмальскай Хатынню" называюць у краіне індзейскую вёску Хікін, дзе было спалена 350 жанчын, старых і дзяцей»[33]. Між тым, яшчэ адну "сугучную" назву – Катынь – не абмінуў у даследаванні "Осткрыг Гітлера і індзейскія войны" Э. Вестэрман.

2) 11.04.1942 г. Для артыкула Рэйна[34] выказванне Гітлера ў рэчышчы палітыкі "падзяляй і пануй" пра культы перакладзена на англійскую з рускага выдання кнігі Пікера (1993). Гітлера працытаваў заклапочаны новымі пагрозамі, а менавіта "каб зразумець сакрэт навалы сект на нашу рэспубліку", М. Ляўчук: "Нашым інтарэсам адпавядала б такое становішча, пры якім кожная руская вёска мела б уласную секту, дзе развіваліся б асаблівыя ўяўленні пра Бога. Мы будзем вітаць, калі рускія, падобна да неграў і індзейцаў, стануць прыхільнікамі сект і магічных культаў, таму што тады рэзка ўзмоцняцца тэндэнцыі, якія

[31] [Электронны рэсурс] https://en.wikipedia.org/wiki/Camp_Grant_massacre – Дата доступу 27.10.2017.

[32] Челядинский А. А. Латиноамериканский фашизм сегодня. Минск, 1984. С. 118.

[33] Тамсама. С. 60–61.

[34] Rein L. The Orthodox Church in Byelorussia under Nazi occupation (1941–1944) // East European Quarterly. 2005. N 1. P. 21.

раз'ядноўваюць рускіх"[35]. Тое ж у іншай версіі перакладу – тройчы ў даследчыцы царкоўнага калабарацыянізму з СШ № 33, а потым Гродзенскага ўніверсітэта[36]. Дзеячамі царквы, асабліва архіепіскапам, а пазней мітрапалітам Канстанцінам (Гаранавым; яго матэрыял "Патрыятычная дзейнасць Рускай Праваслаўнай Царквы ў гады Вялікай Айчыннай вайны"[37] ў розных публікацыях суправаджаў яго пры перамяшчэннях па службе), аўтарамі прац па царкоўнай гісторыі і публіцыстамі ў Беларусі[38] і за мяжой (гл. кн. "Вялікае адраджэнне: Руская царква пад нямецкай акупацыяй" В. Аляксеева і Ф. Стаўру, 1976[39]) гэтае выказванне Гітлера актыўна выкарыстоўваецца; "сфера жорсткай канкурэнцыі" ўключае і дзяцей[40].

3) 8.8.1942 г. Заява тычыцца партызан. Барацьба супраць іх здаецца Гітлеру аналагам барацьбы з індзейцамі[41]. Хоць параўнанне "партызаны – індзейцы" адносіцца

[35] Левчук Н. Опасность для души – опасность для государства // Царкоўнае слова. 1997. № 3. С. 8–9. Артыкул надрукаваны і асобна па блаславенні прот. П. Латушкі; у 1998 г. як "…для общества" – у "Могилевских епархиальных ведомостях" (№ 4-6. С. 21–24).

[36] Силова С. В. Православная церковь в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941–1945 гг.). Гродно, 2003. С. 162.

[37] Константин, архиепископ Курганский и Шадринский. С верой в победу // Подвиг во имя Победы. Курган, 2015. С. 76.

[38] Котов А. Драма белорусской церкви // Неман. 1997. № 1. С. 164; Шиптенко С. А. Идеи автокефалии и униатства: вчера и сегодня // Страны СНГ. Русские и русскоязычные в новом зарубежье. 2005. 1 авг. № 128. С. 73.

[39] Кніга на англ. мове (Мінеапаліс). С. 60–61.

[40] Великая Отечественная война: 1941–1945: энциклопедия для школьников. Москва, 2005. С. 247.

[41] Rudling P. A. Szkolenie w mordowaniu: Schutzmannschaft Battalion 201 i Hauptmann Roman Szuchewycz na Białorusi w 1942 roku // Prawda historyczna a prawda polityczna w badaniach naukowych: ludobójstwo na kresach południowo-wschodniej Polski w latach 1939–1946. Wrocław, 2011. S. 192. [Wyd. 2, popr. i rozsz. Kraków, 2015]: "Hitler porównał walkę z partyzantami do walki Amerykanów przeciwko Indianom"; Рудлінг П. А. Навука забіваць: 201-ы батальён ахоўнай паліцыі і гаўптман Раман Шухевіч у Беларусі ў 1942 годзе // Arche. 2012. № 7-8. С. 69: «Гітлер параўноўваў антыпартызанскую барацьбу са змаган-

ў гэтым выпадку не толькі да беларускіх, вядома, наколькі была “партызанізавана” Беларусь у параўнанні з іншымі краінамі і рэспублікамі СССР. Ацаніць жа цалкам маштаб “індзеянізацыі” партызанскага руху ў Беларусі яшчэ не ўяўляецца магчымым. Былы камандзір атрада імя Чапаева 1-й Гомельскай брыгады В. Агаджанян пісаў: “Зрабілі з яловых галін навесы і канавязі для коней, кухні ў выглядзе індзейскіх вігвамаў”[42], у якіх гаспадарылі і партызанкі-яўрэйкі. У сваю чаргу супрацоўнік саветалагічнага інстытута капітан М. Галай, раней камандзір ахоўнага батальёна і камендант цэнтра падрыхтоўкі савецкіх афіцэраў-ваеннапалонных, паказаў чыгунку вачыма ўяўных “турыстаў”, калі б гэта дазволілі: “яны б вельмі здзівіліся таму, што ўбачылі з акна вагона цягніка. Яны б убачылі, што прыкладна на 300 ярдаў ад чыгуначнага палатна па абодвух баках высечаны лес і скошаны пасевы. Уздоўж чыгункі яны б убачылі дзіўныя пабудовы, што нагадваюць умацаванні, якія будаваліся амерыканцамі ў першы перыяд каланізацыі для абароны ад індзейцаў”. “У 1943–1944 гг. была адна і тая ж карціна па ўсёй краіне, ад Брэста да Смаленска і Варонежа, ад Балтыйскага мора да Украіны”[43].

Некаторыя з індзейскіх войнаў па асобных параметрах больш зближаюцца з “савецкімі”, напрыклад, другая

нем супраць “чырвоных індзейцаў”»); Рудлинг П. А. Обучение убийству: шуцманшафт батальон 201 и гауптман Роман Шухевич в Белоруссии в 1942-ом году // Форум новейшей восточноевропейской истории и культуры. 2017. № 1. С. 254: “Гитлер сравнивал борьбу с партизанами с борьбой американцев против индейцев”; англ. арыг. Рудлінга: «“Hitler himself compared the fighting of partisans with that of the struggle against “red Indians”», які спасылаецца пры гэтым на кнігу Ф. Блада 2006 г., с. 79: [Электронны рэсурс] http://www.academia.edu/536217/Schooling_in_Murder_Schutzmannschaft_Battalion_201_and_Hauptmann_Roman_Shukhevych_in_Belarus_1942 – Дата доступу: 26.10.2017.

[42] Агаджанян В. В. Дороги партизанские. Минск, 1979. С. 135.

[43] Пономаренко П. К. Всенародная борьба в тылу немецко-фашистских захватчиков, 1941–1944. Москва, 1986; Galay N. The partisan forces // The Soviet Army. London, 1956. P. 153. [Тое ж у: The Red Army. New York, 1956.]

семінольская: “па працягласці, жорсткасці, няроўнасці сіл, стратэгіі і тактыцы, а таксама па тым, што ў вайну было ўцягнута ўсё індзейскае насельніцтва, яна была больш падобная на сучасныя партызанскія войны, чым на іншыя войны, якія мелі месца на амерыканскіх межах”. Пры гэтым У. Стартэван (зб. “Паўночнаамерыканскія індзейцы”, 1978[44]) выкарыстоўвае артыкул са зборніка выбранага (1962) з часопіса марской пяхоты ЗША, аўтар якога назваў сябе Эрнстам фон Дананы і ў якім – прамая паралель: недальнабачнасць германскага генштаба (непадрыхтаванасць войскаў да барацьбы з партызанамі) ён параўноўвае з такой жа ў ваеннага камандавання прэзідэнтаў Джэксана і Ван Бюрэна ў вайне з семіноламі[45]. Час і загаловак выдання (“Партызан і як змагацца з ім”; артыкул Дананы, у сваю чаргу, апублікаваны ў 1955 г., праз 3 гады пасля вызвалення з савецкага лагера) сведчыць пра тое, што гэты былы афіцэр нямецкай арміі, які нарадзіўся ў Кіеве ў нямецкай сям’і і меў вопыт, звязаны з савецкімі партызанамі, ускосна звязаны і з генацыдам індзейцаў на “палаючым кантыненце” – сіламі, падрыхтаванымі з дапамогай ЗША. Паколькі ён прысвяціў нямала месца раннім поспехам у будучым генерал-маёра войскаў СС Б. Камінскага, ураджэнца Полацкага павета “польскага” і нямецкага паходжання, які спачатку вызначыўся на Браншчыне, а скончыў кар’еру разнёй у варшаўскім раёне Ахота, то можна меркаваць пра месца, дзе быў і ён сам. У больш шырокім кантэксце гэты выпадак калабарацыянізму нагадвае пра прысутнасць у Фларыдзе ў час вайны з семіноламі капелана А. Расадоўскага, капітана А. Бляцкага і першага сяржанта І. Хуткоўскага, паўстанцаў 1830–1831 г., звязаных паходжаннем з Беларуссю (апошні, якога называюць сваяком Касцюшкі, выйшаў у ганаровую адстаўку там жа, у Форт-Хайльман – Хей-, Хэй-, Хайл(е)ман, Heil(e)man).

[44] Рус. выд., с. 88. Тут, аднак, пры перакладзе прапушчаны цытата і згадка пра мінулае аўтара, што цытуецца, якія ёсць у англ. версіі кнігі (1971, с. 108).

[45] Кніга на англ. мове, с. 201–202. Гэты артыкул – “Савецкія партызаны ў баі” – з’явіўся таксама ў зб. “Сучасная партызанская вайна” (1967), адкуль яго выкарыстаў Л. Гранкевіч.

4) 22.8.1942 г. Гэтая найменш вядомая развага тычыцца Картэса і мексіканскіх індзейцаў. Гітлер лічыць Картэса памяркоўным чалавекам, які не прынёс жорсткасць у Мексіку – яна ўжо была там; ён асуджае ахвярапрынашэнні, якія практыкаваліся "мексіканцамі". Можна шукаць у гэтым падразумяванне Сталіна і яго чысткі-"ахвярапрынашэнні", а ў Картэсе бачыць Гітлера. Яго зварот да асобы Картэса, а не Калумба, натуральны: Калумб не меў такога прапагандысцкага значэння: немцы не "адкрывалі Амерыку", напрыклад, у Беларусі, як гэта нават у гэтым жа выразе заяўлялася рускімі даследчыкамі беларускай адметнасці XIX ст.

Сучасныя трактоўкі ў межах паліткарэктнасці дапускаюць негатыўнае стаўленне не толькі да заваёўнікаў, але і да адкрывальнікаў Новага Свету. Палемічна завостраны ўжо загаловак артыкула ў "сярэднеэўрапэйскім культурным аглядзе", прыклады крайніх поглядаў з якога: "У параўнаньні з Калюмбам Гітлер выглядае як непаўналетні правапарушальнік"; Калумб "пераўтвараецца зь вялікага заваёўніка ў генацыдальнага маньяка і папярэдніка Гітлера", з'яўляючыся "архітэктарам палітыкі генацыду"[46]. Я. Еўтушэнка – вельмі рэзкі ў паэме "Фуку!" да абодвух: "ефрейтор, колумб геноцида, / блицкрига и газовых камер?"; "Может быть, / у Колумба украдена / вся идея напалма хитро?"[47].

Адрозніць добрае ад кепскага ў Калумбе і звязаным з ім "комплексе" частка аўтараў не можа. Так, савецкіх вызваліцеляў у Еўропе адзін называе Калумбамі, а ў другога "магікане" супрацьстаяць "людаедам", а не цывілізаваным еўрапеізатарам (канібалізм "традыцыйна" лічыцца больш прывязаным да перыферыі цывілізацыі, але і ў 1984 г. у кнізе "Новае мысленне ў ядзерны век" канібальскімі называлі погляды Трумэна ў яго заяве пасля

[46] Д'Суза Д. Злачынствы Крыстафора Калюмба // Фрагмэнты. 1999. № 1-2. С. 22–23, 33.

[47] Евтушенко Е. Фуку! // Новый мир. 1985. № 9. С. 3–58. [Evtushenko E. Fukú: obra del notable poeta soviético inspirada en su viaje a Santo Domingo. Santo Domingo, 1988; урыўкі з паэмы: Yevtushenko Y. Fuku // Yevtushenko Y. The collected poems: 1952–1990. New York, 1991.]

нападзення Германіі на Савецкі Саюз: “Калі мы ўбачым, што выйграе Германія, мы будзем дапамагаць Расіі, калі выйграваць будзе Расія, мы будзем дапамагаць Германіі. І няхай яны як мага больш забіваюць адзін аднаго”[48]).

1944 і 1945 гады, а не 1941–1943, нарадзілі ў беларускіх паэтаў П. Панчанкі і М. Танка асацыяцыі з адкрыццём Амерыкі. “Ідуць, як Калумбы, нязнанымі тропамі / На захад і чуюць праз дым яны крык – / Прыдушаным голасам просіць Еўропа іх / Адкрыць адзічэлы іх мацярык” (Панчанка П. Калумбы. 1944). У 2017 г. у касцёлах Польшчы з’явілася рэклама праекта “Рыцараў Калумба” – “Вызваленне кантынента: Іаан Павел II і падзенне камунізму” (філія “Рыцараў” ва Украіне арганізавала прэзентацыю ў Кіеве), правакацыйна выклікаючы асацыяцыю з індзейцамі, якіх у Еўропе замянялі камуністы.

Інакш “калумбіяда” праяўляецца ў Танка, які задумаў свой верш “Сон над Нёманам”[49] яшчэ да верасня 1944 г., скончыў жа 7 кастрычніка 1945 г. Ідэя яго, нягледзячы на асцярогу аўтара наконт магчымай крытыкі, была проста патрыятычная, а таксама антыэміграцыйная, і прырода таго, што “прысніў” на беразе Нёмана калега (яго ўяўнае падарожжа з Калумбам “у пошуках новай багатай зямлі”), не выклікае пярэчання і ў Панчанкі[50]: “Танк, як сапраўдны паэт, прымусіў па-новаму гучаць і старыя разуменні. Калі ўсе, хто прыехаў з Калумбам, разбрыліся па новай зямлі ў пошуках нажывы, забыўшыся на сваю радзіму, сіні прыбой прынёс паэту з бацькаўшчыны сасновую галіну”, і ён у чоўне вяртаецца.

5) 30.8.1942 г. Тут гаворка пра “першабытны” камунізм (Ur-Kommunismus), па якім Гітлер прапаноўвае правесці скразную зачыстку, што ўяўляецца яму “індзейскай вайной” (“Das wird ein richtiger Indianerkrieg werden”). У англійскай версіі вайна з індзейцамі заменена на “вайну

[48] Громыко А. А., Ломейко В. Б. Новое мышление в ядерный век. Москва, 1984. С. 32.

[49] Танк М. Сон над Неманом // Танк М. Чтоб ведали. Минск, 1949. С. 14–17.

[50] Ён піша гэта ў рэц. 1948 г. Гл.: Панчанка П. Збор твораў: у 4 т. Т. 4. Мінск, 1983. С. 24.

з дзікунамі" і дададзена слова *тэрарысты*: "The struggle with the terrorists will be savage warfare in the real sense".

6) 13.6.1943 г. Гэтае месца спалучае адчуванне амерыканцамі і немцамі "прасторы" і "экспансіі" і блізкую тым і другім "Indianerromantik", прычым Май згадваецца тут Гітлерам як аўтар найбольш "жывога" яе ўвасаблення. З расійскіх аўтараў падрабязна разгледзеў уплыў Мая на Гітлера і іншых фашыстаў і паралелі паміж германскімі авантурамі на Усходзе і каланіялізмам па-за Еўропай Я. Якаўлеў[51]. Не поўным плагіятам быў матэрыял аглядальніка "Новага часу", які даў яму эфектны загаловак[52].

У практычным плане аўтар "Вінету" з'яўляецца ў Беларусі ўжо ў канцы кастрычніка 1941 г.: генерал-маёру Нагелю, які прыбыў у Мінск з інспекцыяй, камандзір 707-й ахоўнай дывізіі генерал фон Бехтальхайм і начальнік яго штаба падпалкоўнік фон дэр Остэн прапанавалі шэраг захадаў і заключэнне: "У якасці інструкцыі могуць быць выкарыстаны толькі Карл Май або Эдгар Уолес"[53]. Так яго цытуе з больш чым 1230-старонкавай кнігі К. Герлаха 1999 г. А. Ермакоў у сваёй 2009 г. ("Вермахт супраць яўрэяў: Вайна на знішчэнне"; тут ён дае і падрабязнасці, якія тычацца вызвалення тэрыторыі "Белай Рутэніі" ад палякаў і яўрэяў[54], метадам "Карла Мая").

[51] Яковлев Е. Н. Война на уничтожение: что готовил Третий рейх для России. С.-Петербург, 2017.

[52] Новікаў А. Вінету – сябар нацыстаў // Новы час. 2012. 27 крас. С. 29.

[53] Электроннае паведамленне нам К. Герлаха ад 18.10.2017 г. з арыгінальным тэкстам ("Oberstleutnant v. d. Osten erklärt, dass man es in Russland mit Verbrechern schlimmster Sorte zu tun hat, und dass als Dienstanweisung nur Karl May oder Edgar Wallace in Frage kämen", с. 579) і пазначэннем крыніцы: "Bundesarchiv-Militärarchiv Wi ID/1723", выяўляе дробную недакладнасць пры цытаванні яго Ермаковым (с. 215), а з таго Якаўлевым. Зрэшты, гэтае месца з Нагеля ўжо цытавалася да Герлаха іншымі ў 1998 г.: у зборніку па "Einsatz" у рэйхскамісарыяце "Остланд" (с. 78) і кнізе П. Лонгерыха (с. 408).

[54] Якаўлеў "пазычае" і падзагаловак Ермакова для свайго загалоўка; поўны кантэкст важны пры прасочванні акцэнтаў і прыярытэтаў: тут адбываецца замена "яўрэйскага" пытання на "(агульна)расійскае".

У “размове” ў ноч з 19 на 20 лютага 1942 г. Гітлер без прыцягнення непасрэдным чынам індзейскіх аргументаў прапанаваў не клапаціцца пра вакцынацыю і гігіену “рускіх”, але дазволіць на выбар усе гатункі алкаголю і тытунь. Гэта інтэрпрэтавалася як яшчэ адзін сродак, алкаголь – нават найважнейшы, з дапамогай якога вынішчалі індзейцаў, прычым больш познім эквівалентам Гітлера / індзейцаў[55] у фармуляванні прынцыпаў разлажэння савецкага народа праз алкагалізацыю і духоўную дэградацыю ў сувязі з вядомай “дырэктывай” называлі і Далеса / індзейцаў.

Выкрываючы ЦРУ, М. Якаўлеў цытаваў біёграфа Гітлера Дж. Таланда: “Гітлер сцвярджаў, што свае ідэі стварэння канцэнтрацыйных лагераў і мэтазгоднасці генацыду ён пачарпнуў з вывучэння гісторыі… ЗША. Ён захапляўся, што… у свой час на Дзікім Захадзе былі створаны лагеры для індзейцаў. Перад сваімі прыбліжанымі ён часта хваліў эфектыўнасць амерыканскай тэхнікі фізічнага вынішчэння – голадам і навязваннем барацьбы ва ўмовах няроўнасці сіл”[56]. Не зусім зразумела, адкуль Таланд узяў гэтую версію паходжання нямецкай сістэмы канцлагераў. У. Чарчыл у сваёй “Хрэстаматыі” (2003)[57] раіць знайсці пацверджанне выказанаму Таландам у “Майн кампф”, але пакуль мы маем прынамсі два месцы, дзе Гітлер піша пра лёс арыйцаў у Амерыцы – у сувязі з розніцай паміж паўночнай і паўднёвай часткамі кантынента ў “ганьбе кровазмяшэння” з “больш нізкай расай” і пераходам да аселасці пасля таго, як удалося “расчысціць зямлю і падпарадкаваць сабе тубыльцаў”, але не бачым прамой сувязі з рэзервацыйнай сістэмай.

Тыпы “рэзервацый” класіфікаваны ў артыкуле “Рэзервацыі сумлення” ў бюлетэні “Amnesty International у Беларусі” (Гомель, 2001, № 4). Погляд на рэзервацыі, што тым больш відаць па іх гарадской версіі – “гета”, як на

[55] Самойлік А. З палону атрутнага зелля Маці Божая вызваляе // Царкоўнае слова. 2000. № 6. С. 8–9.

[56] Яковлев Н. Н. ЦРУ против СССР. Минск, 1983. С. 40.

[57] Кніга на англ. мове, с. 369. (Спасылка на с. 403 і 501 нью-ёркскага выдання Рэйнала і Хічкака 1939 г.)

тэрыторыі, якія функцыянуюць толькі з мэтай кантраляванага вымірання іх насельнікаў, пераглядаецца.

У рыторыцы першага перыяду "халоднай вайны" аўтар у "ЛіМе" абагульняе становішча ўсіх "каляровых" ЗША словам *гета*, і, паводле яго, пра такое шматмільённае гета марыў Гітлер[58]. На мяжы 90-х гета ў Беларусі пачалі вызначаць і як "рэзервацыі" для арганізаванага знішчэння яўрэяў. Менш вядома, што як гітлераўцамі, так і іх праціўнікамі на розных этапах прапаноўваліся праекты стварэння рэзервацый (ужываецца гэтае слова) менавіта для "захавання" яўрэяў – каля Любліна, на Урале, Алясцы, у Палесціне. Але нават на гістарычнай радзіме яўрэйскай "рэзервацыі" маглі адмовіць у карэннасці: М. Ваньковіч, белетрызуючы свае ўражанні 1941–1943 г., прызнаў яе за арабскім анклавам: "уехалі ў даліну Бейтшаан, якая яшчэ такая арабская, як рэзервацыі апачаў, што знікаюць у піянерстве Арызоны"[59].

Яўрэяў з гета нядаўняга абласнога цэнтра БССР "фельетаніст" "Atha" "Бяластокер цайтунг" у аглядзе спраў на рынках параўнаў з індзейцамі, прыніжаючы тых і другіх: «Konkludując autor przyczynku publicystycznego sprowadził nielegalny handel do "metod obrotnych Indian z płaskostopiem, pochodzących z getta" (Methoden geschäftstüchtiger Plattfußindianer aus dem Ghetto), których określił mianem "śmierdzącego motłochu" (dieses stinkige Gesindel)» (даследаванне М. Акуловіча «Грамадска-культурнае жыццё нямецкага насельніцтва: Беластоцкая акруга ў 1943–1944 г. у святле органа партыі НСДАП "Bialystoker Zeitung"»[60]).

"Ці знаходзіла палітыка антысемітызму, узведзеная ў фашысцкай Германіі ў ранг дзяржаўнай, падтрымку на акупаванай тэрыторыі Беларусі?" Частка адмоўнага адказу з кнігі "Гісторыя Беларусі: Пытанні і адказы" (1993, с. 171): "яўрэйскае насельніцтва, што апынулася на акупаванай тэрыторыі, гітлераўцы сагналі ў спецыяльныя

[58] Лапцёнак Н. "Дэмакратыя" Лінча // Літаратура і мастацтва. 1949. 30 крас. С. 12.
[59] Wańkowicz M. Drogą do Urzędowa. Warszawa, 1989. S. 321.
[60] На польскай мове. Bibliotekarz Podlaski. 2005–2006. № 11-12. С. 87.

рэзервацыі – гета, дзе планамерна і сістэматычна знішчалі. Тых, хто ўцёк, выратоўвалі толькі партызаны і жыхары рэспублікі". У. Меxаву (1928–2017) гета таксама ўяўляліся рэзервацыямі (ЛіМ. 22.10.1993).

У адрозненне ад тэрміна "рэзервацыя" ў дачыненні да абарыгенаў тэрмін "генацыд" быў створаны значна пазней, "у 1943 ці 1944" г., юрыстам родам з Беларусі Р. Лемкіным – імя, якое не маглі абмінуць індзеяністы і даследчыкі каланіялізму[61]; тэме "Лемкін і індзейцы" прысвечаны асобны артыкул – "Рафаэль Лемкін як гісторык генацыду ў Амерыках"[62]; канцэпцыя, паводле памылковых уяўленняў, з'явілася ў сувязі Халакостам; насамрэч[63] яна распрацоўвалася Лемкіным, "летуценнікам" і "фанатыкам", яшчэ ў 1920–1930-я г.; яго неапублікаваныя матэрыялы ўключаюць нататкі для агляду генацыду ў Лацінскай Амерыцы і асобных запланаваных раздзелаў па ацтэках, інках і Юкатану. І. Варабей і прадстаўнік індзейцаў удзельнічалі ў імпрэзе, прысвечанай штогадоваму "Тыдню супраць генацыду", – "Канадцаў за Музей генацыду"[64]; праз два гады кааліцыя ўключала 47 "нацыянальных суполак-

[61] Empire, colony, genocide: conquest, occupation, and subaltern resistance in world history. New York, 2008; The origins of genocide: Raphael Lemkin as a historian of mass violence. London, 2009; Moses A. D. Raphael Lemkin, culture, and the concept of genocide // The Oxford handbook of genocide studies. Oxford, 2010. P. 19–41; Cave A. A. Lethal encounters: Englishmen and Indians in colonial Virginia. Lincoln, NE, 2011; Cave A. A. Sharp Knife: Andrew Jackson and the American Indians. Santa Barbara, CA, 2017; Churchill W. A little matter of genocide: Holocaust and denial in the Americas, 1492 to the present. San Francisco, 1997; Robins N. Mercury, mining, and empire: the human and ecological cost of colonial silver mining in the Andes. Bloomington, IN, 2011; Woolford A. This benevolent experiment: indigenous boarding schools, genocide, and redress in Canada and the United States. Lincoln, NE, 2015.

[62] McDonnell M. A., Moses A. D. Raphael Lemkin as historian of genocide in the Americas // Journal of Genocide Research. 2005. N 4. P. 501–529.

[63] McDonnell M. A., Moses A. D. Raphael Lemkin… P. 501.

[64] Варабей І. …і вочы дзяўчынкі з вогненнай вёскі // Варабей І. Там, дзе сэрца маё. Мінск, 2005. С. 119–121.

сяброў”, з іх 7 украінскіх; у 2009 г. тэкст Лемкіна “Савецкі генацыд ва Украіне”, без індзейскай кампаратывістыкі, быў надрукаваны ў Кіеве на 28 мовах, выклікаўшы чарговы ўсплёск “вайны генацыдаў”.

У XXI ст. матыў двух генацыдаў – на ўсходзе Еўропы і за акіянам – ужо актыўна ўносіцца нават у загалоўкі. К. Кэкел і Вестэрман прысвяцілі паралелям “Дзікі Захад” – “Дзікі Усход” цэлыя кнігі[65]. Вестэрман – які ў сваёй згадвае даследаванне беларускага выкладчыка, выдадзенае на Захадзе (Grenkevich, 1999), што робіць і Б. Шэфард у кнізе “Вайна на Дзікім Усходзе: Германская армія і савецкія партызаны” (2004), – удакладняе ў (пад)загалоўках сваіх работ аб’ект аналізу: заваяванне і генацыд або вынішчэнне, іх ваенныя стратэгіі, працэсы.

“Істэрн” узнік як спроба знайсці ў Еўразіі “рамантыку”, падобную да вядомых у літ- і кінавестэрнах. Кіназнаўца ў раздзеле калектыўнай манаграфіі пра Вялікую Айчынную вайну не толькі абнародавала “Спіс Нячай”, які ўключае вынішчэнне “іўдзеяў, індзейцаў, неграў, армян, яўрэяў, цыганоў, палякаў, беларусаў, іншых груп насельніцтва і цэлых народаў”, але і перайшла ў свет фантазіі на “фабрыцы летуценняў”: «быў здзейснены генацыд індзейцаў, сагнаных у рэзервацыі, што біялагічна выміралі. Наступствы гэтага паказаны ў фільме Мілаша Формана “Палёт над гняздом зязюлі”»[66]. Індзейцы прысутнічаюць у карцінах “Пяскі Іваджымы” з Дж. Уэйнам і Хэйсам, “Тыя, што гавораць з ветрам”[67], “Бясслаўныя выродкі”. Украінскімі кінематаграфістамі зняты фільм “Той, хто прайшоў скрозь агонь” – пра Героя Савецкага Саюза лётчыка І. Дацэнку, які паказаны ў другой частцы яго

[65] Kakel C. P. The Holocaust as colonial genocide: Hitler’s “Indian Wars” in the “Wild East”. New York, 2013; Kakel C. P. The American West and the Nazi East: a comparative and interpretive perspective. London, 2011; Westermann E. B. Hitler’s Ostkrieg and the Indian Wars: comparing conquest and genocide. Norman, OK, 2016.

[66] Нечай О. Образы геноцида в художественной культуре и на экране // Великая Отечественная война в киноискусстве Беларуси. Минск, 2010. С. 39.

[67] Говорящие с ветром // Видеоточка. 2002. 21 июня. С. 1.

прыгод і як правадыр племені. Асобна ад “рэальнай”, а насамрэч фіктыўнай гісторыі, якая пакладзена ў аснову, ён мае права на мастацкае існаванне не толькі без маральнага асуджэння, але і як карысны крок у бок украінска- і агульнаславянска-індзейскага збліжэння.

Індзеец, дакладней метыс збег па дарозе ў Асвенцім, а потым партызаніў у раёне “Радама, Скаржыска-Каменнай, Пшысухі і Апочна”[68]. Сат-Ок і перад смерцю не абверг публічна “факт” таго, што ледзь не трапіў у канцлагер у гэтай якасці, што прэтэндавала б на двайны генацыд – як паляка і як індзейца – і што з літаратурнай містыфікацыі пераходзіць у разрад амаральнай хлусні. У Беларусі “польскі індзеец” – аб’ект асаблівай увагі А. Баркоўскага[69].

Спробу “індзейскай” містыфікацыі, якую можна разглядаць таксама як літаратурную, але ўжо без выратавальнай інтрыгі (перад пагрозай прымусовай рэпатрыяцыі ў СССР беларусы ў заходняй зоне акупацыі “пачалі запісвацца палякамі, югаславамі, нават індзейцамі”[70]), зрабіў і К. Шэрман. Яго дзяцінства ў Аргенціне, якое прыпала на ваенныя гады, прайшло ў цікавасці да індзейцаў і нават некаторым кантакце з імі (твар першай настаўніцы апісвае як твар чаруа або Г. Містраль), але дзіўным выглядае сцверджанне, якое ў канцы жыцця набыло ўпэўнены характар, што ў жылах яго маці, уругвайкі, цякла індзейская кроў[71].

Маючы прыклады паводзінаў прадстаўнікоў розных этнасаў, якія хацелі быць індзейцамі або як індзейцы і пры гэтым ганарыліся “двайной” прыналежнасцю, неабходна

[68] Стадниченко Ю. Сат-Ок – Длинное Перо: (Необычайная быль наших дней) // Сат-Ок. Земля Солёных Скал; Таинственные следы. Минск, 1994. С. 303.

[69] Барковский А. Жена индейского вождя в Якутии // Советы Якутии. 1993. 1 июля. С. 6. [Электронны рэсурс] https://acarajjj-kut.blogspot.com.by/2014/11/2014.html – Дата доступу: 19.10.2017.

[70] Лужынскі М. “Там можна павітацца з кенгуру…” // Рэспубліка. 1993. 9 ліп. С. 3.

[71] Шабельцаў С. Беларусы ў Аргенціне… С. 294.

перақанацца, ці можа народ, даўшы свету генерала Кастэра (немцы), згаданага, магчыма, і Гітлерам у адным з незапісаных маналогаў, і будучы двойчы або больш акупантам, па-сапраўднаму "братацца" з імі[72]. Амбіцыя беларусаў быць адным з вядучых праіндзейскіх народаў сустракаецца з асобнымі непрыемнымі фактамі (М. Іваноў, селянін з Гарадоцкага павета, адказны, у тройцы "дэсперада", за грабеж, разбой і забойства правадыра тлінкітаў і яшчэ 11 чалавек), якія, аднак, у большасці не "афарбаваныя" ў нацыянальна-дзяржаўныя колеры.

Польшча з яе двайной геапалітычнай свядомасцю выступала і як ахвяра, і як драпежнік, выпрацаваўшы разам з "літоўскімі" "калабарантамі" феномен лісоўчыка-"канкістадора" і польскі "францір", які функцыянаваў як "крэсы" і ў Расійскай імперыі.

"Адсутнасць сапраўднага супраціўлення нарадзіла ў прадстаўнікоў імперый пачуццё ўласнай выключнасці, а таксама імкненне пашыраць свае тэрыторыі да бясконцасці", і "жыхары Сібіры, індзейцы і індусы, качэўнікі"[73], за кошт каго гэта адбывалася, – частка бездухоўнай спадчыны, адносна якой і сярод расійскіх гісторыкаў знаходзяцца крытыкі (А. Грынёў і інш.): Руская Амерыка і яе адносіны з "карэннай" адзначаны і лакальным генацыдам алеутаў па эканамічных прычынах, элементамі экацыду, значнай дэмаралізацыяй і, нарэшце, "гандлем Радзімай".

Больш падобныя да індзейцаў фізічна, свабодалюбствам і ваяўнічасцю яшчэ з запарожска-казацкіх часоў, украінцы тым не менш лепш упісаліся ў змаганне за "Новую Еўропу" і радзіму, свабодную ад "непажаданых" народаў, значна пагоршыўшы свае этнічныя стэрэатыпы ў Канадзе і іншых краінах свету.

У кнізе "гісторыка, псеўдагісторыка" А. Бураўскага "Цяжар белых. Незвычайны расізм" (2011) агучана версія, што бацька містыфікатара Сат-Ока быў яўрэем з Радамышля.

[72] Penny H. G. Kindred by choice: Germans and American Indians since 1800. Chapel Hill, NC, 2013.

[73] Вяткоўскі А. Паралелі, паралелі… Далучэнне Крыма нагадала аншлюс Аўстрыі і Судэтаў. А механізмам – анексію Балтыі ў 1940-м // Наша Ніва. 2014. 19 сак. С. 5.

Верагодна, вайна, а таксама чытанне Шэрай Савы і спарадзілі ахоўна-творчую рэакцыю С. Суплатовіча. У кнізе ўспамінаў “Сустрэча на Эльбе”, рэдактарам-складальнікам якой з боку СССР быў С. Красільшчык, ураджэнец Людзяневічаў, журналіст у вайну, расказана пра палкоўніка Ф. Габрэскі, знакамітага аса, які, збіты каля Будапешта, трапіў у палон: “на зямлі натоўп сялян ледзь не лінчавалі яго, але іх важак раптам вырашыў, што ім папаўся індзеец. Нагледзеўшыся ў кіно амерыканскіх вестэрнаў, яны лічылі сябе роўнымі індзейцам у майстэрстве верхавой язды”. Сын яўрэяў з Польшчы “выдаваў сябе за індзейца наваха”[74], што, як і ў выпадку з Сат-Окам, відавочна, мусілі дазваляць асаблівасці твару.

Фізічны тып, “колеравая” ідэнтычнасць мелі значэнне ў “законе джунгляў”, як характарызаваў (на што звярнуў увагу Ю. Туронак у 1993 г.) Дж. Рэйтлінгер у 1960 г. “новую” сітуацыю ў Беларусі, прычым нават белы колер у назве краіны і яго дамінаванне на вернутым сцягу, верагодна, маглі даваць надзею на некаторую паблажку народу “Белай Русі”. Пры гэтым заклапочанасць, што назва, асабліва распаўсюджаны ў той час англійскі двухсэнсоўны варыянт “White Russia” (тым больш “White Russians”), складае праблему ва ўспрыманні краіны ў свеце, не кажучы аб індзейцах, узнікла толькі вясной 1945 г. у Сан-Францыска (ААН).

“Белая каманда” А. Буглая наўрад ці мела дадатковую расісцкую “падаплёку”, указваючы на колер маскхалатаў, якімі карысталася і, паводле розных версій: 1) пераапраналася, як у вядомай практыцы імітаваць індзейцаў для

[74] Боэм Дж. Если это американцы, то им не место за колючей проволокой! // Встреча на Эльбе: воспоминания советских и американских ветеранов второй мировой войны. Москва, 1988. С. 167. (Boehm J. “If they are Americans, they should not be behind barbed wire!” // Yanks meet Reds: recollections of U.S. and Soviet vets from the linkup in World War II. Santa Barbara, CA, 1988. P. 99–106; Boehm J. Wenn es Amerikaner sind, sollten sie nicht hinter Stacheldraht sein // Yanks treffen Rote: Begegnung an der Elbe: Erinnerungen amerikanischer und sowjetischer Soldaten des zweiten Weltkriegs. Berlin, 1990. S. 125–134.)

ўчынення злачынных нападаў, каб ілжыва ўказваць на дзеянні савецкіх дыверсантаў; 2) і / або выкарыстоўвала іх зімой з баявой неабходнасці; 3) адрознівалася ад іншых знішчальных каманд тым, што не чапала мірнае насельніцтва; 4) заслугоўвае ўсё ж назвы "зверская команда"[75]; 5) саманазва спачатку ўзнікла як назва буглаеўцаў мясцовымі. Яна, магчыма, спадабалася батальёну і сваёй "бінарнай" апазіцыяй "чырвонаму", "чырвоным партызанам", што адлюстроўвае старыя рахункі паміж "чырвонымі" і "белымі", частка якіх караніцца ў ранняй гісторыі Амерыкі.

Расавыя ідэі сапраўдных, а не вымушаных фашыстаў у крайніх формах іх мясцовыя вольныя ці міжвольныя памагатыя, відаць, не падтрымлівалі, але пра экспансію белай расы ў Амерыцы пісалася ў кнізе Я. Найдзюка "Беларусь учора і сяньня", выдадзенай "пад рэдакцыяй" Ё. Сівіцы, сілезскага немца, работніка аддзела культуры і палітыкі генеральнага камісара, якая адпавядала акупацыйнай палітыцы. Маючы сваю выдадзеную ў Вільні ў 1940 г. кнігу, Найдзюк вымучваў "апрацоўку яе новага варыянта", паводле Ю. Туронка (2002), у 1941–1942 г., у выніку якой гэта стаў зусім "новы твор". Ён друкаваўся ў газеце "Голас вёскі" ад пачатку 1942 г., кнігай у 1943 г. У 1993 г. нарыс выйшаў зноў у змененым выглядзе, з вернутым Грунвальдам, але і з абзацам, у якім гаварылася аб перавазе белай расы:

«Арыйцы, ці, як іх іначай завуць, індаэўрапэйцы, ад таго што жывуць яны галоўна ў Індыі і Еўропе, так расьсяліліся, што занялі блізу ўсю Эўропу і вялікую частку Азіі, а пасьля перабраліся ў Амэрыку, Аўстралію, Афрыку і на розныя абтокі, падпарадкоўваючы сабе народы іншых расаў і выяўляючы гэтым сваю дужэйшасьць, трывалейшасьць і здальнейшасьць. <…> У процілегласьць арыйцам, народы іншых рас называюцца ў Індыі "dasa" (нявольнікі,

[75] [Электронны рэсурс] https://www.sb.by/articles/ofitser-gosudarstvennoy-bezopasnosti.html?commentId= – Дата доступу: 31.10.2017.

падданыя), або “anarya” – не арыйцы, не валадары»[76]. Гэта пераклікаецца з “Майн кампф” у тым, што Амерыку каланізавалі арыйцы, але не было выключана з “3-га выдання” разам з іншымі спрэчнымі месцамі.

Кастусь Езавітаў, разважаючы ў лісце з Рыгі ад 28 ліпеня 1943 г. да М. Абрамчыка пра “сярэдні высокамаральны склад” беларускага народа, які пазбавіў “нас ініцыятывы, рашучасці і энэргіі”, дзякуючы чаму “не пускаліся ў налёты, як нарманы”, пісаў: “Амэрыку адкрылі і заваявалі асобы, маральны ўзровень якіх ведамы з даволі кепскага боку”. “Сібір заваяваў бандыт Ермак Цімафеевіч, якога разумна накіраваў на працу купец-прамысловец Строганаў”. Выснова: “І зараз нам патрэбны людзі ініцыятывы, волі, спрыту, розуму”. “Моцныя людзі, якія нам якраз зараз патрэбны, часта-густа пераступаюць агульнавызначаныя нормы”[77].

Не дзіўна, што беларускія “DP” у Еўропе (пра гульні тут у партызанаў, з мініраваннем чыгункі, і “паліцыю”, якая нападае на іх, у супрацьстаянне паміж “індыянамі” і іх з белымі – А. Маргові[78]) і за акіянам мелі схільнасць да стварэння скаўцкіх ці скаўтападобных арганізацый (піянеры[-героі], маючы тыя ж карані – уцягванне малалетніх у “пакарэнне” і да т. п., – дыстанцыяваліся ад каланіяльнай спадчыны).

Адам Мальдзіс успамінае пра арганізаваную з братам Яўгенам у в. Расолы супольную бібліятэку, у якой былі і “прыгодніцкія аповесці пра індзейцаў”. “За карыстанне бібліятэкай увялі невялікую плату – рубель у месяц”[79].

У красавіку 1945 г. салдат В. Лаўрыновіч сярод кніг у “жоўтых мяхах з чорнымі фашысцкімі арламі”, якія вы-

[76] Найдзюк Я. Беларусь учора і сяньня // Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня: папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Мінск, 1993. С. 10–11.

[77] Езавітаў К. Пакліканы краінай Беларусь: з эпісталярнай спадчыны К. Езавітава // Голас Радзімы. 1993. 18 ліст. С. 4.

[78] Галубіцкі А. Шлях беларускіх дзяцей у вапошнюю вайну // Бацькаўшчына. 1955. 19 чэрв. С. 2.

[79] Мальдзіс А. І. Астравеччына, край дарагі… Мінск, 1977. С. 26; Мальдзіс А. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мінск, 1987. С. 7.

везлі з Дзяржбібліятэкі БССР і не паспелі размясціць на паліцах у імперскай, убачыў і "Сына вады" (па іроніі лёсу гэтую індзеянісцкую аповесць пераклалі ў ГДР[80]). Іх адправілі на радзіму[81], дзе "Апошні з магікан" 1940 г., якога М. Скобла (эл. п. 26.6.2014 г.) чытаў у сваёй вёсцы на Зэльвеншчыне, пераржыў вайну ў нямногіх асобніках; яго меў і якутазнавец Баркоўскі.

Новая адміністрацыя, урэшце, магла замяніць Купера Маем, але перад тым паклапацілася пра даступнасць антысталінскай класікі. Ва ўспамінах "Расія ў канцлагеры" І. Саланевіча, выдадзеных у Рызе дзвюма кнігамі не пазней за 7 жніўня 1942 г. (дата, калі тры яго кнігі, выпушчаныя "Propaganda Abteilung Nord", былі перададзены ў г. Сальцы камендатурай у бібліятэку) з загалоўкамі, запазычанымі з даваеннага нямецкага перакладу, г. зн. без двухсэнсоўнага слова *канцлагер* і без Расіі, мусілі быць некалькі выразных індзейскіх пасажаў: пра "чырвона-індзейскую вытрываласць", нягледзячы на якую і разам з канваірамі, з-за недарэчных парадкаў, "уркі" ўсё ж прамярзалі; пра "індзейскае антраша – адгалоскі тых індзейскіх танцаў", якія яго сын Юра выконваў у мінулым жыцці ў "асабліва ўрачыстых выпадках" – а нагодай цяпер стала павышаная пайка; нарэшце, "спартсмен-курыльшчык" Іван, шмат пішучы пра курэнне ў лагеры, апісвае, як хлопцы, "нібы індзейцы люльку міру, цягнуць махорачныя казіныя ножкі, што па чарзе абыходзяць усю кампанію". Бестселер Саланевіча, які, паводле Гебельса, зацікавіў і Гітлера, з'явіўся таксама, дапоўніўшы вялікі спіс моў, на ісландскай у Рэйк'явіку ў 1942 і 1945 г.[82]. Саланевіч лічыў (1941–1942), што немцамі "Расія…" "изъята по поводу моего шовинизма", але гэта не стасуецца з тыражамі ў 200 тыс. кожнага рыжскага тома, нават калі рэальна меншымі, якіх хапіла чытачам з ліку остарбайтараў і іншым нават і на пэўны пасляваенны час.

[80] Mawr J. Sohn des Wassers. Berlin, 1959.

[81] Лаўрыновіч В. На берлінскім напрамку // Свитязь: альманах библиофилов Белоруссии. Минск, 1989. С. 115–116.

[82] Solonewitsch I. Hlekkjuð þjóð. Reykjavík, 1942; Solonewitsch I. Flóttinn: framhald af "Hlekkju þjóð". Reykjavík, 1945.

У 1943 г. для фронта быў выдадзены, між іншым, раман Мая – лютэраніна, які схіліўся ў каталіцызм, – “Скарб Сярэбранага возера” з серыі, якая ілюстравала заўсёдную перамогу немца над індзейцамі і нягоднікамі з ліку белых. З кніг Мая для Вермахта выключаўся пацыфісцкі і рэлігійны змест, але ў іх заставалася спецыфічна зразуметая мараль. Нямецкі пісьменнік-антыфашыст каталік Р. Шнайдэр, творы якога – у процілегласць – былі забаронены і распаўсюджваліся таемна, у т. л. салдатам на фронт, у рамане пра Лас Касаса (1938) заклеймаваў (Ё. Лесер. “…Сімвалы злачынства”, 2010) Картэса, маючы на ўвазе нацыстаў, іх антысемітызм і стаўленне да славян.

Індзейскія матывы, “індзейская гульня” аб’ядналі людзей розных ідэалагічных кірункаў, што па-свойму характарызуе “міжплемянную вайну”. Вывучэнне дынамікі выкарыстання ідэолагамі прыкладу індзейцаў, асабліва як ахвяр агрэсіі з Еўропы, да і пасля пакта аб ненападзенні і ва ўмовах германскага ўварвання патрабуе прыцягнення звестак пра “знакавых” дзеячоў памежжа. В. Харужая, паводле ўспамінаў сястры, у дзяцінстве выяўляла цікавасць і спачуванне і да індзейцаў: “І яна ўжо не чытае, а расказвае аб далейшым лёсе герояў. Расказвае жыва, вобразна, захапляльна, дапаўняючы змест раней прачытанымі кнігамі з жыцця народаў Афрыкі і Амерыкі”[83]. Калі верыць мастацкай біяграфіі[84], яна пад уплывам адпаведнага чытання забаўляла сясцёр “танцам дзікіх індзейцаў”.

М. Радзевіч у 1939 г. дачакалася 36-га тома свайго збору твораў і 3-га выдання “Фларыяна з Вялікай Глушы”[85]

[83] Хоружая Л. В семье // Славная дочь белорусского народа: письма, статьи В. Хоружей и воспоминания о ней. Минск, 1962. С. 231; Хоружая Л. В семье // Скрыжалі памяці: з творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны: у 3 кн. Кн. 3. Мінск, 2005. С. 319; Хоружая Л. В семье // Жизнь, отданная борьбе. Минск, 1975. С. 9 (тут – “Паўднёвай Амерыкі”).

[84] Васілеўская Г. Што помніцца… Мінск, 1991. С. 18–19.

[85] Rodziewiczówna M. Florian z Wielkiej Hłuszy. Poznań, [1939]; Rodziewiczówna M. Pisma. T. 1–36. Lwów; Poznań, 1926–1939.

(дзеянне адбываецца на тэрыторыі, акупаванай немцамі, – польскі двор – ахова крэсаў ва ўмовах непрыхільнасці з боку беларусаў і літоўцаў – і матывы "індыйскага" / індзейскага танца, "прыкідвання індзейцамі"), "вітала" савецкіх вайскоўцаў, страціла маёнтак і вялікую бібліятэку, а памерла ў 1944 г. у яшчэ не вызваленай частцы Генерал-губернатарства. Раман "Трэці пол" Т. Даленгі-Мастовіча быў перавыдадзены "каля 1945" ці ў 1946 г. ("3-е выд.") у Нью-Ёрку ("тутэйшасць" "індзейцаў, неграў, эскімосаў" і, адпаведна, жыхароў "крэсаў усходніх"[86]), а сам ён загінуў пры нявысветленых акалічнасцях, змагаючыся, у чыне капітана, у абарончай вайне 1939 г. Гісторык Монтэ-Касіна Ванькові́ч яшчэ перад уварваннем немцаў сапсаваў адносіны з іх прапагандай, напісаўшы кнігу пра Мазуры (1934), дзе сустрэў "недабіткаў, гэтых іракезаў, якія ўпіраюцца насіць арлінае пер'е", і зрабіў аналогіі з "пераможцамі ацтэкаў"[87]. У пасляваеннай кнізе, прысвечанай гісторыі Памор'я, ён разважае пра "акрэсленую натуральную прастору", якая патрабуецца "кожнаму стварэнню": белых задавальняла меншая тэрыторыя, чым індзейцаў ЗША, якія гінулі пад націскам, "калі ім ужо не стала чатырох міль на чалавека"[88], даючы і статыстыку шчыльнасці насельніцтва, у т. л. у Польшчы, абедзвюх частках Германіі і СССР.

Ураджэнка Кадзьяка К. Грэй выканала ролю Роз-Мары ў аперэце Р. Фрымля, адзін з цэнтральных матываў якой – "індзейскі любоўны заклік"; сюжэт заснаваны на забойстве індзейца і падазрэнні, што яго ўчыніў галоўны герой (насамрэч жонка-метыска, па арыгінальным лібрэта – Ванда). У "Роз-Мары" яна выступала ў Вільні (тэатр "Лютня", сезон 1938/39[89]) і Варшаве (ужо ў ролі Джэйн[90] / Івоны; прэм'ера 13.1.1944 г., Тэатр разнаітасці "Яр"; у рэцэнзіі на пераробку – дзеянне перанесена з Канады канца XIX ст.

[86] Dołęga-Mostowicz T. Trzecia płeć. New York, [ca. 1945].
[87] Wańkowicz M. Na tropach Smętka. Kraków, 1988. S. 228, 188.
[88] Wańkowicz M. Walczący Gryf. Warszawa, 1963. S. 292.
[89] Kaczyński B. Xenia Grey: księżna Chicago. Warszawa, 1993. S. 53–56, 91.
[90] Тамсама. S. 92.

у сучасную Арызону, з захаваннем матыву золаташукальніцтва і са з'яўленнем шэрыфа Пісара і іншых лацінасаў, – на ламанай "індзейскай" мове пахвалілі і "літаратурнага кіраўніка"[91] "Яра", неўзабаве забітага за сувязь з гестапа). Яшчэ 5 верасня яна выходзіла на сцэну ў Вільні і збіралася застацца там да хуткага заканчэння вайны, але нарачоны пераканаў яе ехаць да бацькоў. "Гарэў ужо Беласток, гарэла Гродна". Выехала апошнім цягніком: "Заліваючыся слязамі, ехала нейкай кружной дарогай праз Маладзечна, Навагрудак, Ковель, Хэлм", пакуль не дабралася да бацькоўскага "маёнтка"[92]. У ім 4 мая 1945 г. былога аляскінскага місіянера В. Мартыша, жонку якога і сваю маці Вольгу, народжаную Новік, Ксенія называе "дачкой заможных грамадзян Навагрудка"[93], забілі "камбатанты". Дакумент – перакладзены на рускую рапарт аб "экзекуцыі" – сведчыць аб адказнасці Нацыянальных узброеных сіл (NSZ) за смерць былога галоўнага праваслаўнага капелана Войска Польскага, і ні арганізацыя, ні асобныя яе члены дагэтуль не асуджаны кампетэнтнымі дзяржаўнымі органамі за гэтую расправу над адстаўным палкоўнікам II Рэчы Паспалітай, якую прасцей за ўсё растлумачыць польскім варыянтам "закону джунгляў". Пры гэтым не было Ксеніі, якая пазней з меркаванняў пэўнай сваёй або кан'юнктурнай "праўды" прыпісала забойства, якое суправаджалася нават і не зусім характэрнымі для палякаў катаваннямі, украінскім нацыяналістам[94], але была яе сястра Алена з дачкой Ірэнай, якая даведалася пра сапраўдных спраўцаў у выніку архіўных росшукаў ужо сваёй дачкі Катажыны. "Індзейскае" кола гэтай гісторыі замкнулася, калі ў 2003 г. айцец Васіль быў прызнаны свяшчэннамучанікам, пасля чаго яго імя стала часцей успамінацца і вернікамі з ліку карэнных на Алясцы.

Палёты І. Мазурука па трасе Алсіб, якой ён першым камандаваў і якую скарыстаў і пасол А. Грамыка, значаць

[91] L. [Leśniewski W. – яўрэй ад імя "індзейца"]. Rose-Marie – premiera w teatrze Jar // Nowy Kurier Warszawski. 1944. N 13. S. 3.
[92] Kaczyński B. Xenia… S. 63–64.
[93] Тамсама. S. 9.
[94] Тамсама. S. 74–75.

непазбежныя “беларуска-індзейскія” кантакты. Жыхары Фэрбанкса, сярод якіх было нямала аўтахтонаў, “захапляліся прыгожымі групавымі палётамі савецкіх лётчыкаў”[95]. Мазурук пісаў пра добрыя чалавечыя адносіны з персаналам, з якім яны супрацоўнічалі на Алясцы. Ён прызямляўся ў многіх месцах і пралятаў над вялікімі абшарамі кантынента, у т. л. над Амазонкай, таму, несумненна, назіраў на ўласныя вочы многія індзейскія рэаліі. Кіраўнік “Амторга” К. Лукашоў стаў намеснікам старшыні закупачнай камісіі па ленд-лізе ў Вашынгтоне, дзякуючы чаму яго сын даведаўся, што такое “індзейскае лета” (у публікацыі – “индийское”) у час вайны[96]. Канферэнцыя ААН, скліканая ў Сан-Францыска яшчэ да “Victory in Europe Day”, спрыяла ўзбагачэнню беларускай літаратуры кароткім эпізодам у апавяданні, але з уласных назіранняў жыцця ў рэзервацыі пісьменнікам[97]; наведванне яе ў канцы траўня як частка паездкі ў Ёсеміцкі парк, акрамя “Чорнай плямы” і нарыса М. Лынькова, адлюстравана і ў мемуарах кіраўніка дэлегацыі, якія дапоўнілі непрывабную карціну[98]. Туды і назад беларуская дэлегацыя лятала праз Аляску, з магчымасцю азнаёміцца з Фэрбанксам і Эдмантанам.

Член заканадаўчай асамблеі Манітобы, ураджэнец Магілёўскай губерні (Гомель, “каля Гомеля”, Гарадзец) М. Грэй (Грай, Гурар’е) патрабаваў ад урада вывучыць стан здароўя насельніцтва, ступень недастатковасці ў харчаванні і іншыя аспекты выкліканага дэпрэсіяй пагаршэння медыцынскіх паказчыкаў, якія выявіліся ў час абследавання прызыўнікоў. Агляд мусіў уключыць, у прыватнасці, “здароўе гарадскіх індзейцаў і метысаў”

95 [Электронны рэсурс] http://antarctic.su/books/item/f00/s00/z0000036/st007.shtml – Дата доступу: 28.09.2017.

96 Лукашев В. К. Президент “Амторга” // Неман. 1990. № 5. С. 122.

97 Лынькоў М. Чорная пляма // Лынькоў М. За акіянам. Мінск, 1962. С. 47–48.

98 Лынькоў М. За акіянам // “Свабоднае” грамадства зблізку. Мінск, 1984. С. 3, 17–18; Киселев К. В. Записки советского дипломата. Москва, 1974. С. 112–115.

і “найлепшыя шляхі, каб аблегчыць субстандартныя жыццёвыя абставіны многіх манітобцаў, уключаючы жыхароў рэзервацый (those on Reserves)”. У 1942 г. ён выступаў за выбарчыя правы для індзейцаў: “Тысячы людзей, што не нарадзіліся ў Канадзе, заслужылі права голасу праз працэс натуралізацыі, у той час як сапраўдныя карэнныя жыхары гэтай краіны, правінцыі і горада ўсё яшчэ чакаюць права голасу”[99].

Гісторыя салідарнасці з індзейцамі этнічных беларусаў з катэгорыі тых, хто выехаў перад прыходам савецкіх войскаў, крайне скупая на факты, але яны ўнеслі ўклад у беларуска-індзейскія сувязі ў галінах медыцыны, адукацыі і мастацтва. “Індзейская” сцежка многіх з іх пачыналася ў лагерах для перамешчаных асоб, а працягвалася для некаторых шлюбам з індыянкай[100], працай і нараджэннем дзіцяці ў рэзервацыі, купляй зямлі, што мяжуе з індзейскай. З мастакоў, якіх натхнілі індзейцы, найбольш вядомыя Г. Русак, Т. Стагановіч, І. Рагалевіч-Дутко і, бліжэй за іншых да ваеннай тэмы, М. Пашкевіч[101] з яго “Атакуючым індзейцам”.

Аб “няўлоўнай” прысутнасці індзейцаў у кантэксце ўдзелу Беларусі ў вайне сведчыць адзіная краязнаўча-індзеяністыцкая згадка – каманды “Вашынгтон рэдскінс” – у вядомай кнізе Дж. Лофтуса[102]: Дж. Тайсман, з аўстрыйскімі каранямі, мог быць неабыякавым да рысаў, якія дадавалі беларускія калабаранты іміджу мястэчка Саўт-

[99] Gray D. L. A personal perspective on the career of Morris A. Gray, “Earnest Debtor” // Jewish life and times. V. 5: A collection of essays and photographs. Winnipeg, 1988. P. 91.

[100] Ёрш С. Беларуская партызанка. [Б.м.], 1999. Друкавалася ў “Пагоні”, 1998, № 48, 50, 52, 53; дадатак у канцы: “Ліст апошняга партызана” С. Гукалюка ў “Беларускі голас” (Таронта, 1988, № 342), які з’явіўся таксама ў “Нашай Ніве”, 1998, № 17.

[101] Лыч Л. М. Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі: (верасень 1943 – кастрычнік 1964 г.). Мінск, 2009. С. 174.

[102] Лофтус Д. Секрет бригады // Беларуская думка. 1996. № 4. С. 110. [Loftus J. The Belarus secret. New York, 1982; Loftus J. America’s Nazi secret: an insider’s history. Walterville, OR, 2010.]

Рывер, у якім ён вырас і дзе жыў, у прыватнасці, маёр Буглай, і якія цікавілі амерыканцаў менш, чым “расізм” у назве каманды. У 1991 г. ветэран “нацыянальных” падполля і партызанкі В. Вір абурыўся, што нібыта ў “7 дней” іх “Беларускую Народную Грамаду” назвалі “Беліндзейскай Грамадой”[103].

Менгеле, які катаваў у Асвенціме і беларусаў, стаў “урадавым саветнікам па пытаннях індзейцаў” у Парагваі пры дыктатары Стрэснеры, сыне немца і жанчыны з criollo / гуарані: “Індзейцаў забіваюць або ў лепшым выпадку асуджаюць на катаржныя работы. Гэтыя метады падобныя на метады нацысцкіх канцлагераў”, паведамляў часопіс “Тайм”[104]. Пра перанос нямецка-нацысцкіх метадаў у фантастычную індзейскую краіну – у аповесці А. Якімовіча[105]. Пра выкраданне ў Аргенціне Эйхмана – ва ўспамінах І. Харэля[106].

Ураджэнец Украіны А. Сільвашка пераехаў у Беларусь ужо як фотазорка вайны дзякуючы здымку з лейтэнантам У. Робертсанам, які стаў сімвалізаваць сустрэчу на Эльбе. Менш вядома пра абмен падарункамі – індзейскім амулетам, які перад тым дапамагаў амерыканцам, і люлькай з савецкага боку – і пра ўласна беларускіх удзельнікаў сустрэчы. Сільвашка, які паўторна сустракаўся з “янкі”, прыгадвае выпадак, калі ён бачыў у амерыканскім аэрапорце індзейскага ветэрана вайны (ліст аўтару ад 12.3.1988 г. у архіве Беларуска-індзейскага таварыства).

Праз Беларусь прайшлі ваенныя шляхі многіх значных асоб у адносінах з краінамі Заходняга паўшар’я, даследчыкаў яго. Б. Стрэльнікаў (“Хто страляў у шэрыфа?”, дзе і пра Сільвашку) памёр праязджаючы праз яе ж у 1980 г. Герой Савецкага Саюза В. Вольскі, ураджэнец гомельска-бранскага пагранічча, стаў дырэктарам Інстытута Лацінскай

[103] Вір В. Загаўкалі і аб нашай Народнай Грамадзе // Беларускі голас. 1991. № 365. Кастр. С. 9.

[104] Менгеле – Архіў выразак – 1978-02-16 // Веснік БІТ. 2014. 20 студз. № 4.

[105] Якімовіч А. Эльдарада просіць дапамогі. Мінск, 1989. С. 5–123.

[106] Харэль И. Похищение палача. Киев, 1992.

Амерыкі АН СССР. Гэтае званне было нададзена танкісту-беларусу В. Марцехаву, які нарадзіўся на рудніку ў Агаё. У партызанах былі: этнограф і рэлігіязнавец акадэмік М. Нікольскі, баявы плакатыст і пазней ілюстратар "Сына вады" асецінска-польска-нямецка-руска-ўкраінскага паходжання М. Гуцieў, 12-гадовы будучы журналіст-міжнароднік, аўтар работ пра ФБР і ЦРУ А. Падабед.

Індзеяніст з МАЭ С. Ратнер-Штэрнберг, якая рыхтавала зборнік і канферэнцыю, прысвечаную 450-годдзю адкрыцця Амерыкі, запланаваную на кастрычнік 1942 г., зімой цяжка хварэла. "Не жадаючы прычыняць турбот" калегам, з якімі жыла ў сутарэнным пакоі музея, падпаліла сябе[107]. І. Крачкоўскі, пішучы працу "Арабская геаграфічная літаратура" і характарызуючы адзін з "тыповых для эпохі каланіяльнага занявольвання і эксплуатацыі мясцовых жыхароў" помнік, указвае менавіта на "тыповую" манеру выкладання фактаў у ім: "Зусім спакойна, без якога б там ні было ўсведамлення ўсяго жаху таго, што адбываецца. Але ў гэтым і ляжыць яго асноўнае значэнне, як важнай крыніцы для гісторыі і геаграфіі ўсёй гэтай эпохі". Тым не менш на ўспрыманне ўсходазнаўцам падарожжа араба ў Амерыцы наклаў адбітак і ваенны час: "чытаецца яно месцамі з цяжкім пачуццём"[108]. Ён працуе над гэтым раздзелам ва ўмовах блакады Ленінграда, цяжка хворы, лежачы ў ложку – у траўні 1942 г. Праз пэўны час пасол СССР урачыста ўручыць[109] партытуру Сімфоніі № 7 Дз. Шастаковіча кампазітару К. Чавесу (маці – "напалову індыянка"), вядомаму сваёй "Індзейскай сімфоніяй". 10 верасня 1942 г. Чавес дырыжыраваў на

[107] Решетов А. М. Отдание долга // Этнографическое обозрение. 1995. № 2. С. 53; Корсун С. А. Американистика в МАЭ в XX–XXI веках: собирательская и исследовательская деятельность // Этнография и археология коренного населения Америки. С.-Петербург, 2010. С. 54.

[108] Крачковский И. Ю. Арабская географическая литература / Избранные сочинения. Т. 4. Москва – Ленинград, 1957. С. 684.

[109] Сизоненко А. И. В стране ацтекского орла: первые советские полпреды в Мексике. Москва, 1969. С. 85.

прэм'еры ў Мексіцы "Ленінградскай" сімфоніі, а 26 траўня 1944 г. – і Сімфоніі № 8[110].

Да вайны разведчык у Мексіцы і ЗША, а пасля яе – аўтар аповесцяў "Жыццё ў растэрміноўку (Мексіканскія сцэны)" і "Хуан Меркада – мсцівец з Тэхаса" А. Карабіцын (сапраўднае – Кантар, ураджэнец Ла-Рыёха ў Аргенціне) быў закінуты на Чачэршчыну з разведвальна-дыверсійнай мэтай. "Франтавік-разведчык" Астапенка перад знікненнем у 1944 г. у Славакіі, куды быў скінуты з самалёта, пакінуў, паводле Б. Сачанкі, М. Танку ў Маскве на захаванне і паэму "Эдэм": "З густых кустоў вылазячы паволі, / Ішоў Дзікун, абдзёрты і паўголы, / Трымаючы з анучкі белы сцяг"... "Лясны дзікун з Майн-Рыдава рамана". В. Жыбуль (эл. п. 10.10.2017 г.) мяркуе, што згадка Майн Рыда, найбольш верагодна, звязаная з яго раманам пра перуанскую сям'ю ў Амазоніі "Выгнаннікі ў лесе".

Адным з адчувальных вынікаў вайны было ўключэнне яе ў лік дзіцячых гульняў і папулярнага чытання. Пляменнік Карабіцына У. Кантар сведчыць пра магчымасць уяўляць сябе "то індзейцам, то каўбоем, то храбрым партызанам ці падпольшчыкам, якія хаваецца ад гестапа", дадаючы: як гэта было ў «любімай кнізе дзяцінства "Партызанскі край"» (В. Лівенцава)[111]. Пра набор, які атрымліваўся, – і беларускі пісьменнік: "гуляў у вайну... чытаў адпаведныя кніжкі – пра бураў, што змагаліся за незалежнасць, пра індзейцаў, сярэднявечных рыцараў і мушкецёраў, пра беларускіх ды італьянскіх партызанаў"[112]. Але другі "заходнік", У. Клімовіч, які пераехаў у Мексіку, успамінаў пра сваю вёску інакш: "Ня ў немцаў і партызанаў, а ў індзейцаў. У нашай вёсцы была папулярная менавіта гульня ў індзейцаў"[113].

У БІБ Герой Савецкага Саюза К. Міхаленка адзначаны ў групе аўтараў, што пісалі пра гульню ў індзейцаў:

[110] Д. Д. Шостакович и его эпоха: материалы областной научно-практической конференции. Самара, 2006. С. 77.
[111] Кантор В. К. Историческая справка. Москва, 1990. С. 285.
[112] Каско А. Пераблытаны // Літаратурная Беларусь. 2012. 30 ліст. С. 16.
[113] Скобла М. Вольная студыя: кніга гутарак. [Б. м.], 2009. С. 118.

“Над пагоркам з ровам пралятаюць бамбардзіроўшчыкі” ВПС ЗША, хлапчукі з пер’ем у валасах “сцішыліся раптам, уселіся чародкай і зусім па-даросламу глядзяць маўкліва на аэрадром” каля Афін[114]. У вайну ён лятаў на біплане По-2, але павінен быў ведаць, якім стандартным кодам называюцца ў Люфтвафэ знішчальнікі праціўніка (такім чынам, у небе Беларусі слова *Indianer* гучала больш упарадкавана, чым на зямлі).

Прыклад таго, як слова *индейцы* гучала ў час вайны на Балканах, дае дзеяч кадэцкага руху І. Андрушкевіч (нар. 1927) з Буэнас-Айрэса (эл. п. 27.10.2017 г.): «Міхаіл Лермантаў у сваіх мемуарах (толькі першая частка была апублікавана ў “Кадетской Перекличке” № 80) апісвае, як група маладых рускіх паступіла ў Рускі Ахоўны Корпус у Бялградзе, у час вайны. Яны накінуліся на аднаго з іх, у грубай салдацкай гульні “мала куча”, якая была забаронена. Увайшоў афіцэр. Каманда “смірна”. Пытанне: “Што вы тут вытвараеце?” Адзін хітрун хутка знайшоўся: “Гуляем у індзейцаў”. Гэта не было забаронена. Працягвайце. З той пары гэтую роту ўсе называлі індзейцамі. У барацьбе з кампартызанамі на граніцы з Харватыяй яны нават вывесілі перад сваёй спальняй шыльду: “Індзейцы”. Нямецкі генерал, што праязджаў, жахнуўся, але яму ўсе растлумачылі, што сярод іх няма ніводнага індзейца, і ён супакоіўся». Далей Андрушкевіч сцвярджае, што сярод тых, хто “гуляў у індзейцаў”, а іх ён амаль усіх ведаў, не было ніводнага беларуса ці ўкраінца. І хоць ён з прычыны выхавання адмаўляецца ад важнасці і сваіх уласных беларускіх каранёў, яго сведчанне аб “3-й юнкерскай (індзейскай) роце” – частка нашай “індзейскай пераклічкі”.

У 1940 г. у Сербіі нарадзіўся Г. Міціч і памёр св. Севасціян (Дабавіч), таксама істотна звязаны індзейцамі – Аляскі. Ён згадваўся ў “Юбілейным зборніку ў памяць 150-годдзя Рускай Праваслаўнай Царквы ў Паўночнай Амерыцы” (ч. 1. Нью-Ёрк, 1944) разам з М. Грынкевічам, настаўнікам, як і Дабавіч, але геаграфіі ў царкоўнай школе Сан-Францыска, дзе іх вучнямі былі браты Васіль,

[114] Михаленко К. Служу небу. Минск, 1973. С. 306.

Мікалай і Раман Мартышы і святар з карэнных аляскінцаў Р. Качаргін, які пераражыў пагрозу з боку японцаў іх рэальным уварваннем на Алеуты, а таксама законанастаўнікам ташкенцкіх кадэтаў – ветэранаў, як і іншы іх педагог, капітан Я. Трусаў (пам. 1942, Бела-Црква), некалькіх войнаў. Рускі загранічны гістарычны архіў у Празе, у якім захоўваліся важныя дакументы па гісторыі беларуска-індзейскіх, асабліва -(карэнна)-аляскінскіх сувязяў, уключаючы сан-францыскі эпізод (Грынкевічаўскі даследчы і перакладчыцкі праект “Пра школу” / Сусветнае Руселеўскае таварыства), паспяхова пераражыў вайну і ў 1945 г. быў перавезены ў Маскву, дзе стаў часткай ЦДАКР.

Прыкладам паралелізму служаць “Дазорца маяка” Г. Сянкевіча, выдадзены Польскім саюзам прымусовай эміграцыі ў Гановеры ў 1945 г.[115], і “Сон над Нёманам” (пераклад, які з’явіўся ў зб. “Антологія білоруської поезії”, 1971, зрабіў ветэран АУН-УПА Д. Паламарчук у лагеры, дзе знаходзіўся да 1954 г.). Вывучэнню падлягае логіка выданняў, напрыклад, брашуры пра ролю працы ў працэсе антрапагенезу ў 1941 і 1945 г., як быццам з мэтай паказаць, што гэты працэс не скончыўся і ў выніку ратнай працы[116]. Расійская праграма алічбоўкі кніг 1941–1945 г. уключыла і кнігу Ю. Аверкіевай пра рабства ў індзейцаў[117], загаловак якой дэмаралізуе, а не мабілізуе. Калі разглядаць палітыку кнігавыдання ў гады вайны як разлічаную на мабілізацыю духоўных і фізічных сіл, то баявы дух палякаў уздымалі “Гражына. Конрад Валенрод” (у празаічных “тлумачэннях” паэта ў другім творы – параўнанне прадчування “страшнай хваробы” і з’яўлення іспанцаў) – выданне Саюза польскіх патрыётаў у СССР[118] і кніга “Касцюшка ў амерыканскай рэвалюцыі”, выдадзеная ў Нью-Ёрку[119]), а ўсходніх

[115] Sienkiewicz H. Latarnik. Hanower, 1945.

[116] Энгельс Ф. Роля працы ў працэсе ператварэння малпы ў чалавека. Мінск, 1945.

[117] Аверкиева Ю. П. Рабство у индейцев Северной Америки. Москва – Ленинград, 1941.

[118] Mickiewicz A. Grażyna. Konrad Wallenrod. Moskwa, 1944.

[119] Haiman M. Kosciuszko in the American revolution. New York, 1943.

славян – “Без языка” (“індзейскі ўдар” украінца, прататыпам якога быў беларус, у рускага пісьменніка, які паходзіў з украінскіх казакоў і польскай шляхты)[120].

Вобраз індзейцаў пераважае ў гэтым даследаванні над іх рэальнай прысутнасцю побач з беларусамі і ўраджэнцамі Беларусі, але яно паказвае магутнае дзеянне “індзейскага рухавіка” прынамсі ў ідэалагічнай сферы, у перайманні іх нематэрыяльнай спадчыны ў выглядзе вопыту, хоць і супярэчлівага. Гэта асабліва добра відаць на прыкладзе арыенціроўкі 1942 г. камандуючага тылавымі часцямі ва Украіне пра барацьбу з партызанскімі разведчыкамі: тут ён, бачачы або не ў дзеяннях партызан “індзейскае”, заклікае мець у знішчальных камандах людзей, “узброеных індзейскім чуццём” (зб. “Органы дзяржаўнай бяспекі СССР у Вялікай Айчыннай вайне”[121]), з відавочным разлікам і на выканаўцаў тыпу Шухевіча. Уплыў беларускага боку, уключаючы дыяспару, на індзейцаў і іх становішча адбываўся ў іх краінах, уцягнутых у вайну дыстанцыйна, і датычыўся як ваенных намаганняў, так і жыцця, мала з імі звязанага. Падрабязнае яго апісанне складае асобную значную частку тэмы, у якой немалое месца займае вобраз Беларусі ў выпрабаваннях, тэарэтычна і ў канкрэтных прыкладах даступны індзейцам праз магчымыя каналы.

Без грунтоўнага вывучэння ацэнак самімі індзейцамі падзей у Беларусі і вакол яе гіпотэзы аб магчымым збліжэнні або аддаленні іх і беларусаў не могуць быць цалкам пацверджаны, але выкладзены матэрыял сведчыць: (у галіне сімволікі) свастыка “збліжала”, да пары, але белы колер, “тапанімічна”, “антрапалагічна” і “палітычна”, быў і застаўся праблематычным; (у галіне ідэй, планавання) засяленне лебенсраўм каланістамі, стварэнне “своеасаблівых” рэзерватаў, перасяленне тутэйшых, некаторая рэвіталізацыя, але ў перспектыве – дэнацыяналізацыя, асіміляцыя нявыселеных, прымяненне “амерыканскіх” метадаў, найперш вайны з індзейцамі, трактоўка

[120] Короленко В. Без языка. Москва – Ленинград, 1942.
[121] Кніга на рус. мове, 2003, т. 3, ч. 2, с. 608.

“непаўнацэннага” насельніцтва як індзейцаў, экстэрмінацыя, зусім бязлітасна – прыхільнікаў радыкальнага калектывізму і яўрэяў (пытанне кваліфікавання людабойствам, акрамя Шоа і знішчэння ромаў, дыскусійнае), раз’яднанне праз наяўнасць мноства дэнамінацый, з разлікам на дэструктывізм “бажкоў”, апраўданне заваявання жорсткасцю сярод саміх абарыгенаў або іх вярхоў (ацтэкі) – усё гэта адназначна збліжае беларусаў і іх суседзяў, з агаворкамі наконт “каланізацыйна-пацыфікацыйнай” амбівалентнасці ўсіх, з індзейцамі. Некаторыя цэнтральныя канцэпцыі рэалізоўваліся ў інструкцыях на месцах (Май і антыпартызанскія рэкамендацыі, на заключных этапах вайны – “індзейска-партызанская” наадварот). “Прыўнесеныя” індзейскія і каляіндзейскія рэаліі (пасляваенныя асацыяцыі ў партызана-армяніна і ўласаўца, паэтычныя “магікане”) дапамагаюць псіхалагічна адаптавацца да рэчаіснасці. Плюралізм і памылковыя стэрэатыпы ўключаюць змешванне паняццяў і перабольшанне ступеняў, што тычыцца, напрыклад, Калумба; ад супрацоўніка “Свабоды” (Шары) чуецца апраўданне “безудержного полета фантазии” Мая, ад Буроўскага – заклік не перабольшваць “антрапафагію” немцаў. Магчымае праяўленне “лірычнай” “літасці” да (“)індзейцаў(”) немцамі-фашыстамі, а не толькі безыдэйнымі венгерскімі сялянамі, з-за іх выключнай культурнай “чырванаскурай місіі”, але – галіна кантактаў – папаўненню падлягае спіс індзейцаў, якія апынуліся ў лагерах разам з беларусамі, у т. л. на тэрыторыі Польшчы. Інтэнсіўнасць выкарыстання індзейскіх параўнанняў жыхарамі краін Усходняй Еўропы і ўзаемнага ўнутранага і знешняга дапасавання іх некалькі вар’іруе ў сувязі са спецыфікай этнагісторыі і этнапсіхалогіі. У той час як украінцы ацэньваліся “расава” ніжэй, чым беларусы, яны “заслугоўвалі” на 10% больш “гуманнага” абыходжання (65% планаванага адсялення). Хатынь мы разглядаем ужо і як сімвал “міжіндзейскай” вайны, які “пераходзіць” і ў Цэнтральную Амерыку. Падыход Адамовіча падмацоўвае думку, што карані “індзейскай вайны” – не толькі ў “белых фашыстах”, а і ў саміх “індзейцах”, якім недастатковы ўзровень грамадскай свядомасці

перашкаджаў згуртавацца перад пагрозай з боку новых "нястрымных Калумбаў". Падабенства тэрміналогіі і асацыяцыі (першынство і першапраходцы, канкіста, асаднік, камісар) засмучаюць тым, што падобныя з'явы развіваюцца пры розных укладах і рэлігіях або іх адсутнасці. Выпадкі адмовы індзейцаў і беларусаў выконваць патрыятычны доўг тлумачыліся антыамерыканскімі і антысавецкімі настроямі ці меркаваннямі самазахавання, але праблемы з "патрыятызмам" не перашкодзілі сумленнай большасці вытрымаць выпрабаванне яго, што было ідэалагічна важна для ЗША і СССР. "Абароннае" рэагаванне калабарацыяністаў уключала некаторае збліжэнне з каштоўнаснай сістэмай акупантаў; за акіянам яны папоўнілі шэрагі, якія кантактавалі з індзейцамі, але праяўлялі асцярожнасць, звязаную і з мінулым, у палітычнай салідарнасці. Бібліяцыд і страта крыніц індзеяністкай інфармацыі ў выніку "панавання [нямецка-фашысцкіх] дзікуноў" (К. Чорны) – цяжкая тэма, якую мы ледзь закранулі, што крыху кампенсуецца прыкладамі бібліятэчнай і выдавецкай дзейнасці пад акупацыяй, цікавай "несавецкім" падыходам. Ініцыяванне, мадыфікацыя, прасоўванне тых ці іншых твораў, мадэляў дапамагаюць ацаніць чалавечыя якасці праз "індзейскую" прызму: адпаведныя гульня, чытанне, кадаванне і іншае – распаўсюджаныя, стэрэатыпныя заняткі і метады. Выпадкі з жыцця, дзейнасці і смерці некаторых вядомых асоб з беларускімі каранямі паказваюць, як індзейская тэма зноў з'яўлялася ў новых, часам больш развітых, экстрэмальных, звязаных з неабходнасцю жыццёва важнага прыстасавання акалічнасцях і формах (знаёмства многіх беларусаў з Аляскай адбылося дзякуючы вайне – перагон самалётаў і больш бяспечны службовы маршрут; выратаванне, пасляваеннае ўрэгуляванне лёсу "на зямлі індзейцаў").

# The Belarusians and the Indians: the Second World War

**Alieś Simakoŭ**

Mainly entries from the Belarusian-Indian Society's Bibliography database are used to evaluate the Indian-related concepts and practices of Belarusians, their neighbors, counterparts and adversaries in World War II and to trace wartime contacts and mutual influences. Western / Hitlerite thought is analyzed for the presence of Indian comparisons applied or applicable to Belarus: the population's "primitive" communism, "cruelty", "dividing" cults, war on guerrillas with K. May, "expansion" and other sources of ideas and inspiration are the Wild East's targets, means and modes of treatment. Alcohol / tobacco, reservation / ghetto, genocide as tools and methods of conquest, extermination with their roots in the early Americas, Columbus, Chatyń, the Seminole Wars, the role of the swastika, the "racial" sense of the names "White Russia", "Red partisans" are among the matters discussed. The comparative assessment of the degree of "Indianness" in reactions, adaptations, stereotypes of the Belarusian, Polish, Russian, Ukrainian, Jewish communities reveals ethical barriers to indigenous unity and controversies over ethnic "victimology". With some exceptions in the retreating phase, the Germans don't associate themselves with the Indians, but encourage to use Indian fighting skills. Belarusian-Indian connections / parallels, the Indian impact, such as mascots, play Indians, on the warring sides in the arts, memoirs, publicism as well as books published, available and survived are drawn. War-effected professional activities in Belarus and its diaspora, the Indian topic in reading and creative work, the collaborationist press and correspondence supplement the material on the spiritual state of the people.

# Дзве інтэрпрэтацыі гісторыі: паміж савецкасцю і нацыянальным бачаннем*

## Рышард Радзік

Як правіла, гісторыя кожнай нацыі апісваецца і інтэрпрэтуецца не толькі ў катэгорыях той эпохі, да якой адносяцца канкрэтныя гістарычныя падзеі, але і з перспектывы часу, у тым ліку з выхадам за рамкі навуковай метадалогіі – з апеляцыяй да каштоўнасцяў і ацэнак, якія былі невядомы героям таго ці іншага гістарычнага наратыву (а нярэдка і іх эпосе наогул). Гісторыя поўная падзей, якія "спрадвеку" міфалагізаваліся. І ўсё ж, паколькі зусім натуральна, што кожнае грамадства – а не толькі гісторыкі – схільнае інтэрпрэтаваць мінуўшчыну як паслядоўнасць падзей, што прывялі да сучаснасці, а значыць, шукаць у мінулым прычыны цяперашняга стану (незалежна ад яго ўхвальнай ці крытычнай ацэнкі), мы павінны процістаяць прыпісванню героям мінулых эпох поглядаў і катэгорый мыслення, якія з'явіліся шмат у якіх выпадках значна пазней. Вядома, не заўсёды мы тут маем справу з адназначнымі сітуацыямі. Можна пагадзіцца з тым, што некарэктна рабіць з Мешкі I паляка – бо ён, па-першае, не ведаў гэтай саманазвы, а па-другое, мысліў племяннымі, а не культурна-дзяржаўнымі ці тым больш нацыянальнымі катэгорыямі, якія з'явіліся ў пазнейшыя стагоддзі. І нават калі мы знойдзем першага паляка – што асабіста мне наўрад ці ўдалося б, – дык, аналізуючы працяглую эпоху

* Арыгінал публікацыі: Radzik R. Dwie interpretacje dziejów: między sowieckośsią a wizją narodową // idem. Białorusini – między Wschodem a Zachodem. Lublin, 2012. S. 160–181.

"польскай" гісторыі, мы зразумеем, што польскасць гэтая ўвесь час эвалюцыянавала. Тым не менш, мы прызнаем – у ідэале абапіраючыся на прамыя выказванні гістарычных персанажаў, – што базавыя рысы гэтага паняцця заставаліся нязменнымі. Інакш кажучы, аднастайнасць базавых рысаў паняцця дамінуе ў гэтай сітуацыі над відазмяненнямі яго асобных элементаў, а пазнавальная карысць ад яго выкарыстання дамінуе над патрэбай яго ўдакладнення. На практыцы мы нярэдка сутыкаемся з сітуацыямі, дзе цяжка прыйсці да той ці іншай адназначнай высновы. Але ў сваім звароце да гісторыі Беларусі я засяроджуся на больш празрыстых сітуацыях.

У гістарыяграфіі нашых усходніх суседзяў мы маем справу з дзвюма асноўнымі плынямі – постсавецкай і нацыянальнай. У абодвух выпадках, хоць і – падкрэслю – у розным маштабе, прысутнічае тэндэнцыя разглядаць мінуўшчыну праз прызму актуальнай для цяперашняга моманту (хоць і запачаткаванай значна раней) ідэалогіі. Галоўная прычына таго, што міфатворчасць заняла ў беларускай гістарыяграфіі такое месца, заключаецца найперш у тым, што ў дасавецкі перыяд гістарычная навука ў беларусаў амаль не паспела развіцца, а ў сталінскі перыяд яе нясмелыя парасткі былі наогул знішчаны. Вынікі гэтага разгрому беларуская гістарыяграфія змагла сяк-так пераадолець толькі бліжэй да канца 1980-х – пачатку 1990-х гадоў. Пры гэтым перыяд першай паловы 1990-х быў занадта кароткі для таго, каб можна было прывучыць гісторыкаў да строгага навуковага падыходу і сучаснай метадалогіі. У гэтай сітуацыі даводзіцца канстатаваць, што толькі асобныя даследчыкі намагаюцца разглядаць гісторыю з чыста навуковых пазіцый, а асноўная маса гісторыкаў застаюцца пад адчувальным уплывам палітыка-ідэалагічнай зададзенасці. У СССР месца метадалогіі займаў вульгарызаваны марксізм-ленінізм, і наступствы такога становішча ў Беларусі адчуваюцца значна мацней, чым у сённяшняй Маскве. Выраслі пакаленні гісторыкаў (у тым ліку прафесараў), якія не трымалі ў руках ніводнага падручніка па метадалогіі гістарычнай навукі. На маю думку, выпраўленне гэтай

сітуацыі зойме дзясяткі гадоў, дый тое пры спрыяльных умовах. Дзяржава ж можа гэты працэс эфектыўна тармазіць – чым яна і займаецца.

Іншае, спецыфічна беларускае, пытанне – праблема з вызначэннем (у гістарычным аспекце) такіх паняццяў, як Беларусь, беларусы, беларускасць, беларуская нацыя. Аж да Першай сусветнай вайны ніводная дзяржава ў гісторыі не называлася "беларускай"[1]. Феадальная беларуская (ці, можа, літоўска-беларуская) нацыя, складзеная пераважна з тагачаснай шляхты, якая стварала інстытуты літоўска-беларускай дзяржавы і карысталася старабеларускай мовай як мовай тагачаснага пісьменства і эліты, зведала з цягам часу добраахвотную паланізацыю, што закранула як яе культурную, нацыянальную свядомасць, так у значнай ступені і моўную сферу. (Аналагічны працэс германізацыі адбываўся на былых заходніх землях колішняй удзельнай Польшчы і ахопліваў тамтэйшых Пястаў, якія адыходзілі ад польскасці.) Разрыў дзяржаўнай, моўнай, а ў выніку і нацыянальнай традыцыі, захаванне беларускасці працяглы час выключна ў этнічных (пераважна сялянскіх) формах на фоне актыўнага нацыягенезу, які адбываўся ў Еўропе ў XIX ст., пацягнулі за сабой сур'ёзныя наступствы для даследчыкаў гісторыі беларускага народа. Гісторыя мадэрных нацыянальных рухаў, або, калі казаць шырэй, цэлых нацыянальных супольнасцяў, – гэта перш за ўсё гісторыя інстытутаў, ідэалогій і герояў, якія стваралі нацыянальныя наратывы, што ляглі ў аснову ўсіх сучасных нацый. Гэта гісторыя, якая рабілася амаль выключна ў гарадах, а ў кожным выпадку – людзьмі дастаткова адукаванымі, якія ўмелі чытаць і пісаць. Беларусы на нейкі час былі пазбаўлены адпаведнага аспекту сваёй

[1] Назва *Беларусь* яшчэ ў першай палове XIX ст. адносілася толькі да ўсходніх губерняў сённяшняй Беларусі і мела тапанімічны характар. З сярэдзіны таго стагоддзя яна пачала пашырацца на захадзе краіны, але да яго канца бытавала пераважна ў якасці тапоніма. Выразны этнічны змест гэтая назва набыла ў XX ст., а канчаткова ўкаранілася ў свядомасці грамадства толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля заснавання БССР.

гісторыі. Гэта, з аднаго боку, прывяло да дэзарыентацыі адносна таго, што ў гісторыі было беларускім, а з другога – выклікае псіхалагічна зразумелую цягу да міфалагізацыі мінуўшчыны.

Беларуская інтэрпрэтацыя гісторыі дагэтуль застаецца пад моцным уплывам савецкай гістарычнай школы, якая ў дачыненні да Беларусі мела выразнае адценне расійскага шавінізму – і гэта пры тым, што афіцыйна СССР кіраваўся класавай ідэалогіяй. Выхаваныя ў гэтай традыцыі беларускія “гісторыкі” аднавілі свой уплыў у другой палове 1990-х г., часткова страціўшы яго пасля з’яўлення незалежнай Беларусі. Яны і іх выхаванцы маюць сёння прыкметную вагу ў большасці беларускіх гістарычных інстытутаў і кафедраў. Палякі ніколі не сутыкаліся з такім выхалошчваннем гістарычнай навукі, якое мела месца ў таталітарным СССР і асабліва ў Беларусі. Там яна на афіцыйным узроўні была цалкам ідэалагізавана і палітызавана. Свабода навуковых даследаванняў – як у галіне метадалогіі, так і ў плане магчымасці выбару праблематыкі – была фікцыяй, канфармізм быў неабходнай умовай захавання працы, а яго крайняя форма давала шанец на паспяховую кар’еру. Скажаліся як факты, так і іх інтэрпрэтацыі. Фальсіфікаваліся нават дакументы. Кантакты з Захадам не падтрымліваліся. Прыкладам такога роду практык можа быць хоць бы асвятленне асобы Кастуся Каліноўскага – кіраўніка паўстання 1863–1864 г. на Беларусі і Літве, які стаяў на адкрытых антырасійскіх, антыправаслаўных і праўніяцкіх пазіцыях ды хацеў аднавіць колішнюю Рэч Паспалітую. Тым не менш, у інтэрпрэтацыі аўтараў выдадзенай у 1954 г. “Гісторыі Беларускай ССР” яго погляды “адпавядалі спрадвечным запаветным памкненням беларускага народа ўз’яднацца з вялікім рускім народам у адзінай братняй сям’і”[2]. Наследуе такія здзеклівыя практыкі выдадзены ў 2000 г. – ужо ў незалежнай Беларусі – падручнік для XI класа сярэдняй школы, у якім, як піша Генадзь Сагановіч, «расійскага генерала

[2] История Белорусской ССР / под ред. В. Н. Перцева. Т. 1. Минск, 1954. С. 283.

Міхаіла Мураўёва – аўтара праграмнай русіфікацыі краю, празванага за сваю жорсткасць пры падаўленні паўстання 1863–1864 г. “вешальнікам”, – паказваюць “энергічным дзяржаўным дзеячом, які ведаў свае абавязкі і як след іх выконваў”, а скасаванне СССР і ўтварэнне СНД называюць дзяржаўным пераваротам»[3].

Паколькі асноўныя элементы (пазіцыі) беларускай гістарыяграфіі савецкага перыяду – а дакладней было б сказаць, гістарычнай ідэалогіі – сёння зноў вяртаюцца ў афіцыйны ўжытак, хоць і ў крыху мадыфікаваным выглядзе, дазволю сабе сціслa нагадаць некаторыя яе пастулаты, асабліва тыя, што датычаць нацыянальнага пытання (хоць для беларусаў яны будуць хутчэй антынацыянальнымі).

Згодна са сцверджаннем пра першапачатковае этнічнае адзінства ўсходнеславянскіх народаў, у тэзісах ЦК КПСС за 1954 г. была сфармулявана наступная пазіцыя: “Рускі, украінскі і беларускі народы вядуць сваё паходжанне з адзінага кораня – старажытнарускай народнасці, якая стварыла старажытнарускую дзяржаву – Кіеўскую Русь”[4]. Полацкае княства, такім чынам, не магло разглядацца як самастойнае ўтварэнне, якое дало пачатак незалежнасці і самабытнасці – а з цягам часу і нацыянальнай адметнасці – беларусаў.

Вялікае Княства Літоўскае лічылася выключна літоўскай дзяржавай. Сцвярджалася, што беларусы, якія яго насялялі, былі гвалтоўна адарваны ад Расіі і за кошт паланізацыі пачалі адрозніватца ад рускіх[5].

[3] Sahanowicz H. Losy białoruskiej historiografii: od sowietyzacji do zachodniorusizmu nowego typu // Studia Białorutenistyczne. T. 3. 2009. S. 136.

[4] Тезисы о 300-летии воссоединения Украины с Россией (1654–1954). Москва, 1954. С. 5.

[5] Вынікам такога ходу думак быў тэзіс савецкай гістарыяграфіі аб тым, што беларусы нібыта ўвесь час імкнуліся да ўз’яднання з Расіяй (Маскоўскай дзяржавай). Л. Абэцэдарскі ў кнізе “Беларусь і Расія” раздзел пад назвай “Вызваленчая барацьба народных мас Беларусі ў час руска-польскай вайны 1654–1667 гг.” завяршае фразай: “У ходзе руска-польскай вайны 1654–1667 гг. асабліва яскрава праявілася імкненне беларускага народа да ўз’яднання з рускім народам” (Абецедар-

Люблінская унія 1569 г., у святле гэтай канцэпцыі, прынесла беларусам зло, бо паспрыяла іх паланізацыі, а Берасцейская унія 1596 г. была праявай экспансіі польскага каталіцызму.

Савецкія гісторыкі сцвярджалі таксама, што масавыя перасяленні беларусаў углыб Расіі, якія адбываліся ў выніку польска-літоўскіх войнаў у 1654–1667 г., насілі добраахвотны характар.

Падзелы Рэчы Паспалітай трактаваліся як пазітыўны акт, які дазволіў беларусам, што вякамі пакутавалі ад прыгнёту літоўцаў і палякаў, здзейсніць свае мары аб уз'яднанні з Расіяй. У сваю чаргу, паўстанне 1863–1864 г. абвяшчалася выключна польскім. Сцвярджалася, што ўз'яднанне беларускіх земляў з расійскімі спрыяла эканамічнаму развіццю Беларусі і росту рэлігійнай талерантнасці, якая раней адсутнічала.

"Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ніколі не было беларускай дзяржаўнасці. Толькі дзякуючы перамозе Кастрычніка беларускі народ атрымаў права на самавызначэнне, аж да дзяржаўнага аддзялення, стварыў сваю рабоча-сялянскую дзяржаву і,

ский Л. С. Белоруссия и Россия. Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI – XVII в. / под ред. З. Ю. Копысского. Минск, 1978. С. 200). Такі погляд на мінулае беларуска-расійскіх узаемаадносінаў па-ранейшаму ўласцівы частцы беларускай гістарыяграфіі перыяду незалежнасці і выразна прысутнічаў у лозунгах, з якімі ў 1994 г. прыйшоў да ўлады А. Лукашэнка, а таксама ў яго палітычнай праграме, асабліва ў 1990-я гады. Падобнае агістарычнае мысленне можа набываць і іншы вектар. У такім разе можна пачуць сцверджанні, што пасля таго, як землі Маскоўскага княства былі захоплены татарамі (Залатой Ардой), тамтэйшае рускае грамадства было адлучана ад сваіх кіеўскіх каранёў і надоўга трапіла пад моцны ўплыў чужой ім азіяцкай культуры – у адрозненне ад іншых русінаў, якія захавалі сваю прыналежнасць да еўрапейскай культуры і разам з палякамі ды літоўцамі стварылі дзяржаву, што вякамі славілася ў Еўропе сваім дэмакратычным, як на тыя часы, ладам. Гвалтоўнае адлучэнне маскавітаў (пазнейшых рускіх) ад русінаў (пазнейшых украінцаў і беларусаў) прычынілася да фармавання ў іх адрознай ад рускай еўраазіяцкай культуры.

вызваліўшыся ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, у дзяржаўным саюзе з працоўнымі брацкіх савецкіх рэспублік паспяхова будуе камуністычнае грамадства"[6]. Такога погляду савецкія гісторыкі і ідэолагі прытрымліваліся на працягу дзесяцігоддзяў існавання БССР.

Гэта была карціна гісторыі Беларусі, намаляваная з расійскага пункту гледжання, якая абгрунтоўвала падпарадкаванне Беларусі расійскай дзяржаве, яе культурную і моўную русіфікацыю. У розныя перыяды існавання СССР выказваліся і больш узважаныя погляды на беларуска-расійскія ўзаемаадносіны. Тым не менш, названыя пазіцыі ў цэлым пераважалі. Аляксандр Смалянчук, рэзюмуючы галоўныя высновы адной з прац надзвычай уплывовага беларускага савецкага гісторыка Лаўрэнція Абэцэдарскага, піша: «Ролю гістарычнага ворага беларускага народа выконвалі (апрача сучасных аўтару "паслугачоў імперыялізму") мангола-татарскія захопнікі, нямецкія "псы-рыцары", беларускія, літоўскія, польскія феадалы і шляхта, рымскія папы, каталіцкая царква, езуіты, уніяцкае духавенства, гарадскія "багацеі", землеўладальнікі і кулакі, беларускія капіталісты (напрыклад, Скірмунты); нарэшце, "даўнія буржуазна-нацыяналістычныя фальсіфікатары гісторыі". Захапленне вобразам "ворага", якога ўжо з міжваеннага перыяду найчасцей убіралі ў касцюм "польскага пана", непазбежна вяло да таго, што ў тагачаснай гістарыяграфіі беларусы не адказвалі за тварэнне ўласнай гісторыі. Яны былі толькі аб'ектам нацыянальнага і сацыяльнага ўздзеяння старонніх сіл і практычна ніколі не выступалі ў ролі гістарычнага суб'екта»[7]. Двое вучняў Абэцэдарскага, адным з якіх быў сузаснавальнік "новай" канцэпцыі гісторыі Беларусі пачатку 2000-х г.

[6] Абецадарскі Л. С. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. С. 40–41.

[7] Smalanczuk A. Problemy rozwoju białoruskiej historiografii postsowieckiej albo nauka pod jarzmem "sowieckości" // Studia Białorutenistyczne. T. 5. 2011. S. 94. Смалянчук спасылаецца на працу Л. С. Абэцэдарскага "У святле неабвержных фактаў" (Мінск, 1969), у якой Абэцэдарскі выклаў галоўныя прынцыпы савецкай інтэрпрэтацыі гісторыі Беларусі.

Якаў Трашчанок, крытыкуючы гістарычныя погляды М. Прашковіча, «адкрыта ацэньвалі, – сцвярджае Генадзь Сагановіч, – падзеі і постаці з гісторыі Беларусі з пункту гледжання інтарэсаў Расіі; яны гramілі унію як "вераломную спробу Ватыкана і магнатаў Рэчы Паспалітай, што імкнуліся падпарадкаваць сабе беларускі народ і разарваць яго сувязі з рускім народам", уніяцкага мітрапаліта, пісьменніка-палеміста Іпація Пацея называлі "змрочным д'яблам", а праваслаўнага манаха Афанасія Філіповіча, які шпегаваў на карысць Расіі, лічылі выразнікам інтарэсаў беларускага народа»[8].

Гэтая канцэпцыя гісторыі Беларусі, больш ці менш мадыфікаваная, сёння вяртаецца на старонкі беларускіх кніг, школьных і ўніверсітэцкіх падручнікаў, хоць, вядома ж, сучасная беларуская гістарыяграфія не вычэрпваецца ёю. Яе найважнейшыя элементы можна знайсці ў выдадзенай у 2006 г. пад эгідай – што немалаважна – Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь працы вядомага ў Беларусі ідэолага, філосафа і вучонага Льва Крыштаповіча пад назвай «Беларусь і Расія: гістарыясофскае і цывілізацыйнае адзінства»[9]. У ёй паўтараюцца практычна ўсе згаданыя пастулаты, што ахопліваюць перыяд ад узнікнення Кіеўскай Русі да падзелаў Рэчы Паспалітай. Асноўную думку гэтай працы можна перадаць у адным сказе: усё зло прыходзіла на Беларусь з Захаду – каталіцызм, езуіты, паланізацыя, магдэбургскае права, польскія і літоўскія феадалы, ад якіх пакутаваў беларускі народ; затое з Расіі ішло дабро – праваслаўе, высокая культура, войскі, якія баранілі беларускія культурныя помнікі, вывозячы іх у Маскву, аж пакуль у выніку заняпаду Рэчы Паспалітай не здзейсніліся мары беларусаў аб уз'яднанні з Расіяй. "Ніякіх

[8] Sahanowicz H. Losy białoruskiej historiografii. S. 116–117 (Сагановіч спасылаецца на публікацыю: Люкевич В., Трещенок Я. Истине вопреки // Советская Белоруссия. 22.02.1966. С. 3).

[9] Криштапович Л. Е. Беларусь и Россия: историософское и цивилизационное единство. Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь, 2006. 94 с. (гл. маю рэцэнзію на гэтую працу: Studia Białorutenistyczne. T. 4. 2010. S. 299–309).

прынцыповых адрозненняў паміж рускім (маскавітам) і рускім (беларусам) не было"[10], – сцвярджае беларускі вучоны, гаворачы пра падзеі XVI ст. Пазнейшы перыяд, аж да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, разглядаецца праз прызму вострай барацьбы беларусаў і ўкраінцаў з польскімі панамі і каталіцка-ўніяцкімі ксяндзамі-місіянерамі. "Уз'яднанне Беларусі з Расіяй" трактуецца як прагрэсіўная падзея, якая ліквідавала пагрозу паланізацыі і "акаталічвання" беларускага народа. "Выдатныя гісторыкі і філосафы, – піша Крыштаповіч, – адназначна ацэньвалі дзяржаўнае ўладкаванне Рэчы Паспалітай як гістарычны анахранізм, як самую прымітыўную грамадскую форму"[11]. Пры гэтым ён дадае, што "Расія аб'ектыўна адыграла прагрэсіўную ролю ў справе вызвалення Беларусі і Украіны ад польскага прыгнёту"[12]. На фоне анархізаванай Рэчы Паспалітай Расія для беларускага вучонага выглядае ў яўна лепшым святле. Такое ўяўленне пра сваіх суседзяў – істотны элемент не толькі беларускай гістарыяграфіі, але і свядомасці значнай часткі беларускага грамадства. Тэзіс Крыштаповіча пра неабходнасць сучаснага саюзу беларусаў, рускіх і ўкраінцаў у рамках адзінай усходнеславянскай (з галоўнай роляй Расіі) супольнасці, які можна сустрэць і шмат у якіх іншых працах, мае ідэалагічна-палітычны (каштоўнасны), а не навуковы характар, гэтак жа як і панславісцкія тэзісы XIX ст., з якіх выцякала, што паколькі рускія належаць да славян, дык усе славяне павінны згуртавацца пад скіпетрам расійскіх цароў. Палеміку з поглядамі беларускіх нацыяналістаў Л. Крыштаповіч вядзе без спасылак на іх працы і толькі зрэдку прыводзіць асобныя загалоўкі. Ён вінаваціць некаторых беларускіх гісторыкаў і інтэлектуалаў у тым, што яны "занадта рабалепныя перад заходняй цывілізацыяй, каб быць разумнымі гісторыкамі ў дачыненні да Расіі"[13].

[10] Криштапович Л. Е. Беларусь и Россия. С. 21.
[11] Тамсама. С. 78.
[12] Тамсама.
[13] Тамсама. С. 19.

У падобным стылі, як правіла, пішуцца гістарычныя раздзелы падручнікаў па прадмеце "Асновы ідэалогіі беларускай дзяржавы". Не выключэнне тут і развагі вядомага беларускага гісторыка М. Сташкевіча ў навучальным дапаможніку для ВНУ, выдадзеным у 2004 г.[14]. Пра Люблінскую унію ён піша: "…трагічная старонка гісторыі нашага народа"[15]; тагачасная ж Рэч Паспалітая, паводле яго слоў, "як дзяржава менш за ўсё была зацікаўлена ў развіцці беларусаў як самабытнага народа. Больш за тое, яна рабіла ўсё, каб сцерці з памяці беларусаў іх этнічную прыналежнасць. Акурат у гэты час большасць беларусаў усвядомілі, што дзеля свайго самазахавання як этнасу, дзеля свайго далейшага гістарычнага развіцця яны павінны вярнуцца да сваіх агульнарускіх каранёў, да вытокаў сваёй дзяржаўнасці"[16]. Экспансіяніcцкія памкненні палякаў у дачыненні да беларусаў у перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай М. Сташкевіч пацвярджае спасылкамі на Людвіка Гурскага і Генрыка Сянкевіча[17]. Увесь яго тэкст вызначаецца яўным агістарызмам і прэзентызмам. Сташкевіч, як і многія іншыя прыхільнікі постсавецка-заходнярускай школы, выступае за інтэграцыю Беларусі з Расіяй. Ён лічыць, што ў сучасным глабалізаваным свеце сапраўдны палітычны суверэнітэт можа мець толькі блок дзяржаў, аб'яднаных агульным "цывілізацыйным назоўнікам" – рэлігіяй, этнічнымі каштоўнасцямі, культурай, сакральнымі цэнтрамі, блізкім разуменнем шляхоў гістарычнага развіцця. "Акурат такой асновай стабільнага існавання і дынамічнага ўстойлівага развіцця Беларусі ў сістэме сучасных міжнародных стасункаў з'яўляецца саюз з Расіяй. <…> У рамках гэтага саюзу Рэспубліка Беларусь, несумненна, захавае свой суверэнітэт і можа бязбольна інтэгра-

[14] Основы идеологии белорусского государства. Учебное пособие для вузов. Минск, 2004 (гл. маю рэцэнзію на гэтую працу: Radzik R. Białoruska wizja ideologii państwowej // Studia Białorutenistyczne. T. 1. 2007. S. 101–118).

[15] Тамсама. С. 27

[16] Тамсама.

[17] Тамсама. С. 25.

вацца ў сусветную супольнасць”[18]. Пададзены тут спосаб мыслення паходзіць з савецкіх рэалій, калі Беларусь мела ўсе неабходныя атрыбуты дзяржаўнага суверэнітэту – урад, парламент, сталіцу і адміністрацыйную мяжу, якія, праўда, у цэлым не мелі вялікага палітычнага значэння, але да якіх беларусы, за адсутнасцю іншага, прывыклі. Вынікам такога разумення свайго суверэнітэту былі звесткі сацыялагічных апытанняў 1990-х г., у якіх больш як 60% беларусаў выказваліся за незалежную Беларусь і адначасова – за інтэграцыю з Расіяй, не бачачы ў гэтым, у адпаведнасці са сваім гістарычным вопытам, ніякай істотнай супярэчнасці[19]. Абодва аўтары – Л. Крыштаповіч і М. Сташкевіч – прадстаўляюць ужо не столькі дэнацыяналізаваны, колькі антынацыянальны пункт гледжання, паколькі іх канцэпцыі растварэння беларускага ў рускім занадта далёкасяжныя. Час ад часу гэтая пазіцыя прыглушаецца ў сувязі з канфліктамі паміж Лукашэнкам і Пуціным (Мядзведзевым), якім спадарожнічае выразнае аслабленне інтэграцыйных тэндэнцый.

Постсавецка-заходнярускі пункт гледжання на гісторыю і культуру Беларусі, які набірае моц з другой паловы 1990-х г., асабліва падкрэслівае значэнне праваслаўя для захавання беларускай самабытнасці, бо менавіта праваслаўе, у вачах прадстаўнікоў гэтай плыні, – гарант захавання сувязяў з рускай культурай і прыналежнасці да супольнай цывілізацыі. Кірунак поглядаў гістарычнай “школы”, якая карыстаецца афіцыйнай падтрымкай, вызначаюць падручнікі Я. Трашчанка (колішняга інстытуцкага выкладчыка прэзідэнта Лукашэнкі). А. Смалянчук так апісвае змест гэтых поглядаў: «У гэтых выданнях можна было ўбачыць яўную спробу мадэрнізацыі традыцый савецкай гістарыяграфіі з выкарыстаннем канцэпцый “заходнерусізму” і велікарускага шавінізму, дапоўненымі добрай порцыяй праваслаўнага фанатызму. Адраджалася канцэпцыя “старажытнарускай народнасці”. Пры гэтым “вырашальным фактарам іх (усходніх славян. – *Р. Р.*)

[18] Тамсама. С. 34.
[19] Гл.: Radzik R. Kim są Białorusini? Toruń, 2002. S. 96–97.

этнічнага згуртавання, кансалідацыі старажытнарускай народнасці" прызнавалася праваслаўе»[20]. «Падрэслівалася, што адступніцтва ад праваслаўя непазбежна вяло да "культурнай, моўнай, этнічнай асіміляцыі"»[21]. «Зноў дзеячоў беларускага нацыянальнага руху залічалі не толькі да "антынародных" (што адпавядала савецкай традыцыі), але і да "антырасійскіх сіл". Акурат нацыяналісты расцэньваюцца як ворагі нумар адзін у беларускай гісторыі»[22]. «Пры гэтым, – рэзюмуе думкі Я. Трашчанка А. Смалянчук, – "польскія памешчыкі" нібыта так жорстка эксплуатавалі беларускіх сялян, што тыя апынуліся на мяжы фізічнага знікнення. Выжыць беларусам дапамагалі толькі "эканамічныя, царкоўныя і культурныя сувязі з Расіяй". Але нават "уз'яднанне з Расіяй" (тэрмін Я. Трашчанка) не палепшыла становішча беларускіх сялян, бо "польскія паны абаранялі свае эканамічныя і сацыяльныя інтарэсы". Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Літве ён называе чыста польскім паўстаннем, у падаўленні якога актыўны ўдзел бралі беларускія сяляне, кіруючыся "вякаміназапашанай нянавісцю да польскага пана"»[23].

У другой частцы свайго падручніка па гісторыі Беларусі для ВНУ, прысвечанай савецкаму перыяду, Трашчанок

[20] Трещенок Я. И. История Беларуси. Ч. 1: Досоветский период. Учебное пособие. Могилёв, 2003. С. 67. Існаванне "старажытнарускай народнасці" ў форме "метаэтнічнай супольнасці" адстойваў і іншы гісторык з Магілёва – Ігар Марзалюк. Ён спрабаваў таксама давесці існаванне канфесійнага (праваслаўнага) падмурку, на якім адбывалася нацыянальнае фармаванне беларусаў. Згодна з духам заходнерусізму, прадстаўнікоў каталіцкага веравызнання ён называе "палякамі", а "паланізацыю" разглядае як сінонім "каталізацыі" – Марзалюк І. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і культурныя стэрэатыпы (X–XVII ст.). Магілёў, 2003. С. 30–31, 104 і інш. (спасылка аўтарства А. Смаленчука: Smalanczuk A. Problemy rozwoju białoruskiej historiografii postsowieckiej. S. 101).

[21] Smalanczuk A. Problemy rozwoju białoruskiej historiografii postsowieckiej. S. 101 (А. Смалянчук цытуе працу: Трещенок Я. И. История Беларуси. С. 10).

[22] Тамсама. С. 92

[23] Smalanczuk A. Problemy rozwoju białoruskiej historiografii postsowieckiej. S. 101.

адводзіць апісанню акалічнасцяў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. (для беларускіх нацыяналістаў гэта адна з найважнейшых падзей у гісторыі Беларусі XX ст.) літаральна два сказы, а некалькі наступных прысвячае крытыцы гэтай падзеі, нічога не гаворачы пра змест праграмы заснавальнікаў БНР і нават не называючы іх пайменна. Усіх іх ён акрэслівае як "нацыяналістаў" і "калабарантаў"[24].

Поглядам такога роду, якія постсавецкую парадыгму спалучаюць з адкрытымі апеляцыямі да колішняга заходнерусізму, а таму, з пункту гледжання беларускіх нацыяналістаў, маюць антынацыянальную накіраванасць, уласціва непрыкрытая падтасоўка фактаў пад загадзя сфармуляваныя канцэпцыі і метадалагічная некампетэнтнасць, у тым ліку нярэдка дрэннае знаёмства з базавай галіновай літаратурай. У БССР такі вобраз гісторыі Беларусі навязваўся праз школьныя падручнікі, афіцыйную прапаганду і палітыку таталітарнай дзяржавы, дзякуючы чаму значнай частцы грамадства, у тым ліку носьбітам улады, ён і дагэтуль блізкі. Ступень міфалагізацыі гісторыі ў Беларусі вельмі высокая. Вядома, вектар падобнай вульгарызацыі здольны вельмі сур'ёзна ўплываць на развіццё грамадства і нацыі. Гістарычныя міфы могуць спрыяць суб'ектывацыі грамадства (нацыі) ці зводзіць яго да ролі аб'екта гісторыі, стымуляваць яго актыўнасць ці схіляць да пасіўнасці, надзяляць каштоўнасцямі, што натхняюць на калектыўныя здзяйсненні ў імя нацыянальнай культуры, незалежнасці і рэформаў (мадэрнізацыі краіны), ці рабіць з грамадства хутчэй сукупнасць індывідуумаў (а не супольнасць), якія дбаюць выключна пра асабісты дабрабыт, а таму без пярэчанняў падпарадкоўваюцца ўладзе. Немалаважна і тое, што гісторыкі праз сваю інтэрпрэтацыю падзей мінуўшчыны нярэдка прычыняюцца да фармулявання бягучай ідэалогіі, якая можа мець надзвычай вялікі ўплыў на жыццё грамадства.

[24] Трещенок Я. И., Воробьев А. А., Пурышева Н. М., Матюшевская М. И. История Беларуси. Ч. 2 / под ред. Я. И. Трещенка. Могилёв, 2005. С. 37.

Безумоўна, прыхільнікі нацыянальнай плыні ў беларускай гістарыяграфіі бачаць мінуўшчыну свайго народа інакш, чым адэпты постсавецка-заходнярускага напрамку. З гэтай прычыны адрозніваюцца і каштоўнасці, якія кожная з канцэпцый транслюе грамадству. І хоць абодва напрамкі разглядаюцца тут у тыпалагічным святле, я не хацеў бы стварыць уражанне, што яны ва ўсіх адносінах радыкальна процістаяць адзін аднаму. У адрозненне ад постсавецкага напрамку, які развіваўся на працягу дзесяцігоддзяў (а то і даўжэй, калі ўлічыць апеляцыі да гістарыяграфіі царскага перыяду), а таму не схільны сёння да нейкага наватарства і дадатковай інтэлектуальнай працы, прыхільнікі нацыянальнай плыні не могуць абаперціся ў сваёй інтэпрэтацыі гісторыі Беларусі на такую ж трывалую і распрацаваную традыцыю. Фундаментальныя адрозненні ў поглядзе на гісторыю прадстаўнікоў двух напрамкаў (або, прасцей кажучы, школ) беларускай гістарыяграфіі абумоўлены не толькі сацыяльнымі (палітычнымі), але і псіхалагічнымі абставінамі. Перыяд сталінскіх чыстак, г. зн. масавых рэпрэсій, у асяроддзі гісторыкаў перажылі найперш радыкальныя канфармісты. Апрача таго, лаяльнасць да ўлады з боку вядучых савецкіх гісторыкаў часта тлумачылася элементарнымі матэрыяльнымі прычынамі, бо іншых магчымасцяў дабіцца матэрыяльнага і кар'ернага поспеху было тут значна менш, чым на захадзе Еўропы. У перыяд распаду СССР нават самі біяграфіі вядучых артадаксальных гісторыкаў служылі пацвярджэннем тэзісаў, што адстойваліся імі на працягу дзесяцігоддзяў (дагэтуль іх кантакты з заходнімі гісторыкамі зведзены да мінімуму). Асяроддзе нацыянальна арыентаваных гісторыкаў фармавалася ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гадоў у значнай ступені з тых, хто незадоўга да гэтага толькі паспеў скончыць ВНУ. Савецкія пастулаты, нярэдка абсурдныя ў кантэксце беларускай гістарыяграфіі, спачатку інкарпараваліся ў яе пад страхам фізічнага знішчэння, а потым настолькі ўкараніліся, што большасць ужо і не задумвалася над сцверджаннямі, прынятымі ў падручніках у якасці аксіём. Пазнаёміцца з альтэрнатыўнымі меркаваннямі ва ўмовах савецкай

цэнзуры і закрытасці было немагчыма. З'ездзіць у даследчых мэтах нават у "братнія сацыялістычныя краіны" было вельмі цяжка, а на Захад – амаль немагчыма. Толькі прадстаўнікі новага пакалення часоў гарбачоўскай перабудовы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з іншымі поглядамі (і не толькі на гісторыю), пасля таго як упершыню змаглі выехаць за межы СССР (найчасцей у 1990–1992 г.), у тым ліку на навуковыя канферэнцыі ў Польшчу. Маладыя нацыяналісты выраслі ў зусім іншых рэаліях, чым іх старэйшыя калегі па навуковых інстытутах, – у атмасферы адкрытасці і надзеі, юнацкага запалу, веры ў сваю беларускасць, у тое, што яны і іх бацькаўшчына могуць цяпер самі вяршыць свой лёс. Міжнародныя кантакты азначалі для іх кантакты з Еўропай, а не з Масквой, Іркуцкам і Пекінам. Такая інакшая геаграфічна-культурная арыентацыя абумовіла (калі не для ўсіх, то для многіх прадстаўнікоў гэтага асяроддзя) і іншы навуковы, у тым ліку метадалагічны, кантэкст.

У сярэдзіне 1990-х г. палітычная сітуацыя ў Беларусі досыць рэзка змянілася, у выніку чаго асяроддзе беларускіх нацыянальных гісторыкаў было паступова адсунута на перыферыю інстытуцыяналізаванай навукі, раздроблена ў навуковых адносінах, а прыток моладзі ў яго значна скараціўся. Іншымі словамі, чым больш адкрыта прадстаўнікі нацыянальнай школы выказвалі свае погляды, тым менш у іх заставалася шанцаў прадоўжыць працу ў дзяржаўных навуковых установах, у тым ліку ў ВНУ. Гэта абмежавала магчымасці самаўзнаўлення і росту асяроддзя, стымулявала зварот да самацэнзуры ў часткі яго прадстаўнікоў, а тых, хто быў звольнены з дзяржаўных інстытутаў, нярэдка ставіла ў залежнасць ад замежнага фінансавання. Сёння вядомыя прадстаўнікі гэтага напрамку ў беларускай гістарыяграфіі – гэта пераважна тыя, хто пачаў сваю навуковую кар'еру больш як дваццаць гадоў назад. Таму ў дадзеным выпадку можна гаварыць хутчэй пра навуковы рост асобных даследчыкаў, а не ўсёй школы. З аднаго боку, вынікам такой сітуацыі стаў кепскі стан беларускіх гістарычных навук, а з другога – захаванне рэзкай палярызацыі паміж гісторыкамі. Ступень

адрозненняў у поглядах прадстаўнікоў двух напрамкаў на гісторыю ўласнага народа настолькі вялікая, што папросту беспрэцэдэнтная для несавецкай Еўропы. Пры гэтым адназначнае вырашэнне супярэчнасцяў на карысць адной або другой школы можа мець не раўнуючы цывілізацыйнае значэнне. Сёння нацыянальная плынь уяўляе сабой у значнай ступені згуртаванне нонканфармістаў – калісьці рамантыкаў, а часткова і стваральнікаў новых міфаў[25]. Вядома, у асяроддзі, на развіццё якога накладзены такія моцныя палітычныя і інстытуцыйныя абмежаванні і якое да таго ж было выхавана ў даўнейшых рэаліях, не могуць не праяўляцца рудыменты састарэлых катэгорый мыслення, хоць у выпадку кожнага асобнага даследчыка яны праяўляюцца вельмі па-рознаму. У вузкай праслойцы лідараў нацыянальнай школы можна назіраць працэс паслядоўнага пераймання заходніх навуковых падыходаў. Аднак некаторыя яе прадстаўнікі займаюцца гісторыяй паводле люстранога прынцыпу ў дачыненні да постсавецкага напрамку і адрозніваюцца ад яго хутчэй поглядамі, чым метадалогіяй, асабліва калі гаварыць пра тых, каго нельга назваць сапраўднымі гісторыкамі ні паводле адукацыі, ні паводле кругагляду. Вось чаму па-ранейшаму ў іх гістарычных працах можна сустрэць сур'ёзныя спасылкі на выдадзеную ў 1910 г. брашуру "Кароткая гісторыя Беларусі" Вацлава Ластоўскага, якая хоць і была ў сваім родзе першай ластаўкай у беларускай гістарыяграфіі, але ж мела ўсе адзнакі аматарскага, другаснага, поўнага спрашчэнняў твора, які цяжка прызнаць навуковым[26]. Тым не менш, для сяго-таго яна па-ранейшаму ўвасабляе гарызонты гістарычнай думкі, што, несумненна, шкодзіць узроўню беларускай гістарыяграфіі.

[25] Гл.: Winnicki Z. J. Współczesna doktryna i historiografia białoruska (po roku 1989) wobec Polski i polskości. Wrocław, 2003. Гл. рэц.: Смалянчук А. У пошуках ворага польскай нацыі // БГА. Т. X (2003). С. 255–280.

[26] Гл.: Radzik R. Wizja Polski i Rosji w "Krótkiej historii Białorusi" Wacława Łastowskiego // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T. 14. 2000. S. 115–124.; Яго ж. Kim są Białorusini? Toruń, 2002. S. 30–40.

Беларускі нацыянальны рух, які ўзнік на пачатку XX ст., непазбежна мусіў процістаць польскаму (хоць ступень гэтага процістаяння была значна меншая, чым у выпадку літоўцаў і ўкраінцаў). Разрыў з Польшчай і польскасцю быў рашуча паглыблены ў савецкія часы і захоўваўся праз увесь перыяд нованабытай незалежнасці, хоць некаторыя беларускія гісторыкі і спрабавалі гэты разрыў пераадолець. Анджэй Гіль заўважае: “У беларускай нацыянальнай ідэі цяжка знайсці месца для небеларусаў. У разважаннях пра беларускую дзяржаўнасць пытанне аб ролі Польшчы і палякаў у гісторыі і сучаснасці Беларусі разглядаецца ў першую чаргу праз прызму тэорыі пра іх негатыўны ўплыў. Як выглядае, тыя інтэлектуальныя плыні, якія да 1994 г. вызначалі мысленне эліт пра месца і ролю Беларусі, па-ранейшаму маюць моцны ўплыў у асяроддзі несістэмнай апазіцыі, нягледзячы на яе агульную слабасць і раз’яднанасць. Пры тым, што апазіцыя настойліва падкрэслівае сваю праеўрапейскасць, яна застаецца ў трывалым палоне старога мыслення”[27]. Цікава, што беларускія гісторыкі-нацыяналісты хочуць будаваць беларускую нацыянальную ідэнтычнасць – іншымі

[27] Gil A. W cieniu przeszłości. Stosunki polsko-ukraińskie i polsko-białoruskie – stan obecny i perspektywy. Lublin, 2010. S. 31. У іншай працы той самы аўтар, ужо выходзячы за рамкі ўласна гістарыяграфіі, хоць і ў сувязі з ёю, разважаючы аб свядомасці беларускага грамадства і паводзінах яго эліты, сцвярджае: “Тэзісам лукашэнкаўскай прапаганды падыгрывае вобраз Польшчы, які ствараецца беларускай апазіцыяй. Апазіцыя, імкнучыся мець хоць нейкі ўплыў на грамадства, прымае яго погляды і карыстаецца рыторыкай, якая з іх вынікае. У выказваннях і праграмах апазіцыі няма надта негатыўнага вобразу Польшчы, але не фігуруе яна і як пазітыўны прыклад для Беларусі на будучыню. Прысутнасць Польшчы ў НАТА ці ЕС вядзе да таго, што беларускі абывацель – дзякуючы няспыннаму ўздзеянню прапаганды – інтуітыўна займае пазіцыю адмаўлення і варожасці. Адсюль можна зрабіць выснову, што непрыязнасць да Польшчы так ці інакш прысутнічае ў светапоглядзе шырокага спектра беларускіх грамадскіх сіл – ад кіраўнічай эліты, праз шырокага абывацеля, да прадстаўнікоў апазіцыі” (Gil A. Kwestia polska w białoruskim dyskursie politycznym – geneza i teraźniejszość. Lublin, 2009. S. 36).

словамі, рабіць тое, што ў іншых краінах Еўропы рабілі шмат пакаленняў таму, – але пры гэтым актыўна апелююць да сучаснай Еўропы, якая сёння нярэдка крытычна ставіцца да праяў залішняга нацыяналізму, а часам і да самога паняцця нацыі. Паводзіны беларусаў тлумачацца значным адставаннем беларускага нацыятворчага працэсу і адначасова з’яўляюцца спробай па-іншаму, чым у савецкі час, паглядзець на сябе і сваю гісторыю.

Апазіцыйнасць нацыянальнай школы мае выразную псіхалагічную абумоўленасць. Распачынаючы сваю дзейнасць, маладыя гісторыкі ўспрымалі яе ў катэгорыях рамантычнай місіі. Найлепшыя з іх дагэтуль разрываюцца паміж разуменнем неабходнасці прытрымлівацца строгага навуковага падыходу і патрэбай міфалагізацыі гісторыі Беларусі, як гэта рабілася ў іншых краінах Еўропы ў эпоху фармавання нацый[28]. Нельга не прызнаць, што нацыянальная школа ў беларускай гістарыяграфіі дабілася пераацэнкі ключавых, у яе вачах, падзей у гісторыі беларускай нацыі (грамадства). Перш за ўсё прадстаўнікі гэтай школы звярнуліся да самых вытокаў Беларусі і пастараліся давесці, што сувязі княстваў, якія існавалі на яе тэрыторыі (найперш Полацкага княства), з Кіеўскай Руссю былі не такія моцныя, як лічылася раней. Даследуючы этнагенез беларусаў, яны пачалі надаваць значную ролю пошукам балцкага субстрату, каб адасобіць беларусаў, у тым ліку да пэўнай ступені ў этнічных адносінах, ад іншых усходніх славян, найперш рускіх. Вялікае Княства Літоўскае было прызнана дзяржавай, супольна заснаванай беларусамі і літоўцамі, г. зн. беларуска-літоўскай дзяржавай. Больш прыхільна пачала ацэньвацца польска-літоўская унія 1569 г., і нават Берасцейская унія 1596 г. знайшла большае разуменне – з увагі

[28] Польскім адпаведнікам “Кароткай гісторыі Беларусі” В. Ластоўскага (кнігі, якая налічвае 100 старонак, у тым ліку 40 ілюстрацый) можна прызнаць – праўда, толькі да пэўнай ступені – 140-старонкавую кніжку Антонія Халанеўскага “Дух польскай гісторыі” (Кракаў, 1917) – працу, якую найчасцей згадваюць польскія гісторыкі ў кантэксце гістарыяграфічных разважанняў.

на тое, што абодва гэтыя акты прывязвалі Беларусь да Еўропы (хоць часам гучалі і іншыя меркаванні). У яўна лепшым святле цяпер падавалася Рэч Паспалітая, затое беларуска-расійскія адносіны сустракалі куды большую крытыку, чым у савецкі час. Генадзь Сагановіч прысвяціў асобную працу войнам Рэчы Паспалітай з Расійскай дзяржавай у сярэдзіне XVII ст., падкрэсліўшы той факт, што маскоўскае войска знішчыла ці вывезла ў палон з тэрыторыі Беларусі больш як палову яе насельніцтва, што мела надзвычай сур'ёзныя наступствы для пазнейшага фармавання беларускай нацыі і яе культуры[29]. Гісторыкі нацыянальнай школы парвалі з расійскім пунктам гледжання на падзелы Рэчы Паспалітай, адзначаючы негатыўныя бакі (эканамічныя і культурныя) гэтай падзеі для беларусаў. Паўстанне 1863–1864 г. цяпер ацэньвалася як у роўнай ступені і беларускае. Усё гэта павінна было падкрэсліць еўрапейскасць беларусаў і абмежаванасць іх сувязяў з рускімі. Адзначалася – у процілегласць савецкім гісторыкам, – што беларусы былі не выключна праваслаўным, а шматканфесійным грамадствам, а рускія на працягу двух апошніх стагоддзяў актыўна намагаліся іх русіфікаваць, што, зрэшты, ім і ўдалося зрабіць прынамсі ў гарадах.

Абедзве школы прадэманстравалі, што інтэрпрэтаваць гісторыю можна дыяметральна па-рознаму. Нямецкі гісторык Райнэр Ліндиэр заўважае, што ў беларускай гістарыяграфіі XX ст. усе яе "тэматычныя палі" мелі "падвойную інтэрпрэтацыю", адлюстроўваючы супярэчнасці паміж "нацыянальным" і "імперскім" вобразам гісторыі. "Паводле яго Беларусь магла мець у заплеччы альбо традыцыю тысячагадовае дзяржаўнасці, альбо выглядала як правінцыя ў доўгім ценю гісторыі польскай, расійскай ці савецкай імперыяў"[30].

Падаючы ніжэй прыклады часам супярэчлівай інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў, я пакіну па-за ўвагай

[29] Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654–1667. Мінск, 1995.
[30] Ліндиэр Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. Мінск, 2003. С. 479.

савецкую школу, якая ў сваёй крайняй форме была хутчэй антынавуковай, і засяроджуся на праявах, што адносяцца да нацыянальнага напрамку ці да асяродкаў, прамежкавых паміж дзвюма школамі, бо значную частку гісторыкаў якраз так і можна ахарактарызаваць. На маю думку, частая памылка – дастасаванне сённяшніх катэгорый мыслення да матэрыялу больш ці менш далёкіх эпох. Калі гаварыць пра XIX ст., гэта выклікана адсутнасцю ў беларусаў у той час уласных нацыянальных эліт і жаданнем запоўніць тую "гістарычную нішу" дзеячамі, якія жылі ці нарадзіліся на беларускіх землях. Напрыклад, сцверджанні ў кантэксце дыскусіі на тэму беларускага нацыятворчага працэсу пра тое, што беларусы мелі ў XIX ст. не толькі сялянства, але і ўласныя эліты, мусілі б быць падмацаваны доказамі беларускай свядомасці гэтых эліт або (у іншым кантэксце разважанняў) таго, што сяляне лічылі гэтыя эліты нацыянальна беларускімі. Але ж нічога такога не было (памянёныя эліты ініцыявалі нацыятворчыя працэсы сярод каталіцкага сялянства, якое адносіла сябе да палякаў і гэтаксама разглядала тагачасную шляхту). Мала таго, такія сцверджанні з вуснаў навукоўца не павінны супярэчыць наяўным тэорыям ці прынамсі добрасумленным апісанням нацыятворчых працэсаў, з якіх выводзяцца іх агульныя заканамернасці для ўсёй тагачаснай Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У гэтым выпадку такой адпаведнасці няма. Паланізаваная шляхта былой Рэчы Паспалітай не была актыўнай удзельніцай літоўскага, беларускага ці ўкраінскага нацыятворчага працэсу, гэтак жа як венгерызаваная шляхта Аўстра-Венгрыі не спрыяла нацыянальнаму развіццю славакаў, а германізаваная – чэхаў. Можна пра гэта шкадаваць, але такія факты. Якую ж навуковую (а не літаратурна-мастацкую) каштоўнасць (падкрэслім – у кантэксце даследаванняў нацыягенезу) мае тэзіс пра наяўнасць у XIX ст. беларускіх шляхецкіх эліт? Што ён нам тлумачыць і як суадносіцца з агульнапрынятымі канцэпцыямі? Само сабой, ніхто не аспрэчвае тэрытарыяльнай беларускасці гэтых эліт і частай наяўнасці ў іх пэўнага краёвага патрыятызму. Шмат хто з іх

так самавызначаў сябе: "З паходжання ліцвін (русін), па нацыянальнасці паляк".

Прыпісваць сёння асобам і цэлым супольнасцям мінулых эпох нацыянальную прыналежнасць, грунтуючыся на іх колішніх этнічных каранях і пакідаючы па-за ўвагай іх самасвядомасць, было б неабгрунтаваным з навуковага пункту гледжання. Ідучы такім шляхам, можна было б ушчэнт перакроіць нацыянальную карту Еўропы не толькі дзевятнаццатага, але і дваццатага стагоддзя. Гэта датычыцца і беларусаў, якія, як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, маюць часткова балцкае паходжанне. Калі ж мы прызнаем, што Сярэднявечча занадта далёка ад нас, каб арыентавацца на яго ў этнічна-нацыянальным плане, то паўстане пытанне, які перыяд будзе ў гэтым сэнсе прымальным? Апрача таго, прыпісванне той ці іншай гістарычнай асобе нацыянальнай свядомасці на аснове домыслаў і "адчуванняў" (пры адсутнасці яе адназначных выказванняў на гэтую тэму) у сітуацыі, калі не была яшчэ выразна сфармулявана нацыянальная ідэалогія гэтай супольнасці, а светапогляд характарызаванай асобы можна выдатна растлумачыць без прыпісвання ёй гіпатэтычнай нацыянальнай свядомасці, я лічу навукова некарэктным, бо гэта вядзе да адвольнай інтэрпрэтацыі фактаў і бясплённых спрэчак. Нацыянальную прыналежнасць Касцюшкі, Каліноўскага і Міцкевіча можна выдатна акрэсліць у рамках тагачасных катэгорый, а менавіта паняцця польскай шляхецкай, палітычнай і панадэтнічнай нацыі: "З паходжання ліцвін (русін), па нацыянальнасці паляк". Нельга рабіць з гэтых дзеячоў нацыянальна свядомых беларусаў, бо нічога не вядома пра тое, што яны хоць бы на хвіліну дапускалі ўзнікненне супольнасці, якую мы сёння называем беларускай нацыяй. Больш за тое, шляхецкае кола, з якога паходзілі гэтыя людзі, з цягам часу досыць адназначна далучылася да ўжо ў поўнай меры мадэрнага польскага нацыянальнага праекта. Можна зразумець хіба што псіхалагічную падаплёку такіх высноў беларускіх гісторыкаў. Вядома, у ходзе навуковага апісання дзеячоў мінуўшчыны мы можам і павінны карыстацца не толькі катэгорыяй нацыянальнай прыналежнасці, але і іншымі

характарыстыкамі. Так, Міцкевіч быў беларусам паводле свайго паходжання па бацькавай лініі[31], а адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Дунін-Марцінкевіч – не толькі палякам, але і беларусам паводле культуры (з чаго зусім не вынікае, што і беларусам паводле нацыянальнага самавызначэння, бо не кожная культура мусіць мець асобнае нацыянальнае вымярэнне). Шляхта Усходняй Беларусі ў першай палове XIX ст. была беларускай у тапанімічным, г. зн. тэрытарыяльным, сэнсе, што відаць з прадмовы Рамуальда Падбярэскага да "Шляхціча Завальні" Яна Баршчэўскага[32]. Сённяшнія палякі, што жывуць у Беларусі – тут я звяртаюся ўжо да зусім іншых рэалій, – часам актыўна ўдзельнічаюць у палітычным жыцці беларускай дзяржавы, нават пішуць і размаўляюць па-беларуску, але не робяцца ад гэтага беларусамі. Тое самае можна сказаць і пра нацыянальна свядомых беларусаў сённяшняй Беласточчыны. Гісторыкі павінны карыстацца строга акрэсленымі катэгорыямі апісання і крытэрыямі вылучэння фрагментаў сацыяльнай рэчаіснасці, якія не супярэчаць адпаведнай эпосе і актуальнаму стану развіцця навукі (г. зн. яе тэорыі і метадалогіі), а не ўжываць тэрміны (паняцці) паводле свайго суб'ектыўнага адчування[33].

Такім чынам, можна канстатаваць, што адны і тыя ж факты ў рамках беларускай гістарыяграфіі могуць тлумачыцца (і тлумачацца) вельмі па-рознаму, але, на жаль, нярэдка гэта вядзе да страты навуковага характару гэтых інтэрпрэтацый. Апошнім часам маю ўвагу прыцягваюць спробы зрабіць з Кастуся Каліноўскага – дзеяча ў свой час яўна антырасійскага, актыўнага барацьбіта з рускімі,

[31] У тым сэнсе, што род Міцкевічаў быў у мінулым праваслаўным, г. зн. русінскім.

[32] Radzik R. Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia. Lublin, 2000. S. 211–213.

[33] Гл.: Radzik R. Polak, Litwin, Białorusin – ewolucja kryteriów przynależności narodowo-kulturowej w dwóch ostatnich stuleciach // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T. 15. 2001. S. 204–209; Яго ж. Kim są Białorusini? Toruń, 2002. S. 41–47.

праціўніка праваслаўя і прыхільніка ўніяцтва – нацыянальнага героя Беларусі. Вядома, беларусы маюць права рабіць з такога вядомага дзеяча абшару колішняй Рэчы Паспалітай, часткай якой яны былі, свайго героя (хоць і не варта было б пры гэтым прыпісваць яму беларускую нацыянальную свядомасць), але, як мне здаецца, якраз гэтая асоба здольная хутчэй паглыбіць падзелы ў беларускім грамадстве, чым аб'яднаць яго. Пазбегнуць гэтага можна было б хіба што шляхам поўнай міфалагізацыі згаданай постаці (што ў гісторыі ўжо неаднаразова здаралася). Асабіста я лічу, што гісторыкі, будучы людзьмі навукі, не павінны свядома (іншая рэч, калі гаворка ідзе пра недахоп прафесіяналізму) займацца стварэннем новых міфаў ці падтрыманнем старых, пакінуўшы гэта папулярызатарам, публіцыстам, ідэолагам, палітыкам – бо ім працей гэта даравàць. Напэўна, беларусам таксама патрэбны свае міфы, асабліва несавецкія. Дазволю сабе яшчэ раз спаслацца на выказванне беларускага гісторыка нацыянальнай школы Аляксандра Смаленчука, якое датычыцца першых гадоў пасля атрымання нашымі ўсходнімі суседзямі незалежнасці: «Грамадская цікавасць да гістарычных прац вылілася ў перавыданне (і выданне) забароненых раней кніг і рукапісаў[34], а таксама напісанне новых навукова-папулярных тэкстаў. Адным з найбольш вядомых тагачасных выданняў стала брашура “100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі”[35]. Навуковасць спалучалася ў ёй з непрыхаваным нацыянальным рамантызмам і патрыятызмам. З'яўляліся і псеўданавуковыя ацэнкі некаторых аспектаў мінуўшчыны Беларусі. Паводле Вітаўта Чаропкі, напрыклад, Беларусь у часы вялікага князя Вітаўта была самай уплывовай еўрапейскай дзяржавай.

[34] А. Смалянчук у спасылцы згадвае перавыданні наступных кніг: “Кароткая гісторыя Беларусі” В. Ластоўскага (Мінск, 1992), «“Западно-руссизм”: нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.» А. Цвікевіча (Мінск, 1993), “Гісторыя Беларусі” М. Доўнара-Запольскага (Мінск, 1994) (Smalanczuk A. Problemy rozwoju białoruskiej historiografii postsowieckiej. S. 96).

[35] А. Смалянчук дадае ў спасылцы: «Вясною 1993 г. яны друкаваліся на старонках “Народнай газеты” і газеты “Звязда”». Тамсама.

Іван Саверчанка называў ВКЛ “беларускай імперыяй” і да т. п.»[36]. Яшчэ ў канцы 1990-х Р. Ліндпэр, закранаючы тэму рэсаветызацыі Беларусі і міфалагізацыі яе гісторыі, пісаў пра «тыповую для сучаснае гісторыі тэзу пра беларускі “цэнтр Еўропы”»[37].

Выразная цяга беларусаў да міфатворчасці абумоўлена не толькі атрыманым у спадчыну ад СССР нізкім узроўнем гістарычных навук, цяперашняй палітычнай сітуацыяй ці спецыфічным кантэкстам фармавання нацыянальнай школы ў беларускіх рэаліях (імкненнем “нагнаць упушчанае” і збудаваць моцную нацыянальную супольнасць), але часткова тлумачыцца і прыналежнасцю да праваслаўнага культурнага кола[38]. Навуковая скрупулёзнасць заходне- і цэнтральнаеўрапейскіх даследчыкаў нярэдка выклікае ў беларускіх гісторыкаў непрыманне[39]. Аўтар гэтых слоў неаднаразова быў сведкам таго, як супрацоўнікі найлепшых беларускіх гістарычных музеяў расказвалі неверагодныя гісторыі і займаліся міфатворчасцю, спалучанай са звычайнай некампетэнтнасцю, што часткова тлумачыцца, відаць, іх становішчам у структуры гэтых установаў і колам іх абавязкаў. Асаблівасці вуснага пераказу (г. зн. спалучэнне сферы эмоцый з магчымасцю скажэння інфармацыі), схільнасць да “ўжывання ў іншага” і вага непасрэдных кантактаў, пры слабой укаранёнасці сцыентысцкага падыходу ў галіне гуманітарных і сацыяльных навук (што тлумачыцца ў тым ліку і слабасцю дэмакратычных традыцый у гэ-

[36] Тамсама.

[37] Ліндпэр Р. Гісторыкі і ўлада. С. 476.

[38] Гл. змешчаны ў гэтай працы тэкст “Ідэнтычнасці беларусаў: паміж рускасцю, савецкасцю і беларускасцю”.

[39] Дыскутуючы некалькі гадоў таму з бадай найвыдатнейшым на Беларусі прадстаўніком адной з гуманітарных навук і прыводзячы яму свае аргументы, заснаваныя на тыповым аналізе зместу даследаваных дакументаў, я пачуў ад яго нешта накшталт такога: “Вы на Захадзе дбаеце пра выкананне сухіх працэдур, а мы на Усходзе намагаемся заглыбіцца ў чалавека і сітуацыю – і гэта дае нам магчымасць па-сапраўднаму іх зразумець. Мы гэта адчуваем”. Дыскусія датычылася аднаго з беларускіх дзеячоў XIX ст.

тым рэгіёне Еўропы[40]), спрыяюць міфатворчым тэндэнцыям. Прысутнасць апошніх у беларускай гістарыяграфіі відавочная як мінімум з часоў узнікнення БССР.

Гістарычная свядомасць беларусаў у момант атрымання імі незалежнасці была вельмі слабой і зводзілася галоўным чынам да савецкага перыяду, з наданнем асаблівага значэння падзеям так званай Вялікай Айчыннай вайны. З'яўленне прынцыпова адрозных канцэпцый гісторыі Беларусі прывяло да ўзнікнення спецыфічнага гістарычнага эклектызму ў свядомасці, літаратуры і папулярнай (у тым ліку візуальнай) культуры беларусаў, што кідаецца ў вочы на вуліцах беларускіх гарадоў, дзе перад цэрквамі стаяць помнікі Леніну, праспект Незалежнасці аздоблены бюстам Дзяржынскага і перакрыжоўваецца з вуліцай Леніна. Да пантэона беларускіх герояў далучаюць Касцюшку і Каліноўскага, у цэнтры Мінска ўжо больш як дзесяцігоддзе стаіць помнік Міцкевічу і адначасова на сценах дамоў па-ранейшаму вісяць шыльды ў гонар рэвалюцыйных катаў. Час ад часу я высылаю ў Мінск лісты на вуліцу з такой знаёмай, свойскай назвай – Берута. Не дзіва, што ў гэтай прасторы гістарычнага хаосу і навуковай некампетэнтнасці прэзідэнт Лукашэнка (які мае дыплом выкладчыка гісторыі) неяк згадаў у сваёй прамове пра "таварыша Сапегу", чым засведчыў сваю выключную неабазнанасць у гісторыі ўласнай краіны.

У свядомасці беларусаў (і ў значнай частцы беларускай гістарыяграфіі, асабліва савецкага паходжання) існуе стэрэатып не толькі пра шматвяковую эксплуатацыю беларускага сялянства польска-літоўскімі панамі (у БССР неахвотна праводзілі добрасумленныя параўнанні з рэаліямі,

[40] Раскол паміж уладай і грамадствам, непразрыстасць палітычных працэдур, адсутнасць кантролю над уладай стварае вакол яе арэол таямнічасці і спараджае пачуццё ўласнай перад ёю бездапаможнасці (недахопу суб'ектнасці), што, у сваю чаргу, спрыяе пляткарскім настроям і фантастычным домыслам (у тым ліку прыхільнасці да канспіралагічных тэорый). Такая завядзёнка фармуе атмасферу, у якой працуюць людзі навукі, а таму ў нейкай ступені яна адбіваецца і на іх успрыманні свету, а таксама на манеры яго апісання. Апрача таго, традыцыя ідэалагізацыі і палітызацыі грамадскіх навук таксама не спрыяе добрасумленнасці даследчых працэдур.

што існавалі ў той час у Расіі, абмяжоўваючыся агульнымі выказваннямі ці фальсіфікуючы факты), але і пра вельмі жорсткую дыскрымінацыю беларусаў у міжваеннай Польшчы, якой проціпастаўлялася “першая беларуская дзяржава – БССР” – вядома ж, без згадак пра масавыя рэпрэсіі ў дачыненні да беларусаў і значна большую галечу, чым на землях Заходняй Беларусі. Прыклад абстрагавання ад гістарычных рэалій – поўныя публіцыстычнага запалу кнігі Аляксандра Усоўскага, што прадаюцца і ў мінскіх, і ў маскоўскіх кнігарнях. У іх аўтар віну за распальванне Другой сусветнай вайны ўскладае на Польшчу і Захад, а абяляе не толькі СССР, але і Германію. Найноўшая з гэтых кніг, як вынікае з яе анатацыі, апавядае “пра тое, як і чаму польская эліта здрадзіла свайму народу ў крывавым верасні 1939 г., пра сапраўдныя прычыны Другой сусветнай вайны і пра тую ролю, якую адыграла ў ёй Польшча”, а таксама “пра Польшчу нашых дзён”[41]. Звяртаючыся да сучаснасці, аўтар малюе для Польшчы пагібельныя перспектывы, абумоўленыя міграцыяй на Захад польскіх спецыялістаў, хоць пакуль што, на думку аўтара, сітуацыю ратуюць украінскія эмігранты з Галічыны, выпускнікі тамтэйшых ВНУ. Але рана ці позна надыдзе крызіс. “І тады, – піша Усоўскі, – Польшча памрэ. Разам з усім астатнім Заходнім Светам – падзяліўшы яго заганы (але зусім не даходы) і паплаціўшыся за гэта сваёй будучыняй. Таму што ў Еўропы будучыні НЯМА. Але ці значыць гэта, што няма яе і ў Польшчы? Зусім не. Таму што ў Польшчы ёсць Расія”. І адразу ж пасля гэтых слоў дадае: “Расія – маці славянства… А Еўропа для Польшчы заўсёды была, ёсць і будзе мачыхай…”[42]. Праблема заключаецца ў тым, што такія славянафільскія погляды (часам з некаторымі рысамі панславізму), прыхільнасць да калектыўных каштоўнасцяў “рускага свету”, які аддзяляе беларусаў ад Еўропы, у тым ліку ад Польшчы, для значнай часткі беларускага грамадства бліжэйшыя, чым

[41] Усовский А. Проданная Польша. Истоки сентябрьской катастрофы. Минск, 2010. С. 2 (адваротны бок тытульнага аркуша).
[42] Тамсама. С. 289.

аксідэнтальныя пастулаты кніг найвыдатнейшых гісторыкаў нацыянальнай школы.

У ходзе сацыялагічнага апытання, праведзенага ў 1996 г., жыхары Беларусі заявілі, што сярод дзеячоў мінулага ў найбольшай ступені іх ідэалу палітыка адпавядаюць (далей адказы, якія набралі ў апытанні больш за 10%): П. Машэраў (першы сакратар ЦК КПБ у 1965–1980 г. – 45,2%), Пётр I (34,2%), Л. Брэжнеў (20,0%), М. Тэтчэр (19,5%), У. Ленін (18,7%), Ю. Андропаў (12,9%), П. Сталыпін (11,1%) і І. Сталін (10,8%)[43]. У 2008 г. аналагічнае апытанне датычылася ўжо не толькі гістарычных фігур і дало наступныя вынікі (з ліку тых, хто набраў больш за 10%): У. Пуцін (31,2%), А. Лукашэнка (25,2%), П. Машэраў (23,5%), Пётр I (18,5%), К. Каліноўскі (13,6%), Кацярына II (12,5%), М. Тэтчэр (10,1%)[44]. Як можна бачыць, Кацярына II апынулася паміж Кастусём Каліноўскім і Маргарэт Тэтчэр. У чэрвені 2010 г. апытанне было паўторана з наступнымі вынікамі: А. Лукашэнка (39,8%), У. Пуцін (36,9%), Д. Мядзведзеў (25,9%), А. Меркель (12,8%), Б. Абама (12,0%)[45]. У 2008 г. следам за пералічанай сямёркай ішоў князь Вітаўт, а ў 2010 г. шостым быў Фідэль Кастра. Гэтыя рэйтынгі дэманструюць, што гістарычная свядомасць беларусаў, а таксама іх бягучыя палітычныя сімпатыі застаюцца пад моцным уплывам расійска-савецкага культурнага кола, таму ў большасці выпадкаў яны схільны шанаваць аўтарытарных дзеячоў ці такія моцныя фігуры, як Тэтчэр, хоць зрэдку звяртаюць увагу і на асоб зусім іншага роду – такіх, як Каліноўскі, а апошнім часам Абама і Меркель. На першых трох месцах у гэтых рэйтынгах заўсёды апыналіся рускія і беларусы. Нейкая эвалюцыя адбываецца на больш далёкіх пазіцыях, але не выключана, што далейшы яе ход засведчыць слабую цікавасць беларусаў да гістарычных і сучасных палітычных дзеячоў з-за межаў былога СССР. Праўда, і з гэтых даследаванняў відаць, што да адзінства меркаванняў тут

[43] Новости НИСЭПИ. Вып. 1, авг. 1996 г. С. 26 (табл. 1) – электронная версія.

[44] Тамсама. Вып. 2, июнь 2008 г. С. 10 (табл. 12).

[45] Тамсама. Вып. 2, июнь 2010 г. С. 84 (табл. 54).

далёка. А. Гіль заўважае, што апазіцыя, якая процістаіць Лукашэнку, мусіць браць пад увагу свядомасць беларускага грамадства, бо "няпэўнасць еўрапейскай будучыні Беларусі тлумачыцца ў тым ліку і глыбіннай непрыязнасцю беларускага грамадства да Захаду як такога. Працяглае ўздзеянне расійскай, а потым савецкай прапаганды сфармавала ў грамадстве непрыязнае (а часам і варожае) стаўленне да той прасторы, якую прынята называць Захадам. З увагі на гэта празмерная дэманстрацыя празаходніх сімпатый (не гаворачы ўжо пра выпячванне ідэі інтэграцыі з ЕС) нясе для апазіцыі – што разумее і яна сама – хутчэй шкоду, чым нейкія адчувальныя палітычныя дывідэнды ў выглядзе грамадскай падтрымкі"[46].

У нечым падобная сітуацыя – г. зн. гістарычная "каша ў галовах" – склалася і ва Украіне, хоць украінцы, нягледзячы на большую ў параўнанні з беларусамі тэрытарыяльную дыферэнцыяцыю, маюць шэраг агульнапрызнаных нацыянальных герояў. Тым не менш, канфлікты паміж рознымі гістарычнымі канцэпцыямі там яшчэ вастрэйшыя, чым у Беларусі. Што да Беларусі, дык тамтэйшую сітуацыю апошніх двух дзесяцігоддзяў можна параўнаць з мехам, у які розныя сілы спрабуюць запхнуць сваіх герояў – дзеячоў, якія мелі дыяметральна рознае стаўленне да беларускай ідэі, займалі прынцыпова розныя палітычныя і ідэалагічныя пазіцыі, нярэдка змагаліся адзін з адным. І тое, каму пашчасціць апынуцца ў гэтым меху, а хто з яго выпадзе, залежыць ад палітычнай кан'юнктуры. Няма ніякай паслядоўнай канцэпцыі, што яднала б гэтыя фігуры, г. зн. ніякай агульнапрынятай сістэмы каштоўнасцяў. З гэтай прычыны гісторыя ў яе афіцыйным, папулярным выданні не вучыць, не мабілізуе, не вызначае напрамкаў развіцця і не дае лагічнага тлумачэння, як падзеі мінуўшчыны прывялі да сучаснасці; яна выхоўвае ў грамадстве і яго прадстаўніках пасіўнасць замест таго, каб натхняць іх на дзеянні. Фактычна яна зводзіцца да маніпуляцыі, канструяванай на патрэбу ўлады. Яна абяззбройвае грамадства, пагружае яго ў бязладны свет міфаў, падобны да свету зданяў, духаў і нячыстых сіл, у якім

[46] Gil A. Kwestia polska w białoruskim dyskursie politycznym. S. 17.

жывуць даіндустрыяльныя сяляне з аповесцяў Рыдлінскага; свет, які не ўпэўнены ў сваім існаванні, недаверлівы і непрадказальны, нібыта не зусім рэальны.

Вось чаму я лічу, што інтэрпрэтацыя гісторыі Беларусі абавязкова павінна пачынацца з яе добрасумленнага апісання, пазбаўленага маніпуляцый, скажэнняў і міфатворчасці. І гэта абумоўлена не толькі прынцыпамі навуковага выкладу, але і патрэбамі грамадства. Каб мець магчымасць развіваць змястоўныя альтэрнатыўныя інтэрпрэтацыі ўласнай гісторыі, неабходна спачатку грунтоўна яе даследаваць і апісаць. Думаю, беларусы пакуль што хутчэй толькі пачынаюць гэты шлях, чым завяршаюць яго.

Патэнцыйны росквіт нацыянальнай школы, які пакуль не праглядаецца, відаць, спрыяў бы з цягам часу – пасля заканчэння непазбежнага і працяглага этапу "перафармулявання" грамадства, у тым ліку яго нацыяналістычных канцэпцый – аслабленню міфатворчасці, як гэта ў цэлым мае месца ў сучаснай Еўропе. У сваю чаргу, поўная перамога савецкай школы і заняпад беларускіх нацыянальных ідэй, да чаго магло б прывесці, скажам, аб'яднанне з Расіяй – што ў апошні час таксама не выглядае праўдападобным, – павінна была б гэтыя міфы ўмацаваць, бо якраз яны служылі б абгрунтаваннем такога важкага палітычнага кроку[47]. Вядома ж, могуць рэалізавацца і прамежкавыя шляхі, хоць і не факт, што аптымальныя. Адным з такіх шляхоў сёння крочыць Беларусь.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

[47] У першай дэкадзе XXI ст. на Беларусі адбыліся некаторыя змены (у параўнанні з другой паловай 1990-х г.) у выказваннях прадстаўнікоў улады, ідэолагаў, а таксама – да пэўнай ступені – блізкіх да іх гісторыкаў у сувязі з узнікненнем афіцыйнай ідэалогіі беларускай дзяржавы і нават у некаторым сэнсе "нацыянальнай ідэі", якая сцвярджае непарушнасць беларускай дзяржавы і значна больш ахвотна, чым раней, апелюе да дакастрычніцкай гістарычнай традыцыі. Школа, названая тут постсавецка-заходнярускай, перажывае – па меры таго як грамадства, і найперш яго палітычная эліта, звыкаецца з існаваннем беларускай дзяржавы (і звязаных з гэтым пераваг) – зразумелую эвалюцыю, хоць кірунак гэтых змен не выглядае адназначным і лёгказразумелым.

## Between Sovietness and a National Vision: Two Interpretations of Belarusian History

**Ryszard Radzik**

Belarusian historiography comprises two basic streams: post-Soviet and national. Both of them – although, importantly, to a different degree – tend to look at the events of the past from the perspective of ideologies adopted today, even though developed much earlier. Their myth-making potential can be attributed to the weakness of Belarusian historical science before the Soviet era and the destruction of its pre-1930s modest beginnings during the Stalinist period. Belarusian historiography was unable to develop practically until the turn of the 1980s. A few years of democratisation in the first half of the 1990s was too short a period to build historical sciences based on reliable specialists and modern methodology.

To this day, Belarusian historical thought remains under the impact of the Soviet historical school, which under the Soviet Union – curiously for a state officially following class ideology – bore a distinct trace of Russian chauvinism in relation to Belarus. Under the influence of President Lukashenka's policy, a stream strongly supporting not so much national (cultural) as political distinctness of Belarus from Russia in terms of statehood emerged even among its followers. The national stream, in turn, includes nonconformists, once Romantics, who also create new myths. The small elites of the national historical school – making frequent references to the history of the Grand Duchy of Lithuania, which they consider their own – are treated as political opposition and repressed by the authorities. In their case, we can clearly see the process of adopting the approaches of Western historiography. However, some proponents of this stream pursue what can be seen as the post-Soviet vision *à rebours*. Thus it is their views rather than methodology that make them different, especially that some of them are not historians by education or acquired knowledge. This, however, certainly does not mean that Belarus does not have historians who treat their profession seriously.

# Чаму ў БССР не было гістарычнага часопіса

**Генадзь Сагановіч**

Гэтае пытанне зацікавіла мяне яшчэ ў аспірантуры, у другой палове 80-х гадоў. Помніцца, калі дзякуючы перабудове ў СССР з яе дэмакратызацыяй і галоснасцю стала магчымым і ў Мінску глядзець на гістарычную навуку з нацыянальнай перспектывы, у нашым акадэмічным асяроддзі натхнёна абмяркоўваліся свежыя публікацыі з новымі поглядамі на блізкае і далёкае мінулае. Вось тады калегі не раз з вялікім шкадаваннем гаварылі пра адсутнасць гістарычнага часопіса ў Беларусі і з зайздрасцю згадвалі, што брацкая Украіна даўным-даўно мела такое выданне. Прычынай гэтага недахопу ў Беларусі як "роўнай сярод роўных" звычайна называўся нейкі асаблівa жорсткі ідэалагічны кантроль над гуманітарнай навукай і культурай, што быццам панаваў у Мінску.

Падобныя меркаванні не раз выказваліся знаёмымі гісторыкамі і пасля распаду СССР, у першыя гады існавання суверэннай Беларусі. І калі ў 1993 г. нарэшце быў заснаваны "Беларускі гістарычны часопіс" (далей БГЧ), то, вітаючы з'яўленне першага профільнага агульнадзяржаўнага перыёдыка для гісторыкаў, яго галоўны рэдактар Васіль Кушнер таксама сказаў пра "доўгі і няпросты" шлях такога выдання да грамадства краіны і, між іншага, адзначыў: "Ідэя стварэння менавіта такога часопіса, які адлюстроўваў бы здабыткі беларускай гістарычнай навукі, узнікла яшчэ 15–20 гадоў назад. Пісаліся пісьмы, уносіліся прапановы. Але перашкоды былі не столькі эканамічныя, колькі

палітычныя"[1]. Далей гаварылася пра манаполію цэнтра і кантроль з Масквы, прыярытэт гісторыі КПСС і факультатыўнасць гісторыі Беларусі і да т. п.

Ажыццяўленнем даўняй мары гісторыкаў называлі выхад першага нумара БГЧ і кіраўнікі арганізацый-заснавальнікаў гэтага выдання. Напрыклад, тагачасны дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхаіл Касцюк у сваім слове падкрэсліў: "Стварэння часопіса гісторыкі дабіваліся не адзін дзесятак гадоў. У прыватнасці, з Акадэміі навук Беларусі перыядычна ішлі абгрунтаванні і прапановы ў самыя высокія саюзныя і рэспубліканскія партыйна-дзяржаўныя інстанцыі"[2], але тыя, маўляў, не давалі ім ходу.

Праблема адсутнасці спецыялізаванага перыёдыка гісторыкаў Беларусі закранalася М. Касцюком і пазней, у прадмове да "Штогодніка" Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Адзначыўшы важнасць перыядычнага выдання вядучай навуковай установы для пашырэння і паглыблення гістарычных ведаў, ён падкрэсліў, што Інстытут гісторыі свайго перыёдыка "ніколі не меў, хаця творчы патэнцыял калектыву дазваляў выдаваць яго на добрым навуковым узроўні. На працягу дзесяцігоддзяў галоўнай прычынай вышэйназванага становішча былі грамадска-палітычныя варункі, якія не дазвалялі нават уздымаць гэтае пытанне, нягледзячы на тое, што некаторыя вядучыя навуковыя ўстановы гістарычнага профілю ў краіне такія выданні мелі"[3], – развіў аўтар сваю думку.

Даўно хацелася паспрабаваць разабрацца, што ж перашкодзіла беларускім гісторыкам займець сваё прафесійнае перыядычнае выданне яшчэ ў эпоху БССР, і наколькі вызначальнай перашкодай былі фактары ідэалагічна-палітычнага характару кшталту "не дазвалялася зверху". Рытуальныя спасылкі на складаныя абставіны і нейкі

[1] Кушнер В. Слова ад рэдакцыі // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1. С. 4.

[2] Гл.: Слова заснавальнікам // БГЧ. 1993. № 1. С. 9.

[3] Касцюк М. Да чытача // Штогоднік Інстытута гісторыі НАН Беларусі / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. 1999. Мінск: Інстытут гісторыі, 1999. С. 4–5.

асаблівы кантроль зверху ад пачатку не выклікалі даверу, бо не перашкодзіў жа той партыйны кантроль стварыць свой часопіс украінскім гісторыкам, а ўвага да Кіева пэўна ж была намнога больш пільная, чым да Мінска.

Зразумела, у сталінскія часы пра заснаванне такіх перыёдыкаў не магло быць і размовы. Рэальная магчымасць стварыць свае гістарычныя часопісы ў саюзных рэспубліках з'явілася пасля XX з'езда КПСС і была звязана з важнымі пераўтварэннямі ў гістарычнай навуцы, выкліканымі абвешчаным партыяй курсам на пераадольванне культу асобы ды яго наступстваў[4]. У 1957 г., на этапе яшчэ не ўзятай пад поўны кантроль адлігі[5], у Маскве быў заснаваны шэраг такіх новых цэнтральных часопісаў, як "История СССР", "Вопросы истории КПСС", "Новая и новейшая история" і г. д. А ў Кіеве з другой паловы 1957 г. пачаў выходзіць "Український історичний журнал".

Трэба прызнаць, што на пачатку і ў Мінску ўсё ішло да стварэння свайго гістарычнага часопіса. Гістарычныя рашэнні XX з'езда адгукнуліся пэўнай лібералізацыяй і ў гуманітарных навуках Беларусі[6]. Наколькі можна меркаваць па архіўных дакументах Акадэміі навук БССР, упершыню пытанне аб заснаванні ўласнага перыёдыка беларускімі гісторыкамі было пастаўлена ўжо 18 красавіка 1956 г. Гэта адбылося на партыйным сходзе акадэмічнага Інстытута гісторыі АН БССР, на якім гісторыкі-камуністы абмяркоўвалі задачы сваёй партарганізацыі ў святле рашэнняў XX з'езда КПСС. Пад час абмеркавання даклада Емяльяна Лук'янава, тагачаснага загадчыка сектара гісторыі Беларусі дарэвалюцыйнага

[4] Гл.: Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. 9-е изд. Т. 9 (1956–1960). Москва, 1986. С. 90, 111; Доклад Н. С. Хрущева о культе личности Сталина на XX съезде КПСС. Москва, 2002. С. 51–119.

[5] Слова ўжываецца ў артыкуле як тэрмін, а не як эпітэт, таму выкарыстоўваецца без двукосся.

[6] Падр. гл.: Сагановіч Г. Хрушчоўская адліга ў беларускай гістарыяграфіі // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Т. 2. Варшава, 2016. С. 248–267.

перыяду, старшы навуковы супрацоўнік сектара гісторыі Беларусі савецкага перыяду Васіль Мілаванаў адзначыў, што «ў гісторыкаў Беларусі вельмі мала магчымасцяў, каб выступаць перад насельніцтвам у друку са сваімі працамі. "Весці АН БССР"[7] – чыста акадэмічны друкаваны орган і не даходзіць да шырокіх слаёў насельніцтва. Наспела неабходнасць пачаць выданне грамадска-палітычнага часопіса для шырокага кола насельніцтва»[8]. Думку В. Мілаванава падтрымалі тады яго калегі Мікалай Завалееў ды Іосіф Залескі, у выніку ў прынятую сходам пастанову асобным пунктам было ўключана наступнае рашэнне: "В целях обеспечения более широких возможностей сдачи в печать научной продукции, парторганизация Института считает необходимым поставить вопрос перед Президиумом АН БССР и ЦК КПБ о возможности издания при Отделении общественных наук АН БСС печатного периодического органа (журнала) по вопросам общественных наук в БССР"[9]. Як бачым, пытанне тады ставілася пра заснаванне не ўласна гістарычнага выдання, а часопіса агульнага грамадска-навуковага профілю, арыентаванага на масавага чытача, тым не менш ён разглядаўся як асобная трыбуна перадусім для гісторыкаў, якія і выступалі з ініцыятывай яго заснавання.

Аднак зварот партарганізацыі Інстытута гісторыі, мяркуючы па ўсім, не атрымаў ніякага далейшага ходу, таму на пачатку наступнага года той жа ініцыятар паўторна актуалізаваў пытанне пра часопіс. На закрытым партыйным сходзе Інстытута гісторыі той жа Васіль Мілаванаў зноў выступіў і заявіў: "Я ўжо прапаноўваў нашай партыйнай арганізацыі звярнуцца да ЦК КПБ з хадайніцтвам аб выданні ў Беларусі краязнаўчага часопіса. Мая

[7] Навуковы перыёдык "Весці Акадэміі навук БССР", што выдаваўся з 1947 г., меў асобную серыю для Аддзялення грамадскіх навук, якая спачатку называлася гістарычнай, а з 1956 да 1992 г. выходзіла як "Серыя грамадскіх навук".

[8] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей НАРБ). Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 260. Пратаколы партыйных сходаў партарганізацыі Інстытута гісторыі АН БССР за 1956 г. С. 10.

[9] Тамсама. С. 12.

прапанова была сустрэта з энтузіязмам, але справа засталася на месцы. Я яшчэ раз прапаную запісаць гэта ў рашэнні партыйнага сходу"[10]. Ініцыятыву зноў падтрымалі іншыя ўдзельнікі сходу і ў новай пастанове камуністычнай арганізацыі гісторыкаў гаварылася: "...яшчэ раз паставіць пытанне перад вышэйстаячымі органамі аб неабходнасці арганізаваць выданне краязнаўчага часопіса ў Беларусі, што пашырыла б магчымасці друку навуковых прац"[11]. Цяпер, як бачым, замест прапанаванага раней перыёдыка грамадска-навуковага профілю гісторыкі схіляліся да ідэі краязнаўчага выдання.

Праз месяц справа свайго перыёдыка зноў усплыла на адкрытым партыйным сходзе Інстытута гісторыі, на якім абмяркоўваліся вынікі навукова-даследчай працы калектыву ў 1956 г. і яго задач на 1957 г. Выступаючы ў абмеркаванні планаў, старшы навуковы супрацоўнік сектара гісторыі Беларусі савецкага перыяду Мікалай Завалееў звярнуўся да кіраўніцтва: "Дырэкцыі неабходна хадайнічаць перад Гаркамам партыі аб выданні часопісаў"[12]. Напэўна, гэтым разам ідэя не знайшла дастатковай падтрымкі, бо ў прынятую рэзалюцыю сходу пытанне пра часопіс не ўвайшло.

Далей справу заснавання гістарычнага часопіса парадаксальным чынам актуалізавала крытыка працы Інстытута гісторыі з боку ЦК КПБ. Маецца на ўвазе артыкул пра недахопы гістарычнай навукі ў БССР, апублікаваны на пачатку 1957 г. часопісам "Коммунист Белоруссии"[13]. Як пісалі аўтары гэтай публікацыі, культ асобы і звязаныя з ім дагматызм і "начётничество" нанеслі гістарычнай навуцы вялікую шкоду, а рашэнні XX з'езда і пастанова ЦК "Аб пераадольванні культу асобы і яго наступстваў"

[10] Пратаколы партыйных сходаў партарганізацыі Інстытута гісторыі АН БССР. Пратакол № 10 (11.01.1957). НАРБ. Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 289. С. 9.

[11] Тамсама. С. 15.

[12] Тамсама. Пратакол № 11 (6.02.1957). С. 17.

[13] Короткевич А., Савочкин П., Шабуня К. О некоторых вопросах развития исторической науки в республике // Коммунист Белоруссии. 1957. № 2. С. 14–19.

паставілі перад гісторыкамі актуальныя і важныя задачы. У іх святле "ясна бачацца сур'ёзныя недахопы ў развіцці гістарычнай навукі" ў Беларусі, сцвярджалі яны. У якасці аднаго з галоўных паказнікаў нездавальняльнай працы гісторыкаў называлася недастатковая колькасць публікацый і іх невысокі навуковы ўзровень. Адзначалася, напрыклад, што за апошнія пяць гадоў у друку выйшла не больш за дзясятак кніг па гісторыі, але гэта былі ўсяго толькі "кароткія папулярныя нарысы". Нават па тэме Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі не з'явілася фундаментальных прац. Кніга Ніны Каменскай, прысвечаная падзеям Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі і ўтварэнню БССР[14], "магла б стаць значным укладам у гістарычную навуку… Але ўжо ў першым выданні гэтай працы навуковая грамадскасць, друк адзначалі сур'ёзныя недахопы", якія засталіся і ў наступных выданнях кнігі[15]. Зацягнута падрыхтоўка 2-га тома "Гісторыі БССР", а ў 1-м томе нямала праблем асветлена схематычна або наогул незакранута, няма сур'ёзных прац ні па ўз'яднанні беларускага народа ў 1939 г., ні па гісторыі Савецкай Беларусі, а пра мінулае краіны дакапіталістычнай эпохі за пасляваенны перыяд не апублікавана ніводнай манаграфіі, у выніку чаго многім "даводзіцца звяртацца да прац дарэвалюцыйных буржуазных гісторыкаў"[16], – сцвярджалі аўтары з партыйнымі пасадамі, і ў завяршэнне публікацыі заклікалі цэх гістарычнай навукі актывізаваць дзейнасць і павысіць ідэйна-тэарэтычны ўзровень сваіх прац.

Крытыка акадэмічных гісторыкаў на старонках органа КПБ стала тэмай сур'ёзнага абмеркавання на адкрытым партыйным сходзе Інстытута гісторыі, што адбыўся 13 траўня 1957 г. Прызнаўшы справядлівымі многія з указаных недахопаў, супрацоўнікі ўстановы вызначылі

[14] Мелася на ўвазе выданне: Каменская Н. В. Утварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі / пад рэд. А. М. Панкратавай. Мінск, 1946; яна ж. Утварэнне Беларускай Совецкай соцыялістычнай дзяржавы. Мінск, 1948.

[15] Короткевич А., Савочкин П., Шабуня К. О некоторых вопросах развития исторической науки в республике. С. 15.

[16] Тамсама. С. 17.

шэраг захадаў па іх выпраўленні. Цікава, што сярод крокаў да паляпшэння працы акадэмічнага інстытута значыліся не толькі патрэба большай увагі да абмеркаванняў і творчых дыскусій па праблемах, якія даследуюцца супрацоўнікамі, у тым ліку абмеркавання падрыхтоўкі да друку 2-га тома "Гісторыі БССР", але і патрэба стварэння свайго гістарычнага перыёдыка. У пастанове сходу зноў запісалі: "Паставіць пытанне перад вышэйстаячымі партыйнымі органамі ў Прэзідыуме АН БССР аб арганізацыі гістарычнага часопіса ў рэспубліцы"[17].

Пасля гэтага на партыйных сходах Інстытута гісторыі АН БССР да канца 1957 г. справа часопіса больш не разглядалася, затое ідэю стварыць асобны гістарычны перыёдык пачалі абмяркоўваць на вучонай радзе названага інстытута, прычым ужо ў практычным ключы.

Прынцыпова важным у чарадзе прыманых захадаў па стварэнні свайго гістарычнага перыёдыка можна лічыць пасяджэнне вучонай рады Інстытута гісторыі ў пачатку чэрвеня 1957 г. Упершыню ў парадак дня быў уключаны адмысловы пункт – "Аб стварэнні гістарычнага часопіса ў Беларусі", даклад па якім зрабіў Іван Сяргеевіч Краўчанка. Дырэктар інстытута ў сваім выступленні адзначыў, што "пытанне стварэння гістарычнага часопіса ў Беларусі даўно наспела. Яно неаднаразова ўздымалася на партыйных сходах Інстытута і вучоных радах. Цяпер трэба канкрэтна абмеркаваць гэтае пытанне і ўвайсці з адпаведным хадайніцтвам у Прэзідыум АН БССР"[18].

У падтрымку гэтай прапановы з прысутных выказаліся член вучонай рады Інстытута загадчык кафедры гісторыі СССР БДУ Лаўрэнцій Абэцэдарскі, акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук Уладзімір Перцаў, загадчык сектара публікацый дакументаў Канстанцін Шабуня, а таксама старэйшыя члены вучонай рады Яфрэм Карпа-

[17] НАРБ. Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 289. Пратакол № 13 (13.05.1957). С. 34–36.

[18] Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (далей ЦНА НАН Беларусі). Ф. 3. Спр. 286. Пратакол паседжання Вучонага савета Інстытута гісторыі за 3.06.1957. С. 43–44.

чоў і Емяльян Лук'янаў. Паказальна, што першыя тры асобы, якія выступалі за стварэнне часопіса, былі важнымі на той час, калі не найважнейшымі фігурамі гістарычнага істэблішменту рэспублікі. Як засведчыў пратакол пасяджэння, Л. Абэцэдарскі падтрымаў ініцыятыву інстытута і сказаў, што "часопіс лепш за ўсё выдаваць у выглядзе квартальніка. Штомесячны часопіс мы не зможам выдаваць". Пасля гэтага ён гаварыў пра такія чыста тэхнічныя аспекты, як аб'ём планавага выдання, яго магчымы кошт і да т. п., а ў канцы вярнуўся да магчымага зместу будучага перыёдыка, адзначыўшы, што "акрамя гістарычных матэрыялаў у часопісе павінны змяшчацца і краязнаўчыя"[19]. Услед за ім выступіў У. Перцаў, які сказаў толькі пра тое, што "часопіс пажадана мець рэспубліканскі", і што яго аб'ём можа складаць 15–20 друкаваных аркушаў. Такім жа кароткім было выступленне К. Шабуні, які выказаўся за тое, што часопіс найбольш мэтазгодна выдаваць як орган Інстытута гісторыі. А даследчык даўніх гарадоў Беларусі Я. Карпачоў закрануў канцэптуальны характар выдання і сказаў, што гэта павінен быць часопіс "самага шырокага профілю", з розным гістарычна-краязнаўчым матэрыялам, які можа пастпаць ад інстытутаў, школ і музеяў. Гісторык Е. Лук'янаў, які спецыялізаваўся на тэме ўдзелу сялян у рэвалюцыйным руху, прапанаваў назву будучаму перыёдыку – "Вопросы истории БССР". У завяршэнні абмеркавання дырэктар І. Краўчанка падсумаваў выказаныя меркаванні і пагадзіўся з тым, што часопіс павінен быць гістарычна-краязнаўчы, а выдавацца – пры Інстытуце гісторыі АН БССР.

Прынятая вучонай радай пастанова па пытанні часопіса ўключала тры пункты:

«1. Улічваючы, што ў Беларусі да гэтага часу няма друкаванага органа, які б сістэматычна займаўся асвятленнем пытанняў гісторыі беларускага народа, лічыць неабходным стварэнне пры Інстытуце гісторыі АН БССР гістарычнага часопіса аб'ёмам 15 друкаваных аркушаў. Назва часопіса – "Вопросы истории БССР", выходзіць 1 раз

[19] Тамсама. С. 45.

на квартал. Часопіс павінен мець шырокі профіль. У ім змяшчаюцца гістарычна-краязнаўчыя матэрыялы.

2. Даручыць тав. Краўчанку І. С. напісаць ад Інстытута на імя сакратара ЦК КПБ тав. Гарбунова Ц. С. дакладную запіску з абгрунтаваннем неабходнасці стварэння гістарычнага часопіса.

3. Дырэкцыі Інстытута гісторыі паставіць пытанне аб стварэнні часопіса на Аддзяленні грамадскіх навук у Прэзідыуме АН БССР»[20].

Здавалася б, справа вырашана. Аднак ажыццяўленне цытаванай пастановы адразу ж наткнулася на непераадольныя перашкоды. Асобна Бюро Аддзялення грамадскіх навук гэтага пытання не разглядала. І таму менш чым праз год акадэмічным гісторыкам давялося зноў гаварыць пра сваю патрэбу ў часопісе. У сакавіку 1958 г., калі партарганізацыя Інстытута гісторыі абмяркоўвала задачы сваёй установы ў святле рашэнняў лютаўскага пленума ЦК КПСС, Яфрэм Карпачоў нагадваў: «Мы раней хацелі выдаваць гістарычна-краязнаўчы часопіс. Цяпер у сувязі з новым палажэннем аб выданні "Трудов" універсітэтам трэба зноў узняць гэтае пытанне. Неабходна пашыраць магчымасці выдання прац інстытута»[21]. Аднак на гэты раз прапанова не трапіла ў пастанову сходу інстытуцкай партарганізацыі.

У той жа час справа гістарычнага часопіса выйшла на значна вышэйшы ўзровень – у сакавіку 1958 г. да яе звярнуліся на агульным сходзе Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, дзе разглядалася праца інстытутаў Аддзялення за 1957 г. і іх планы на 1958–1965 г. Выступаючы ў абмеркаванні даклада акадэміка-сакратара У. Перцава, галоўны вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР член-карэспандэнт Сцяпан Маргунскі паскардзіўся на абмежаваныя магчымасці аператыўнай публікацыі вынікаў даследчыцкай працы супрацоўнікаў. Калі ў іншых аддзяленнях (тэхнічных і біялагічных навук) акрамя "Весцяў" выходзяць часопісы і даклады АН БССР, – гаварыў ён, "то на ўсе

[20] Тамсама. С. 45–46.
[21] НАРБ. Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 322. С. 32.

шэсць інстытутаў Аддзялення грамадскіх навук выдаецца чатыры нумары "Весцяў" [на] 40 друкаваных аркушоў. Гэтага зусім недастаткова для публікацыі навуковай прадукцыі, якая маецца ў інстытутах"[22]. Праўда, выступоўца не выходзіў на тэму стварэння асобнага часопіса, а толькі заклікаў паставіць пытанне перад Прэзідыумам, каб той павялічыў перыядычнасць "Весцяў" і іх аб'ём – да 80 аркушаў! Нават дырэктар Інстытута гісторыі І. С. Краўчанка, які, спасылаючыся ў выступленні на прыклад Украіны як братняй рэспублікі са сваім Інстытутам археалогіі, настойваў на тым, што "Беларусь павінна мець свой Інстытут археалогіі" (маўляў, хоць яго заснаванне не запланавана на бліжэйшыя гады, на канец пяцігодкі такое пытанне абавязкова паўстане)[23], але зусім не закранаў справы часопіса.

Выступаючы наступным, Васіль Горцаў прызнаў, што пры абмежаваных выдавецкіх магчымасцях АН БССР у найгоршым становішчы знаходзяцца інстытуты Аддзялення грамадскіх навук, супрацоўнікі якіх не могуць публікавацца ў "Дакладах АН БССР", што пачалі выходзіць з 1957 г., а толькі ў "Весцях". Падтрымаўшы прапанову С. Маргунскага аб тым, каб для Аддзялення пашырыць магчымасці "Весцяў" (маўляў, сам прэзідэнт В. Купрэвіч прапануе выдаваць не 4, як ёсць, а 6 ці нават 12 разоў на год і больш чым удвая павялічыць аб'ём), ён выйшаў і на ідэю асобнага часопіса: «Вядома таксама, што да вайны ў рэспубліцы выдаваўся грамадскі часопіс "Савецкае будаўніцтва"[24]. Было б някепска падрыхтаваць таксама

[22] ЦНА НАН Беларусі. Ф. 150. Аддзяленне грамадскіх навук. Спр. 3. Пратаколы паседжанняў Бюро аддзялення (2.01.1958–30.12.1958). С. 74.

[23] Тамсама. С. 76–77.

[24] Перыёдык "Савецкае будаўніцтва" пад нязначна зменанымі назвамі выходзіў у Мінску з 1924 па 1937 г., аднак ён не з'яўляўся грамадскім і не меў дачынення да гісторыі: гэта быў палітычна-эканамічны часопіс Дзяржплана БССР. Магчыма, аўтар зблытаў яго з "Савецкай краінай", што змяніла "Наш край" і выходзіла як штомесячны орган Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук з 1930 па 1933 г.

пытанне аб выданні самастойнага часопіса для Аддзялення грамадскіх навук, падумаўшы пра яго назву. Калі гэтае пытанне добра падрыхтаваць, я думаю, што нам пойдуць насустрач – у сэнсе адкрыцця новага часопіса»[25]. Сказанае В. Горцавым неяк не звязвалася з ранейшымі клопатамі Інстытута гісторыі пра свой часопіс: выглядала, быццам ідэя асобнага гістарычнага перыёдыка была пахавана або пра яе не было вядома, і цяпер быццам нанова высоўвалася ідэя часопіса для ўсіх інстытутаў Аддзялення.

Затое гісторык У. Перцаў нагадаў пра яшчэ нядаўнюю просьбу калег па інстытуту. У заключным слове ён спачатку пахвальна адгукнуўся наконт абнадзейвальнага абяцання В. Горцава павялічыць перыядычнасць і аб'ём "Весцяў", што, аднак, залежала не толькі ад Прэзідыума АН БССР, але і ад ЦК КПБ, а далей падтрымаў даўнюю ідэю свайго часопіса: "Трэба паклапаціцца, каб у нас быў хоць нейкі часопіс па грамадскіх навуках. Без гэтага часопіса мы задыхаемся", – гаварыў ён, бо "Весці" не могуць задаволіць усе патрэбы. "У нас нядаўна падымалася пытанне аб выданні гістарычнага часопіса, але ў выніку вялікіх цяжкасцяў[26] пытанне павісла ў паветры. Трэба яго ўзняць у бягучым годзе і паспрыяць таму, каб не толькі Інстытут гісторыі атрымаў сваё выданне, але і іншыя інстытуты. Магчыма, мы задаволіліся б адным агульным часопісам для ўсіх грамадскіх навук"[27].

Як бачым, акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук яшчэ не хаваў магчымасці стварэння гістарычнага часопіса. Аднак у пастанову агульнага сходу Аддзялення грамадскіх навук, прынятую 20 сакавіка 1958 г., было ўключана толькі рашэнне аб тым, каб хадайнічаць перад Прэзідыумам АН БССР наконт павелічэння аб'ёму і перыядычнасці "Весцяў АН БССР"[28]. Ніякага новага часопіса – ні асобнага для Інстытута гісторыі, ні агульнага для ўсяго Аддзялення – сход не прасіў.

[25] ЦНА НАН Беларусі. Ф. 150. Спр. 3. С. 86–87.
[26] У арыгінале – "затруднений", пад якімі, па ўсім відаць, разумеліся цяжкасці фінансавага характару.
[27] ЦНА НАН Беларусі. Ф. 150. Спр. 3. С. 94.
[28] Тамсама. С. 99.

Такім чынам, вясной 1958 г. на Аддзяленні грамадскіх навук было вырашана не ствараць асобны гістарычны часопіс, а задаволіцца павелічэннем аб'ёму ўжо выдаванага перыёдыка, агульнага для інстытутаў грамадскіх навук. І калі рашэнне аб неабходнасці стварэння свайго інстытута археалогіі трапіла ў пастанову сходу[29] і пра яго неаднаразова згадвалася пазней, то пра ідэю асобнага часопіса для гісторыкаў зусім перасталі ўспамінаць. Аднак яна не памерла канчаткова і неўзабаве зноў усплыла.

Ужо наступнай вясной, калі партыйная арганізацыя Інстытута гісторыі АН БССР абмяркоўвала на сходзе свае задачы ў сувязі з рашэннямі XXI з'езда КПСС, да справы прафесійнага перыёдыка гісторыкаў звярнуўся Васіль Мялешка – даследчык гарадской і сельскай гаспадаркі даўняй Беларусі. Варта адзначыць, што ён таксама ўздымаў пытанне быццам нанова, не згадваючы ранейшыя прапановы і рашэнні на гэты конт. Выступіўшы ў абмеркаванні асноўнага даклада І. С. Краўчанкі, сярод іншага, ён сказаў: "Наспеў момант пастаноўкі пытання стварыць у Беларусі гістарычны часопіс. Такі часопіс ёсць на Украіне. Нават у Львове выдаецца такі часопіс. Пара ўжо і нам мець свой гістарычны часопіс"[30]. Праўда, на гэты раз прапанова павісла ў паветры, больш ніхто не падтрымаў В. Мялешку. Яго заклік стварыць сваё перыядычнае выданне не ўспамінаўся ні ў заключным слове дырэктара, ні ў рэзалюцыі сходу.

Як вынікае з праведзеных намі пошукаў, апошні раз у БССР пра патрэбу гістарычнага часопіса гаварылася ў кантэксце абвостранага супрацьстаяння сацыялістычнага блока з Захадам, звязанага з увядзеннем савецкіх войскаў у Чэхаславакію. У 1968 г. камуністы Інстытута гісторыі на сваіх сходах абмяркоўвалі пастановы красавіцкага, чэрвеньскага і ліпеньскага пленумаў ЦК КПСС,

[29] У пятым пункце пастановы сцвярджалася: "Лічыць неабходным цягам сямігодкі павялічыць сектар археалогіі Інстытута гісторыі з такім разлікам, каб яго можна было ў далейшым рэарганізаваць у самастойны Інстытут археалогіі…".

[30] НАРБ. Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 359. Пратакол № 9 (3.03.1959). С. 10.

аднадушна ўхваляючы іх рашэнні. Абгаворвалася і справа заснавання ў інстытуце новага падраздзялення – асобнага сектара для “барацьбы з фальсіфікатарамі гісторыі Беларусі”[31]. Рашэнне аб арганізацыі такой структурнай адзінкі прымалася ў ЦК КПБ, і яна з’явілася ў тым жа годзе як сектар замежнай гісторыі[32]. Праца інстытута разглядалася тады ў шырокім грамадска-палітычным кантэксце. Увосень 1968 г. партыйны сход прыняў пастанову з шэрагу пунктаў, якія былі прапанаваны з мэтай “павышэння эфектыўнасці навуковых даследаванняў і ўкаранення іх вынікаў у практыку”. Вось жа сярод новых арганізацыйных крокаў значылася не толькі стварэнне асобнага Інстытута археалогіі, сектара дапаможных дысцыплін і археалагічнага музея, але таксама і “выданне гістарычнага часопіса, які б выходзіў адзін раз у квартал”[33].

Наколькі цяпер вядома, і з гэтай пастановы нічога не атрымалася. Праўда, для 1968 г. такі вынік быў ужо хутчэй заканамерны, чым нечаканы. Тады, у атмасферы абвостранага ідэалагічнага супрацьстаяння, вышэйшыя партыйныя ўлады рэспублікі ці СССР маглі не падтрымаць прапанову стварыць беларускі часопіс ужо сапраўды з меркаванняў асцярожнасці. Бо пара заснавання такіх выданняў мінула разам з кароткай эпохай адлігі. У новых умовах такая прапанова ў вачах дзяржаўна-партыйных функцыянераў магла выглядаць не толькі сумнеўнай, але і неактуальнай, і нават небяспечнай.

Дык што ж перашкаджала ажыццявіць прапанову раней, калі на гэта была спрыяльная пара? Вядома, не партыйны кантроль ці забароны з Масквы. Адразу пасля XX з’езда Масква, здаецца, магла даваць толькі зялёнае святло, бо ўсе гістарычныя часопісы ствараліся тады пад лозунгам вяртання да сапраўднага марксізму-ленінізму, пераадольвання культу асобы, а таксама для патрэбаў барацьбы з ідэалогіяй Захаду – “империалистической

[31] НАРБ. Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 847. С. 68–70, 73–76.

[32] Гл.: Институт истории Национальной академии наук Беларуси (1929–2009) / Коваленя А. и др. Минск, 2009. С. 61.

[33] НАРБ. Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 847. С. 156, 170.

реакцией". У тым кантэксце новыя спецыяльныя перыёдыкі гістарычнага профілю разглядаліся як "оружие воинствующей большевистской партийности", якое павінна служыць выкрыванню фальсіфікацый ідэалагічнага ворага[34]. Зразумела, у адпаведнасці з такой установкай і стваральнікі часопіса ўкраінскіх гісторыкаў сцвярджалі, што іх выданне "ставіць перад сабой мэту глыбока асвятляць вядучую ролю Камуністычнай партыі, пашырэння і перамогі марксісцка-ленінскай тэорыі на Украіне…"[35], асвятляць ролю Леніна і рабочага класа, умацаванне дружбы народаў сацыялістычнага лагера і да т. п. Аднак пры гэтым у Кіеве было ясна сказана і іншае, а менавіта, што "асноўнай задачай часопіса ёсць асвятленне гісторыі ўкраінскага народа з даўніх часоў да нашых дзён, яго гераічнай барацьбы за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне"[36]. У Мінску пасля рытуальнай крытыкі гісторыкаў у канцы 1940-х г. за нацыянальны ўхіл[37] такіх смелых задач больш не ставілі, пазбягаючы нават блізкіх фармулёвак. Таму няўдача спробаў беларускіх гісторыкаў стварыць свой часопіс наўрад ці магла быць звязаная з перашкодамі ідэалагічна-палітычнага характару.

Больш праўдападобна, што з'яўленню гістарычнага часопіса ў БССР перашкодзіў банальны недахоп

[34] Гл.: За творческую разработку новой и новейшей истории // Новая и новейшая история. 1957. № 1. С. 3–4.

[35] Від Редакційної колегії // Український історичний журнал. 1957. № 1. С. 6.

[36] Тамсама. С. 5.

[37] Гл.: Іоўчук М. Сучасныя задачы савецкай навукі БССР у справе комуністычнага выхавання народа // Большэвік Беларусі. 1947. № 7. С. 23; ён жа. Узняць работу з інтэлігенцыяй на ўзровень сучасных задач КП(б) Беларусі // Большэвік Беларусі. 1948. № 1. С. 27–29. Пар.: Храпко Л. Стварэнне "Гісторыі БССР" як важнае дасягненне гістарычнай навукі // Весці АН БССР. Серыя грам. навук. 1985. № 4. С. 53–61; Ліндэр Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. / пер з ням. Л. Баршчэўскага. С.-Пецярбург, 2003. С. 327–339; Сагановіч Г. Канструяванне афіцыйнага выкладу гісторыі ў пасляваеннай БССР // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Т. 1. Варшава, 2015. С. 202–210.

фінансавання і адсутнасць асобы, якая б рашуча яго дамагалася. Акурат у 1957 і 1958 г. на сходах часта гаварылася, што з-за адсутнасці патрэбных сродкаў супрацоўнікі не могуць выехаць у навуковыя камандзіроўкі і тармозіцца выданне падрыхтаваных прац[38]. Дырэктар Інстытута гісторыі неаднаразова наракаў, што яго ўстанове не хапае фінансавання для выканання тых тэм, якімі неабходна займацца паводле прынятага плана. У прыватнасці, на агульным сходзе Аддзялення грамадскіх навук Іван Краўчанка гаварыў пра недахоп грошай на правядзенне археалагічных раскопак, а таксама скардзіўся на тое, што на падрыхтоўку некалькіх тамоў дакументаў па паўстанні 1863–1864 г., прадугледжаных дагаворам паміж Польскай Акадэміяй Навук і АН СССР, інстытуту не далі "ніводнай капейкі": "Мы не маем магчымасці нешта зрабіць па гэтай праблеме з-за адсутнасці грошай" [39].

Хранічны недахоп фінансавых сродкаў асабліва адчуваўся ў часы, калі прэзідэнтам АН БССР быў Васіль Купрэвіч, пры якім пачалі хутка расці штаты навуковых кадраў[40]. Напрыклад, у 1950-я г. у бюджэце Акадэміі навук узрасталі выдаткі галоўным чынам на капітальнае будаўніцтва, тады як на навукова-даследчыцкую працу грошай не хапала[41]. Сітуацыя змянілася ў 1969 г. з абраннем на пасаду прэзідэнта АН БССР вядомага беларускага фізіка Мікалая Барысевіча. Новае кіраўніцтва здолела пераканаць першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава і старшыню Савета Міністраў БССР Ціхана Кісялёва ў тым, што ў сферы навукі і вышэйшай адукацыі Беларусь выразна адстала ад іншых савецкіх рэспублік і што неаб-

[38] НАРБ. Ф. 1353. Воп. 2. Спр. 322. С. 42–43.

[39] ЦНА НАН Беларусі. Ф. 150. Аддзяленне грамадскіх навук. Спр. 3. Пратаколы пасяджэнняў Бюро аддзялення (3.01.1958–30.12.1958). С. 77–78.

[40] Гл.: Академия наук Белорусской ССР: краткий очерк / под ред. В. П. Платонова. Минск, 1989. С. 47–50. Пар.: Купревич В. Ф. Академия наук Белорусской ССР: исторический очерк. Минск, 1957. С. 20–21, 34.

[41] Токарев Н. В. Академия наук Белорусской ССР: годы восстановления и развития (1945–1991). Минск, 2016. С. 37–39.

ходна радыкальна павысіць выдаткі на акадэмічную навуку. Толькі пасля гэтага фінансаванне АН БССР значна палепшылася. У прыватнасці, за 1970-я г. выдаткі на яе ўзрасталі прыкладна на 60%[42]. Аднак на той час пытанне заснавання часопіса ўжо нікім не ставілася.

А калі б ідэю гістарычнага часопіса ў Мінску ўсё ж удалося рэалізаваць, то якім ён мог бы быць? Згадаем, што ў 1957 г. пасля спецыяльнага абмеркавання ўзнятага пытання на вучонай радзе ў Інстытуце гісторыі было вырашана выдаваць гістарычна-краязнаўчы часопіс пад назвай “Вопросы истории БССР”, і ён разглядаўся як перыёдык “шырокага профілю”. Характэрная ўжо сама назва, прапанаваная для задуманага часопіса: у ёй выкарыстоўвалася савецкая абрэвіятура “БССР”, не было поўнай назвы краіны ці вытворнай формы. У Мінску ў тыя гады ў дачыненні да гісторыі і гістарычнай навукі ўжо (і яшчэ) рэдка адважваліся выкарыстоўваць азначэнне “беларуская” – мабыць, каб не выклікаць падазрэнняў у схільнасці да беларускага нацыяналізму. Добрай ілюстрацыяй гэтага могуць паслужыць тытулы тагачасных навуковых выданняў па гісторыі Беларусі: нават выданні перыяду адлігі, ад школьнага падручніка да хрэстаматый і абагульняльных акадэмічных прац – практычна ўсе яны ўтрымлівалі ў назве бязлікае “БССР”[43], хоць прысвячаліся мінуламу далёка не толькі савецкай эпохі. Супраць такой практыкі публічна выступаў, наколькі ведаю, толькі Мікалай Улашчык, які, напрыклад, у 1966 г. называў недапушчальным выкарыстанне “БССР” у назве школьнага падручніка пад

[42] Тамсама. С. 39–42.

[43] Прыклады глядзі ў: Гісторыя БССР: тэматычны паказальнік савецкай літаратуры (1945–1958 гг.) / скл. У. Ціток, А. Ігнаценка, Я. Шапчыц. Мінск, 1959. Пар.: История БССР: Учеб. пособие для учащихся средней школы / Л. С. Абецедарский, М. П. Баранова, Н. Г. Павлова. Минск, 1960; Хрестоматия по истории БССР. Ч. 1. Сост. Е. М. Зуев и З. Ю. Копысский. Минск, 1961; Игнатенко А. П. Введение в историю БССР. Минск, 1965; История БССР. Учеб. пособие для вузов / под ред. В. В. Чепко, А. П. Игнатенко. Ч. 1. Минск, 1981. Рэдкім выключэннем стала “Советская историография Белоруссии” (Мінск, 1957), аднак яна выдавалася на правах рукапісу для ўнутранага абмеркавання.

рэдакцыяй Л. Абэцэдарскага, справядліва напамінаючы, што "сваю краіну варта б называць не абрэвіятурай"[44].

Калі ў Кіеве менавіта ў гады адлігі гісторыкам удалося рэабілітаваць тэрмін "украінская гістарыяграфія"[45], і назва "Український історичний журнал" там нікога не пужала, як і ўкраінская мова выдання, то ў Мінску планаваны часопіс збіраліся выдаваць на рускай мове (пра гэта сведчыць і прапанаваная назва, і моўны рэжым Інстытута гісторыі, у якім уся дакументацыя і сходы ўжо вяліся па-руску), а пытанне беларускай мовы пры гэтым нават не паўставала.

Мяркуючы пра магчымы змест праектаванага часопіса, варта адзначыць, што хоць на агляд і крытыку прац заходняй гістарыяграфіі або рэцэнзіі на кнігі гісторыкаў сацыялістычнага блока наўрад ці можна было б спадзявацца (у савецкія часы гэта заставалася прэрагатывай Масквы), пэўная ўвага да тэарэтычных пытанняў, устаноўка на дыскусійнасць і навуковую крытыку хоць бы айчынных публікацый па гісторыі ў такім перыёдыку была б не толькі мэтазгоднай, але і рэальна магчымай – яна цалкам адпавядала б дырэктыўнай лініі вышэйшага кіраўніцтва на "пераадольванне дагматызму і начотніцтва" як наступстваў культу асобы. Аднак у пратаколах тых пасяджэнняў, на якіх уздымалася пытанне гістарычнага часопіса, не знаходзім ні згадкі пра неабходнасць пастаноўкі падобных задач перад будучым перыёдыкам. Гэта зноў моцна кантрастуе з тым, як канцэптуалізаваўся свой гістарычны часопіс у Кіеве, дзе "распрацоўку тэарэтычных пытанняў гістарычнай думкі", крытыку і разгортванне творчых дыскусій вызначылі як яго "адно з найважнейшых заданняў"[46].

[44] Гл.: Улащик Н. Н. О фактах истории "плохих" и "хороших" // Народная газета. 1996. 23 лют. С. 4.

[45] Марченко М. Українська історіографія (з давніх часів до середини XIX ст.). Київ, 1959. Ужо тэксты XVII ст. аўтар смела трактаваў як "украінскія".

[46] Від Редакційної колегії // Український історичний журнал. 1957. № 1. С. 9.

З аналізу выяўленых дакументаў ствараецца агульнае ўражанне, што ў Мінску канца 1950-х г. праектаваны гістарычны часопіс задумваўся галоўным чынам як сродак трансляцыі гісторыкамі пэўных вынікаў іх працы да шырокай грамадскасці. Для гістарычнай асветы насельніцтва такое выданне, вядома ж, магло выканаць важную ролю, але нельга не здзіўляцца, што навукоўцамі зусім не праглядалася магчымая роля перыёдыка для развіцця сваёй дысцыпліны. Яго наогул не канцэптуалізавалі выданнем навуковым, патрэбным для развіцця беларускай гістарыяграфіі. Здаецца, у асяроддзі гісторыкаў, што мелі дачыненне да спробаў стварыць часопіс, тады яшчэ не было разумення акадэмічнага перыёдыка як найважнейшага канала навуковай камунікацыі і форуму навуковай крытыкі, так патрэбнай для паляпшэння навуковай практыкі.

Пасля нескарыстаных магчымасцяў, дадзеных перыядам хрушчоўскай палітычнай адлігі, Мінск заставаўся без гістарычнага часопіса да канца савецкай эпохі. Праўда, у 1970 г. пачалі выходзіць "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" – інфармацыйны навукова-метадычны бюлетэнь Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, у якім часта публікаваліся і гісторыкі, але, зразумела, бюлетэнь не мог выконваць функцый гістарычнага часопіса. Перад ім ставілася мэта інфармаваць пра дзейнасць пярвічных арганізацый таварыства, расказваць пра ахову помнікаў, пра новыя пошукі і знаходкі, таму, хоць выданне і бралася "асвятляць гістарычны шлях беларускага народа"[47], рабілася гэта скрозь прызму стварэння помнікаў культуры, і гістарычным публікацыям у ім належала досыць абмежаванае месца. У 1989 г., дзякуючы дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця за гады перабудовы, "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" ўдалося ператварыць у "Спадчыну" – часопіс Беларускага фонду культуры і Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, які браўся за пякельна актуальную

[47] Слова да чытача // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1970. № 1. С. 4.

задачу адраджаць памяць – “весці шырокую прапаганду гісторыі і культуры беларускага народа”[48], папулярызаваць беларускае мінулае ў масавай аўдыторыі. Пасля “Спадчыны” за падобную справу ўзялася і “Беларуская мінуўшчына”, якая пачала выходзіць у 1993 г. і прэзентавалася як “гістарычна-публіцыстычны ілюстраваны часопіс”, мэтай якога заснавальнікі і рэдакцыя вызначылі “адраджэнне гістарычнай памяці народа” ў суверэннай Беларусі[49]. Належыць прызнаць, што як папулярызатарскае выданне “Беларуская мінуўшчына” была адметнай і досыць паспяховай, але праіснавала толькі шэсць гадоў і ў 1999 г. была ператворана ў вузка спецыялізаваны часопіс “Архівы і справаводства”.

Нішу навуковага гістарычнага перыёдыка, што заставалася вакантнай з 1950-х г., быццам заняў “Беларускі гістарычны часопіс”, у ліку заснавальнікаў якога выступілі Інстытут гісторыі і БДУ. Дэкан гістарычнага факультэта БДУ Пётр Шупляк лічыў, напрыклад, што БГЧ “будзе працаваць на станаўленне новай гістарычнай парадыгмы”, публікуючы і працы па метадалогіі, што новы часопіс “павінен стаць цэнтрам кансалідацыі беларускіх гісторыкаў, сапраўдным люстэркам беларускай гістарычнай думкі”[50]. Ці стаў ён такім? Здаецца, пытанне рытарычнае. Не сакрэт, што, камбінуючы навуку і дыдактыку, БГЧ ад самага пачатку больш увагі аддаваў гістарычнай адукацыі, арыентуючыся нават на школьную аўдыторыю. Для сапраўды навуковых публікацый у ім рэдка знаходзілася месца, а ў артыкулах тэарэтычнага характару, гістарыяграфічных аглядах, сталым рэцэнзаванні і крытыцы найноўшых выданняў рэдакцыя, здаецца, наогул не бачыць патрэбы.

У канцы 1990-х г. адбылася яшчэ адна спроба стварыць афіцыйны акадэмічны перыёдык па гісторыі. Канстатуючы нездавальняльны стан з навуковымі часопісамі

[48] Вяртанне памяці // Спадчына. 1989. № 1. С. 2–3.

[49] Беларуская мінуўшчына. 1993. № 1. Гл. слова заснавальнікаў на с. 3–4.

[50] Слова заснавальнікам // БГЧ. 1993. № 1. С. 11–12.

гістарычнага профілю ў Беларусі, тагачасны дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі акадэмік М. Касцюк пісаў: "У гэтых умовах гісторыкі Беларусі ўжо даўно адчуваюць патрэбу ў перыядычным выданні, якое ў адрозненне ад вышэй згаданых часопісаў[51] публікавала б найперш матэрыялы па найбольш значных праблемах айчыннай гісторыі з ухілам на іх глыбокае тэарэтычнае асэнсаванне"[52]. Гэта быў прыклад выразнага прызнання патрэбаў звароту да тэарэтычных пытанняў гістарычнай навукі ў афіцыйным друкаваным органе суверэннай Беларусі. Для задавальнення такіх патрэбаў і прызначаўся заснаваны штогоднік Інстытута гісторыі, – сцвярджалася ў рэдактарскім уступным слове. Аднак сталася так, што пасля выхаду першага нумара выданне, пазіцыянаванае як інстытуцкі перыёдык, у выніку змены кіраўніцтва названага інстытута наогул спыніла існаванне.

Перакананы, што калі б цяперашнія кіраўнікі галоўных інстытутаў беларускай гістарычнай навукі адэкватна разумелі патрэбы гістарыяграфічнага працэсу, то краіна даўно мела б добры дзяржаўны часопіс для гісторыкаў. Але такога выдання ўсё яшчэ няма, і гэты факт набывае сімвалічнае значэнне, звязваючы беларускую гістарыяграфію з яе савецкай спадчынай, з сітуацыяй тых нерэалізаваных магчымасцяў, пра якія гаварылася вышэй.

[51] Аўтар меў на ўвазе "Спадчыну", БГЧ і "Архівы і справаводства".

[52] Касцюк М. Да чытача // Штогоднік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. С. 5.

# Why the Belarusian SSR Did not Have a Historical Journal

**Hienadź Sahanovič**

Unlike Ukraine, Belarus did not have its own journals on national history in the Soviet times. The absence of an academic periodical on history in Minsk was typically attributed to obstacles placed by Moscow and excessive wariness shown by the local communist party leaders. However, archival records do not substantiate this version. During Khrushchev's political thaw, Belarusian historians could have started their journal. They petitioned for it more than once in 1957 and 1958, but their initiative was blocked. The author argues that all the attempts to launch a historical journal in Minsk failed because the Academy of Sciences of the Belarusian SSR lacked both financial resources for the project and an individual who could have successfully sought them.

# Хроніка Быхаўца і яе паходжанне*

## Рымантас Ясас

### Ад перакладчыка

У 1971 г. у Вільні выйшаў з друку пераклад на літоўскую мову Хронікі Быхаўца – арыгінальнага помніка агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ першай трэці XVI ст. Да 2011 г. гэты помнік быў вядомы толькі па адным спісе, які атрымаў назву ад прозвішча ўладальніка рукапісу Аляксандра Быхаўца і даў назву ўсяму Поўнаму зводу летапісання ВКЛ[1].

Пераклад выканаў літоўскі гісторык Рымантас Ясас. Акрамя ўласна перакладу, уступу і каментароў, у выданне ўключана навуковае даследаванне "Хроніка Быхаўца і яе паходжанне" з назіраннямі і высновамі вучонага, што ўзніклі ў час працы над перакладам. Пры гэтым

* Перакладзена паводле: Jasas R. Bychovco kronika ir jos kilmė // Lietuvos metraštis: Bychovco kronika, vertė, įvadą ir paaiškinimus parašė R. Jasas (ser. Lituanistinė biblioteka, 10). Vilnius: Vaga, 1971. P. 8–38.

[1] На сённяшні дзень вядомыя два спісы Поўнага зводу – спіс Быхаўца і Вавельскі. Апошні быў выяўлены ў 2011 г. у фондах Нацыянальнага архіва ў Кракаве. Больш падрабязна гл.: Gudmantas K. Lietuvos metraščio Vavelio nuoraљas (fragmentas) // Senoji Lietuvos literature. 2012. Kn. 34. S. 121–151; Міхальчук Г. Новы спіс агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з "Хронікай Быхаўца" // Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі гістарычны зборнік. Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 2016. № 45. С. 190−225.

высновы тычацца не толькі ўласна Хронікі Быхаўца, часу і асяродку яе ўзнікнення, магчымых крыніц, але і гісторыі стварэння другога, або Пашыранага, зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ – Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага.

Нягледзячы на тое, што з моманту апублікавання перакладу Р. Ясаса прайшло амаль паўстагоддзя, да сённяшняга часу даследаванне "Хроніка Быхаўца і яе паходжанне" не было перакладзена на беларускую мову, што значным чынам паўплывала на ступень засвоенасці даследавання і прыведзеных у ім высноў беларускімі гістарыяграфіяй і літаратуразнаўствам. Між тым высновы, да якіх прыйшоў у час працы над перакладам Р. Ясас, да гэтай пары не страцілі сваёй актуальнасці, а асобныя з іх могуць паслужыць зыходнай кропкай для новых даследаванняў і адкрыццяў.

У прыватнасці Р. Ясас пацвердзіў меркаванне пра тое, што Пашыраны звод быў створаны па ініцыятыве Альбрэхта Гаштаўта ў другім дзесяцігоддзі XVI ст., да 1519 г. Больш за тое, даследчык доказна абгрунтаваў, што не толькі Пашыраны звод, але і ўся Хроніка Быхаўца (а гэта значыць сам Поўны звод) была напісана пры жыцці і па ініцыятыве Альбрэхта Гаштаўта, неўзабаве пасля стварэння Пашыранага зводу. Час стварэння Поўнага зводу акрэслены ў даследаванні дастаткова дакладна – мяжа другога і трэцяга дзесяцігоддзя XVI ст. (1519–1521 або 1525 г.).

Такім чынам, у навуковым даследаванні Р. Ясаса была не проста пастаўлена пад пытанне, але ў значнай ступені аспрэчана найбольш распаўсюджаная на момант працы над перакладам гіпотэза пра датаванне часу ўкладання Поўнага зводу сярэдзінай – другой паловай XVI ст.

Для абгрунтавання сваіх высноў Р. Ясас прывёў не толькі аналіз канкрэтных гістарычных фактаў (напрыклад, з жыцця і службовай дзейнасці А. Гаштаўта і членаў ягонай сям'і), але і паказаў Хроніку Быхаўца ў супастаўленні з шэрагам гісторыка-літаратурных твораў, напісаных у канцы другога – трэцім дзесяцігоддзі XVI ст., у тым ліку аўтарства самога А. Гаштаўта. На падставе гэтага даследчык выявіў кропкі судакранання

паміж пэўнымі гістарычнымі падзеямі, гісторыка-літаратурнымі тэкстамі, што дало магчымасць абгрунтаваць уласныя высновы.

Хроніку Быхаўца ў сваім даследаванні Р. Ясас разглядаў як характэрную з'яву шляхецкай культуры ВКЛ першай трэці XVI ст. Гэтую культуру, як адзначыў сам даследчык, "пазней заліло хваляй польскай феадальнай культуры". Аднак самае важнае – і ў даследаванні Р. Ясаса нездарма акцэнтавана на гэтым увага, – што яна была. Тое, якой гэтая культура была, нам дапамагаюць убачыць і зразумець Хроніка Быхаўца і Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага, спісы якіх, дарэчы, выкарыстоўваў Мацей Стрыйкоўскі, калі пісаў сваю "Хроніку Польскую, Літоўскую, Жамойцкую і ўсёй Русі"[2] – першую надрукаваную гісторыю ВКЛ.

Вывучэнне Хронікі Быхаўца (услед за Р. Ясасам) як характэрнай з'явы шляхецкай культуры ВКЛ першай трэці XVI ст. – гэта магчымасць не толькі лепш зразумець шляхецкую культуру ВКЛ гэтага перыяду, але таксама – магчымасць зразумець і прааналізаваць асаблівасці пераемнасці асобных сюжэтаў, матываў, ідэй Хронікі ў пазнейшых гісторыка-літаратурных творах ВКЛ.

Асобнай увагі заслугоўваюць прыведзеныя Р. Ясасам тэксталагічныя супастаўленні Хронікі Быхаўца і "Хронікі палякаў" Мацея Мехавіты (першай выдадзенай друкам гістарычнай хронікі Польскага Каралеўства)[3]. На іх падставе даследчык зрабіў высновы, што твор М. Мехавіты быў вядомы аўтару Хронікі Быхаўца і мог быць выкарыстаны ім у якасці крыніцы. Сярод магчымых крыніц Хронікі даследчык назваў таксама "Гісторыю Аляксандра" – незахаваны да нашага часу тэкст, які апісвае часы праўлення вялікага князя літоўскага Аляксандра Казіміравіча і на які ў працы "Хроніка палякаў" спасылаецца таксама М. Мехавіта.

[2] Stryjkowski M. Która przed tym nigdy świata nie widziała Kronika Polska, Litewska, Zmodzka i Wszystkiej Rusi. Królewec, 1582.

[3] Mathiae de Mechovia. Chronica Polonorum. Cracoviae, 1519, 1521.

Яшчэ больш тэксталагічных супастаўленняў, а таксама шэраг верыфікаваных гістарычных звестак, удакладненняў, тлумачэнняў, пададзена ў каментарах, далучаных да літоўскамоўнага перакладу. На сёння гэта найбольш поўныя каментары да Хронікі Быхаўца.

Нягледзячы на доўгую традыцыю даследавання Хронікі Быхаўца (з сярэдзіны XIX ст.) і багатую гістарыяграфію па тэме, да цяперашняга часу існуе шэраг нявырашаных пытанняў у вывучэнні гэтага помніка. З'яўленне перакладу, спадзяёмся, значна пашырыць аўдыторыю чытачоў, знаёмых з даследаваннем Р. Ясаса, дасць магчымасць развіць або аспрэчыць асобныя высновы вучонага. І гэта будзе чарговы крок у вывучэнні гісторыі беларуска-літоўскага летапісання.

У прапанаваным перакладзе максімальна захаваны аўтарскі стыль. Паколькі праца была апублікавана 46 гадоў таму, пры неабходнасці былі ўнесены пэўныя ўдакладненні, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў каментарах.

Выказваю шчырую падзяку Валюсу Венцкунасу, Юраце Якубавічэне, Таццяне Кур'ян, Ягору Прыстаўку за дапамогу пры падрыхтоўцы перакладу.

*Ганна Міхальчук*

Да гэтага часу вядомыя тры найбольш значныя помнікі летапіснай літаратуры, якія ўзніклі ў Вялікім Княстве Літоўскім: Кароткі звод, Пашыраны звод і Хроніка Быхаўца[1].

Гэтыя зводы, таксама як і ўключаныя ў іх творы, – ананімныя: мала вядомыя або зусім невядомыя іх аўтары, дакладны час напісання і месца. Ніводзін з іх не быў у свой час надрукаваным, а распаўсюджваўся ў рукапісных копіях, якіх больш шырока вядома па меншай меры 22[2]. Большасць гэтых спісаў і звязаных з імі асобных фраг-

[1] Гл.: Lietuvių literatūros istorija. T. I. Feodalizmo epocha / red. K. Korsakas. Vilnius, 1957. P. 55–72; Jučas M. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968.

[2] Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мінск, 1969. С. 13. Да вядомай колькасці спісаў неабходна дадаць яшчэ два спісы Пашыранага зводу, якія знаходзяцца ў Вільні і зусім не згаданыя ў літаратуры. Адзін з іх – спіс сярэдзіны XVIII ст. (Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, ф. В. 17, № 29, арк. 3–12), ён тэксталагічна супадае з апублікаваным Альшэўскім спісам. Другі (Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР, Таварыства прыяцеляў навук у Вільні [Vilniaus Lenkų mokslo bičiulių draugijos], ф. 1135, воп. 17, спр. 10) – спіс пачатку XX ст., перапісаны А. Прахаскам з рукапісу, які адпавядае апублікаванаму спісу з Пазнанскай бібліятэкі Рачынскіх.
Шырэй пра летапісныя спісы Вялікага Княства Літоўскага гл.: Сушицький Т. Західньо-рускі літописи як пам'ятки літератури. Київ, 1930. С. 55–100; Ptaszycki S. Kodeks Olszewski Chomińskich. Wielkiego Księstwa Litewskiego i Żmódzkiego Kronika. Warszawa – Lublin, 1932. C. I–VIII.
*Заўвагі перакладчыка:* 1. Сучасная назва Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР – Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. Названыя Р. Ясасам аркушы ўключаюць у сябе два творы: Wielkiego Księstwa Litewskiego i Zmudzkiego Kronika, сігнатура: F17–29, арк. 3–11адв.; Wielkiego Księstwa Litewskiego Kroniczka któtko pisana, сігнатура: F17–29, арк. 12.
2. Сучасная назва Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР – Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы.
3. У 2011 г. быў выяўлены адзін са спісаў Поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ (Хронікі Быхаўца), які па месцы знаходжання названы Вавельскім. У навуковы зварот помнік быў уведзены К. Гудмантасам (Gudmantas K.

ментаў апублікавана ў выданні расійскай Археаграфічнай камісіі, якое называецца “Полное собрание русских летописей”[3].

У Кароткім зводзе, які быў створаны каля 1446 г., паслядоўна і поўна асветлены толькі 1377–1445 гады – палітычная гісторыя перыяду феадальнай Літоўскай дзяржавы. У ім не было больш вычарпальных звестак не толькі пра кіраванне Гедыміна, але і пра кіраванне Альгерда, і амаль ніякіх звестак з мінулага Літвы да XIV ст.

Пашыраны звод летапісаў Літвы, які называецца “Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага”, узнік, найбольш верагодна, у другім дзесяцігоддзі XVI ст. Тут гісторыя Літвы выкладзена ад старажытных часоў і пачынаецца сказам пра нараджэнне Хрыста, праўленне рымскага імператара Аўгуста, пералікам рымскіх імператараў да Нерона і апісаннем Неронавых зверстваў. Ратуючыся ад ягонага праследу, частка рымскай “шляхты” пад кіраўніцтвам Палямона, сваяка імператара Нерона, рушыла на поўнач і стала пачынальнікамі літоўскага народа і дзяржавы. Пазней, калі нашчадкі Палямона і наступнай княжацкай дынастыі герба “Кентаўр” вымерлі, літоўскі сталец перайшоў да першага правіцеля дынастыі Гедымінавічаў Віценя.

У навуковай літаратуры гэтая гісторыя называецца легендарнай. Таму і пачатак тэксту Пашыранага зводу, частка да змовы Гедымінавых сыноў Кейстута і Альгерда супраць брата Яўнута (1345 г.), таксама называецца легендарнай.

Далейшая гісторыя Літвы, пачынаючы з пераліку Гедымінавых сыноў, у Пашыраным зводзе выкладзена

Lietuvos metraščio Vavelio nuoraљas (fragmentas) // Senoji Lietuvos literature. 2012. Kn. 34. S. 121–151). Расчытаны тэкст рукапісу прадстаўлены ў публікацыі Г. Міхальчук «Новы спіс агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з “Хронікай Быхаўца”» // Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі гістарычны зборнік. 2016. № 45. С. 190−225.

[3] Полное собрание русских летописей (далей ПСРЛ). Т. 17. Западнорусские летописи. С.-Петербург, 1907.

паводле другой, створанай у канцы XV ст., рэдакцыі Кароткага зводу. Пасля далучэння новай легендарнай гісторыі Літвы да перапісанай складовай часткі Кароткага зводу – апісання часоў Вітаўта "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" – быў цалкам перароблены і пачатак гэтай крыніцы. А менавіта, пасля пераліку Гедымінавых сыноў, якім у Кароткім зводзе пачынаецца "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", у Пашыраны звод уключана паданне пра Гедымінавага сына Кейстута, ягоную жонку Біруту і пра нараджэнне іх сына Вітаўта.

У некаторых рукапісах Пашыранага зводу (Рачынскага і Еўраінаўскім) гэтыя дапаўненні яшчэ большыя. Пасля Кейстутавага і Альгердавага перавароту (1345 г.) устаўлены пералік Альгердавых сыноў і іх уладанняў, а ў Еўраінаўскім спісе да гэтага пераліку далучана яшчэ паэтычная легенда пра паход Альгерда на Маскву, якой няма ні ў Кароткім, ні ў іншых спісах Пашыранага зводу, а толькі ў Хроніцы Быхаўца.

Аднак далей гісторыя Літвы перапісана з Кароткага зводу, больш значнага новага матэрыялу не ўнесена, толькі адрэдагаваны мова, стыль, парадак выкладу звестак.

Асноўны тэкст як у Кароткім, так і ў Пашыраным зводзе заканчваецца аповедам пра зімовую вайну 1444–1445 г. і перамір'е паміж вялікім князем літоўскім Казімірам Ягелончыкам і вялікім князем маскоўскім Васілём II Васілевічам (Цёмным). Праўда, у многіх спісах Пашыранага зводу ёсць дапаўненні: пагадовыя запісы і разгорнутыя апавяданні пра некаторыя больш важныя падзеі канца XV і першай паловы XVI ст. Аднак гэтыя дапаўненні асноўнага тэксту не належаць аўтару Пашыранага зводу, а дапісаны на некалькіх этапах у сярэдзіне XVI ст. Яны расцэненыя як самастойны этап развіцця летапіснай літаратуры ВКЛ.

## I. Рукапіс і яго публікацыя

Хроніка Быхаўца, у параўнанні з Кароткім і Пашыраным зводамі, – найбольш поўная гісторыя Літвы, што

была напісана да сярэдзіны XVI ст.; у ёй запоўнены прабелы Кароткага зводу ў апісанні часоў праўлення Вітаўта, а гісторыя Літвы пасля 1446 г. сістэматычна апісана да 1506 г.

Рукапіс Хронікі Быхаўца перад 1830 г. у бібліятэцы Аляксандра Быхаўца ў маёнтку Магілёўцы выявіў настаўнік Віленскай гімназіі Іпаліт Клімашэўскі. Вымушаны эміграваць з-за ўдзелу ў паўстанні 1831 г., ён паспеў надрукаваць найбольш драматычны фрагмент Хронікі Быхаўца – апавяданне пра забойства Вітаўтавага брата Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440 г. У кароткай прадмове пра знаходку рукапісу ў бібліятэцы Аляксандра Быхаўца І. Клімашэўскі першым даў ацэнку гэтай хронікі[4].

Намер І. Клімашэўскага апублікаваць увесь тэкст Хронікі Быхаўца[5] ажыццявіў Тэадор Нарбут, найбольш вядомы літоўскі гісторык кірунку рамантыкаў першай паловы XIX ст.

Па просьбе Т. Нарбута ўладальнік рукапісу Аляксандр Быхавец перадаў яго знаёмаму гісторыка – суддзі Вінцэнту Яноўскаму, а апошні 4.02.1834 г. пераслаў рукапіс Т. Нарбуту ў яго маёнтак Шаўры Лідскага павета, у Нацкую парафію. У лісце ён прыгожа агаварыўся, што дасылае “чароўны помнік старажытнасці”, які нагадвае пра “дзікія звычаі і веліч нашага народа, падступныя напады і крывавыя войны”, які не можа называцца дакладнай хронікай, але дапаможа ў напісанні нацыянальнай гісторыі[6].

Сапраўды, Т. Нарбут шырока, хоць і некрытычна выкарыстоўваў новую крыніцу ў найважнейшай працы свайго жыцця – 9-тамовай “Старажытнай гісторыі літоўскага

[4] O śmierci x. Zygmunta Kiejstutowicza. Wyciąg z kroniki litewskiej // Noworocznik Litewski na rok 1831, wydany przez H. Klimaszewszkiego. Wilno, 1830. P. 91–102.

[5] Kraszewski J. Hipolit Klimaszewski // Przegląd literacki “Kraju”. 1888. № 41. P. 5.

[6] Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. Ф. 18, спр. 185, арк. 181 (сучасная сігнатура: F18–185, 181r. – *Заўвага перакладчыка*).

народа" (Narbutt T. Dzieje starożytne narodu Litewskiego. T. I–IX. Wilno, 1835–1841). Падкрэсліваючы каштоўнасць Хронікі Быхаўца, Т. Нарбут пісаў гісторыку І. Анацэвічу, што гэта "скарб скарбаў, тая галоўная крыніца, з якой чэрпаў Стрыйкоўскі. Я ўзяў яе за аснову сваёй працы як адзінае сведчанне літоўскай гісторыі супраць упіканняў, што былі зроблены Стрыйкоўскаму"[7].

Завяршаючы "Гісторыю Літвы", Т. Нарбут з 1838 г. пачаў рупіцца пра друк Хронікі Быхаўца. 23.02.1844 г. ён адаслаў рукапіс у Вільню свайму самаму блізкаму сябру доктару А. Рэнье, просячы перадаць яго сваяку В. Нарбуту[8], які пазней кіраваў справамі друку і чытаў карэктуры.

У 1846 г. Хроніка Быхаўца, якую, па словах С. Даўкантаса, усе даўно ўжо чакалі "як спрагнелыя кроплі вады"[9], выйшла асобным выданнем[10]. Тэкст рукапісу ў ёй быў перададзены без ніякіх правак, з арфаграфіяй, памылкамі пунктуацыі і заўвагамі на палях. У спасылках Т. Нарбут растлумачыў некаторыя месцы тэксту,

[7] Тамсама. Ф. 18, спр. 185, арк. 268. У артыкуле Р. Ясаса ўказаны аркуш 268, паводле цяперашняй пагінацыі старонак справы цытата знаходзіцца на аркушы 165адв. (F18–185, 265r.). – *Заўвага перакладчыка.*

[8] "Я дасылаю ў твае рукі, дарагі Аніцэты, маю самую вялікую каштоўнасць – аўтограф хронікі Быхаўца. Зрабі ласку ўручыць пану Вінцэнту Нарбуту, які жыве ў кляштары базыліян, але ён павінен даць распіску аб атрыманні і з абавязальніцтвам вяртання пасля друку" // Kronika Rodzinna. T. 14. Warszawa, 1888. P. 358 (на гэты і іншыя лісты Т. Нарбута ўказаў Р. Стэйгвіла [R. Steigvila]).

[9] Janulaitis A. Daukanto laiškai. Senovė. T. I, kn. 4-5. Tilžė, 1922. P. 726–738 (больш дакладная назва крыніцы: Janulaitis A. Daukanto laiškai // Mūsų senovė / red. J. Tumas. 1922. № 4-5. Tilžė, 1922. Цытаваны радок знаходзіцца толькі на с. 738). *Заўвага перакладчыка:* Падобна на тое, што ў выданні дапушчана недакладнасць: замест с. 736–738, на якіх вядзецца гаворка пра выдавецкую справу, у тым ліку друк Хронікі Быхаўца, указаны старонкі 726–738, першая частка якіх не ўтрымлівае інфармацыі пра Хроніку Быхаўца ўвогуле.

[10] Narbutt T. Pomniki do dziejów litewskich. Kronika litewska. Wilno, 1846.

але гэтыя тлумачэнні маюць толькі гістарыяграфічнае значэнне, паколькі яны або састарэлі, або памылковыя. У дадатку Т. Нарбут апублікаваў факсіміле дзевяці радкоў 25-й старонкі рукапісу Хронікі Быхаўца, якія, паводле ягоных слоў, павінны добра атрымацца[11], і далучыў аповед пра шлюб Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл, узяты з іншай крыніцы. Т. Нарбут лічыў, што гэта асобны фрагмент незахаванай часткі Хронікі Быхаўца, але пазнейшыя даследаванні паказалі, што гэты аповед мае незалежнае паходжанне і вядомы з працягу Пашыранага зводу ў спісе Рачынскага.

Т. Нарбут пакінуў таксама першае і адзінае вядомае палеаграфічнае апісанне рукапісу – першы раз у III томе "Старажытнай гісторыі літоўскага народа"[12], другі раз у прадмове да публікацыі Хронікі Быхаўца[13]. Дзякуючы Т. Нарбуту ў гістарыяграфіі ўкаранілася і сучасная назва хронікі – Хроніка Быхаўца.

Як бачым з апісання Т. Нарбута, рукапіс быў параўнальна невялікага аб'ёму – 20 сшыткаў, г. зн. сагнутых у чацвёрку аркушаў, паслядоўна пранумараваных, або 160 старонак. Пасля тэксту Хронікі Быхаўца, у самым канцы, іншай рукой быў дапісаны кароткі радавод віцебскіх князёў, названы "A se jest rodoslowie kniazey Wytebskich". Перадапошняй, 159-й, старонкі была спісана толькі трэцяя частка, а апошні аркуш пусты, і на яго другой палове, г. зн. на апошняй старонцы рукапісу, почыркам XVII ст. напісана па-польску: "Kronika Litewska z ruskiego języka na polski przetłumaczona", хоць на самай справе рукапіс быў не перакладам з заходнярускай[14] на польскую мову, а толькі транскрыпцыяй першапачаткова напісанага на

[11] "Facsimile dobre bardzo będzie". 3.08.1845 г. Ліст Т. Нарбута А. Рэнье (Kronika Rodzinna. T. XIV. Warszawa, 1888. P. 358).

[12] Wiadomość o Kronice rękopisnej litewskiej, cytowanej w piśmie niniejszym, pod nazwaniem Kroniki Bychowc. Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. III. Wilno, 1838. P. 578–582.

[13] Narbutt T. Pomniki do dziejów litewskich. P. I–IV.

[14] Так у арыгінале. Сёння больш карэктна было б называць мову Хронікі Быхаўца старабеларускай. – *Заўвага перакладчыка.*

кірыліцы тэксту на лацініцу польскімі літарамі. У пачатку рукапісу (арк. 1–8) на палях тэксту былі напісаны тым жа почыркам кароткія заўвагі па змесце на польскай мове, але ці яны ўжо былі ў той копіі, з якой транскрыбаваўся знойдзены рукапіс, ці былі дапісаны тым, хто рабіў транскрыпцыю, – не высветлена.

Такім чынам, знойдзены рукапіс Хронікі Быхаўца не быў тэкстам, напісаным самім аўтарам, і нават не копіяй таго ж часу, створанай яшчэ ў XVI ст. Гэта – пазнейшы спіс з дрэнна захаванай копіі; тэкст без пачатку і канца, са шматлікімі пропускамі і скажэннямі.

Калі быў напісаны знойдзены ў А. Быхаўца рукапіс хронікі, таксама дакладна не вызначана, паколькі ў самім рукапісе не было напісанай або перапісанай даты. На падставе папяровых філіграняў і асаблівасцяў почырку Т. Нарбут меркаваў, што рукапіс быў транскрыбаваны лацінскімі літарамі ў XVII ст., але цяпер выказана іншае меркаванне, што ён яшчэ пазнейшы і датаваны XVIII стагоддзем[15].

Самы галоўны недахоп рукапісу Хронікі Быхаўца – гэта адсутнасць пачатку і канца. Тэкст пачынаецца на сярэдзіне абарванага сказа пра спалох рымлян з-за ўварвання гунаў пад кіраўніцтвам Атылы ў Італію: “[рымляне, якія] byli u tom miste, baczeczy tak welikuiu siłu ludey ieho, byli ohorneny strachom welikim y rozbehlisia z mesta”, а заканчваецца таксама абарваным сказам пра бітву войска ВКЛ з крымскімі татарамі ля Клецка ў 1506 г.: “Tatarowie że, kotoryie nebyli u bitwie, a chodyli ieszcze po zahonom, y newedaiuczy o tom, prychodyli z polonom, da…”.

Тэкст аўтографа мог быць даўжэйшым і даводзіць гісторыю ВКЛ па меншай меры да 1508 г., бо ў адным месцы, гаворачы пра Мікалая Глінскага, фаварыта вялікага князя літоўскага Аляксандра, аўтар абяцаў расказаць пра яго яшчэ шмат цікавых рэчаў. Такім

[15] Гл.: Radziszewska J. W sprawie autorstwa tzw. Latopisu Bychovca // Zeszyty Naukowe Wyższey Szkoły Pedagogicznej w Katowicach. Prace historyczne. № 2. 1967. P. 47.

чынам, ён меўся апісаць паўстанне Міхаіла Глінскага супраць Жыгімонта Старога 1508 г. Але ў знойдзеным у А. Быхаўца рукапісе тэкст абрываецца на 1506 годзе, месяцы жніўні. Можа быць, аўтар не ажыццявіў сваёй задумы, магчыма, перапісчык не скончыў транскрыпцыю ўсяго тэксту лацінскімі літарамі або, магчыма, ён карыстаўся таксама пашкоджанай копіяй, якая не мела ні пачатку, ні канца. Аднак больш за ўсё напрошваецца выснова, што мы маем справу акурат з нясконачаным творам.

Сам Т. Нарбут меркаваў, што ў знойдзеным у А. Быхаўца рукапісе адлюстравана толькі палова хронікі[16]. Яго меркаванне грунтавалася на дапушчэнні, што аўтарскі тэкст павінен быў сягаць па меншай меры 1548 года і ахопліваць гісторыю Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл.

Падобным чынам лічыць беларускі гісторык літаратуры В. А. Чамярыцкі. Паводле яго, тая частка Хронікі Быхаўца, якой не хапае, меркавана ахоплівала падзеі першай паловы XVI ст. (каля чвэрці ўсяго тэксту). Яна павінна была складацца з кароткіх запісаў, паколькі менавіта так гэтыя падзеі асветлены ў Хроніцы М. Стрыйкоўскага[17]. Але, як было адзначана, Т. Нарбут памыляўся. Апавяданне пра Жыгімонта Аўгуста і Барбару Радзівіл на самай справе было ў спісе Пашыранага зводу летапісаў ВКЛ, што знаходзіўся ў пазнанскай бібліятэцы Рачынскіх. Са спісаў Пашыранага зводу, якія маюць працягі да сярэдзіны XVI ст., маглі паходзіць і звесткі М. Стрыйкоўскага пра падзеі першай паловы XVI ст. Характэрна, што пасля 1506 г. М. Стрыйкоўскі больш не ўспамінае “рускі летапіс” (варыянт Хронікі Быхаўца), які пастаянна згадваў і з якім часам палемізаваў, выкладаючы гісторыю Літвы да 1506 г.

Адпаведна, існаванне далейшага працягу Хронікі Быхаўца пасля 1506 г. не з’яўляецца даказаным і бясспрэчным[18].

16 Narbutt T. Pomniki do dziejów litewskich. P. 11.
17 Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы. С. 173–175.
18 Пар.: Jučas M. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968. P. 106.

Другі раз тэкст Хронікі Быхаўца апублікаваў С. Пташыцкі ў 17-м томе ПСРЛ выдання Імператарскай археаграфічнай камісіі[19], у якім была надрукавана і большасць пісьмовых помнікаў летапісання Вялікага Княства Літоўскага XV–XVI ст., выяўленых да 1907 г.

У гэтым выданні Хронікі Быхаўца з Хронікі М. Стрыйкоўскага быў унесены пачатак, прапушчаны пазнакі на палях пра змест, якія былі ў выданні Т. Нарбута. Тэкст перададзены больш дасканала: у спасылках коратка ўказаны несупадзенні адпаведных месцаў Хронікі Быхаўца з адпаведнымі месцамі некаторых іншых летапісных спісаў ВКЛ і часткова з Хронікай М. Стрыйкоўскага.

Паводле публікацыі ў ПСРЛ тэкст Хронікі Быхаўца быў выдадзены трэці раз у 1966 г. Мікалай Улашчык пераклаў Хроніку на сучасную рускую мову і надрукаваў у серыі Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР "Гістарычныя помнікі народаў СССР"[20]. Выданне ажывіла цікавасць да Хронікі Быхаўца, паўплывала на з'яўленне новых даследаванняў гэтага помніка пісьменства ВКЛ як у СССР, так і за яго межамі.

Перад тэкстам перакладу Хронікі Быхаўца М. Улашчык змясціў уступ, у якім паспрабаваў вырашыць пытанні адносна яе месца напісання і аўтарства, даў кароткія тлумачэнні пра некаторыя згаданыя ў тэксце мясцовасці, больш рэдкія тэрміны і некаторыя іншыя месцы тэксту.

Варта адзначыць, што ва ўсіх выпадках Хроніка Быхаўца публікавалася як літаратурны помнік. Яе звесткі не былі правераны з прыцягненнем усіх сучасных хронікі дакументальных крыніц, не была вызначана іх надзейнасць для кожнага канкрэтнага выпадку.

[19] ПСРЛ. Т. XVII. С. 473–572.

[20] Хроника Быховца. Предисловие, комментарии и перевод Н. Н. Улащика. Москва, 1966. *Заўвага перакладчыка:* у арыгінале прыведзена памылковая назва серыі, правільная – "Памятники средневековой истории народов Центральной и Восточной Европы".

Апублікаваўшы Хроніку Быхаўца, Т. Нарбут яшчэ летам 1845 г. забраў рукапіс[21], і Хроніка да 1851 г. знаходзілася ў прыватнай бібліятэцы Т. Нарбута ў Шаўрах, – яна ўключана ў перапісаны інвентар самога гісторыка[22]. Аднак пасля смерці Т. Нарбута рукапіс знік, таму што ў вопісе ягоных кніг і дакументаў з архіва, які быў створаны ў 1864 г. настаўнікам Віленскай гімназіі Сакаловым[23], Хроніка Быхаўца не фігуруе. Ёсць падстава меркаваць, што Т. Нарбут, прадчуваючы небяспеку канфіскацыі сваёй бібліятэкі, мог дастаць рукапіс і разам з іншымі каштоўнымі рэчамі схаваць у знаёмых або сваякоў. Але невядома, каб пазней з'явілася хоць якая звестка пра гэты рукапіс.

Паколькі рукапіс знік, то паміж I і II сусветнымі войнамі сталі сумнявацца, ці існаваў ён увогуле, тым больш што выявілася ненадзейнасць некаторых іншых апублікаваных Т. Нарбутам крыніц[24]. З гэтай нагоды, наўмысна для таго, каб абняславіць помнікі даўняга пісьменства, якія ўзніклі ў Вялікім Княстве Літоўскім, было кінута падазрэнне і на Хроніку Быхаўца, што яна была напісана самім Т. Нарбутам[25].

Ад гэтага неабгрунтаванага падазрэння Т. Нарбута ў 1959 г. абараніў Р. Шалюга[26], які выявіў лісты А. Бы-

[21] "Autograf kroniki odebrałem". Ліст Т. Нарбута да А. Рэнье ад 3.VII.1845 // Kronila Rodzinna. T. XIV. Warszawa, 1888. P. 358.

[22] Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. Ф. 18, спр. 185, 17-я пазіцыя: "R. Kronika litewska, z której drukowano wydanie 1846 r., rękopis z wieku XVII" (сучасная сігнатура: F18–185\1. – *Заўвага перакладчыка*).

[23] Тамсама. Ф. 22, спр. 30, II, арк. 1–22 (сучасная сігнатура: F 22–30, арк. 1–22. – *Заўвага перакладчыка*).

[24] Karge P. Der Gesandsbericht des Ordensspitalers Grafen Konrad von Kyburg vom Jahre 1397 – eine Fälschung. Das Litauen – Buch. Wilna, 1918. P. 86–89; Łowmiański P. Sfałszowany opis obwarowania miasta Wilna // Ateneum Wileńskie, 3 (1925–1926). P. 82–94.

[25] Chodynicki K. Ze studiów nad dziejopisarstwem rusko-litewskim. T. z. Rękopis Raudański // Ateneum Wileńskie, 3. Zesz. 10–11. Wilno, 1926. P. 387.

[26] Šalūga R. Bychovco kronika. Lietuvos TRS Mosklų Akademijos darbai. Ser. A. T. 1 (6). 1959. P. 149–153.

хаўца і гісторыка Т. Нарбута аб перасылцы рукапіса В. Нарбуту і друку хронікі ў Вільні. На гэтай аснове было даказана, што рукапіс Хронікі Быхаўца на самай справе павінен быў існаваць.

## II. Структура і змест Хронікі

Па сваім змесце Хроніка Быхаўца не з’яўляецца цалкам арыгінальным творам, а складзена тым жа метадам кампілявання, што і Пашыраны звод. Толькі калі ў Пашыраным зводзе была наноў перастворана старажытная гісторыя Літвы, якой не хапала ў Кароткім зводзе, то ў Хроніцы Быхаўца па-новаму апісаны падзеі з 1446 па 1506 г., якіх яшчэ не магло быць у Кароткім зводзе і якія яшчэ не паспелі апісаць у Пашыраным.

Апісваючы мінулае Літвы ад старажытных часоў да 1445 г., аўтар Хронікі Быхаўца абапіраўся на два папярэднія зводы, але стварыў новы пачатак: перасяленне рымлян у Літву ён перанёс з часоў Нерона ў V стагоддзе нашай эры, у часы “біча божага” правадыра гунаў Атылы. Акрамя гэтага аповеду, новай, устаўленай з паўднёва-заходняга рускага Іпацьеўскага летапісу, гісторыі Міндоўга і ягонага сына Войшалка (раздзелы перакладу 9–11) і некаторых падрабязнасцяў, усё астатняе, што выкладзена ў пачатковай (легендарнай) частцы ад Палямона да канфлікту Кейстута і ягонага сына Вітаўта са спадкаемцам Альгерда Ягайлам (раздзелы 1–19), перапісана з легендарнай часткі другой рэдакцыі Пашыранага зводу, а наступны перыяд – апошняе дваццаціголддзе XIV ст. і першая палова XV ст. (раздзелы 25–46) – з Кароткага зводу.

Аднак перапісаныя з Пашыранага і асабліва з Кароткага зводу тэксты не былі перанесены ў Хроніку Быхаўца механічна, а ў многіх выпадках былі вельмі мэтанакіравана перапрацаваны, дапоўнены новымі сказамі, абзацамі, новымі арыгінальнымі аповедамі і нават цэлымі серыямі іх. Такіх арыгінальных уставак,

якія складаюцца з аднаго або некалькіх апавяданняў, уключаных у спісаны з папярэдняга зводу тэкст, шэсць (раздзелы 22, 24, 28–29, 31, 34–41, 43–45). Мэтай некаторых з іх было больш поўна асвятліць праўленне Альгерда, Ягайлы, Вітаўта і Свідрыгайлы, а таксама пачатак праўлення Казіміра Ягелончыка, актуальныя адносіны з Польшчай і праблемы з іншымі суседзямі, а іншых – узвысіць перад Літоўскай дзяржавай заслугі папярэдніх прадстаўнікоў роду Гаштаўтаў, уплывовых у першай палове XVI ст. літоўскіх магнатаў, дзяржаўных дзеячоў.

У цэлым гэтыя арыгінальныя аповеды ў тэксце Хронікі Быхаўца да 1445 г. не што іншае, як паслядоўны працяг працы, распачатай пры стварэнні Пашыранага зводу, калі ўжо быў перапрацаваны і папоўнены новымі апавяданнямі перапісаны з пачатку Кароткага зводу “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх”. Аўтар Хронікі Быхаўца скончыў яго перапрацоўваць, а сваёй пятай, самай доўгай арыгінальнай устаўкай (раздзелы перакладу 34–41), па сутнасці, наноў апісаў праўленне Вітаўта ад 1405 да 1430 г. і такім чынам запоўніў асноўны прабел, які быў у гісторыі часоў Вітаўта ў Кароткім зводзе.

Тэкст Хронікі Быхаўца, які яшчэ грунтуецца на матэрыяле папярэдніх зводаў, заканчваецца перапісаным з Кароткага зводу, але таксама адрэдагаваным наноў аповедам пра паўстанне ў Смаленску 1440 г. і вайну з Вялікім Княствам Маскоўскім пачатку 1445 г. Ад гэтага месца ўвесь наступны змест Хронікі Быхаўца да самага канца (раздзелы 47–56), г. зн. да жніўня 1506 г., – цалкам новы. Дадзены перыяд асветлены з нераўнамернай паўнатой. Больш падзей апісана ад праўлення вялікага князя літоўскага і польскага караля Казіміра Ягелончыка да 1453 г. З наступнага – амаль 40 гадоў – перыяду (да 1492 г.) у Хроніцы Быхаўца амаль няма ніводнага больш разгорнутага апавядання з унутранага жыцця самой Літоўскай дзяржавы, а распавядаецца пра аддаленыя памежныя абшары Польшчы – Прусію, Сілезію, Малдову, узбярэжжа

Чорнага мора. Зноў жа больш падрабязна і непараўнальна больш дакладна апісана кіраванне сына Казіміра Ягелончыка Аляксандра (1492–1506). Некаторыя апавяданні, як, напрыклад, пра бітву на Ведрашы (1500), буйства крымскіх татар у Слуцка-Наваградскім краі, пра Клецкую бітву (1506), несумненна, перадаюць жывога і выразнага сучасніка тых падзей і нават аповед удзельніка. Як гістарычная крыніца, аповед пра часы Аляксандра – самая каштоўная частка Хронікі Быхаўца. Аўтар тут карыстаўся "Гісторыяй Аляксандра", якая ўзнікла ў Вялікім Княстве Літоўскім. Асобным творам яна не захавалася, але тое, што яна была, пацвярджае Мацей Мехавіта. Ён згадвае, што ў 1497 г. у час вайны з Малдовай вялікі князь літоўскі Аляксандр са сваім войскам стаяў лагерам у Брацлаве, "як відаць з яго гісторыі" (ut in sua videbis historia)[27].

Аднак было б няслушным глядзець на апісанне часоў Аляксандра ў Хроніцы Быхаўца як на суцэльную перадачу гэтай "Гісторыі Аляксандра". Яго структура, памылкі храналогіі і парушэнні паслядоўнасці падзей паказваюць, што і гэтая частка Хронікі Быхаўца, напэўна, створана аўтарам з разнастайных крыніц.

З якой іншай (не "Гісторыі Аляксандра") хронікі аўтар браў звесткі, калі пісаў іншыя арыгінальныя ўстаўкі, а таксама гісторыю літоўскай феадальнай дзяржавы за 1446–1492 г., належным чынам не высветлена, за выключэннем хіба толькі агульнапрынятага меркавання, што тут несумненна былі выкарыстаны захаваныя сярод літоўскай магнатэрыі – Гаштаўтаў, васальных князёў Друцкіх, Гальшанскіх, Слуцкіх князёў Алелькавічаў (нашчадкаў Альгердавага сына Уладзіміра) і ў іншых найбольш значных феадальных родаў паданні, успаміны або запісы пра падзеі XV ст. Таму арыгінальныя аповеды Хронікі Быхаўца пра часы Вітаўта і пачатак праўлення Казіміра – не дакументальна дакладнае адлюстраванне гістарычнай рэчаіснасці, а вельмі неаднароднай надзейнасці белетрызаванае выяўленне далёкага мінулага ў адпаведнасці

[27] Miechowita M. Chronica Polonorum. Crakoviae, 1521. P. 351.

з пазіцыяй феадальнага грамадства Літвы першай паловы XVI ст. Сапраўдныя гістарычныя факты тут часта пакінуты па-за ўвагай, а перадусім прысутнічае імкненне адпаведным чынам асвятліць палітычна ўсё яшчэ актуальныя падзеі мінулага і ролю пэўных гістарычных асоб у гэтых падзеях.

Гістарычнай крыніцай у гэтых арыгінальных апавяданнях хронікі можна лічыць, у першую чаргу, тыя звесткі, якія пацвярджаюць дакументы апісанага года і іншыя надзейныя пісьмовыя крыніцы таго часу. Іншае, што цікавіць, – хроніка як літаратурны адгалосак падзей далёкага мінулага, паказанага з перспектывы першай паловы XVI ст.

Пішучы пра часы Казіміра і Аляксандра, аўтар Хронікі Быхаўца таксама карыстаўся першай выдадзенай гісторыяй Польшчы – “Хронікай палякаў” М. Механіты (першае, канфіскаванае, выданне 1519 г., другое – 1521). Часткі месцаў, дзе перасякаюцца Хроніка Механіты і Хроніка Быхаўца, адзначаны ў нашых тлумачэннях. Тут упамінаецца толькі яшчэ адзін выпадак перасячэння тэкстаў абедзвюх хронік. Менавіта ў Хроніцы Быхаўца, гаворачы пра з’езд у Наваградку (летам 1505 г.), дзе сабралася літоўская магнатэрыя – члены паноў-рады, якая была ў сварцы з вялікім князем літоўскім Аляксандрам, згадана, што Аляксандр “абяцаў дапусціць іх [членаў паноў-рады] да ласкі на сейме Радамскім [травень 1505 г.], калі прыедзе ў Літву”[28]. Гэта амаль даслоўна адпавядае фразе М. Механіты ў апісанні Радамскага сейма, згодна з якім Аляксандр паабяцаў “quam primum Lithuaniam rediret, admittere illos [Lietuvos Tarybos ponus] in suam pristinam gratiam regiam”[29].

Характэрная асаблівасць Хронікі Быхаўца, якую крытыкаваў ужо М. Стрыйкоўскі, – адсутнасць датавання.

[28] У Хроніцы Быхаўца працытаваны фрагмент уяўляе сабой тэкст, узноўлены паводле Хронікі М. Стрыйкоўскага. – *Заўвага перакладчыка.*

[29] Miechowita M. Chronica Polonorum. Crakoviae, 1521. P. 367.

Нават і там, дзе звесткі выкарыстаных крыніц былі датаваныя, аўтар Хронікі Быхаўца нярэдка выдаляе даты, або калі ўказвае месяц і дзень, тады не пазначае гады. Напрыклад, у легендарнай частцы мы ледзь знаходзім чатыры даты, у гістарычнай частцы (1377–1445) – восем дат. Амаль зусім без дат пададзена апісанне праўлення Казіміра[30]. Замест таго, каб указваць год, месяц і дзень, аўтар задавольваецца характэрнымі для мастацкай літаратуры выразамі “того ж часу”, “потом”, “на другое лето”, “тое ж осені”, “тое же зімы” і г. д. Праверка паказвае, што паслядоўнасць гістарычных падзей часта зусім іншая, чым у хроніцы[31]. Асабліва пераблытаныя, перамяшаныя ў адным месцы падзеі розных гадоў і ўдзельнікі ў апісанні Трынаццацігадовай вайны (1453–1466) (49-ы раздзел перакладу).

У апісанні павялічаны даты праўлення Аляксандра, але і тут, пры пераходзе да новага аповеду, указана толькі дата зыходнай падзеі, а больш далёкія падзеі не датаваныя (напрыклад, не пазначаны месяц і дзень бітвы на Ведрашы, хоць пра яе распавядаецца больш падрабязна).

Такое абыякавае стаўленне да храналогіі, самага абавязковага элемента гісторыі, сведчыць, што аўтар Хронікі Быхаўца не быў па сваёй натуры гісторыкам, які шукае як мага болей і найбольш дакладных звестак пра мінулае, як, напрыклад, М. Стрыйкоўскі, які, нават калі быў салдатам, не паленаваўся плыць, каб пабачыць старадаўнія запісы на камянях, якія выступаюць у Дзвіне[32]. Аўтар Хронікі Быхаўца – гэта перш за ўсё літаратар, публіцыст, папулярызатар, задачай якога было за кароткі прамежак часу стварыць палітычна актуальную, кароткую і лёгкую для чытання гісторыю Літвы. Для

[30] Выключэнне тут складае цалкам летапісны па характары фрагмент, які пачынаецца звесткамі пра ўварванне туркаў у Канстанцінопаль (1453 г.), дзе адна за адной ідуць сем датаваных звестак (50-ы раздзел перакладу).

[31] Гл.: Jučas M. Lietuvos metraščiai. P. 125–126.

[32] Kronika M. Stryjkowskiego. Warszawa, 1766. P. 233.

гэтага аўтар у першую чаргу намагаўся падабраць найбольш займальныя для чытача эпізоды, напрыклад пра цуд з рэліквіяй святога крыжа, трагічны скон Міндоўга, Войшалка, Жыгімонта Кейстутавіча, пра раптоўную смерць біскупа Кафы, пра Дубровенскую (Грунвальдскую), Ведрашскую, Клецкую бітвы. Ён таксама выкарыстаў некаторыя выразна анекдатычныя апавяданні (сватанне Ягайлы ў Друцку, паходжанне прозвішча Нechavічаў, размова вялікага князя літоўскага Казіміра з панам Рутвянскім у лазні).

Каб ажывіць аповед, ён карыстаецца простай мовай. Гэта, дарэчы, не было выключэннем і ў практыцы тагачаснага дзяржаўнага пісьменства Літвы. Ёсць захаваныя судовыя дэкрэты XVI ст., дзе рэплікі бакоў перададзены простай мовай, і ісцец звяртаецца да адказчыка: “Мілы браце!” – гэтак жа, як і Ягайла да Свідрыгайлы ў Хроніцы Быхаўца.

Выкладзеная ў Хроніцы Быхаўца гісторыя Літвы – гэта палітычная гісторыя дзяржавы, вялікіх і васальных князёў, гісторыя магнатаў, распаведзеная ў першую чаргу з гледзішча магнатаў-“паноў”, якія былі супраць умацавання ўлады вялікага князя. Саслоўныя прэрагатывы магнатаў у адносінах да ўлады вялікага князя падкрэслены ў апісанні канфлікту Аляксандра з панамі-радай. Хроніка Быхаўца выразна абараняе лад Літоўскай дзяржавы другой паловы XV – першай чвэрці XVI ст., абгрунтоўваючы панаванне магнацкай алігархіі і яе палітычнага органа – паноў-рады. Гэты лад паказаны ледзь не спрадвечным, бо ўжо Свінтарог, заснавальнік дынастыі герба “Кентаўр”, і заснавальнік дынастыі Гедымінавічаў Віцень былі выбраны “панамі”. Аўтару, відаць, увогуле далёкія думкі, што дзяржаўны лад можа мяняцца, таму радныя “паны” прыпісаны ўжо князю Эрдзівілу (XIII стагоддзе), а гетманам загадана дзейнічаць у часы Гедыміна, хоць пасада гетмана – пастаяннага галоўнакамандуючага войскам – афіцыйна была ўведзена толькі ў 1497 г.

Справы іншых саслоўяў (нават духавенства) аўтара Хронікі Быхаўца, можна сказаць, зусім не хвалююць.

Мяшчане, калі дзе згаданыя, то ў тэксце, запазычаным з Кароткага зводу, і то яны паказаны больш з адмоўнага боку: віленцы дапамагаюць Ягайлу захапіць Вільню, але не ўпускаюць у горад Вітаўта, а смаленцы – "простыя людзі" – фігуруюць як бунтаўнікі ў апісанні Смаленскага паўстання 1440 г.

Сяляне ў арыгінальным тэксце Хронікі Быхаўца названы "сабачай кроўю". Але няма чаго здзіўляцца, калі прыгадаць, што ў той жа самай хроніцы феадал Дрозд, сваяк князя Мікалая Глінскага, фаварыта вялікага князя літоўскага Аляксандра, які кіраваў валасцямі і замкамі вялікага князя, названы "простым" чалавекам. Меркаваны намер "увесь род шляхецкі пагубіць і кроў іхнюю праліць, а ўзняць род халопскі, сабачую кроў" паказаны як адзін з найстрашнейшых амаральных учынкаў Жыгімонта Кейстутавіча.

Як выразны прадстаўнік вярхоў феадальнага класа і выяўнік іх ідэалогіі, аўтар Хронікі Быхаўца накіроўвае сваю ўвагу не на ўнутраную гісторыю дзяржавы. Можна сказаць, што ў яе арыгінальнай частцы зусім няма грамадзянскай гісторыі. Няма характэрных для хронік і летапісаў суседніх краін апісанняў будаўніцтва замкаў, цэркваў, манастыроў, дат заснавання гарадоў, карцін побыту, адлюстравання больш цікавых мясцовых падзей, стыхійных бедстваў, эпідэмій. У арыгінале, па сутнасці, няма нават гісторыі сталіцы дзяржавы – Вільні. Аўтар вядзе чытача ў аддаленыя ўскрайкі вялікай дзяржавы – у Падмаскоўе, да Дняпра і Днястра, бо ў цэнтры ўвагі – міжнароднае становішча ВКЛ і перадусім праблемы, якія выцякалі са стасункаў ВКЛ з Польскім Каралеўствам і Маскоўскай дзяржавай. Асвятляючы іх, аўтар Хронікі Быхаўца выступае як яркі прадстаўнік грамадства свайго краю і патрыёт сваёй дзяржавы, які адстойвае недатыкальнасць яе тэрыторыі і самастойнасць сваёй дзяржавы, абараняе феадальны клас Літвы і прэстыж яе ўладароў.

Для гэтых мэтаў служыла гісторыя пра рымскае паходжанне літоўцаў і далучэнне рускіх земляў да Літоўскай

дзяржавы, перапісаная з легендарнай часткі Пашыранага зводу і паўтораная ў Хроніцы Быхаўца. Тая самая праблематыка развіваецца і ў арыгінальных апавяданнях Хронікі Быхаўца з гісторыі ўзаемаадносін ВКЛ і Польшчы ў XV ст. З гэтага гледзішча асабліва паказальным будзе апісанне каранацыі Вітаўта. Па паходжанні літоўская шляхта – падкрэслена ў Хроніцы Быхаўца – “старэйшая і даўнейшая, чым ляхі”. Свае гербы літоўскія шляхцічы атрымалі ў спадчыну ад продкаў – рымлян, “шляхты”, а палякі ў старадаўнія часы былі простымі людзьмі, свае гербы купілі ў чэхаў.

Шмат сказана пра ўвядзенне хрысціянства ў Літве. Спецыяльна ўключаны аповед, як віленскі ваявода Пётр Гаштаўт яшчэ ў часы Альгерда заснаваў у Вільні манастыр францысканцаў і тым самым праклаў шлях каталіцтву раней за Ягайлу, які ажыццявіў хрышчэнне літоўцаў. Такім чынам зменшаны заслугі Польшчы ў хрысціянізацыі Літвы, больш акцэнтавана роля Вітаўта ў гэтай сферы. Заслуга хрышчэння жамойтаў прыпісана аднаму Вітаўту, а ў гісторыі Польшчы Я. Длугаша на першае месца быў высунуты Ягайла.

У процівагу польскай гістарыяграфічнай традыцыі асветлена найважнейшая праблема ўзаемаадносін Польшчы і Літвы – Крэўская унія 1386 г. У Хроніцы Быхаўца ўвогуле няма слова “унія” ці яго адпаведніка, які б вызначаў адносіны абедзвюх краін пасля шлюбу Ягайлы і Ядвігі. Дамоўленасці Гарадзельскай уніі (1413 г.) паказаны як пагадненні паміж раўнацэннымі партнёрамі. Пра Мельніцкую унію (1492 г.) зусім не згадана. Польскія паны выяўлены як вялікія ворагі раўнапраўя Літвы: яны выкралі адпраўленую Вітаўту каралеўскую карону, хацелі знішчыць найбольш значных літоўскіх магнатаў, а Літоўскую дзяржаву далучыць да Польшчы і зусім ліквідаваць.

Нядобразычлівая ў дачыненні да польскіх феадалаў тэндэнцыя Хронікі Быхаўца праяўляецца таксама ў асвятленні супольнай з польскай арміяй ваеннай аперацыі. Роля польскіх войск у апісанні Дубровенскай (Грунвальдскай) бітвы цалкам адмаўляецца, заваяванне перамогі

прыпісана толькі літоўцам. Роля літоўцаў вельмі моцна падкрэслена ў апісанні Хойніцкай бітвы, дзе крыжаносцы разбілі войскі Польшчы. Падтрымка літоўцаў мае вырашальнае значэнне ў тым, каб кароль Казімір узяў рэванш за гэтае паражэнне. Зусім не згадана пра палякаў у апісанні Клецкай бітвы 1506 г. Між тым у гісторыі Польшчы М. Мехавіты паказана, што ў той бітве крымскія татары былі пераможаны галоўным чынам дзякуючы з'яўленню польскага войска.

У апісанні зносін ВКЛ з Рускай дзяржавай[33] моцна вылучана перавага Вітаўта ў дачыненні да яго зяця Васіля, вялікага князя Масквы, Пскоўскай і Вялікanaўгародскай феадальных рэспублік. Войны з Вялікім Княствам Маскоўскім канца XV і пачатку XVI ст. паказаны ў адпаведнасці з дзяржаўнымі пазіцыямі Літвы.

Стасункі з Прускім і Лівонскім ордэнамі, якія былі найбольшай з тых, што пагражалі Літве, праблемай у XIII і XIV ст., для аўтара як Пашыранага зводу, так і Хронікі Быхаўца малаважныя. Адсутнасць адмысловай цікавасці да гісторыі Лівоніі найлепш указвае, што Хроніка Быхаўца не была напісана ў другой палове XVI ст., у час так званай Лівонскай вайны паміж Лівоніяй і яе пратэктарам Вялікім Княствам Літоўскім, з аднаго боку, і Рускай дзяржавай – з другога.

Войны з прускімі крыжаносцамі XIII – пачатку XV ст. і тым самым гісторыя Жамойці ў Хроніцы Быхаўца абагульнены чатырма апавяданнямі. Тры з іх належаць аўтару Хронікі Быхаўца. Гісторыя Жамойці ўключана таксама таму, што ў ёй распавядаецца пра жамойцкіх старастаў – прадстаўнікоў роду Кезгайлаў (яны згаданы па меншай меры ў 12 выпадках). Аднак з усяго таго, што вядома па гісторыі Жамойці і войнаў з крыжаносцамі, Хроніка Быхаўца – малаінфарматыўная. Пасля 1441 г.

[33] Так у тэксце. На наша меркаванне, больш карэктным было б выкарыстанне тэрміна "Маскоўская дзяржава", паколькі як ВКЛ, так і Масковія ў XIV–XVI ст. у аднолькавай ступені прэтэндавалі на рускую спадчыну і званне рускай дзяржавы. – *Заўвага перакладчыка.*

гісторыя Жамойці зусім не цікавіць аўтара Хронікі Быхаўца. Гэта сведчыць, што з Жамойцю ён непасрэдна звязаны не быў, але, з іншага боку, Жамойць у той час не была арэнай і якіх-небудзь важных падзей, напрыклад войнаў.

Стасункі Літоўскай дзяржавы з татарскімі ордамі найбольш закрануты ў легендарнай частцы, дзе ўсе бітвы заканчваюцца перамогай літоўцаў, а таксама ў апісанні кіравання Аляксандра. Тут ва ўстаўленых аповедах пра напад крымскіх татар на паўднёвыя і цэнтральныя вобласці дзяржавы часткова адлюстроўваецца трагічнае становішча, у якім з канца XV ст. з-за пастаянных татарскіх спусташэнняў апынуліся ўкраінскія і беларускія землі Літоўскай дзяржавы і землі Польшчы.

У Хроніцы кідаецца ў вочы дзяржаўны патрыятызм Вялікага Княства Літоўскага, які выразна адчуваецца ў многіх аповедах, асабліва калі гаворыцца пра адносіны гэтай дзяржавы з суседзямі. Найбольшы клопат аўтара – узвялічыць сваю дзяржаву, паказаць, якой магутнай яна была ў мінулым. Аднак гэта кансерватыўны патрыятызм: яго ідэал у мінулым. Гэтым Хроніка Быхаўца і адрозніваецца ад трактата Міхалона Літвіна “Аб норавах татараў, ліцвінаў і маскавітаў” (V, 1966). Яго аўтар таксама не цураўся гісторыі сваёй дзяржавы, але, дапаўняючы яе прыкладамі, імкнуўся змагацца з заганамі грамадства і ладу свайго часу.

Узвялічваючы перадусім уладароў, дзяржаўных дзеячоў, станоўча асвятляючы іх справы, аўтар Хронікі Быхаўца выказаў погляды і ідэалогію феадальнага класа сваёй дзяржавы. Але адначасова ён імкнуўся і да патрыятычнай мэты – абуджаць і падтрымліваць у грамадстве гонар за сваю дзяржаву і яе мінулае. Выступаючы за феадальную незалежнасць Літоўскай дзяржавы ў адносінах з суседнімі дзяржавамі, аўтар Хронікі Быхаўца служыў і нацыянальным інтарэсам усяго літоўскага народа.

Хроніцы зусім неўласцівае супрацьпастаўленне адных жыхароў і рэлігій разнароднай Літоўскай дзяржавы

іншым. Адпаведна ў ёй адлюстравалася істотнае развіццё ў зблiжэнні літоўскіх і рускіх феадалаў, асабліва іх эліты, фармаванне адзінага "літоўскага народа", які складаўся з класа феадалаў, што размаўляў на розных мовах, але аднадушна трымаўся за сваю бацькаўшчыну і дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае, творачы адзіную феадальную культуру. Хроніка Быхаўца – характэрная з'ява гэтай культуры, якую пазней заліло хваляй польскай феадальнай культуры.

## III. Паходжанне. Хроніка Быхаўца – Хроніка Альбрэхта Гаштаўта?

Хто з'яўляецца аўтарам Хронікі Быхаўца, хто яе натхняльнік-мецэнат, дзе і калі яна на самай справе была напісана – на гэтыя найважнейшыя пытанні дасюль не знойдзена адзінага і канчатковага адказу, таму што непасрэдных звестак пра гэта ў самой хроніцы няма і іх пакуль што не выяўлена ў іншых крыніцах. З-за адсутнасці такіх дадзеных магчымыя толькі тыя ці іншыя гіпотэзы.

У літаратуры пануе меркаванне, што Хроніка Быхаўца была напісана ў другой палове XVI ст.: паміж 1564–1574[34] або 1560–1570[35] г., перад 1565 г.[36], паміж 1555 і 1560 г.[37]. Выключэнне складае М. Ючас, які аргументавана перанёс час напісання ў першую палову XVI ст.[38].

Больш разнастайных версій існуе наконт пытання паходжання Хронікі Быхаўца. Паводле меркавання Я. Якубоўскага[39], якое перанялі і развілі М. М. Улаш-

[34] Jokūbauskis J. Tautiniai santykiai Lietuvoje ligi Liublino unijos. Vilnius, 1921. P. 47, 70–71.

[35] Сушицький Т. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури. С. 100.

[36] Хроника Быховца. Москва, 1966. С. 28–29.

[37] Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 183.

[38] Jučas M. Lietuvos metraščiai. P. 106

[39] Jokūbauskis J. Tautiniai santykiai Lietuvoje ligi Liublino unijos. P. 72.

чык[40] і В. А. Чамярыцкі[41], Хроніка Быхаўца павінна была быць напісана ў Беларусі, у Слуцку або Наваградку. Яе аўтар – беларус шляхецкага саслоўя, праваслаўны, які нарадзіўся ці доўга жыў у гэтым краі і звязаны са слуцкімі князямі Алелькавічамі, нашчадкамі Уладзіміра (кіеўскага князя), сына вялікага літоўскага князя Альгерда.

Паводле польскага гісторыка Ю. Радзішэўскай, Хроніка Быхаўца – першая праца М. Стрыйкоўскага па гісторыі Польшчы, напісаная ім у маладосці на рускай мове[42].

Між тым М. Ючас выказаў думку, што натхняльнікам Хронікі Быхаўца, арганізатарам яе напісання мог быць гальшанскі князь Павел Гальшанскі, які ў 1536–1555 г. быў віленскім біскупам. З ягонага ведама хроніку мог напісаць хто-небудзь з віленскіх францысканцаў[43].

Яшчэ па-іншаму генезу Хронікі Быхаўца тлумачыць Б. М. Флора[44] і асабліва – Е. Ахманьскі[45]. Паводле Б. М. Флоры, хроніка ствараласяў асяродку не толькі слуцкіх князёў Алелькавічаў, але і літоўскіх магнатаў Гаштаўтаў у два этапы. Па ініцыятыве Гаштаўта ў сярэдзіне XV ст. узнікае перапрацоўка Кароткага зводу, дапоўненая апавяданнямі пра XIV стагоддзе. Пра Пятра Гаштаўта, Гедымінавага гетмана, віленскага і камянец-падольскага ваяводу, таксама пра Яна Гаштаўта, літоўскага камандзіра ў Грунвальдскай бітве, канцлера ВКЛ (1440–1458) і заслужанага апекуна і дарадцу юнага вялікага князя Казіміра. Пазней, у пачатку XVI ст., гэтая пераробка Кароткага зводу, патрапіўшы ў рукі слуцкіх князёў Алелькавічаў, была дапоўнена аповедамі пра іх барацьбу з крымскімі

[40] Хроника Быховца. Москва, 1966. С. 24–28.

[41] Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 184–185.

[42] Radziszewska J. W sprawie autorstwa rzw. Latopisu Bychowca // Zeszyty Naukowe Wyższey Szkoły Pedagogiczney w Katowicach. Prace historyczne. Nr. 2. 1967. P. 55–62.

[43] Jučas M. Lietuvos metraščiai. P. 109–110, 134, 185–186.

[44] Флоря Б. Н. О Летописце Быховца // Источники и историография славянского средневековья. Москва, 1967. С. 135–145.

[45] Ochmański J. Nad Kroniką Bychowca // Studia źródłoznawcze. T. XII. 1967. P. 155–163.

татарамі і ператворана ў тое, што называецца Хронікай Быхаўца.

Б. М. Флора выказаў таксама меркаванне, што ў радні Гаштаўтаў магла быць напісана і легендарная гісторыя Літвы.

Е. Ахманьскі не адмаўляе сувязь хронікі з князямі Алелькавічамі, але лічыць, што ў іх асяроддзі перад 1510–1514 г. было створана толькі апісанне праўлення Аляксандра; матэрыял гаштаўтаўскай хронікі – аповед пра пачатак праўлення Казіміра Ягелончыка (1440–1453), героем якога з'яўляецца Ян Гаштаўт, – Е. Ахманьскі датуе не сярэдзінай XV ст., як Б. М. Флора, а першай трэццю XVI ст. (паміж 1519–1539 г.), і мяркуе, што яна была напісана на замову троцкага ваяводы, пазней віленскага ваяводы і канцлера ВКЛ Альбрэхта Гаштаўта.

Асяродку Альбрэхта Гаштаўта Е. Ахманьскі прыпісвае таксама стварэнне (каля 1510–1527 або 1522–1539 г.) Пашыранага зводу (дакладней – яго легендарнай часткі), такім чынам канкрэтызуючы ўзнятае, але не развітае меркаванне Б. М. Флоры.

Аднак сама Хроніка Быхаўца, г. зн. легендарная частка, аповеды пра Пятра і Яна Гаштаўтаў, апісанне праўлення Аляксандра і іншыя арыгінальныя аповеды, створаныя ў першай трэці XVI ст., па меркаванні Е. Ахманьскага, былі аб'яднаны ў адзін твор – Хроніку Быхаўца – ужо не ў гады жыцця Альбрэхта Гаштаўта (да 1539 г.), а ў другой палове XVI ст., паміж 1565–1574 г., як яе датуе Я. Якубоўскі. Чыя ініцыятыва гэтай справы і хто гэта зрабіў – дадзеных пытанняў Е. Ахманьскі не вырашае.

Ні адна са згаданых гіпотэз паходжання Хронікі Быхаўца не з'яўляецца агульнапрынятай. Датаванне хронікі другой паловай XVI ст. выклікае сумневы. Малаверагодна, што сюжэты і тэмы, закранутыя ў легендарнай частцы Пашыранага зводу ў другім дзесяцігоддзі XVI ст., так паслядоўна развіваліся б праз 40 гадоў, у цалкам новых гістарычных умовах, як гэта мы бачым у арыгінальных аповедах Хронікі Быхаўца. Акрамя таго, дзіўна, што

ў Хроніцы, нібыта напісанай напярэдадні Люблінскай уніі (1569 г.), не відаць амаль ніякай зацікаўленасці справамі Лівоніі. Наўрад ці так было б, калі б яна была напісана ў другой палове XVI ст., у гады крызісу Лівоніі (1556–1557), у пачатку вайны (з 1558 г.) ці пасля пераходу Лівоніі пад пратэктарат Польшчы і Літвы (1561 г.), асабліва калі ў гэты час род Гаштаўтаў ужо згас і ў палітычным жыцці краіны паўсюдна ўкараніліся ворагі Гаштаўтаў – Радзівілы.

М. Ючас трапна заўважае, што ў апавяданні Хронікі Быхаўца пра забойства 14 францысканцаў у Вільні ў часы Альгерда яшчэ нічога не вядома пра капліцу, пабудаваную пасля 1542 г. на месцы забойства[46]; значыць, яна напісана не пазней за сярэдзіну XVI ст., і ніяк не ў другой палове. Да такой самай думкі вядуць і некаторыя іншыя факты. А менавіта, характэрная для Хронікі Быхаўца версія пра знаходжанне каралеўскай кароны Вітаўта ў Польшчы адлюстроўваецца ў інструкцыі літоўскіх паноў-рады, якую Літва адаслала польскаму каралю і вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту II Казіміравічу[47]. Міхалон Літвін у сваім трактаце, напісаным каля 1549–1550 г., ужо ведае гісторыю пра выратаванне Казіміра Ягелончыка ў 1454 г.[48], выкладзеную ў Хроніцы Быхаўца; з Я. Длугаша і М. Мехавіты ён пра яе даведацца не мог.

Той самы Міхалон Літвін згадвае, што ў час пажару Віленскай катэдры ў 1529 г. згарэла каля 300 трафейных харугваў[49], а ў Хроніцы Быхаўца сказана, што харугвы крыжаносцаў, заваяваныя ў Грунвальдскай бітве, “вывешаны былі” ў Віленскай катэдры. Такім чынам, арыгінальны аповед Хронікі Быхаўца пра Грунвальдскую бітву вусна ці ў пісьмовай форме павінен быў існаваць ужо перад 1529 г.

[46] Jučas M. Lietuvos metraščiai. P. 111.

[47] Акты, относящиеся к истории Западной России. С.-Петербург, 1848. Т. 2. С. 174–176.

[48] Lietuvis M. Apie totorių, lietuvių ir maskvėnų papročius. Vilnius, 1966. P. 56.

[49] Тамсама. P. 60.

Нарэшце, пра ролю Гаштаўтаў у Грунвальдскай бітве і пра ролю Казіміра, для замацавання ўлады Ягелонаў, напісана не толькі ў Хроніцы Быхаўца, але і ў мемарыяле Альбрэхта Гаштаўта, які быў створаны ў 1525 г.[50]. Так што, калі арыгінальныя сюжэты Хронікі Быхаўца былі папулярныя ўжо ў першай палове XVI ст. і нават у яго першай трэці, г. зн. пры жыцці Альбрэхта Гаштаўта і ў гады ягонай дзяржаўнай і палітычнай дзейнасці, тады чаму ў гэты самы перыяд не магла быць напісана і сама хроніка, дзе гэтыя сюжэты развіты ў самастойныя аповеды?

Прызнаць такую магчымасць перашкаджае атрыманае ў спадчыну ад Я. Якубоўскага і Т. Сушыцкага перакананне, што тэндэнцыя хронікі супраць польскіх феадалаў можа быць патлумачана толькі настроямі літоўскіх магнатаў другой паловы XVI ст., напярэдадні заключэння Люблінскай уніі[51]; другое – што Хроніка Быхаўца не магла ўзнікнуць раней, чым спісы Пашыранага зводу, у якім асноўны тэкст дапоўнены звесткамі, якія сягаюць сярэдзіны XVI ст.[52]. Аднак гэта ўяўныя перашкоды. На самай справе стасункі паміж Літоўскай дзяржавай і кіраўнічымі коламі Польшчы не былі вельмі братэрскімі і ў першай чвэрці XVI ст. "Сепаратысцкай" лініі трымаўся не толькі канцлер Альбрэхт Гаштаўт, але і ягоныя папярэднікі. Дастаткова прыгадаць тое, што ўрад Літвы не прызнаў Мельніцкую унію 1501 г., ігнараваў польскія прапановы адносна больш цеснага саюзу абедзвюх дзяржаў, малалетняга Жыгімонта Аўгуста 04.12.1522 г. абвясцілі пераемнікам Жыгімонта II Казіміравіча без згоды польскага ўрада, урэшце, непрыязна трактаваны замежнікі, сярод іх палякі, у I Статуце ВКЛ (1529).

[50] Acta Tomiciana. VII. Poznań, 1859. P. 258–269.

[51] Jokūbauskis J. Tautiniai santykiai Lietuvoje ligi Liublino unijos. Vilnius, 1921. P. 47,49, 73.

[52] Гл.: Сушицький Т. Західньо-руські літописи як пам’ятки літератури. С. 100; Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 183.

А калі казаць пра дапаўненні асноўнага тэксту Пашыранага зводу, то, як было адзначана, яны не з'яўляюцца арганічнай часткай Пашыранага зводу; аўтар Хронікі Быхаўца мог у другой палове XV і пачатку XVI ст. напісаць гісторыю Літвы і без гэтых працягаў, не чакаючы іх з'яўлення, асабліва калі існаванне працягу Хронікі Быхаўца да сярэдзіны XVI ст. не даказана напэўна.

Нашы высновы, якія ўзніклі ў працэсе падрыхтоўкі перакладу Хронікі Быхаўца на літоўскую мову, пацвярджаюць меркаванні, што Пашыраны звод павінен быў быць створаны па ініцыятыве Альбрэхта Гаштаўта ў другім дзесяцігоддзі XVI ст., да 1519 г.[53]. Па-другое, мы глыбока перакананы, што не толькі асобныя арыгінальныя апавяданні Хронікі Быхаўца, але і ўся гэтая хроніка была напісана па ініцыятыве таго самага Альбрэхта Гаштаўта, яшчэ пры яго жыцці, неўзабаве пасля Пашыранага зводу, на мяжы другога і трэцяга дзесяцігоддзя XVI ст., магчыма, паміж 1519–1521 або 1525 гадамі.

На карысць Альбрэхта Гаштаўта сведчыць мноства акалічнасцяў. У першую чаргу, гэта характэрны падбор родаў магнатаў і васальных князёў, пра прадстаўнікоў якіх прыведзена больш звестак і нават асобныя апавяданні. На першым месцы ў легендарнай частцы Пашыранага зводу знаходзіцца згадка пра родапачынальніка князёў Друцкіх – кіеўскага і пасля нібыта друцкага князя Дзімітрыя. На другім месцы – пачынальнікі родаў Гаштаўтаў, Давойнаў, Манівідаў, на трэцім – Гальшанскіх і Гедройцаў. Пачынальнікі гэтых самых родаў і ў той самай паслядоўнасці шэрагаў згаданы і ў легендарнай частцы Хронікі Быхаўца. Аднак у далейшым выкладзе гісторыі Літвы родавая гісторыя князёў Гедройцаў больш зусім не развіваецца. Мала адлюстроўваецца гісторыя Давойнаў

[53] Да 1519 г., паколькі ўжо М. Мехавіта (Меховский М. Трактат о двух Сарматиях. Москва – Ленинград, 1936. С. 99) ведае характэрную для легендарнай часткі Пашыранага зводу версію пра паходжанне назвы *Літва* ад лацінскіх слоў *litus* і *tuba*, а першы выпуск "Трактата пра дзве Сарматыі" М. Мехавіты (гл. спасылку 62 [у літоўскамоўным выданні. – *Заўвага перакладчыка*]) з'явіўся ў 1517 г.

і Манівідаў. Больш за ўсё новых звестак пра тры роды: князёў Друцкіх і Гальшанскіх, і асабліва шмат – пра Гаштаўтаў.

Гэта невыпадковая з'ява. Разгледзеўшы паходжанне апошняга з Гаштаўтаў, згаданага ў Хроніцы Быхаўца, а менавіта Альбрэхта Гаштаўта, мы ўбачым, што гісторыя роду Гаштаўтаў, выкладзеная ў Пашыраным зводзе і ў Хроніцы Быхаўца, не што іншае, як гісторыя бацькі Альбрэхта Марціна Гаштаўта, дзеда Яна Гаштаўта і больш далёкіх продкаў; тое, што распаведзена пра Друцкіх і Гальшанскіх – гэта мінулае родаў маці і мачахі Альбрэхта Гаштаўта[54]. З гэтага гледзішча цікава, што і на рэльефнай пліце (частцы разбуранага надмагілля), што знаходзіцца ў Віленскай карцінай галерэі, выяўлены тры гербы: "Габданк", "Кентаўры" і "Друцк" – гэта значыць, гербы тых родаў, з якімі Альбрэхт Гаштаўт быў звязаны кроўнымі сувязямі па бацьку і маці, а таксама па мачасе. Пра гэтыя самыя роды больш за ўсё звестак мы знаходзім і ў легендарнай частцы Пашыранага зводу, і ў Хроніцы Быхаўца. Акрамя таго, там жа выяўлена, што герб Кентаўраў – гэта колішні знак адной з легендарных дынастый вялікіх князёў літоўскіх, і таксама распаведзена, якім чынам "Габданк" зрабіўся знакам роду Гаштаўтаў, як з'явілася змяненне герба "Габданк", які называюць "Дубна".

Ёсць таксама дастаткова відавочныя сувязі паміж этапамі службовай кар'еры Альбрэхта Гаштаўта і тым, якое месца ў Пашыраным зводзе і Хроніцы Быхаўца адведзена Наваградку, Полацку і Кіеву ў аповедах пра далучэнне

[54] Маці Альбрэхта Гаштаўта (імя невядомае), першая жонка Марціна Гаштаўта, была настолькі з Друцкіх, наколькі з Гальшанскіх. Яе бацька (дзед Альбрэхта Гаштаўта па матчынай лініі) быў Сымон Сымонавіч Гальшанскі, уладальнік Трубаў каля Гальшан, а апошняя жонка (бабуля Альбрэхта Гаштаўта) – дачкой друцкага князя Дзмітрыя "Сякіры" Зубравіцкага.
Мачаха Альбрэхта Гаштаўта (другая жонка Марціна Гаштаўта) Ганна Ю'еўна Гальшанская была дачкой Юрыя Сымонавіча Гальшанскага (гл.: Polski słownik biograficzny. T. VII/4. Sąs. 34. P. 299).

рускіх земляў да Літоўскай дзяржавы, а таксама Трокам. Выглядае, што аўтар Пашыранага зводу і Хронікі Быхаўца больш спыняўся на гісторыі далучэння і кіравання згаданых гарадоў не толькі з-за іх аб'ектыўнага значэння ў дзяржаве, але перадусім з-за таго, што гэтыя гарады адыгралі сваю ролю ў жыцці Гаштаўтаў. Калі не згадваць дзеда Яна Гаштаўта, які ў перыяд 13.07.1440–1443 г. быў троцкім ваяводам, з гэтымі гарадамі быў звязаны бацька Альбрэхта Гаштаўта Марцін Гаштаўт, які першы раз у дакументах з'яўляецца як намеснік наваградскі (1464–1471), а пасля выконвае абавязкі ваяводы кіеўскага (1471–1480) і да смерці – ваяводы троцкага (1480–1483)[55].

Наваградак быў таксама адным з пачатковых звёнаў кар'еры Альбрэхта Гаштаўта, горадам яго маладосці. Пачынаючы сваю службовую кар'еру з пасады двараніна вялікага князя Аляксандра (1501 г.), у перыяд 02.1503–1506 ён выконвае абавязкі намесніка, а ў перыяд 1508–01.1509 – ваяводы наваградскага. Пост ваяводы полацкага (1513–4.03.1519) быў трэцім звяном яго службовай дзейнасці, а чацвёртым – месца ваяводы троцкага (1519–24.07.1522)[56].

Займаючы высокія дзяржаўныя пасады, выконваючы адміністрацыйныя, судовыя функцыі ваяводы наваградскага, полацкага, троцкага, а з 1522 г. і віленскага, А. Гаштаўт не мог не ведаць падуладных яму тэрыторый, асабліва калі ў згаданых адміністрацыйных месцах валодаў нерухомай маёмасцю. Таму крыніцай інфармацыі пра наваградскі і слуцкі край у Хроніцы Быхаўца мог быць, як тлумачаць М. М. Улашчык з В. А. Чамярыцкім, шляхціч з мясцін Наваградка і Слуцка – меркаваны аўтар хронікі, паводле даследчыкаў, але ў роўнай ступені такой крыніцай мог быць сам Альбрэхт Гаштаўт, як намеснік і ваявода наваградскі, як намеснік мазырскі (пасля 1513 г.) – кіраўнік таго краю, праз які праходзілі шляхі крымскіх

[55] Polski słownik biograficzny. T. VII/4. Sąs. 34. Kraków, 1949. P. 299.
[56] Polski słownik biograficzny. T. VII/4. Sąs. 34. Kraków, 1949. P. 300–301.

татар на поўнач ад Прыпяці, дзе адбылося апісанае ў заключнай частцы Хронікі Быхаўца сутыкненне з татарамі, якое традыцыйна трактуецца як гістарычны матэрыял слуцкага паходжання.

За Альбрэхта Гаштаўта гаворыць таксама параўнанне, мясціны якіх краёў найчасцей упамінаюцца ў легендарнай частцы Пашыранага зводу і Хронікі Быхаўца, і як на тэрыторыі ВКЛ былі размешчаны маёнткі Альбрэхта Гаштаўта – аднаго з самых багатых феадалаў[57]. Да гэтага часу не было заўважана, што мясціны, згаданыя ў легендарнай частцы Пашыранага зводу і Хронікі Быхаўца, а таксама ў арыгінальных матэрыялах, як, напрыклад, Жаслей (Жослі), Раканцішкі, Гальшаны, Трубы, Койданава, Валожын, Барысаў, Мазыр, былі ўласнасцю Альбрэхта Гаштаўта або адміністраваліся ім у першай чвэрці XVI ст. Адпаведна, пры стварэнні імён легендарных літоўскіх князёў, пры лакалізацыі падзей легендарнай літоўскай гісторыі выбіраліся мясцовасці не з Літвы ўвогуле, а ў многіх выпадках з тых мясцін, якія былі ўласнасцю Альбрэхта Гаштаўта. Варта дадаць, што адным з маёнткаў Альбрэхта Гаштаўта да 1522 г. былі Ляхавічы[58]. Яны знаходзяцца на адлегласці крыху больш за дзесяць кіламетраў ад Клецка, а якраз апісанне Клецкай бітвы (1506 г.) з мноствам згаданых у ім назваў мясцін было адным з аргументаў М. М. Улашчыка, якімі ён падмацаваў сваё меркаванне пра паходжанне Хронікі Быхаўца з Наваградчыны ці Случчыны.

Прыняўшы меркаванне, што хроніка была створана ў асяродку слуцкіх князёў Алелькавічаў або віленскага біскупа Паўла Гальшанскага, было б цяжка патлумачыць, адкуль у хроніцы ўзяўся матэрыял, звязаны з Гаштаўтамі і асабліва з Альбрэхтам Гаштаўтам.

Ролі Альбрэхта Гаштаўта, як мецэната абодвух летапісных твораў, пра якія вядзецца гаворка, не супярэчаць і некаторыя факты, датычныя яго асобы. У прыватнасці,

[57] Гл. карту М. Кузьмінскай: Mapa posiadłości Gasztoldyw. XV–XVI // Ateneum Wileńskie. Wilno. R. V. 1928. Zesz. 14. S. 132–172.

[58] Тамсама. S. 151.

у вельмі багатай для таго часу ягонай бібліятэцы (вядомыя 57 пазіцый, больш за 60 тамоў), якая раней была памылкова прыпісана каралю Жыгімонту II Казіміравічу[59], знаходзіўся не вызначаны дакладна "Кіеўскі летапіс". Ён мог патрапіць у бібліятэку Альбрэхта Гаштаўта са спадчыны яго бацькі Марціна Гаштаўта, ваяводы кіеўскага (1471–1481). Найбольш рэальна, што гэты "Кіеўскі летапіс" – спіс паўднёва-рускага летапіснага зводу, вядомага пад назвай Іпацьеўскага летапісу; ён акурат пачынаецца самым старым летапісам Кіеўскай Русі. Але ж неаспрэчна вызначана, што аўтар Пашыранага зводу стварыў паводле Іпацьеўскага летапісу прадстаўленыя ў легендарнай частцы гісторыю далучэння рускіх земляў да Літоўскай дзяржавы і некаторыя падзеі праўлення дынастыі герба "Кентаўр". А ў Хроніку Быхаўца з гэтай жа крыніцы былі ўстаўлены фрагменты пра Міндоўга і яго сына Войшалка.

Мы маем таксама захаваны і несумненна прыклад літаратурнага твора самога Альбрэхта Гаштаўта – пахвалу Жыгімонту II Казіміравічу, напісаную ў 1529 г. з нагоды прыняцця кодэкса права Вялікага Княства Літоўскага – I статута ВКЛ[60]. Не згаданы нідзе ў літаратуры спіс гэтага твора А. Гаштаўта (польскамоўная версія) знаходзіцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук ЛССР, F. 17 (В3), № 29, 1. 2[61].

Нарэшце, хіба самы важны сведка на карысць Альбрэхта Гаштаўта – гэта яго лацінамоўны мемарыял, напісаны ў 1525 г. для жонкі польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Казіміравіча каралевы Боны Сфорцы[62]. На значэнне названага твора звярнуў

[59] Jablonskis K. Albrechto Goštauto biblioteka. Vilniaus Valst. V. Kapsuko vardo universyteto mokslinės bibliotekos metraštis. 1958–1959. Vilnius, 1961. P. 21–25.

[60] Działyński A. Zbiór praw litewskich. Poznań, 1841. P. 42.

[61] Сучасныя назва сховішча і сігнатура: Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. F17–29, арк. 1–2. – *Заўвага перакладчыка.*

[62] Acta Tomiciana. T. VII. P. 258–269.

увагу Е. Ахманьскі[63]. Гэты цікавы прыклад палемічна-публіцыстычнага пісьменства эпохі Рэнесансу і адначасова гістарычная крыніца быў напісаны як адказ на незахаваную або невядомую скаргу ваяводы троцкага і найвышэйшага гетмана ВКЛ Канстанціна Астрожскага, які з 1522 г. зрабіўся палітычным і асабістым ворагам Альбрэхта Гаштаўта. Характэрна, што ў мемарыяле даецца агляд палітычных падзей першай чвэрці XVI ст., якіх не ўтрымліваў рукапіс, апублікаваны Т. Нарбутам. Між іншым, у мемарыяле А. Гаштаўт апісвае сваю дзейнасць у перыяд мяцяжу М. Глінскага (1508 г.), пра што абяцаў напісаць аўтар Хронікі Быхаўца.

Тон і тэндэнцыя Хронікі Быхаўца і мемарыяла Альбрэхта Гаштаўта супадаюць, асвятляючы ролю і значэнне гісторыі роду Гаштаўтаў у Літоўскай дзяржаве. Калі ў Хроніцы Быхаўца былі надзвычай узвышаны заслугі дзеда А. Гаштаўта Яна, а з жыцця самога Альбрэхта Гаштаўта адзначаны толькі самыя першыя крокі, то гэты мемарыял – панегірык самому Альбрэхту Гаштаўту і, з пункту гледжання гісторыі Гаштаўтаў, сапраўдны працяг Хронікі Быхаўца. Як у Хроніцы Быхаўца Ян Гаштаўт паказаны выратавальнікам Казіміра Ягелончыка, так у мемарыяле Альбрэхт Гаштаўт узвялічваецца як выратавальнік Літоўскай дзяржавы, якой кіруе сын Казіміра Жыгімонт II (“Так я, хоць і малады, абараніў ад ворага [М. Глінскага] бацькаўшчыну і абодва надзвычай важныя гарады яе – Вільню і Трокі – ад ворага пільнуючы, высакародна захаваў, у адсутнасці не толькі гаспадара майго караля Жыгімонта, але і ўсіх службовых асоб, якія Яго Вялікасць замянялі”)[64].

Несумненную сувязь мемарыяла А. Гаштаўта з Хронікай Быхаўца паказвае месца ў гэтым мемарыяле, дзе А. Гаштаўт коратка выкладае заслугі сваіх продкаў перад Літоўскай дзяржавай. У мемарыяле падкрэслена,

[63] Ochmański J. Nad Kroniką Bychowca // Studia źródłoznawcze. T. XII. 1967. P. 159–160.

[64] Acta Tomiciana. T. VII. P. 263 (у тэксце Р. Ясаса пададзена скарочаная цытата, у перакладзе мы падаем поўную. – *Заўвага перакладчыка*).

што прадзед Альбрэхта Гаштаўта Пётр Гаштаўт, “муж вельмі адважны”, быў ваенным камандзірам у гады вялікай вайны з Прусіяй. Дзед Альбрэхта Ян Гаштаўт пасадзіў на літоўскі сталец малалетняга вялікага князя літоўскага Казіміра і абараняў яго, а бацька Альбрэхта Марцін Гаштаўт з-за сваёй адданасці быў пастаянным паплечнікам і дарадцам Казіміра. Усё гэта вельмі лаканічны, але несумненны паўтор таго, што пра тых жа Гаштаўтаў, асабліва пра Яна Гаштаўта, напісана ў Хроніцы Быхаўца.

З іншага боку, гэта таксама сведчыць, што Хроніка Быхаўца павінна была быць ужо напісанай да 1525 г., паколькі, як мы бачылі раней, у тым самым дзесяцігоддзі, перад 1529 г., існавалі таксама і некаторыя іншыя арыгінальныя апавяданні Хронікі Быхаўца і яна сама павінна была быць канчаткова адрэдагавана не пазней як у 1529 г.

Акрамя характарыстыкі заслуг продкаў, у мемарыяле А. Гаштаўта ёсць і больш элементаў, адпаведных Хроніцы Быхаўца. Мемарыял пацвярджае цікавасць А. Гаштаўта да гісторыі сваёй дзяржавы. Падзеі першай чвэрці XVI ст. у ім ацэнены вачыма патрыёта Літоўскай дзяржавы, што характэрна і для Хронікі Быхаўца.

Аднак, з іншага боку, паколькі гэта закранае пункт гледжання на праваслаўных феадалаў у ВКЛ, мемарыял А. Гаштаўта сваім тонам сутнасна адрозніваецца ад Хронікі Быхаўца. Нападаючы на К. Астрожскага як свайго палітычнага ворага і суперніка і паказваючы яго вінаватым ледзь не ва ўсіх ваенных паразах ВКЛ, А. Гаштаўт у мемарыяле нападае і на ўсіх без выключэння суайчыннікаў К. Астрожскага. Характэрнага для мемарыяла супрацьпастаўлення адных насельнікаў ВКЛ іншым зусім не было ў Хроніцы Быхаўца. Гэтая акалічнасць дае падставу меркаваць, што Хроніка Быхаўца была напісана не пазней за 1525 г., а на самай справе крыху раней, магчыма, яшчэ да 1522 г., пакуль А. Гаштаўт падтрымліваў добрыя стасункі з К. Астрожскім.

Справа ў тым, што сам А. Гаштаўт указвае ў сваім мемарыяле, што лічыў К. Астрожскага сваім бацькам

і падтрымаў прызначэнне яго ваяводам троцкім, хоць іншыя літоўцы пратэставалі супраць гэтага.

Відаць, невыпадкова ў Хроніку Быхаўца ўстаўлены і асобны аповед пра прызначэнне К. Астрожскага вялікім гетманам[65] і ў ёй няма ні ценю крытыкі ў апісанні бітвы на Ведрашы (14.VII.1500), якую цалкам прайграў новапрызначаны гетман і за што бязлітасна абвінавачаны ў мемарыяле А. Гаштаўта, напісаным у 1525 г., калі папярэднія добрыя ўзаемаадносіны К. Астрожскага і А. Гаштаўта змяніліся вострай варожасцю.

Вызначыўшы, што Хроніка Быхаўца, верагодней за ўсё, не магла быць напісанай пасля 1525 г., неабходна яшчэ больш дакладна правесці пярэднюю мяжу. Такой мяжой, магчыма, былі працы рэктара Кракаўскага ўніверсітэта Мацея Мехавіты – "Трактат пра дзве Сарматыі"[66] (гістарычная геаграфія Усходняй Еўропы) і асабліва ягоная "Хроніка палякаў" (Chronika Polonorum)[67] – першая надрукаваная і ілюстраваная гісторыя Польшчы на лацінскай мове. "Трактат пра дзве Сарматыі", з'явіўшыся ў 1517 г., мог быць адной з крыніц у час перапрацоўкі пачатку самой легендарнай гісторыі Літвы – апавядання пра Атылу, паколькі М. Мехавіта неаднаразова падкрэслівае сувязь гунаў і венграў з заўральскімі вуграмі[68], а гэта акурат адлюстравалася ў рэштках пачатку Хронікі Быхаўца, узноўленых па тэксце М. Стрыйкоўскага. Ёсць падставы меркаваць, што якраз "Хроніка палякаў" М. Мехавіты магла стымуляваць напісанне Хронікі Быхаўца – кароткай, але новай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар складаў хроніку, узяўшы за аснову легендарную частку Пашыранага зводу, створаную ўжо перад 1519 г., перапрацаваўшы гісторыю 1377–1445 г., выкладзеную

[65] Narbutt T. Pomniki do dziejów litewskich. Wilno, 1846. P. 65; ПСРЛ. Т. XVII. С. 555.

[66] Tractatus de duabus Sarmatiis. Asiana et Europiana. Cracoviae, 1517. Наступныя выданні выйшлі ў 1518, 1521, 1532, 1537 і 1582 г.

[67] Mathiae de Meychov. Chronica Polonorum. Cracoviae, 1519.

[68] Меховский М. Трактат о двух Сарматиях. Москва, 1936. С. 69–70, 81, 83, 118, 120.

ў Кароткім зводзе, і пішучы зусім наноў гісторыю Літвы 1446–1506 г.

У Пашыраным зводзе не відаць слядоў выкарыстання "Хронікі палякаў" М. Мехавіты, а аўтар Хронікі Быхаўца несумненна ёю ўжо карыстаўся, і двума спосабамі – з аднаго боку, выбіраючы сюжэты і плануючы паслядоўнасць іх выкладу, а з іншага – наўпрост карыстаючыся матэрыялам "Хронікі палякаў" М. Мехавіты ў некаторых сваіх арыгінальных апавяданнях, асабліва пра праўленне Казіміра і Аляксандра. Дарэчы, гэтае выкарыстанне не суцэльная перапіска і таму не вельмі відавочнае. Акрамя таго, некаторыя тэкставыя супадзенні "Хронікі палякаў" М. Мехавіты і Хронікі Быхаўца, дзе апісваюцца часы Аляксандра, могуць быць патлумачаны тым, што пры іх напісанні была выкарыстана агульная крыніца – напісаная ў Літоўскай дзяржаве Хроніка Аляксандра. Гэта паказвае, што частка Хронікі Быхаўца, якая ахоплівае перыяд пасля 1446 г., павінна была быць напісана пасля таго, калі ўжо з'явілася "Хроніка палякаў" М. Мехавіты, адпаведна, пасля 1519 г., або неўзабаве пасля 1521 г., на працягу некалькіх наступных гадоў.

Высветліўшы паходжанне Пашыранага зводу і Хронікі Быхаўца і меркаваны час іх напісання, застаецца адкрытым пытанне іх аўтараў. Ясна адно: іх неабходна было б шукаць не ў другой палове XVI ст., а ў першай чвэрці сярод інтэлігенцыі Вялікага Княства Літоўскага, звязанай з Альбрэхтам Гаштаўтам.

# Чачэрскае староства ў апісанні 1773 года

**Юрый Мыцык**

У Інстытуце рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. І. Вярнадскага (ІР НБУВ) мы выявілі цікавы дакумент на 15 старонках, напісаны на рускай мове каліграфічным почыркам – “Описание староства Чечерского, находящегося в Рогатинской провинции”. Складзены ён быў у 1773 г., адразу пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772), калі ўсходняя Беларусь трапіла пад уладу Расійскай імперыі. Расійская адміністрацыя была зацікаўлена ў інвентарызацыі маёмасці новых уладанняў, таму яны старанна апісваліся. Апрача таго, тут знаходзім і іншыя цікавыя сведчанні.

Невядомы укладальнік (укладальнікі) коратка характарызуе геаграфічнае становішча Чачэрскага староства і адзначае, што паўз мястэчка “простирается от Могилева чрез Пропойск в Гомель и Чернигов почтовая дорога”, а таксама што староства з 1772 г. межавала з Расійскай імперыяй. Далей ідзе падрабязная характарыстыка зямлі староства, мерапрыемстваў насельніцтва па паляпшэнні яе ўрадлівасці, ураджаяў жыта, грэчкі, ячменю; становішча жывёлагадоўлі. Сялянскія палі былі абмежаваны ракой Сож, палямі, што належалі Чачэрску, і палямі дробных шляхцічаў, якія жылі ў суседнім сяле Малынічы. Тут аўтар згадвае сяло Сапрыкі і аднайменны фальварак (“форверк”). Але пытанне было не ў колькасці зямлі, а ў яе якасці і ў недастатковай колькасці гною. Таму, па словах сялян і чачэрскага намесніка Карвоўскага, у 1767–1773 г. быў моцны неўраджай і голад, сяляне ў хлеб падмешвалі кару дрэў,

“гнилой дуб и прочее”, з-за чаго некаторыя “распухши померли”. Ды і потым сяляне пакутавалі ад паўгаладнага існавання. Не ратавалі становішча і “хлебные магазины”, таму што два з іх бралі хлеб у Слуцк, Гомель, Рагачоў, Прапойск пераважна для расійскіх войскаў, прускай каманды, што стаяла тады ў Гомелі, і канфедэратаў. Мала таго, сялян яшчэ і рабавалі, забіралі жыта, авёс, правіянт і коней, вытоптвалі пасеяны хлеб і г. д., і гэта значна пагоршыла іх стан. Рабавалі тады і чачэрскіх яўрэяў.

Характарызуе аўтар і лугі (досыць бедныя), лес, адзначае, што хвоі падыходзяць на карабельныя мачты, што часам трапляюцца яблыні і грушы; потым плаўна пераходзіць да мясцовых промыслаў, перш за ўсё вытворчасці паташу. Пры гэтым ён гаворыць пра неразвітасць названай галіны, што, відаць, было выклікана нявыгаднасцю для сялян гэтага занятку. Заняпала і вытворчасць смальчугу, таму што лес, неабходны для промыслу, быў пераважна высечаны. Выпускалася і цэгла для сельскіх патрэб. Аднак у в. Дудшыцы[1], дзе была знойдзена добрая гліна, у 1772 г. заснавалі цагельню. Пэўнае пашырэнне атрымала вытворчасць вапны. У старостве было 4 рудні, дзе выраблялі пераважна нарогі; 29 млыноў, пры 15 з іх працавалі валюшні, дзе валілі сукно. Існавала і 32 карчмы (у самім Чачэрску знаходзілася карчма “Аўстрыя” для падарожнікаў). Аўтар налічыў 96 шынкоў, з якіх на дарогах было толькі 7, а астатнія – па сёлах. Аднак амаль уся арэнда корчмаў, млыноў і рудні перададзена была яўрэям. Рыбаводныя сажалкі аддалі ў арэнду аднаму жыхару Чачэрска. У мястэчку існавала 10 дробных крамаў (“лавок”), дзейнічалі 12 рамеснікаў (кавалі, краўцы, цесляры). Важная згадка аўтара пра торг у мястэчку ў даўніну. Яшчэ кароль Жыгімонт І (панаваў у 1506–1548 г.) надаў прывілей Чачэрску – “бывшей церковной деревне”, які потым пацвярджалі яго нашчадкі. Але пасля пажару, што адбыўся каля 1733 г., мяшчане не маглі праводзіць

[1] Дудшыцы на тэрыторыі Чачэрскага староства не фіксуюца іншымі крыніцамі. Магчыма, пераблытана з Дудзічамі (*Рэд.*)

ранейшую дзейнасць, і гандаль перайшоў у рукі яўрэяў. Гэты торг на момант складання апісання тычыцца толькі пянькі, якую адпраўляюць у Кёнігсберг. На той час гандаль ужо 6 гадоў быў у стане заняпаду з-за канфедэрацыі (гаворка ідзе, відавочна, пра Барскую канфедэрацыю 1768 г.).

Прыводзім апісанне ніжэй. Прапускаем падрабязную табліцу складу працаздольнага насельніцтва ў вёсках староства (с. 16), выплаты імі чыншу натурай (куры, яйкі, мяса, сала), збожжам (жыта, авёс, ячмень). Пакажам толькі назвы паселішчаў з дадаваннем колькасці сем'яў, якія жылі ў гэтых населеных пунктах: "Местечко Чечерск (150 крестьянских и 35 бобылей). Войтовство Литвиновиче. Литвиновиче (51 и 11). Саквич (18). Вожжанка (19). Перетоки (4). Березовка (8). Войтовство Хлусси. Хлусси (29 и 7). Покос (39). Колбовка (31). Глыбовка (13). Войтовство Стаубуни. Стаубуни (72 и 15). Слобода Стаубунска (21 и 1). Войтовство Залесье. Залесье (98). Куплич (12). Рудня Молинска (10). Войтовство Белевка. Белевка (20 и 1). Загорье (20 и 2). Сусолка или Будищен Трум (10 и 2). Штрумин (17). Войтовство Полесье. Полесье (18). Скробовщизна (6 и 1). Хвошна (12). Коллудии (30 и 1). Войтовство Анисимкович. Анисимкович (28). Будишен Анисимкович (22). Оссов (18 и 7)". Адзначым яшчэ, што ў Чачэрску было 296 мужчын і 275 жанчын працаздольнага ўзросту (15–60 гадоў), маладзейшых за 15 гадоў адпаведна 236 і 208 душ, а старэйшых за 60 гадоў – 39 і 21. Апошняе выглядае дзіўным, таму што звычайна жанчыны жывуць даўжэй.

Пры публікацыі мы стараліся дакладна перадаць тэкст, зрабіўшы нязначныя праўкі для больш лёгкага ўспрымання. Так, падаём *крестьяне*, хоць аўтар піша *крестьяна*, устаўляем мяккі знак (у словах накшталт *болшой*, *несколко* і інш.), пішам літару *е* замест *я* (у словах накшталт *принадлежащия*, *оныя*). Некаторыя неразборлівыя словы пазначаны як (…)*.

Такім чынам, "Апісанне…" – важная крыніца для вывучэння сацыяльна-эканамічнага становішча насельніцтва Чачэрскага староства другой паловы XVIII ст. Спадзяюся, гэты дакумент спатрэбіцца гісторыкам і краязнаўцам.

## Описание староства Чечерского, находящегося в Рогатинской провинции 1773-го года. || [с. 2]

Двор староства Чечерского лежит при реке Чечоре, около 1 версты от местечка, где оная впадает в реку Сожу, мимо оного простирается от Могилева чрез Пропойск в Гомель и Чернигов почтовая дорога. Самой же Чечерск находится между Пропойском и Гомлем разстоянием от каждого на 12 миль. Что касается до двора сего староства выстроенного при местечке такого ж имени, оной состоит из небольшого обветшалого деревянного строения.

При оном находятся 4 обыкновенные однако ж малые поля, пространностию, как сказывают, каждое в две волоки оные лежат полосами между полос мещанских пашен.

Годовой высев ржи бывает
В одном поле .................... 16 четвертей
В другом поле .................. 24
А в третьем .................... 25

А как здесь при дворе не находилось скота, опричь нескольких коров принадлежащих дворовым служителям, то на сих полях ежегодно высевали на навоз не более трех или четырех четвертей ячменя, и то на ближайших ко двору частях. Навоз же к утучнению оных берут наиболее из карчм находящихся в местечке, а вместо того из двора отпускают корчмарям солому для подстилки под немногой их скот; и так в некотором отдалении находящиеся части сих дворовых полей никогда утучаемы не бывают, опричь ближайших; что ж принадлежит до более отдаленных мест, которые за 15 или 20 лет вызжением крупного ялового леса зделаны пашнями оные, хотя в первый год весьма плодородные, но ныне чрез многое время как сила прежнего на оных стоявшего старого и рослого леса истощилась, произращают худую рожь и гречиху попеременно; а иногда едва ли и посев возвращают ячмень же инако высеваем быть не может как ближайших полях, || [с. 3] где в каждом годе под оной выкладыван был навоз, как выше сказано.

Сих полей далее распространить не можно; ибо оные ограничены частию полями надлежащими к местечку,

частию живущих в соседней деревне Малынич мелких шляхтичей, так же и рекою Сожью.

Сверх упомянутого форверка находится и другой, именуемой Саприки при деревне такого ж звания, разстоянием от 3 до 4 верст от двора.

Высев при оном ежегодно выдает.

На первом поле . . . . . . . . . . . . . . . . 26 четвертей ржи

На другом . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 22

На третьем. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 26

При сем так же ежегодно мало наднавоженныя поля высевали, ибо чрез многие годы находилось не более 20 или 30 рогатых скотин, коих навозом утучали землю на огородах под конопли и несколько в поле под ячмень. Обыкновенно сей форверок здесь бывшим прежде экономом отдавался на их содержание, почему никакого не находится на счету. О количестве с посеву и вымолота сии поля также мало увеличены быть могут, по причине что с одной стороны приватное владение шляхтича и у реки, а с другой деревня Саприки ограничивают поля принадлежащие к форверку.

Пахотные земли состоят.

1. Дворовые поля по объявлению землемера, из серой пахотной земли, которая чем долее от двора, тем более перемешана с песком, а лежит вообще на песчаном твердом слое.

Толщина поверхнего земли слоя от 3 до 4 и 5 геометрических дюймов. || [с. 4] Положение земли по большей части равно, но так покато, что вода со всех мест стекать может.

2. При форверке именуемом Саприки, пахотная земля такого ж качества, какое имеют дворовые поля и чем ближе оная к форверку, при котором до селе несколько в рассуждении близости утучали навозом пахотные места, тем лутче серая пахотная земля и толще ее слой, а чем далее, тем более перемешана с песком, причем находится также меньшая часть и песчаной земли вся, однако ж поверхность лежит на песчаном от большей части твердом слое, на рассыпчатом же небольшая ее часть.

Паства при дороге очень недостаточна, ибо принадлежащие к оному поля, как уже объявлено, стеснены, почему скот принадлежащей мещанам почасту выгоняют на

паству далее мили на боровые и болотные места, за недостатком на полях корму.

Против двора на другой стороне вдоль реки Чечоры находится болото, которое могло бы довольно снабдевать травою, если бы оное обсушить, но по объявлению здешних жителей как оное, так и ближайшие сенокосные луга принадлежащие к местечку и соседним деревням покрыты бывают иногда до июня мсца водою, вышедшею из реки Чечоры и Сожи, в которую первая впадает.

Равным образом спрашиваемые войты объявили, что не находится места для форверка, где бы оной без переселения деревень учредить можно было, кроме что на границах сего староства, где в разных местах изрядные земли соседами || [с. 5] за несколько времени взяты во владение, кои так же по их сказкам, на пред сего принадлежали к здешнему староству, что наипаче при Литвиновицком войтовстве учинено, которого спорная земля не токмо много пашен, но и сенокосов на 200 и до 300 возов имеет но сие зависит от того, как здешние границы будущею весною назначены будут.

Вся граница Чечерскаго староства длиною почти в 13 миль, а шириною от 8 до 10 и 12. На оной весьма многие мелкие шляхтичи свои имеют маетности, так же на сей показанной границе староства на Дилонское (?), Немкович и Залески находятся, ибо Чечерское войтовство – Столбун за Немковичами на старой российской границе лежит и тем самим помянутое староство в чечерские границы включаются по мнению здешних жителей в чечерских границах заключенной чужой земли 1/3, а действительно ныне Чечерскому староству принадлежащей прочие 2/3 составляют помянутые границы.

В сей границе находится крупной и знатной лес 2/3 оного, по сказкам крестьян, состоят из сосновых деревен, и 1/3 из лиственных, где местами яблони и груши произрастают. Между сосновыми деревьями находятся годные на мачты также и на строение домов, а между лиственными видны многие хорошие и худые дубы, первые || [с. 6] из них состоят на сухом, а последние на болотном годном для сенокосных лугов грунт.

Мелкой ельник здесь так же находится, но в малом количестве растущей по болотам из дубовых деревьев многие

годны на так называемые ванчасы и проч. А из прочих лиственных деревьев, как то липы, клену, ильмы, вязу, ольхи, берез, и разных других родов приготовляют поташ при деревне Залесье.

В сей поташный завод на пред сего все крестьяне вообще около 2000 виленских бочек золы, по учиненному разделению хотя ставить и должны были, с получением от двора за каждую бочку по 15 копеек, но вместо сего ежегодно едва от 15 до 16 сот таковых бочек приходило, ибо многие крестьяне положенного по числу в их семьях рабочих людей количества золы за объявляемою от них невозможностию не выставили сверх сего ежегодно почти столько ж золы, когда оную только достать можно было, от своих и посторонних крестьян покупано было.

Из всей золы вообще ежегодно от 25 до 30 бочек поташу, из коих каждая в 55 пуд была весом, ставили во двор подрядчики и от оного продаван был. Лес для сего бран был для всегдашней надобности из собственных областей и как всем ни какого порядочного разделения, как то возами или саженми не было, то и количество оному || [с. 7] неизвестно к деланию поташа употребляют семь медных и два железных котла и около сорока деревянных кадей, при сем же уставлен писарь при приеме и записке золы, один, а иногда и два мастера для работы поташа, 6 (гэтая лічба можа чытацца і як 16. – *Ю. М.*) при нем работников, один бочар для часто требующейся починки деревянной посуды, которые все служат за деньги и получают как денежное жалованье так и содержание от двора.

Оставшая от дела поташа зола лежит вкруг завода большими грудами ибо здешние люди не знают, что оная может служить к утучению пашен и сенокосных мест.

Карчм в сем старостве находится 32 и еще одна в местечке именуемая по здешнему Австрия, по причине, что в оной для проезжающих находятся выгоды, равно как для лошадей, так и их повозок. Из 96 карчем при больших и малых дорогах находятся только семь, а прочие состоят по деревням.

Хлебных мельниц вообще 29. Из коих при 15 находятся вални, где здешние крестьяне зделанные ими самими сукна

валяют плата с локтя по полушке лутчия из сих мельниц две, кои неподалеку от двора на реке Чечоре поставлены, из коих верхняя (…)* для хлеба (…)* для валенья, а нижняя находящаяся при самом замке один ход для молотья хлеба. Прочие мельницы поставлены на небольших реках и все на одном находятся ходу, опричь вышеупомянутых валельных. || [с. 8]

Так же всей волости находится 4 рудни, в коих делают ломное худое железо, из которого делают по большей части лемеши. По сказкам одна только из сих руден имеет в своих границах достаточно железной руды, а другие принуждены за многие мили в пределах сего староства сыскивать, а иногда и по близости в чужих границах покупать.

Сколько упомянутые корчмы, мельницы и рудни приносят аренды, показано в екстракте при исчислении доходов. Все почти сие отдано жидам на оренду.

Смалчуг прежние года здесь так же приуготовляли, но по сказкам, надлежащей для сего лес по большей части вырублен, почему дело оного оставлено по нужде.

Кирпич на пред сего неподалеку от двора – по малому количеству для дворовых потребностей делали крестьяне из заплаты, но как глина вблизи находящаяся на дело хорошего кирпича не способна, то в прошедшее лето в деревне Дудшице отстоящей на 3 ½ мили от двора, лутшая находится глина, заведен кирпичный завод.

Сжение извести прежде сего для малых дворовых потребностей так же было, и в отдаленности от двора крестьяне несколько оной ж глино, немного продавали. И хотя в редких местах извесочные сыскиваются каменья, однако ж в большем количестве находится здесь извесочная земля, которую в известь пережигать можно, намочив ее сперва и помощию слипающегося свойства сжав в куски и высушив пласт в зделанные для сжения ее печи. Таковой земли находится здесь в разных местах. || [с. 9]

Рыбная ловля здесь в 40 весьма малых озерах и в 5 небольших прудах производится; а как самые обширные озера длиною и шириною в одну версту, и оных очень мало; а большая часть меньше оных, иные ж из них толь малы, что не вместилен в оных весьма малой невод; почему оные отданы здешнего местечка мещанину за 75 руб. на откуп,

коему для ловли по договору дают и неводы стоящие от 24 до 25 рублев и так всей рыбной ловли истинного прибытка не более 50 рублев; а сверх сего всякий раз откупщику даются еще крестьяне с лошадьми из ближайших деревень для вспомоществования при ловле.

Опричь сих в Чечерске угодий, кои бы до сего доход приносили, неизвестно.

Сколько местечко чиншу и гиберны за место и пашни пред сего платило, и сколько жиды за содержание карч платят аренды, показано в екстракте под № 88. Хотя в сем местечке и находится около 10 мелочных лавок, но по сказкам с оных нет никакого платежа.

Жители сего местечка, выключая жидов, имеет прокормление по большой части от хлебопашества к чему достаточные имеют поля, находящиеся круг местечка, также пространные сенокосные луга, с коих крупное по большой части скашивается сено. Паствы же их скудны и они принуждены бывают скотину выгонять в боровые отдаленные от места леса ибо близкие луга покрыты бывают долго водою.

В сем местечке находятся 12 рукодельников как то кузнецы, портные, плотники, кои пахотной земли не имеют, а прочие жители все имеют пашни. В прежние времена здесь производим || [с. 10] был торг. Сказывают, король Сигизмунд Первый сначала здесь бывший церковной деревне дал привеллегию местечко, а последующие короли – оную подтвердили.

А как местечко выгорело, то жители оного зделались не в силах производить торг, которой уже около 40 лет жиды на себя приняли; и оной состоит в одной только пеньке отправляемой в Кинизберг.

Жиды претерпели от недавно бывшей конфедерации немалой убыток и их торг – ныне около уже 6 лет очень маловажен; ибо военные обстоятельства лишили их в Кинизберге кредита.

Положение Чечерска, на выходящей из Смоленской губернии и при Лоеве в Днепр впадающей реке, к небольшому торгу способствовать может.

Находящиеся при местечке пашни состоят из серой пахотной земли, имеющей толщину от 3 до 4 и 5 дюймов,

лежащей по большей части на твердом, а частию и рассыпчетом песке.

Поля надлежащие к местечку на несколько распространены быть могут посредством сороваго (?) посредственно годного к тому грунта.

Число чечерских крестьян и прежние подати с каждой деревни означены в екстракте под № 88 || [с. 11].

Крестьяне как сами объявили, кормятся от хлебопашества, имея притом некоторое вспомоществование от содержания пчел в лесах, прибыток для поташной фабрики от поставки в оную золы очень почитают замалой; ибо по их объявлению один крестьянин в неделю неполную виленскую бочку или 2 четверти золы приготовить может, за что только 15 получит копеек.

Пахотной земли, по признанию крестьян, при каждой деревне находится довольно, а что оной в том или другом месте в некоторых деревнях недостаточно, оное происходит только от несовершенного размера, большая часть деревень имеют также ляды, из коих немало песчаных, сенокосных лугов 2/3 здешних крестьян достаточно имеют; а 1/3 оных не имеет напротив сего 2/3 крестьян имеют мало скота, а 1/3 столь довольно имеют оного, сколько крестьяне в Белой России почитают задовольно, которой однако ж не довольно для удобрения пашни; ибо сии заводные скотом крестьяне утучают ежегодно только 5 часть полей; следовательно все три поля в 15 лет унавоживаются; из чего видно, что в здешнем краю крестьяне не только содержат скота, сколько бы оного доставало на утучение их полей. А как у лутчих крестьян поля надлежаще не унавожены, то что ж заключить о бедных, коих поля за малоимением скота совсем обессилены. Ляды доселе были их единственным вспомощестованием и сему в прежние времена можно было выискивать лутчия места, а ныне принуждено || [с. 12] каждой крестьянин брать то, что только есть, по причине от части умножения народа, от части поселения деревень новопришедшими; а на некоторых местах препятствуют также стоящей на лядовых местах несравненно крупной лес, которой крестьяне, имеющие в семье от одного до двух рабочих людей, мало успеть могут в вырубании и приуготовлении онаго и так когда лядов

мало приуготовить можно, или оные будут худы, или и совсем не сыщется, то крестьяне в таком случае бедны. Чрез многие неурожайные года, и военные беспокойствии как то, от поставок провианта, фуража, подвод и проч. все крестьяне здесь пришли во оскудение. При истощенных полях каждая противная погода жатву уменьшала, потому что земля удобрения навозом недоставало.

Здешние крестьяне отвозят навоз отчасти во огороды и под пеньку, которой по большей части здесь в нарочитом количестве, смотря по их домоводству высевают, от части выкидывают оной на поля под яр, редко употребляя под рожь. Каждого года утученная часть поля и ляда, коя еще в силах или новая составляют почти всю помощь в хлебе и корме для скота; ибо истощенная земля, по уверению войтов, едва может зерно на зерно принесть. Таковые поля мало могут прокормить скота; и потому объявляют крестьяне, что они не имеют довольно корму, сколько надобно к содержанию большого количества оного; ибо сенакосные || [с. 13] луга многих деревень покрываются водою реки Сожа, с которых после мало скашивают травы для прокормления скота.

Как крестьяне, так и чечерской наместник Карвовский уверяли, что за 6 лет толь великий неурожай и голод здесь был, что крестьяне кору с дерев, гнилой дуб и прочее перемешав с хлебом весною питались, от сего голоду некоторые распухши померли.

Хотя ж потом и был одного года урожай на рожь, однако яровой хлеб не родился, следующие после того все годы приносили худую жатву, и от того крестьяне великой недостаток претерпели.

А как рожь на полях в половине была зрелости, оную многие с голоду употребляли в пищу, от чего получив болезнь, многие померли.

Хотя пред сим в Чечерске небольшие хлебныя магазины к спомоществованию крестьян и находились, но как сие староство, по объявлению наместника, в двугодовое время разного хлеба вообще 3328 четвертей в Слуцк, Гомель, Рогачев, Пропойск и самой Чечерск поставить принуждено было, и по большей части для российских войск частию же для прусской команды стоящей в то время в Гомле и конфедератам;

и как из вышепоказанного большаго числа не более 400 четвертей ржи и почти столько ж овса собиралось в дворовой магазин, и недостающее количество по нужде собрать должно было с крестьян, то оные вместо ожидания помощи от двора, не упоминая о их великой бедности принуждены были отдать свой последний хлеб. || [c. 14]

Сверх сего мерою отданного количества хлеба конфедераты разбирали как дворовой магазин, так и крестьянской запас, без меры и употребили оной отчасти на страву лошадям, а отчасти на провианты, хлеб говядину и прочее насильно отняли, иных крестьян выгнали из домов, высеянной их на полях хлеб стравили и вытоптали; отняли у них же от 30 до 40 лошадей, кои для их показались годными, а большую часть к их разорению, в упряжке перегнав, перепортили, несколько скотин и овец с собою взяли; в местечке ж сукна и другие лавочные у жидов разграбили товары.

При таких обстоятельствах потерял крестьянин часть лошадей, рогатого скота, хлеб и приуготовленные к посеву семена, и как и дворовой магазин им вспомоществовать не мог, то часть крестьянских полей за неимением семян и лошадей к полевой работе, осталась не усеяна и тем менее жатва была.

Почасту реки Чечора и Сожа здешние крестьянские сенокосы наводняли и приняли тем недостаток в корме скота, по необходимости крестьяне распродали много скота, дабы за врученные за оной деньги прокормитца; что самое привело за малостию навоза поля в бесплодие, а от того и урожай худой был.

Когда крестьянин случайно у жида по нужде займет ржи, то должен за две мерки по съеме с полей хлеба отдавать 3 чрез что худой урожай тем более недоставал к прокормлению крестьянина.

При сем и крестьянам принадлежащие ульи в разных годах менее обыкновенного были прибыточны.

Чрез все таковые несчастливые приключении большая часть здешних крестьян находится в недостатке».

Нацыянальная бібліятэка Украіны
імя У. І. Вярнадскага. ІР. Ф. І. № 60816.

# Гісторыя, памяць і сімвалічная тапаграфія горада: найноўшыя публікацыі да гістарыяграфіі Вільні*

**Кэтрын Гібсан**

З таго самага часу, як П’ер Нара ў 80-я г. XX ст. звярнуўся да тэмы *lieux de mémoire* (месцаў памяці), даследчыкі дачыненняў паміж гісторыяй і памяццю сутыкаюцца са зменай успрымання, канструявання і рэпрэзентацый прасторы[1]. У найноўшых працах вялікая ўвага адводзіцца пытанням, як людзі надаюць сімвалічнае значэнне навакольнай прасторы, як вакол асобных мясцін крышталізуецца супольная ідэнтычнасць і чаму тая ці іншая мясціна пачынае асацыявацца з канкрэтнымі каштоўнасцямі, эмоцыямі і маральнымі прынцыпамі. Даследчыкі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы актыўна выкарыстоўваюць гэты “прасторавы ўхіл” у вывучэнні таго, як цягам апошніх двухсот гадоў змены межаў і геапалітычных рэжымаў сфармавалі ў гэтым рэгіёне “ландшафт памяці”. Гэтыя даследаванні часта засяроджваюцца на гарадах як прасторы розных версій калектыўнай памяці, якія часам канкуруюць між сабою[2].

* Theodore R. Weeks. Vilnius between Nations, 1795–2000. DeKalb, IL: Northern Illinois University Press, 2015. 308 p.; Dangiras Mačiulis and Darius Staliūnas. Lithuanian Nationalism and the Vilnius Question, 1883–1940. Marburg: Herder Institut, Studien zur Ostmitteleuropaforschung, 2015. 236 p.

[1] Pierre Nora. Les lieux de mémoire. Paris: Gallimard,1984.

[2] Больш падрабязны аналіз гэтай літаратуры гл. у: Nick Baron. New Spatial Histories of Twentieth Century Russia and the Soviet History: Surveying the Landscape // Jahrbücher Für Geschichte

Даследаванні таго, як розныя дзейныя асобы і супольнасці спрабавалі сімвалічна і фізічна завалодаць пэўнымі гарадамі з прылеглымі тэрыторыямі, істотна паўплывалі на наша асэнсаванне гісторыі земляў былой Рэчы Паспалітай у XIX і пачатку XX ст. Аналізуючы, як з гарадоў ствараліся "пункты адліку" розных супольных ідэнтычнасцяў і палітычных праектаў, аўтары гэтых прац карысталіся самымі разнастайнымі крыніцамі і методыкамі: ад вывучэння гарадской забудовы з акцэнтам на архітэктуры і помніках да аналізу папулярных гістарычных выданняў, адукацыйных праграм, музеяў і ўрачыстасцяў, а таксама шмат чаго іншага. Сярод адметных публікацый у названай галіне – кніга Фелікса Акермана (2011) пра Гародню ў XX ст., праца Таццяны Журжэнкі (2014) і даследаванні Уілема Блакера (2014, 2015)[3]. Ф. Акерман у асэнсаванні таго, як розныя суб'екты і палітычныя рэжымы на працягу часу прыпісвалі Гародні сімвалічны сэнс, звяртаецца да метафары палімпсесту і паказвае, як суіснуюць гэтыя розныя слаі. Т. Журжэнка даследуе, як памежныя гарады

Osteuropas 55:3 (2007). P. 374–400; Nick Baron. New Spatial Histories of 20th-Century Russia and the Soviet Union: Exploring the Terrain // Kritika: Explorations in Russian and Eurasian History 9:2 (2008). P. 433–447; Theodore Weeks. Urban History in Eastern Europe // Kritika: Explorations in Russian and Eurasian History 10:4 (2009). P. 917–933; Mark Gamsa. Cities and Identity, War, and Memory in the Baltic Region // Kritika: Explorations in Russian and Eurasian History 15:3 (2014). P. 621–635. Гл. таксама зборнік: Jörg Hackmann and Marko Lehti. Contested and Shared Places of Memory: History and Politics in North Eastern Europe. London: Routledge, 2013.

[3] Felix Ackermann. Palimpsest Grodno: Nationalisierung, Nivellierung und Sowjetisierung einer mitteleuropäischen Stadt 1919–1991. Wiesbaden: Harrassowitz Verlag, 2011; Tatiana Zhurzhenko, The Border as Pain and Remedy: Commemorating the Polish-Ukrainian Conflict of 1918–1919 in Lviv and Przemyśl // Nationalities Papers 42:2 (2014). P. 242–268; Uileam Blacker. Urban Commemoration and Literature in Post-Soviet L'viv: A Comparative Analysis with the Polish Experience // Nationalities Papers 42:4 (2014). P. 637–654; Uileam Blacker. Writing from the Ruins of Europe: Representing Kaliningrad in Russian Literature from Brodsky to Buida // The Slavonic and East European Review 93:4 (2015). P. 601–625.

апынаюцца ў фокусе палітыкі памяці і на ўнутрыдзяржаўным, і на міжнародным узроўні. У. Блакер на прыкладах польскіх, украінскіх і расійскіх крыніц аналізуе, як у выпадках Лемберга / Львова / Львіва і Кёнігсберга / Калінінграда выяўляецца гарадская прастора і як ёй прыпісваецца сімвалічнае значэнне. Гэта толькі некалькі апошніх прыкладаў, як вывучэнне гарадоў дапамагае нам зразумець повязі паміж рознымі нацыянальнымі гістарыяграфіямі і калектыўнай памяццю.

Дзве кнігі, якія тут рэцэнзуюцца, уводзяць горад Вільнюс / Вільна / Вільне / Вільня / Wilna / Wilno (далей – Вільня) у больш шырокі кантэкст дыскусіі пра спаборныя версіі гісторыі і памяці ў гарадах і пра гарады[4]. Як сцвярджае Т. Р. Уікс, "хоць ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе вельмі багата шматнацыянальныях, поліканфесійных гарадоў, ніводны з іх – ні Львоў і ні Клуж (Cluj), ні Рыга і ні Ерэван, ні Лодзь і ні Баку – не займае гэткага цэнтральнага месца ў некалькіх розных нацыянальных міфалогіях [як Вільня]"[5]. Горад быў сталіцай Вялікага Княства Літоўскага (і да уніі 1386 г., і ў складзе Рэчы Паспалітай) да інкарпарацыі напрыканцы XVIII ст. Расійскай імперыяй. Тады ён стаў цэнтрам Віленскай губерні (Виленская губерния) і Паўночна-Заходняга краю (Северо-Западный край). Пад час Першай сусветнай вайны горад быў пад акупацыяй Германскай імперыі ў межах паўкаланіяльнай палітыкі *Ober Ost*, а ў 1919–1920 г. некалькі

[4] Працы аўтараў на гэтую тэму на іншых мовах: Сталюнас Д. В поисах литовской Литвы: литовское национальное движение и процесс конструирования национальной территории (до 1914 г.) // Ab Imperio 1 (2015). С. 125–174; Dangiras Mačiulis and Darius Staliūnas. Vilnius: Lietuvos sostinė: problema tautinės valstybės projekte. Vilnius: Lietuvos istorijos institutas, 2015; Dangiras Mačiulis, Alvydas Nikžentaitis and Vasilijus Safronovas. L'appropriation symbolique d'une ville multiculturelle: les cas de Kaunas, Klaipėda et Vilnius // Revue germanique international 11 (2010). P. 41–60; Theodore Weeks. Vilna, Wilno, Vilnius 1863–1939: une etude de cas sur les cultures parallèles et sur 'l'Autre' invisible // Revue germanique international 11 (2010). P. 79–102.

[5] Theodore Weeks. Vilnius between Nations, 1795–2000. DeKalb, IL: Northern Illinois University Press, 2015. P. 2.

разоў пераходзіў з рук у рукі – то да Войска польскага, то да бальшавіцкай Расіі. Напрыканцы 1920 г. Войска польскае адваявала горад і абвясціла яго сталіцай Сярэдняй Літвы, а ў 1922 г. адбылася інкарпарацыя ў склад Польшчы. Урад новаабвешчанай незалежнай Літоўскай рэспублікі са сваёй "часовай" сталіцы Коўна рэзка пратэставаў супраць гэтага кроку. У міжваенны час ён заставаўся "яблыкам разладу" ў польска-літоўскіх дыпламатычных дачыненнях. У 1939 г., пасля таго як Савецкі Саюз захапіў польскія "крэсы ўсходнія", Крэмль перадаў Вільню Літве, а пасля Другой сусветнай горад стаў сталіцай Літоўскай ССР. Ад 1991 г. ён сталіца незалежнай Літоўскай Рэспублікі.

У выніку войнаў і Халакосту тут у XX ст. шмат разоў змяняліся палітычныя рэжымы і межы, адбываліся рэзкія дэмаграфічныя трансфармацыі. Таму розныя прэтэндэнты на Вільню сцвярджалі, што гэта гістарычна і культурна "польскі" горад, "паўночны Ерусалім", буйны расійскі правінцыйны горад і цэнтр Паўночна-Заходняга краю, нацыянальная сталіца Літвы, гістарычны і арганізацыйны цэнтр беларускага нацыянальнага руху. У найноўшай англамоўнай гістарыяграфіі самым поўным і ўсебаковым аналізам гэтага суплёту тэрытарыяльных і дыскурсіўных прэтэнзій на Вільню ў XIX–XX ст. колькі гадоў лічылася першая частка кнігі Тымаці Снайдэра "Рэканструкцыя нацый"[6]. Тады ў 2010 г. выйшаў спецыяльны нумар "Revue germanique internationale", прысвечаны "супольнай памяці" балтыйскіх гарадоў, у якім надрукаваны артыкулы Т. Р. Уікса, Д. Мачуліса і іншых пра Вільню[7]. У той самы час выйшлі два асабістыя расповеды пра гісторыю Вільні[8]. Тым не менш, у шырэйшай дыскусіі пра гіс-

[6] Timothy Snyder. The Reconstruction of Nations: Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus,1569–1999. New Haven: Yale University Press, 2003. P. 15–102.

[7] Гл. спасылку 4.

[8] Laimonas Briedis. Vilnius: City of Strangers. Budapest; New York: CEU Press; and Vilnius: Baltos Lankos, 2009; Tomas Venclova. Vilnius: a Personal History. Riverdale-on-Hudson, N. Y.: Sheep Meadow Press, 2009.

торыю і памяць ва Усходняй Еўропе Вільня наогул у нейкай ступені абміналася ўвагай. Гэта сумная рыса вялікага корпуса даследаванняў тэрыторыі сучасных Літвы, Латвіі і Эстоніі, калі навукоўцы хочуць пашырыць сваю аўдыторыю па-за вузкай балтыйскай спецыялізацыяй. Дзве разгляданыя працы – першыя англамоўныя на гэтую тэму ў фармаце кніг; яны абнадзейваюць, як свежыя прыклады таго, што развіццё падзей у асобным балцкім рэгіёне ўлучаецца ў больш шырокі кантэкст тэарэтычнай праблематыкі і дынамікі гісторыі. Аўтары паказваюць Вільню як прастору змагання паміж рознымі асобамі, палітычнымі партыямі і дзяржавамі, якія ў XIX–XX ст. імкнуліся сфармаваць успрыманне гарадоў і сцвердзіць свае тэрытарыяльныя прэтэнзіі на навакольныя землі і іх насельніцтва. Такім чынам, даследчыкі займаюцца міждысцыплінарнымі штудыямі на стыку гісторыі, палітыкі памяці і ўрбаністыкі. Канкрэтны выпадак Вільні разглядаецца ў больш шырокім кантэксце пераходу ад імперскай да нацыянальнай (на першы погляд) канцэпцыі арганізацыі тэрыторый.

## Wilno / Вільна / Вільнюс: розныя версіі гісторыі і памяці

У кнізе Т. Р. Уікса "Вільня паміж нацыямі" паказана, якімі спосабамі ад інкарпарацыі горада ў 1795 г. Расійскай імперыяй да амаль 2000 года палякі, беларусы, яўрэі, рускія і літоўцы сцвярджалі свае інтэлектуальныя і практычныя прэтэнзіі на гэты горад. Аўтар малюе яркую карціну палітычных метадаў і захадаў, якімі карысталіся розныя дзеячы, мясцовыя культурныя ўстановы, палітычныя партыі і (у XX ст.) урады, каб давесці сваё "права ўласнасці" на Вільню ў межах розных палітычных і нацыянальных праектаў. Т. Р. Уікс дэманструе, як дастасоўваліся, пераўтвараліся, перапісваліся розныя сімвалічныя значэнні і як пэўныя асобы – чыноўнікі, інтэлектуалы, эксперты, замежнікі, карэнныя жыхары – імкнуліся навязаць сваю пазіцыю, свае мэты і задачы. Аналізуюцца розныя стратэгіі сімвалічнага прысваення: ад прапаганды,

культурнай і адукацыйнай дзейнасці да перанайменавання вуліц і ўсталявання помнікаў. Т. Р. Уікс даследуе, як пазней можна было трансфармоўваць і выкарыстоўваць гэтыя стратэгіі дзеля апраўдання больш рэпрэсіўных захадаў: ад абмежаванняў на пэўныя мовы, алфавіты і веравызнанні да гвалту ў выглядзе генацыду і этнічных чыстак у XX ст. у імя стварэння больш этнічна і моўна аднароднага "нацыянальнага" горада. Аўтар заслугоўвае вельмі высокай ацэнкі за досыць складанае даследаванне з мноствам нюансаў, у якім таксама аддаецца вялікая ўвага суб'ектнасці жыхароў горада, таму, як яны рэагавалі на гэтыя спробы, што зыходзілі з вярхоў, прыпісаць гораду сімвалічнае значэнне: падтрымлівалі, супрацоўнічалі, заставаліся абыякавымі ці скарыстоўвалі ва ўласных інтарэсах.

Манаграфія Т. Р. Уікса падзяляецца на восем раздзелаў, згодна з агульнапрынятай храналогіяй змен геапалітычных рэжымаў і межаў; аўтар таксама разглядае як пераломныя моманты задушанае паўстанне 1863–64 г. і дзве сусветныя вайны. У назвах раздзелаў згадваюцца "польска-яўрэйская" Вільня (1795–1862), перыяд "русіфікацыі" (1863–1914), "польская" Вільня (1919–1939) і стварэнне "літоўскай" сталіцы (1985–2000). Таму на першы погляд можа скласціся ўражанне, што наратыў будзе разгортвацца ў адпаведнасці з храналагічнай паслядоўнасцю розных "нацыянальных" фаз у гісторыі горада. Аднак замест гэтага Т. Р. Уікс прапануе падрабязны аналіз шырокага спектра крыніц на самых розных мовах: ад падарожных даведнікаў і карт да фотаздымкаў, газет і дзённікаў. Яго мэта – прасачыць узаемаўплывы розных рэлігійных, сацыяльна-эканамічных, культурных, этналінгвістычных і нацыянальных супольнасцяў у сімвалічным і рэальным прысваенні горада, а не пісаць пра іх строга разасоблена[9].

[9] Адзін з найноўшых прыкладаў гэтай тэндэнцыі гл. у: Mark R. Hatlie. Riga at War 1914–1919: War and Wartime Experience in a Multi-ethnic Metropolis. Marburg: Herder Institut. Studien zur Ostmitteleuropaforschung, 2014). Даследуючы Рыгу пачатку XX ст., М. Р. Хэтлі прысвячае яе нямецкаму, яўрэйскаму, расійскаму і латышскаму насельніцтву асобныя раздзелы.

Сугучна з Ф. Акерманам, які піша пра горад як палімпсест, Т. Р. Уікс адсочвае, што захавалася праз гэтыя розныя эпохі, а што змянілася.

Відавочна, што на Т. Р. Уікса паўплываў Дэвід Фрык і сфармуляваная ў яго наватарскай манаграфіі "Блізкія, сваякі і суседзі" тэза: няма патрэбы "пасмяротна" даводзіць права ніводнай нацыянальнай супольнасці на Вільню[10]. Т. Р. Уікс паказвае палітычныя захады і праекты, якія мы, магчыма, успрымаем як скіраваныя на "нацыяналізацыю" горада (асабліва ў літоўскім выпадку), проста як асобныя прыклады з мноства праектаў, што ў розныя часы меліся надаць яму сімвалічнае значэнне. Тым самым аўтар здолеў прапанаваць свежы погляд на гісторыю Вільні ў XIX–XX ст., які выходзіць за наратыўныя межы звычайнага падрабязнага апісання, як узаемадзейнічалі розныя нацыянальныя праекты. Адначасова Т. Р. Уікс звяртаецца да пытання, чаму на папулярным узроўні гісторыю Вільні цягам апошніх двух стагоддзяў часта без найменшых сумневаў успрымаюць праз чорна-белую нацыянальную прызму. Уплятаючы ў свой наратыў падрабязны агляд шматмоўнай гістарыяграфічнай літаратуры пра Вільню за папярэднія два стагоддзі, выяўляючы разнагалоссі паміж шмат якімі інтэрпрэтацыямі, Т. Р. Уікс паказвае, як разнастайныя падзеі і слынныя асобы з мінуўшчыны Вільні (напр., Adam Mickiewicz / Adomas Mickevičius / Адам Міцкевіч ці Чэслаў Мілаш) працягваюць свае дынамічнае мнемагістарычнае "жыццё пасля смерці"[11]. Тым самым ён звяртае ўвагу, наколькі магутнай сілай выступаюць гэтыя нацыяналізацыйныя наратывы ў фармаванні гістарыяграфіі, розных версій папулярнай гісторыі і калектыўнай памяці пра Вільню. Аўтар таксама скарыстоўвае плён даследаванняў нацыяналізму апошняга дзесяцігоддзя, якія імкнуцца паставіць пад сумнеў тэлеалагічныя наратывы нацыянальнага абуджэння тым, што звяртаюць увагу на цяжкую працу, прамаруджванні і няспраўджаныя

[10] David A. Frick. Kith, Kin, and Neighbors: Communities and Confessions in Seventeenth-century Wilno. Ithaca: Cornell University Press, 2013.

[11] Marek Tamm, ed. Afterlife of Events: Perspectives on Mnemohistory. Basingstoke: Palgrave Macmillan, 2015.

праекты розных інтэлектуалаў і палітычных дзеячоў, што спрабавалі фармуляваць і папулярызаваць сімвалічныя сэнсы не толькі вусна і пісьмова, але і праз фізічнае змяненне тапаграфіі горада.

У працы Т. Р. Уікса вялікае значэнне надаецца ўзаемасувязі паміж пабудаванай гарадской прасторай і сімвалічным прысваеннем горада з боку розных суб’ектаў. Ён аналізуе, як надаецца сімвалічнае значэнне самім матэрыяльным мясцінам, а не толькі ўяўленай і сімвалічнай тапаграфіі. Як пішуць Аляксандр Дынер і Джошуа Хаген у прадмове да спецыяльнага выпуску “Nationalities Papers”, прысвечанага наратывам нацыі ў гарадской прасторы: “Апошнім часам вучоныя пачалі не толькі цікавіцца гэтым сімвалізмам, але і звяртаць увагу на кіраванне (рэ-)структураваннем гарадской прасторы і самаўсведамлення і яго практычныя аспекты. Калі галоўная ўвага звяртаецца на практыку кіравання, асноўнае значэнне ў дастасаванні і аспрэчванні розных версій сацыяльнага самавызначэння надаецца не адлюстраванню дачыненняў няроўнай улады, а фармаванню гарадской прасторы”[12].

Т. Р. Уікс гэтаксама даводзіць, што “праз усю эпоху мадэрнасці Вільна / Wilno / Вільнюс існаваў як мінімум на двух узроўнях: на пагорках на ўсходняй ускраіне цяперашняй Літоўскай Рэспублікі і ў свядомасці жыхароў, наведнікаў і выгнанцаў”[13]. Гэтыя два вымярэнні не разглядаюцца як супрацьлеглыя картэзіянскія катэгорыі “сапраўднае” – “уяўнае”, насамрэч яны глыбока знітаваныя. Абапіраючыся на падыход Д. Фрыка, які разглядае раёны горада як адлюстраванне яго складу і дачыненняў паміж яго рознымі жыхарамі, Т. Р. Уікс піша пра будаўніцтва храмаў, могілак, школ, друкарняў, тэатраў і культурных цэнтраў. Ён дакументуе змены назваў вуліц, узвядзенне помнікаў, калі розныя суб’екты імкнуліся перайначыць гарадскі асяродак і давесці свае права на Вільню, а таксама канфлікты паміж

[12] Alexander C. Diener and Joshua Hagen. From Socialist to Post-Socialist Cities: Narrating the Nation through Urban Space // Nationalities Papers 41:4 (2013). P. 491.

[13] Theodore Weeks. Vilnius between Nations. P. 236.

мясцовымі жыхарамі вакол гэтых змен. Аўтар параўноўвае розныя карты і турыстычныя даведнікі, якія вялі гасцей горада рознымі маршрутамі, каб прыцягнуць іх увагу да розных элементаў гарадской прасторы і прапанаваць ім розныя наратывы і спосабы прачытання горада. Вынікам стала даследаванне, якое прымушае задумацца пра Вільню як прастору змагання розных дзеячоў, палітычных партый і дзяржаў, што імкнуліся фармаваць успрыманне гарадоў і сцвердзіць свае тэрытарыяльныя прэтэнзіі на навакольныя землі і іх насельніцтва.

## Стварэнне літоўскай сталіцы

“Літоўскі нацыяналізм і пытанне Вільні” – так гучыць назва літоўскамоўнай кнігі “Vilnius: Lietuvos sostinė: problema tautinės valstybės projekte”, якая выйшла ў тым самым годзе, але раней[14]. Д. Мачуліс і Д. Сталюнас засяроджваюцца на вузейшай праблеме, чым Т. Р. Уікс. Яны шукаюць адказ на канкрэтнае пытанне: чаму літоўскія інтэлектуалы канца XIX – першай паловы XX ст. пачалі разглядаць Вільню як сталіцу Літвы. Пытанне тым больш цікавае з улікам таго, што, як адзначаюць аўтары, колькасна напрыканцы XIX ст. у Санкт-Пецярбурзе, Рызе, Лібаве / Libau / Liepāja больш людзей вызначалі сябе літоўцамі, чым у Вільні[15]. Таму пры чыста этналінгвістычным падыходзе, магчыма, натуральней было б абраць нацыянальнай сталіцай Ковно / Kowno / Коўна / Kovne / Kauen / Каўнас, які і выконваў гэтую ролю ў міжваенны перыяд. Намаганні літоўскіх інтэлектуалаў стварыць Вільню як літоўскую сталіцу паказаны як хрэстаматыйны прыклад таго, як гістарычныя аргументы – у гэтым выпадку спадчына Вялікага Княства Літоўскага – могуць выявіцца больш моцным падмуркам, каб уявіць і легітымізаваць геаграфічны абсяг, межы, цэнтр нацыі, якая прэтэндуе на дзяржаўнасць, чым этналінгвістычныя крытэры.

[14] Гл. спасылку 4.
[15] Dangiras Mačiulis and Darius Staliūnas. Lithuanian nationalism and the Vilnius Question. P. 28.

Кніга Д. Мачуліса і Д. Сталюнаса пачынаецца ад 1883 года, калі пачала выходзіць першая літоўская нацыянальная газета “Auszra / Aušra”. Як сцвярджаюць аўтары, гэтая падзея засведчыла нараджэнне сярод літоўскіх інтэлектуалаў ідэі Вільні як сталіцы Літвы, “захопленай” у пракаветныя часы палякамі, яўрэямі і расійцамі. Аднак большая частка кнігі прысвечана перыяду пасля 1904–1905 г., а ў далейшых раздзелах разглядаюцца Першая сусветная вайна, няпэўныя 1918–1923 г., міжваенны перыяд 1923–1939 г. і “вяртанне” Вільні ў 1939–1940 г. Тут аўтары прасочваюць эвалюцыю і “пашырэнне ў масах” ідэі Вільні як неад’емна літоўскага горада[16]. Даследаванне Д. Мачуліса і Д. Сталюнаса грунтуецца на крыніцах, узятых галоўным чынам з перыядычных выданняў, каб раскрыць інтэлектуальную гісторыю ідэі Вільні як літоўскага горада, які “выкрала” пасля Першай сусветнай вайны Польшча і які цяпер мусіць “вярнуць сабе” Літва. Да даследавання дадаюцца матэрыялы з падручнікаў геаграфіі, літаратурных крыніц і карты, праз якія адбывалася сімвалічнае прысваенне знакавых мясцін у тапаграфіі горада (напр., Вострай Брамы – Aušros Vartai і замка Гедыміна) як галоўных складнікаў літоўскай культурна-палітычнай гісторыі. Трэба аддаць належнае выдаўцу, што змясціў у кнізе столькі каляровых ілюстрацый – фота, газетных карыкатур, плакатаў, – якія ўзбагачаюць тэкст. Адрозна ад Т. Р. Уікса, Д. Мачуліс і Д. Сталюнас не разглядаюць падрабязна погляды і дзейнасць яўрэяў, палякаў, расійцаў у Вільні. Яны згадваюцца толькі ў рэчышчы контр-наратываў да прэтэнзій літоўцаў. Замест гэтага Д. Мачуліс і Д. Сталюнас аддаюць больш увагі таму, каб улучыць змяненні ўяўленняў пра Вільню як нацыянальную сталіцу Літвы ў больш шырокі кантэкст сучаснай палемікі пра геаграфічны абсяг і межы Літвы, ці літоўскае “геа-цела”, калі карыстацца тэрмінам Тонгчая Вінічакула[17]. Абапіраючыся на глыбокае даследаванне ў картаграфіі літоўскай нацыянальнай тэрыторыі Вітаўтаса Пятроніса і зборнік навуковых прац

[16] Ibid. P. 3.

[17] Thongchai Winichakul. Siam Mapped: a History of the Geo-body of a Nation. Honolulu: University of Hawaii Press, 1994.

на тэму прасторавай канцэпцыі Літвы цягам XIX ст. пад рэдакцыяй Д. Сталюнаса, аўтары тлумачаць, як літоўскія інтэлектуалы шукалі цэнтр свайго нацыянальнага руху і якую ролю адыгрывала Вільня ў праектах будучай аўтаномнай (а потым і незалежнай) Літвы[18]. Аўтары не толькі падрабязна спыняюцца на розных канцэпцыях гістарычнага і / ці этналінгвістычнага вызначэння літоўскай дзяржавы, пра якія на мяжы XIX–XX ст. зацята палемізавалі розныя дзеячы. Д. Мачуліс і Д. Сталюнас таксама асвятляюць эканамічныя дэбаты пра Вільню як гандлёвы і прамысловы цэнтр, геапалітычныя дыскусіі пра неабходнасць стварыць моцную дзяржаву, абмеркаванні, у якой ступені мусяць накладацца адно на адно канфесійныя і дзяржаўныя межы, і геаграфічныя канцэпцыі "натуральных" тапаграфічных межаў Літвы. Тым самым аўтары звяртаюць увагу на энергічныя высілкі нацыянальных дзеячоў у справе пашырэння літоўскай нацыянальнай свядомасці праз розныя інстытуты, культурныя мерапрыемствы, рэлігійныя пілігрымкі і літоўскамоўныя выданні пасля скасавання забароны на лацінічны друк у 1904 г. "Літоўскі нацыяналізм і пытанне Вільні" – каштоўны ўнёсак у разуменне літоўскай інтэлектуальнай гісторыі ў першай палове XX ст. і літоўска-польскіх дачыненняў у міжваенны перыяд.

## Унёсак у гістарыяграфію Вільні

Хоць дзве разгляданыя кнігі адрозніваюцца сваім прадметам, падыходамі і ставяць розныя пытанні, іх аўтары прыходзяць да падобных высноў: сімвалічнае прысваенне Вільні як уласна літоўскага горада адбылося досыць позна – збольшага на пачатку XX ст. – у выніку канкурэнцыі за горад з іншымі нацыянальнымі рухамі. Яна падштурхнула літоўскіх інтэлектуалаў назваць Вільню сталіцай будучай аўтаномнай (а потым і незалежнай) Літвы.

[18] Vytautas Petronis. Constructing Lithuania: Ethnic Mapping in Tsarist Russia, ca. 1800–1914. Stockholm: Stockholm University, 2007; Darius Staliūnas, ed. Lietuvos erdvinės sampratosilgajame XIX šimtmetyje. Vilnius: Baltijoskopija, 2015.

Пры параўнанні кніга Т. Р. Уікса выглядае лягчэйшай для ўспрымання аўдыторыяй, не знаёмай з гісторыяй гэтага рэгіёну. У першых раздзелах аўтар падае нарыс гістарычнага кантэксту “віленскага пытання”. Кніга ж Д. Мачуліса і Д. Сталюнаса, наадварот, пасля кароткай прадмовы ўсяго на пяці старонках прымушае чытача заглыбіцца ў падрабязнае апісанне падзей вакол публікацыі “Auszra / Aušra” ў 1883 г. Пры адсутнасці больш грунтоўнага ўводнага раздзела асабліва звяртае на сябе ўвагу ўжытае аўтарамі досыць спрошчанае вызначэнне нацыянальных рухаў. Д. Мачуліс і Д. Сталюнас пішуць: «Выраз “нацыянальны рух” датычыць грамадскага руху, які імкнецца ўвасобіць у жыццё вышэйназваныя ідэалы да стварэння нацыянальнай дзяржавы»[19]. Такім чынам, для аўтараў у канцэпцыі нацыянальнага руху ёсць вызначальны зыходны пункт (на іх думку, 1883 год, калі выйшаў першы нумар “Auszra / Aušra”) і канцавы пункт (стварэнне нацыянальнай дзяржавы). Пры такім падыходзе застаецца па-за ўвагай, як фармаванне нацыі было ідэалам, скіраваным у канчатковым выніку да недасяжнай мэты, г. зн. заставалася незавершаным. Як паказвае Т. Р. Уікс у раздзелах, прысвечаных савецкаму і постсавецкаму (ад 1991 г.) перыядам, нацыянальныя рухі гэтак проста не спыняюцца пасля афіцыйнага ўтварэння нацыянальнай дзяржавы. Таксама патрабуюць больш падрабязнага вытлумачэння тэрміны “літуанізацыя” і “паланізацыя”, якімі часта без удакладнення карыстаюцца Д. Мачуліс і Д. Сталюнас. Гэта дзіўна, калі ўлічыць, як падрабязна спыняецца на канцэпцыі “русіфікацыі” Д. Сталюнас у сваёй працы “Зрабіць рускімі. Сэнс і практычныя захады русіфікацыі Літвы і Беларусі пасля 1863 г.”, што атрымала вельмі высокую ацэнку[20].

У абедзвюх манаграфіях ролі Вільні ў беларускай нацыянальнай свядомасці наўмысна адводзіцца месца на самым ускрайку. Хоць Вільня ў 1919 г. непрацяглы час

[19] Dangiras Mačiulis and Darius Staliūnas. Lithuanian Nationalism and the Vilnius Question. P. 4.

[20] Darius Staliūnas. Making Russians: Meaning and Practice of Russification in Lithuania and Belarus after 1863. Amsterdam and New York: Rodopi, 2007.

(усяго пяць месяцаў) была сталіцай хутка сканалай Літоўска-Беларускай ССР, аўтары абмінаюць увагай той час, бо для іх гэта – праект, які скончыўся паразай. Яны даводзяць, што на пачатку XX ст. Вільня не ўспрымалася як сур'ёзны прэтэндэнт на ролю цэнтра беларускай нацыянальнай дзяржавы. Хоць гэта і праўда, што беларусы заяўлялі пра свае палітычныя прэтэнзіі на Вільню не так гучна, як літоўцы і палякі, пры такім падыходзе згортваюцца да мінімуму істотныя гістарычныя прэтэнзіі беларусаў на Вялікае Княства Літоўскае, ці Літву, як беларускую протадзяржаву і, паводле аналогіі, на Вільню як раннемадэрную беларускую сталіцу, дзе афіцыйнай мовай некаторы час была русінская, якую часам разглядаюць як старабеларускую. Напрыклад, беларускі географ Аркадзь Смоліч (1891–1938) у сваёй кнізе "Географія Беларусі" ўлучаў горад у беларускі гістарычна-геаграфічны абсяг[21]. Пагатоў, як паказвае ў сваёй найноўшай кнізе "Уздым і заняпад беларускага нацыяналізму. 1906–1931" Пэр Андэрс Рудлінг – якога не цытуюць ні Т. Р. Уікс, ні Д. Мачуліс і Д. Сталюнас, – на пачатку XX ст. Вільня таксама адыграла істотную ролю як арганізацыйны цэнтр для беларускіх нацыянальных дзеячоў, там друкаваліся шмат якія важныя беларускія нацыянальныя выданні[22].

[21] Смоліч А. Географія Беларусі. Вільня: Друкарня "Промень", 1919.

[22] Per A. Rudling. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism, 1906–1931. Pittsburgh, Pa.: University of Pittsburgh Press, 2015. Англамоўны пераклад папулярнага гістарычнага выдання, дзе Вялікае Княства Літоўскае са сталіцай у Вільні разглядаецца як раннемадэрная беларуская дзяржава, гл. у: Lubov Bazan. A History of Belarus: A Non-literary Essay That Explains the Ethnogenesis of the Belarusians. London: Glagoslav Publications, 2014. Пераклад з рускай Колума Уокера. У сваёй кнізе "Зніклыя каралеўствы: гісторыя напаўзабытай Еўропы" (Vanished Kingdoms: The History of Half-forgotten Europe. London: Allen Lane, 2011. P. 232–308) Норман Дэвіс прысвяціў адзін раздзел Літве. У наш час Вільня па-ранейшаму выконвае ролю беларускага інтэлектуальнага цэнтра, там месцяцца некалькі няўрадавых арганізацый, якія займаюцца беларускай інтэлектуальна-культурнай дзейнасцю. Сярод іх асабліва варта адзначыць Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт – ЕГУ.

Калі адкінуць гэтыя дробныя заўвагі, трэба адзначыць, што нячаста выходзяць англамоўныя манаграфіі з літоўскай гісторыі, пагатоў у адзін год – дзве такія значныя кнігі з гістарыяграфіі познемадэрнай Вільні[23]. Гэтыя працы сведчаць, што ў наш час доследы з гісторыі Вільні – як і агулам усёй тэрыторыі сучаснай Літвы – робяць важкі ўнёсак у палеміку на тэмы гісторыі і памяці. Гэта прыклад шматэтнічнага рэгіёну, які знаходзіцца на скрыжаванні польскай, яўрэйскай, расійскай, літоўскай і беларускай гістарыяграфіі і калектыўнай памяці. Абедзве кнігі даюць падставы для аптымізму наконт далейшага развіцця навукі.

Упершыню артыкул убачыў свет на англійскай мове ў “Acta Slavica Iaponica” (No 38, 2017), pp.145–152. Па-беларуску публікуецца з ласкавай згоды аўтара і рэдакцыі “Acta Slavica Iaponica”.

*Пераклад Вольгі Калацкай*

[23] Яшчэ адзін з найноўшых унёскаў у гістарыяграфію Вільні ранняга Новага часу – даследаванне Ірыны Герасімавай “Под властью русского царя: социокультурная среда Вильны в середине XVII века” (С.-Петербург: Европейский университет в Санкт-Петербурге, 2015).

# Некалькі заўваг да праблемы развіцця гістарычнай геаграфіі

**Юры Гардзееў**

У 2017 г. у Ольштыне выйшла з друку манаграфія Анны Пыташ-Каладзейчык, у якой разгледжана праблема прававых, адміністрацыйных, маёмасных і тэхнічных умоў выкарыстання водных рэсурсаў у велікакняскіх маёнтках заходняй часткі Гарадзенскага павета ў XVI ст.[1] (8). Азнаямленне са зместам кнігі, зрэшты, як і з іншымі працамі аўтаркі, стала не толькі добрай нагодай для разважанняў пра дасягненні гістарычнай геаграфіі як дапаможнай гістарычнай дысцыпліны, але чарговым прыкладам, які наводзіць на роздум аб патрэбе паглыблення гісторыка-геаграфічных даследаванняў у Беларусі.

Зазначым, што распрацоўка названай праблемы можа выклікаць пэўныя сумненні з прычыны сваёй “вузкасці” і дробнатэмнасці. Разам з тым аналіз зместу працы расстаўляе ўсе кропкі над “і”.

Рэцэнзаваная праца складаецца з чатырох раздзелаў, заканчэння, бібліяграфіі і паказальнікаў. Яе тэкст узбагачаюць табліцы, фотаздымкі і карты. У першым раздзеле аўтарка засяроджвае ўвагу на двух аспектах. Спачатку накрэслівае гісторыка-палітычную панараму, аналізуючы працэс фармавання межаў і тэрытарыяльна-адміністрацыйных падзелаў Гарадзенскага павета ў XV–XVI ст. (27–31). За храналагічны пункт адліку цалкам лагічна выбраны 20-я гады XV ст. як час палітычнай стабілізацыі

[1] Pytasz-Kołodziejczyk A. Zasoby wodne w dobrach wielkoksiążęcych zachodniej Grodzieńszczyzny w XVI w. Administracja i eksploatacja. Olsztyn, 2017. 292 s.

ў рэгіёне (27). Заканчэнне канфлікту з крыжаносцамі, як вядома, стварыла больш спрыяльныя ўмовы для гаспадарчага развіцця Гарадзенскага павета.

У гэтым жа раздзеле даследчыца праводзіць рэканструкцыю тагачаснага геаграфічнага асяроддзя (ландшафту, гідраграфічнай сеткі, карысных выкапняў, клімату і фаўны). Трэба пагадзіцца з тым, што недахоп ці нават адсутнасць пісьмовых крыніц не маглі не паўплываць на абмежаваныя магчымасці аналізу гэтага пытання. Таму ў метадалагічным плане варта звярнуць увагу на спробы вывучэння кліматычных умоў позняга Сярэднявечча і пачатку Новага часу (напрыклад, перыядаў пахаладанняў ці марозных зім XIII і XVI ст.), якія абапіраюцца на гісторыка-параўнальны метад і аналіз археалагічных і палеабатанічных матэрыялаў (38–41).

На падставе друкаваных крыніц складзены спіс 54 рэк з абшараў даўніх пушчаў (Малавіцкай, Адэльскай і Крынскай; с. 42–48) і 53 азёр (53–56). Выкарыстоўваючы астэалагічныя матэрыялы, А. Пыташ-Каладзейчык закранула пытанне стану тагачаснай фаўны, пералічваючы шматлікія віды рыб XIII–XIV ст. (57), згадваючы пра расамах ці тарпанаў, якія зніклі на пачатку XIX ст. (69). Ступень залесенасці земляў Вялікага Княства Літоўскага аўтар манаграфіі ацаніла як 50–60% тэрыторыі краіны (67).

Другі раздзел прысвечаны фармаванню структуры ўласнасці водных рэсурсаў і прававым аспектам іх функцыянавання. Не менш цікавы змест трэцяй часткі кнігі, дзе асвятляецца сістэма кіравання гаспадарскімі маёнткамі, у тым ліку дзейнасць рэвізора, ляснічага і неваднічага. На думку даследчыцы, спецыфіка Гарадзенскага павета заключалася яшчэ і ў тым, што пасля выкупу ў Юрыя Радзівіла Гарадзенскага староства ім кіравалі спраўцы (144). У апошнім раздзеле закранаецца працэс выкарыстання водных рэсурсаў, прыводзяцца прыклады розных відаў рыбалавецкіх прыладаў.

Падсумоўваючы, можна сцвярджаць, што, па сутнасці, мы маем справу з комплексным даследаваннем аднаго з аспектаў гаспадарчай дзейнасці і яго ўмоў на выбранай тэрыторыі на храналагічным адрэзку XV–XVI ст.

Калі канцэпцыя працы не выклікае асаблівых пярэчанняў, то куды больш прынцыповае значэнне мае пытанне выбару абшару. Імкнучыся на яго адказаць, аўтарка выказвае меркаванне, што прыродныя ўмовы заходняй часткі Гарадзенскага павета, які межаваў з Польшчай і Прусіяй, адрозніваліся ад ўмоў іншых частак ВКЛ. Працягваючы спробу абгрунтавання, падкрэслівае, што выбраная частка павета вылучалася густой сеткай рэк ды азёр і значнай залесенасцю (9, 225). На жаль, з гэтым апрыёрным выказваннем нельга пагадзіцца. Хіба іншыя рэгіёны краіны не мелі значнага ляснога покрыва ці густой сеткі паверхневых водаў? Усё ж такі з усходняга боку Нёмана, у тым жа Гарадзенскім павеце, знаходзіліся Азёрская і Берштаўская пушчы, на тэрыторыі якіх рэкі і азёры не рэдкасць.

Зрэшты, на с. 34 распавядаецца пра фізіка-геаграфічны рэгіён Усходнебалтыйскага Паазер'я. Згаданая азёрна-ледніковая правінцыя цягнулася праз Мазуры, Сувалкаўскае і Сейненскае Паазер'е, тэрыторыю Трокскага, Віленскага і Полацкага ваяводстваў (Літоўскае і Браслаўскае Паазер'і). Адсюль не зусім зразумелыя крытэрыі, паводле якіх геаграфічныя ўласцівасці даследаванага рэгіёну названы спецыфічнымі.

Пэўныя пытанні выклікае тэрмін "Заходняя Гарадзеншчына" ("Zachodnia Grodzieńszczyzna"). Здаецца, што куды правільней было б карыстацца назвай "заходняя частка Гарадзенскага павета".

Аналізуючы змест манаграфіі, нельга абысці ўвагай яе крыніцазнаўчую базу. Гэта шматлікія інвентары і ардынацыі, якія захоўваюцца ў Архіве старажытных актаў у Варшаве, друкаваныя крыніцы (Метрыка і Статуты ВКЛ) і матэрыялы, апублікаваныя Віленскай археаграфічнай камісіяй.

Нягледзячы на тое, што А. Пыташ-Каладзейчык выявіла добрае веданне крыніц, хацелася б коратка затрымацца на метадах архіўных пошукаў, якія прымяняюцца ў працы. Агаворваючы працэс збору крыніц, яна заўважае, што азнаямленне з архіўнымі фондамі Кракава, Вроцлава і Беластока чаканых вынікаў не дало (19). Нельга

адназначна сцвярджаць непрадуктыўнасць такога метаду. Хоць, што падаецца цалкам лагічным, больш комплексныя матэрыялы аднаго з паветаў ВКЛ трэба было б шукаць у актавых кнігах судовых устаноў, папярэдне высвятляючы месца іх актуальнага захоўвання.

Неабходна адзначыць, што ў працы сустракаюцца сур'ёзныя хібы. Дзеля прыкладу працытуем сцверджанне: "У беларускіх архівах сабрана поўная дакументацыя адносна Гарадзеншчыны толькі з XVII ст. (sic?!) Гэта тычыцца як Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску, так і Дзяржаўнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, а таксама Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва. Аднак яна не ўнесла ў праблематыку, прадстаўленую ў працы, істотных дапаўненняў" (19–20). Паспрабуем высветліць некалькі нюансаў.

Афіцыйныя назвы згаданых архіваў: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (Мінск) і Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне. Крыніцы, якія знаходзяцца ў архіве ў Мінску, не маглі не ўнесці новых звестак хоць бы таму, што ў яго зборах захоўваецца ажно 16 кніг земскага суда Гарадзенскага павета за 1556–1599 г. (фонд 1755), доступ да якіх для даследчыкаў не абмежаваны. Каб пазбегнуць галаслоўнасці, прывядзем прыклад з актавай кнігі за 1594–1595 г. (справа 13), дзе змешчаны звесткі пра азёры Сомава, Дзмітрава, Арэхава, Лапухова, якія аўтарка згадвае, распавядаючы пра арганізацыю невадніцтва ў другой палове XVI ст. (226).

Апрача таго ўважлівае азнаямленне з матэрыяламі Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва – гаворка ідзе пра земскія і гродскія кнігі Троцкага павета XVII ст., якія межаваў з Гарадзенскім (фонды 344, 345), – ды іх аналіз у сукупнасці з рэтрагрэсіўным метадам дазволіў бы паглыбіць даследаваную тэму.

У бібліяграфіі і тэксце працы шэраг фондаў беларускіх і літоўскіх архіваў мае неадпаведную сігнатуру. Напрыклад, фонд 10 са збораў Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва называецца не "Кіраванне каралеўскімі маёнткамі ВКЛ", а "Скарбовы трыбунал ВКЛ". Фонд "Кіраванне каралеўскімі маёнткамі ВКЛ" мае нумар 110.

Памылкі падобнага кшталту зафіксаваны ў спасылцы 50 на с. 20, дзе згадваецца, што ў гарадзенскім архіве захоўваюцца: "фонд 1882 (гарадскія інвентары 1651 г.), фонд 1143 (ардынацыя пушчаў 1631 г.) і фонд 1643 (рэвізія Гарадзенскай эканоміі 1651 г.)" (?!). На самай справе нумарам 1882 пазначаны фонд Шарашоўскага праваслаўнага дэканата Пружанскага павета XIX–XX ст., фонд 1143 – гэта калекцыя інвентароў, а фонд 1643 – Шчучынскі валасны суд Лідскага павета 1914–1915 г. Узнікае небеспадстаўнае пытанне, адкуль гэтыя звесткі? За зместу спасылкі можна зрабіць выснову, што яны з працы Уладзіслава Пацехі і Міхала Кулецкага[2].

Адсюль трэба прызнаць, што сур'ёзны недахоп працы – фактычнае ігнараванне архіўных крыніц беларускіх і літоўскіх збораў, у тым ліку рукапісных матэрыялаў Бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта і Бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх.

Зробім яшчэ адну эпістэмалагічную заўвагу. Як вядома, навука абапіраецца на акрэсленыя прынцыпы спазнання. Услед за Янам Якубоўскім аўтарка падкрэслівае, што для ніводнага з абшараў ВКЛ не захавалася столькі гісторыка-геаграфічных крыніц, як для Гарадзенскага павета (9)[3]. Спасылаючыся на аднаго з найлепшых знаўцаў праблематыкі, аўтарка трапляе ў пастку апрыёрнасці. Вядома, што працэс спазнання прадугледжвае крытыцызм, мае ўзбуджаць сумненні і эмпірычнае пацвярджэнне тых ці іншых выказванняў.

У працы сустракаюцца дробныя хібы. Каралеўскі двор Гараднiца (36) нельга атаясамліваць з сучаснай Горніцай. Гараднiца – адзін з гістарычных раёнаў Горадні, а Горніца – адна з прыгарадных вёсак[4]. Бібліяграфію можна было б узбагаціць артыкуламі Генадзя Цыхуна і Але-

[2] Pociecha W. Królowa Bona. T. 3. S. 220 і наст.; Kulecki M. Kronika. Pobyt służbowy w Mińsku // Archeion. T. 43. 1994. S. 371–374.

[3] Jakubowski J. Powiat Grodzieński w XVI wieku // Prace Komisji Atlasu historycznego Polski. Z. III. Kraków, 1935. S. 99.

[4] Рапановіч Я. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Мінск, 1982. С. 72.

га Ліцкевіча[5]. На с. 164–166, 172, 176 кнігі неабходна паправіць прозвішча *Mosalski* на *Massalski*. Да пераліку ляснічых (154) варта было б дадаць яшчэ некалькі прозвішчаў. У рахунках двара Жыгімонта Аўгуста, апублікаваных ў 1915 г., згадваецца гарадзенскі ляснічы Францішак Чэхалеўскі (Franciszek Czecholewski) і пераломскі ляснічы Альберт Радземскі (Albert Radzemskiego)[6].

Падсумоўваючы, хацелася б адзначыць іншыя працы ольштынскага гістарычнага асяродка[7]. Як можна меркаваць, маштабныя рэгіянальныя даследаванні – у значнай ступені эфект шырокіх магчымасцяў развіцця польскай гістарычнай навукі, якія тая мела яшчэ ў часы Польскай Народнай Рэспублікі, і, як вынік, пераемнасці традыцыі гісторыка-геаграфічных даследаванняў ды паглыбленай ступені распрацоўкі праблематыкі[8].

Сказанае пацвярджае гістарыяграфічная праца Гжэгажа Блашчыка, прысвечаная гісторыка-геаграфічнаму вы-

[5] Цыхун Г. Назіранні над гідраніміяй беластоцка-гродзенскага пагранічча // Nazewnictwo na pograniczach etniczno-językowych: materiały z Międzynarodowej Konferencji Onomastycznej, Białystok – Supraśl, 26–27.X.1999. S. 81–87; Ліцкевіч А. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове XIII – XIV ст.: назва і межы // Гарадзенскі палімпсест. Людзі даўняй Гародні XV–XX ст. 2012. С. 10–59.

[6] Materyały do historii stosunków kulturalnych w XVI wieku: materyały z aktów skarbowych Archiwum głównego warszawskiego. Kraków, 1915. S. 85.

[7] Kołodziejczyk A. Eksploatacja wód na Podlasiu i Grodzieńszczyźnie w XVI w. // Szkice z dziejów społeczno-gospodarczych Podlasia i Grodzieńszczyzny od XV do XVI w. / red. J. Śliwińskiego. Olsztyn, 2005. S. 33–60; Łożyński K. Charakterystyka gleb w powiecie grodzieńskim. // Ibidem. S. 61–69; Śliwiński J. Pożary i pogorzelcy w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI wieku ze szczególnym uwzględnieniem Podlasia i Grodzieńszczyźny w świetle Metryki Litewskiej // Ibidem. S. 95–132; Puszcze wielkoksiążęce na północnym Podlasiu i zachodniej Grodzieńszczyźnie w XV–XVI wieku (podziały, administracja, służby leśne i wodne) / red. J. Śliwiński. Olsztyn, 2007, 427 s.; яго ж. Grodzieńszczyzna i Podlasie w XV–XVI wieku w Wielkim Księstwie Litewskim (wielkoksiążęce puszcze i włości, eksploatacja, pożary). Olsztyn, 2010. 269 s.

[8] Tyszkiewicz J. Geografia historyczna. Zarys problematyki. Warszawa, 2014. S. 21–23.

вучэнню Вялікага Княства Літоўскага, якая ўбачыла свет у 2007 г. і была перавыдадзена ў 2012 г.[9]. Заўважаючы пэўныя складанасці акрэслення прадмета даследавання гістарычнай геаграфіі, якая развіваецца на стыку розных навук, аўтар падзяляе змест кнігі на пяць тэматычных раздзелаў.

У першай частцы засяроджваецца ўвага на аналізе літаратуры (9–15), дзе разглядаюцца пытанні геаграфічнага ландшафту (“krajobraz naturalny”), “які не зазнаў зменаў пад уплывам дзейнасці чалавека” (9)[10]. Па ўсёй верагоднасці, невялікі аб’ём прац па пытаннях даўняга стану рэльефу, кліматычных ваганняў, расліннага покрыва і глебы – вынік абмежаванай крыніцазнаўчай базы. Нягледзячы на сказанае, аўтар сцвярджае, што аналізаваная праблематыка прыцягвала ўвагу даследчыкаў на працягу XIX–XX ст. (працы па гісторыі гідраграфічнай сеткі, складзеныя Аляксеем Сапуновым, Канстанцінам Тышкевічам, Уладзіславам Сыракомлем, гісторыі ляснога покрыва Отта Гедэмана і Белавежскай пушчы Георгія Карцава).

Трэба адзначыць, што сумежнасць гістарычнай геаграфіі з іншымі навукамі дазваляе паглядзець на розныя працэсы і з’явы з перспектывы прасторавай лакалізацыі гістарычных працэсаў. Да такіх тэм можна аднесці разнастайныя стыхійныя бедствы і катаклізмы (“klęski elementarne i żywiołowe”): засухі, маразы, паводкі, эпідэміі, урэшце пажары ды войны, выкліканыя антрапагенным уплывам. Г. Блашчык выказвае шкадаванне з прычыны таго, што “гэтая даследчыцкая сфера гістарычнай геаграфіі найбольш слаба развіта” (15).

[9] Błaszczyk G. Geografia historyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego. Stan i perspektywy badań. Wyd. 2, poprawione i uzupełnione. Poznań, 2007; яго ж. Geografia historyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego. Stan i perspektywy badań. Wyd. 2, poprawione i uzupełnione. Poznań, 2012.

[10] У беларускіх працах часта акрэсліваецца геаграфічным тэрмінам “гістарычная фізічная геаграфія” (Семянчук Г. Гістарычная геаграфія і гістарычная анамастыка Беларусі: праграма курса. Гродна, 2007. [С. 3]; Дубінін Д. Вучэбна-метадычны комплекс па вучэбнай дысцыпліне “Гістарычная геаграфія Беларусі”. 2014. [С. 6]).

Праблему ўзаемадзеяння прыроды і чалавека, асаблівасцяў тэрытарыяльнай арганізацыі грамадства і гаспадаркі можна лічыць стрыжнем наступнай часткі гістарыяграфічнага агляду. Назву другога, бадай, найбольшага па аб'ёме раздзела (16–84, другое выданне с. 17–87) даслоўна можна перакласці як "антрапагенны ландшафт" ("krajobraz kulturalny"). У згаданым фрагменце Г. Блашчык аналізуе гістарыяграфічныя напрацоўкі, у якіх закранаюцца пытанні засялення асобных абшараў ("рэгіёнаў, земляў, шляхецкіх маёнткаў"), іх этнічнага складу, фармавання сеткі паселішчаў і іх тыпаў, развіцця шляхоў зносін. У дадзеным выпадку нельга абмінуць увагай тэрміналагічны апарат, якім аперыруе польская гістарычная навука. Польскі тэрмін "osadnictwo", які ахоплівае згаданую вышэй праблематыку, адпавядае паняццю гістарычнай геаграфіі насельніцтва і гістарычнай эканамічнай геаграфіі, якое выкарыстоўваецца ў беларускай навуцы.

Прыступаючы да аналізу зместу раздзела, Г. Блашчык падкрэслівае "вялікія заслугі даследаванняў па гістарычнай геаграфіі Беларусі" Міхаіла Спірыдонава (16), у якіх былі змешчаны спісы мясцовасцяў і карта, складзеныя на падставе попісаў войска і матэрыялаў Метрыкі ВКЛ XVI ст. Шмат месца ў працы займае разгляд пытання межаў даўняй Літвы, сярэднявечнай Жамойці, жамойцка-прускай, усходняй балцкай мяжы і балцка-крывіцкай мяжы (працы Ежы Ахманьскага).

Аўтар агляду не забываецца пра аналіз даследчай метадалогіі, высока ацэньваючы наватарскія падыход Ежы Ахманьскага, які спалучаў метады топаанамастыкі, археалогіі і картаграфіі, і Генрыка Лаўмяньскага, даследчыка "палітычнай геаграфіі балтаў", які зыходзіў з параўнальнага і рэтрагрэсіўнага метадаў, што, абапіраючыся на крыніцы XVIII ст., дазволіла правесці рэканструкцыю працэсаў, якія адбываліся ў Сярэднявеччы.

На фоне дасягненняў літоўскіх і польскіх даследчыкаў беларускія напрацоўкі ў аналізаванай галіне выглядаюць куды больш сціпла. Акрамя згаданых прац М. Спірыдонава да іх ліку трэба аднесці артыкулы, у якіх распавядаецца пра стан землеўладання ў Ашмянскім, Брэсцкім, Камянецкім

і Кобрынскім паветах аўтарства Валерыя Мянжынскага і Алега Дзярновіча і працы, прысвечаныя асобным населеным пунктам заходняй часткі Гарадзенскага павета. Асобную ўвагу аўтар звяртае на змест 6-тамовай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (1993–2003) і яе дадатак "Атлас гісторыі Беларусі" (2004), а таксама на кнігі "Памяць".

Вывучэнне структуры насельніцтва належыць да аднаго з асноўных аспектаў гістарычнай геаграфіі, таму каля 12 старонак займае расповед пра этнічную супольнасць ВКЛ.

Згадваючы кнігу Станіслава Думіна і Ібрагіма Канапацкага, аўтар са здзіўленнем зазначае, што яна прысвечана "беларускім" татарам, беручы прыметнік у двукоссе, падкрэсліваючы, што "такіх не было" (с. 45 першага выдання). У дадзеным выпадку выклікае пярэчанні канструкцыя логікі выказвання. Аўтар, натуральна, не адмаўляе факт пасялення татараў на землях ВКЛ, маючы на ўвазе тое, што ў перыяд Новага часу такі тэрмін не ўжываўся, з чым нельга не пагадзіцца[11]. Вядома, у замкавых кнігах Гарадзенскага павета XVI ст. згадваецца пра "татар господарьских лососенских"[12]. У тагачасных крыніцах сустракаем: "татарове тамошние новгородские" (1572)[13] і "татарын… повету Меньского" (1582)[14]. Што ж тычыцца тэрміна, які ўжываецца беларускімі гісторыкамі, то гаворка, зразумела, ідзе пра татараў, які жылі на этнічных беларускіх землях, карысталіся беларускай мовай, што пацвярджае мова кітабаў. Прынамсі, такі сэнс укладаецца ў тэрмін "беларускія татары".

Фармаванне сеткі населеных пунктаў – гэта вынік засялення і асваення геаграфічнай прасторы. Неабходна адзначыць вялікую колькасць прац, у якіх з гістарычнай, археалагічнай і мастацтвазнаўчай перспектывы

[11] Sobczak J. Położenie prawne ludności tatarskiej w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa – Poznań, 1984. S. 3–4.

[12] Акты Виленской Археографической Комиссии. Т. XVII. Вильно, 1890. С. 27–28.

[13] Lietuvos metrika. Kniga Nr. 51 (1566–1574). Vilnius, 2000. S. 312.

[14] Акты Виленской Археографической Комиссии. Т. XXXI. Вильно, 1906. С. 48.

асвятляюцца пытанні гісторыі гарадоў і вёсак. У кнізе закранаюцца пытанні шляхоў зносін (рэк і дарог), асобна вылучаецца падраздзел "Мастацкая і літаратурная геаграфія" ("Geografia sztuki i literacka (geografia kultury)"), дзе паміж іншым увага засяроджваецца на геаграфіі гісторыі архітэктуры. У дадзеным выпадку каштоўнымі падаюцца працы Аляксандра Кушнярэвіча і Альгімантаса Мішкініса, у якіх аналізуюцца ўсходняя мяжа готыкі і межы распаўсюджання барока (83).

Трэці раздзел апавядае пра гісторыка-палітычны ландшафт ("Krajobraz historyczno-polityczny"), тэрытарыяльна-адміністрацыйныя падзелы, дзяржаўныя межы і адміністрацыйныя падзелы той ці іншай хрысціянскай канфесіі (парафія / прыход ці дэканат). У наступным раздзеле разглядаюцца працы па гісторыі геаграфічных даляглядаў падарожнікаў ("Horyzonty geograficzny"), што наведвалі землі Рэчы Паспалітай. Апошняя, пятая, частка кнігі прысвечана дасягненням гістарычнай картаграфіі. Да іх ліку належаць карты, складзеныя гісторыкамі ў XIX–XX ст. Акрамя карт, падрыхтаваных польскімі гісторыкамі, Г. Блашчык адзначае 18 карт розных паветаў ВКЛ аўтарства М. Спірыдонава (115). Асобнае месца ў аглядзе займае расповед пра гісторыю картаграфіі.

На заканчэнне хацелася б зрабіць адну тэхнічную заўвагу. У спасылках першага і другога выдання кнігі (2007 і 2012) бібліяграфічныя апісанні прац маюць скарочаную форму. Аўтар падае толькі прозвішча і першыя словы назвы той ці іншай працы, без пазначэння месца, даты выдання, што выразна ўскладняе азнаямленне са зместам кнігі.

Каб лепш зразумець далейшыя разважанні, трэба звярнуцца да прадмета гістарычнай геаграфіі, якая вывучае сацыяльна-эканамічныя і палітычныя працэсы ў часапрасторы. Не выклікае сумнення, што за гэтай спробай ёмістага акрэслення даследчай формулы хаваюцца рознабаковыя аспекты, распрацоўка якіх дазваляе высветліць асаблівасці геаграфічнага развіцця таго ці іншага рэгіёну. Геаграфічнаму асяроддзю і ландшафту заўсёды былі ўласцівыя змены, якія ў значнай ступені абумоўлены антрапагенным

фактарам[15]. Адсюль гістарычная геаграфія не столькі засяроджвае ўвагу на гісторыі гаспадаркі, колькі разглядае яе як прадукт уплыву чалавечага фактара на змены ландшафту. Менавіта каланізацыя, засяленне той ці іншай тэрыторыі спрычынялася да фармавання новай якасці этнічнага аблічча і прасторава-дэмаграфічных асаблівасцяў, развіцця рамяства і гандлю, сеткі шляхоў зносін, урэшце яе адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання і палітычнага ландшафту ў гістарычным зрэзе.

Заўважым, што гістарыяграфічны аспект азначэння прадмета і зместу гістарычнай геаграфіі не з'яўляецца мэтай дадзеных разважанняў[16]. Куды больш істотным застаецца пытанне аб перспектывах развіцця гэтай галіны гістарычных ведаў у Беларусі.

Патрэба дыскусіі пра стан гістарычнай геаграфіі наспела даўно. Мяркую, што не памылюся, сцвярджаючы, што гэтае пытанне ўздымалася шмат разоў, хоць на практыцы не атрымала належнага развіцця. Праблемы беларускай гістарычнай навукі нарасталі на працягу ўсяго XX ст. Шматлікія "неактуальныя" і непажаданыя тэмы маргіналізаваліся, не адпавядаючы ідэалагічным канонам і метадалагічнай зашоранасці. Можна сцвярджаць, што беларуская гістарычная навука працяглы час была пазбаўлена спрыяльнага "рэчышча", у якім, напрыклад, развівалася польская гістарычная навука. Таму, відаць, не павінна выклікаць здзіўлення хранічнае адставанне беларускай гістарычнай навукі ў параўнанні з дасягненнямі гісторыкаў іншых еўрапейскіх краін, якія характарызуюцца глыбокай распрацоўкай рознабаковых гісторыка-геаграфічных праблем[17]. Таму і цяжка казаць пра традыцыю комплексных гісторыка-геаграфічных даследаванняў[18].

[15] Tyszkiewicz J. Geografia historyczna. Zarys problematyki. Warszawa, 2014. S. 8, 10.

[16] Tyszkiewicz J. Geografia historyczna Polski w średniowieczu: zbiór studiów. Warszawa, 2003. S. 10–19.

[17] Казлоў Л. Гістарычная геаграфія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мінск, 1997. С. 8.

[18] Błaszczyk G. Geografia historyczna Wielkiego księstwa Litewskiego. Poznań, 2007.

У адной з прац Ян Тышкевіч трапна заўважыў, што гістарычная геаграфія найбольш грунтоўна супрацоўнічае з такімі дысцыплінамі, як гістарычная картаграфія і гістарычная анамастыка, а таксама з “тэорыяй рэгіёнаў і гістарычнай прасторы”[19]. Парадаксальна, але згаданая канструкцыя як калька накладаецца на беларускі грунт. Гістарыяграфічны аналіз беларускіх напрацовак – яскравае сведчанне таго, што развіццё гістарычнай геаграфіі, у першую чаргу дзякуючы працам Міхаіла Спірыдонава, Віктара Цемушава і іншых даследчыкаў, атрымала менавіта картаграфічнае вымярэнне[20].

[19] Tyszkiewicz J. Geografia historyczna Polski w średniowieczu. S. 12, 16.

[20] Спірыдонаў М. Гістарычныя карты Беларусі ў айчынных энцыклапедыях // БГА. Т. 9. Сш. 1–2 (16–17). 2002. С. 169–188; яго ж. Беларусь у другой палове XVI ст. 1:1 500 000 // Нацыянальны атлас Беларусі. Мінск, 2002; яго ж. Развитие исторической географии // Ин-т истории НАН Беларуси (1929–2009). Минск, 2009. С. 557–561 [Электронны рэсурс] http://www.hist-geo.net/index.php?p=27&more=1&c=1&tb=1&pb=1; http://www.hist-geo.net/index.php?p=27&more=1&c=1&tb=1&pb=1&page=2; Гістарычны атлас Беларусі / гал. рэд. М. Спірыдонаў. Т. 1: Беларусь са старажытных часоў да канца XVIII ст. Варшава – Мінск, 2008. 164 с.; Темушев В. Формирование московской литовской границы в XV – начале XVI в. // Studia Historica Europae Orientalis. Исследования по истории Восточной Европы. Вып. 1. Минск, 2008. С. 56–76; яго ж. Пограничные города Великого княжества Литовского: Дмитровец в XV в. // Studia Historica Europae Orientalis. Исследования по истории Восточной Европы. Вып 2. Минск, 2009. С. 44–122; яго ж. Кричевский участок литовско-московской границы в XVI в. // Studia Historica Europae Orientalis. Исследования по истории Восточной Европы. Вып 3. Минск, 2010. С. 135–165; Цемушаў В. Гістарычныя атласы і стан развіцця сучаснай гістарычнай геаграфіі ў Беларусі // Гістарычна-археалагічны зборнік. Вып. 25. Мінск, 2010. С. 200–203; яго ж. Праблемы развіцця гістарычнай геаграфіі Беларусі // БГА. Т. 10. Сш. 1–2 (18–19), 2003. С. 228–254; Вялікі гістарычны атлас Беларусі [карты]: у 3 т. Рэдкалегія: В. Насевіч (гал. рэд.) і інш. Т. 1. Мінск, 2009; яго ж. Вялікі гістарычны атлас Беларусі ў крывым люстэрку рэцэнзіі // ARCHE-Пачатак. № 6. 2010. С. 330–343; Латышонак А., Семянчук Г. Марныя высілкі акадэмічных гісторыкаў // ARCHE-Пачатак. № 6. 2010. С. 298–322; Alexandrowicz S. Studia z dziejów miasteczek Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 2011. 442 s.

Без сумнення, варта было б закрануць грунтоўную працу М. Спірыдонава, прысвечаную запрыгоньванню сялянства на Беларусі[21], у якой ёсць звесткі пра шматлікія населеныя пункты магнацкіх латыфундый Радзівілаў, Альбрэхта Гаштольда, Тышкевічаў. Асобнай увагі заслугоўвае табліца "Структура катэгорый сялянства па характары асабістай залежнасці (дадзеныя інвентароў, другая палова XVI ст.)" (198–205) і карта "Беларусь у канцы XVI ст.".

Разгляданая манаграфія наводзіць на думку пра тое, што скрупулёзнае ўзнаўленне гісторыка-палітычнага ландшафту азначае не толькі высвятленне межаў і адміністрацыйна-тэрытарыяльных падзелаў як "формы", але і збор звестак пра сетку населеных пунктаў канкрэтнага рэгіёну і іх шматбаковае развіццё як пэўнага "касцяка". Падобная логіка гісторыка-геаграфічнай працы абумоўлівае неабходнасць анамастычных пошукаў[22].

Урэшце спробы ацэнкі развіцця гісторыка-геаграфічных даследаванняў наводзяць на думку, з якой, натуральна, можна не пагадзіцца. У пэўнай ступені некаторыя праблемныя палі гістарычнай геаграфіі супадаюць з інтарэсамі рэгіянальнага краязнаўства. Як вядома, мэта краязнаўства – вывучэнне асобнага рэгіёну шляхам збору матэрыялаў па гісторыі, біяграфістыцы, геаграфіі, лінгвакраязнаўстве і анамастыцы, помніках даўніны[23], якое

[21] Спиридонов М. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.) / ред. А. Хорошкевич. Минск, 1993. 223 с.

[22] Жучкевич В. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Минск, 1974; Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобласць: Нарматыўны даведнік / І. Гапоненка, І. Капылоў, В. Лемцюгова і інш.; пад рэд. В. Лемцюговай. Мінск. Тэхналогія, 2003; Усціновіч А. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны XVI–XVIII стст. Мінск, 1975.

[23] Трэпет Л. Краязнаўства // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997. С. 257–260; Півавар М. Гістарычнае краязнаўства Беларусі ў 1961–1991 гг. Віцебск, 2016; Чыгрын С. Стан краязнаўства засмучае [Электронны рэсурс] https://novychas.by/asoba/aljaksandr-hrudzina-mjane-mocna-zasmuczae-suczas; Шаскольский Н. Историческая география // Вспомогательные исторические дисциплины. Т. 1. Ленинград, 1968. С. 97.

спалучае метады архіўных пошукаў і палявых даследаванняў.

Нягледзячы на тое, што краязнаўства не абмяжоўваецца чыста пазнавальнымі задачамі, а зыходзіць з адукацыйна-папулярызатарскай накіраванасці і падкрэслівае ролю гісторыка-культурнай спадчыны як турыстычнага прадукту[24], яно ў пэўнай ступені займае нішу, уласцівую гістарычнай геаграфіі. Добрая ілюстрацыя сказанага – шматлікія тапанімічныя і гідранімічныя працы, якія праводзяцца ў розных рэгіёнах краіны[25].

Пра тое, што краязнаўства здольнае сур'ёзна дапоўніць гістарычную геаграфію, сведчыць адкрыццё ў вёсцы Шунеўцы Глыбоцкага раёна абраду "Варваркі". Калі этнографаў цікавіць факт яго захаванасці і практыкавання, то з пункту гледжання гістарычнай геаграфіі істотная яго сутнасная накіраванасць. Абрад выконваўся ў мэтах прадухілення стыхійных бедстваў[26], якія вывучаюцца гістарычнай геаграфіяй, як правіла, на падставе пісьмовых крыніц. Менавіта таму можна зрабіць асцярожную выснову наконт таго, што краязнаўства ў пэўнай ступені выступае дапаможнай дысцыплінай гістарычнай геаграфіі.

[24] Шорац Л. Школьнае гістарычнае краязнаўства Беларусі ў 20–30-я гг. XX ст. // Веснік Віцебскага дзярж. ун-та. 2005. № 4 (38). С. 36–39; Лозка А. Краязнаўства: ад нефармальнай адукацыі да сучаснай школы // Адукатар. № 2 (8). 2006. С. 46–47; Краязнаўчая работа ў Круглянскай сярэдняй школе № 1 [Электронны рэсурс] http://catalog.library.mogilev.by/kray/Econom/R13P1l.html; Краязнаўства [Электронны рэсурс] http://www.nastaunik.info/national-edu/local-history?page=2.

[25] Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух: матэр. Рэсп. навукова-практычнай канф. 16 крас. 2012 г.

[26] Філіпчык Д. Абрад "Варваркі" // Беларускі гістарычны часопіс. 2016. № 4. С.19–24; Нікалаева Н. Нематэрыяльныя каштоўнасці Глыбоччыны [Электронны рэсурс] http://zviazda.by/be/news/20160201/1454355709-nematerуyalnyya-kashtounasci-glybochchyny; https://www.bsu.by/be/main.aspx?guid=235071&detail=711993.

# “Вынаходжанне” штодзённасці: як і што мы даследуем*

**Ірына Раманава**

Выхад у свет рэцэнзаванай кнігі Ірыны Кашталян – з’ява знакавая па шэрагу прычын: гэта першае манаграфічнае даследаванне па названых тэме і перыядзе; выканана яна ў даволі новым для беларускай гістарыяграфіі кірунку – гісторыя штодзённасці; базу крыніц склалі матэрыялы вуснагістарычных інтэрв’ю; урэшце, кніга выйшла ў Германіі на англійскай мове. Не меншую цікавасць для гістарычнай навукі, чым сама кніга, уяўляе сабой гісторыя яе напісання.

У 2002 г. даследчыца пачала распрацоўваць згаданую тэму, а ў 2006 г. у БДУ абараніла кандыдацкую дысертацыю “Штодзённае жыццё беларускага грамадства (1944–1953 г.)”. Але дысертацыя не была зацверджана Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй. Дыскусія пра навуковыя хібы работы не вялася ўвогуле, уся аргументацыя канцэнтравалася вакол яе “антысавецкасці”. Суд Першамайскага раёна г. Мінска адмовіўся прыняць да разгляду справу па абскарджанні пастановы ВАК, а справу ў Мінскім гарадскім судзе І. Кашталян прайграла[1].

Працу над тэмай яна працягнула ўжо ў Германіі ў якасці стыпендыяткі Нямецкай службы акадэмічных

* Kashtalian, Iryna. The Repreccive Factors of the USSR’s Internal Policy and Everyday Life of the Belarussian Society (1944–1953). Wiesbaden, Harrassowitz Verlag, 2016. XIII, 345 p. (Historische Belarus-Studien 5)

[1] Гісторык Ірына Кашталян працягвае судзіцца за дысертацыю [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://euroradio.fm/gistoryk-iryna-kashtalyan-pracyagvae-sudzicca-za-dysertacyyu

абменаў і аспіранткі Вольнага ўніверсітэта Берліна (2008–2012). У 2012 г. яна паспяхова абараніла шматпакутнае даследаванне ў Вольным універсітэце Берліна. У новым варыянце тэма гучала больш радыкальна: "Рэпрэсіўныя фактары ўнутранай палітыкі СССР і штодзённае жыццё беларускага грамадства 1944–1953 г."[2]. Менавіта гэтая дысертацыя і была апублікавана ў якасці манаграфіі ў 2016 г.

У прадмове І. Кашталян піша: "...асоба нават у неспрыяльных умовах мае пэўны выбар". У якасці прыкладу яна прыводзіць уласны досвед: або пайсці супраць сябе, змяніць і адаптаваць свой тэкст і атрымаць навуковае званне тут і цяпер, або застацца пры сваіх навуковых перакананнях. Паняцце стратэгій стала адным з ключавых і для яе даследавання.

Аўтарка паставіла перад сабой даволі амбіцыёзную задачу: не толькі даследаваць саму штодзённасць, але і паказаць месца і ролю рэпрэсіўнага фактара на паўсядзённым узроўні, прычым адной з асноўных груп крыніц для яе паслужылі матэрыялы вуснагістарычных інтэрв'ю[3].

Як вядома, менавіта матэрыялы пра жыццё ў СССР (побытавыя практыкі), атрыманыя шляхам апытання на пачатку 1950-х г. былых савецкіх грамадзян, якія пасля вайны не вярнуліся на радзіму[4], сталі падставай для сур'ёзных сумненняў адносна магутнасці таталітарнага

[2] Ірына Кашталян: Немцы далі мне магчымасьць даказаць, чаго я вартая як навуковец [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/27174266.html

[3] Ірына Кашталян – заснавальніца Беларускага архіва вуснай гісторыі (nashapamiac.org), платформы, дзе сабраны шматлікія інтэрв'ю са сведкамі часу. На базе архіва вядзецца адукацыйная дзейнасць па выкарыстанні метадаў вуснай гісторыі, праводзяцца вуснагістарычныя экспедыцыі. Працуе ў гістарычнай майстэрні ІВВ у Мінску.

[4] Гарвардскі праект па вывучэнні савецкага грамадства. Пад час яго рэалізацыі ў 1950–1951 г. амерыканскія вучоныя апыталі некалькі тысяч чалавек, якія пасля вайны не вярнуліся на радзіму ў СССР, а засталіся жыць у Еўропе.

падыходу да вывучэння савецкага грамадства[5]. Спалучэнне вуснай гісторыі і таго, што пазней будзе названа гісторыяй штодзённасці, давала новы матэрыял, які не ўпісваўся ў ранейшыя навуковыя парадыгмы.

Сёння ні гісторыю штодзённасці, ні вусную гісторыю нельга назваць новымі кірункамі[6] і разам з тым нельга сказаць, што спрэчкі наконт іх магчымасцяў у вывучэнні мінулага скончыліся. Тое ж тычыцца іх метадалогіі. Але, як адзначыў класік і фактычна адзін з заснавальнікаў гісторыі штодзённасці (Alltagsgeschichte) Альф Людтке, "не існуе адзінага метаду, ёсць метады, што выкарыстоўваюцца ў той меры, якая патрабуецца пастаноўкай пытання"[7]. Адкрыццё і пашырэнне новых даследчыцкіх галін адбылося ў значнай ступені дзякуючы тым пытанням, якія паставіла перад мінулым сучаснасць, ці, лепш сказаць, у выніку пераасэнсавання палёў запыту і пераадолення інтэлектуальных межаў.

Гісторыя штодзённасці выйшла за межы гісторыі матэрыяльнай культуры і нават за межы задачы "аналізу жыццёвага свету простых людзей, вывучэння гісторыі

[5] Таталітарная мадэль прадугледжвала, што савецкая дзяржава імкнулася змяніць грамадства адпаведна марксісцка-ленінскай ідэалогіі, выкарыстоўваючы ў якасці інструмента камуністычную партыю і ўзмацняючы свой дыктат пры дапамозе насілля і тэрору. Грамадства разглядалася як аб'ект інертны і безаблічны, які фармуецца і кіруецца энергічнымі дзеяннямі дзяржавы. Дзеянні грамадства былі рэакцыяй у адказ на дзяржаўны ціск. Такі погляд на адносіны паміж дзяржавай і грамадствам скіроўваў увагу на вывучэнне дзяржаўных механізмаў, а не сацыяльных працэсаў (гл.: Меньковский В. И. Власть и советское общество в 1930-е годы: англо-американская историография проблемы. Минск, 2001. С. 76–77).

[6] Гісторыя штодзённасці як самастойны навуковы напрамак узнікла ў рамках "гісторыка-антрапалагічнага павароту" 1960–70-х г. XX ст. і прадстаўлена двума магістральнымі падыходамі да разумення яе задач і сутнасці: рэканструкцыя ментальнага макракантэксту падзейнай гісторыі (Ф. Брадэль і другое пакаленне школы "Аналаў" і інш.) і рэалізацыя прыёмаў мікрагістарычнага аналізу (нямецкая гісторыя штодзённасці Alltagsgeschichte і італьянская мікрагісторыя).

[7] Людтке А. История повседневности в Германии. Новые подходы к изучению труда, войны и власти. Москва, 2010. С. 60.

штодзённых паводзін і штодзённых перажыванняў"[8]. Цяпер размова ідзе не столькі пра ўнясенне новага ракурсу ў навуковую карціну мінулага, колькі пра прынцыпова іншы падыход да яго рэканструкцыі: у даследаваннях штодзённасці павінен быць узноўлены індывід, які дзейнічае на жыццёвай сцэне ў зададзеных абставінах, паказаны той асобай, якая вызначае сітуацыю, канструюе – разам з іншымі – сацыяльныя ролі і выконвае іх[9].

На правядзенне даследаванняў па гісторыі савецкай штодзённасці на постсавецкай прасторы найбольш паўплывалі працы лідара т. зв. рэвізіяністаў таталітарнага падыходу[10] амерыканскай даследчыцы Ш. Фіцпатрык[11]. Сацыяльная гісторыя вёскі вывучаецца ёю пры дапамозе "стратэгій падначаленых"[12] (сярод іх: стратэгіі супрацiўлення, актыўна-

[8] Оболенская С. В. Некто Йозеф Шефер, солдат гитлеровского вермахта. Индивидуальная биография как опыт исследования "истории повседневности" [Электронный ресурс] // Одиссей. Москва, 1996. Режим доступа: http://krotov.info/libr_min/15_o/di/ssey_1996.htm.

[9] Тамсама.

[10] Шэраг вучоных на чале з амерыканскай даследчыцай Ш. Фіцпатрык у 1980-я г. выступілі за перагляд (рэвізіянізм) ранейшых падыходаў. Ш. Фіцпатрык заклікала гісторыкаў да вывучэння сталінізму "знізу" таксама, як і "зверху" (і нават перш за ўсё "знізу"). Былі сфармуляваны наступныя даследчыя задачы: у якой ступені і якім чынам палітыка, абвешчаная на найвышэйшым урадавым узроўні, рэалізоўвалася на месцах, як "маленькі" чалавек засвойваў новыя сацыяльныя і культурныя нормы і г. д.

[11] Fizpatrick S. Everyday Stalinism. Odinary Life in Extraordinary Times: Soviet Russia in the 1930s. New York, Oxford, 1999 (Фицпатрик Ш. Повседневный сталинизм. Социальная история Советской Росии в 30-е годы: город. Москва: РОССПЭН, 2001); Fitzpatrick S. Stalin's Peasants. Resistance and Survival in the Russian Village after Collectivization. New York, Oxford, 1994 (Фицпатрик Ш. Сталинские крестьяне. Социальная история Советской России в 30-е годы: деревня. Москва, 2001).

[12] Дадзены падыход прапанаваны Дж. Скотам (гл.: Scott J. C. Weapons of the Weak. Everyday Forms of Peasant Resistance. New Haven, 1985). Таксама гл. працы: Viola L. Bab'i Bunty and Peasant Women's Protest During Collectivization // Russian Review. 1986. Vol. 45. No. 1. P. 31; Виола Л. Крестьянский бунт в эпоху Сталина: Коллективизация и культура крестьянского сопротивления. Москва, 2010. 367 с.

га прыстасавання, маніпулявання)[13]. Такі падыход дазваляе звярнуцца да паўсядзённых практык значных груп грамадства і паказаць апошняе ў якасці актыўнага суб'екта гісторыі, які спрабуе змяніць або прыстасаваць да сябе навакольны свет. Але такі падыход выклікаў моцную крытыку: фактычна па-за межамі даследавання застаецца таталітарная дзяржава. Пры вывучэнні горада 1930-х г. Ш. Фіцпатрык вызначыла штодзённасць як "штодзённыя ўзаемадзеянні, якія ў той ці іншай ступені ўключаюць удзел дзяржавы"[14].

Іншы амерыканскі даследчык Стэфан Коткін у вядомай працы пра сталінізм як цывілізацыю шукае адказ на пытанне, якое займае цэнтральнае месца ў дэбатах наконт сталінізму ў цэлым: пра ступень падтрымкі "простымі" рабочымі сталінскага рэжыму ці супраціўлення яму[15]. Даследаванне Коткіна, як і шмат якія іншыя такія ж значныя працы, выклікала палеміку і рэзкую крытыку адразу з двух супрацьлеглых бакоў. З аднаго боку, некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што ён недаацаніў ступень супраціўлення з боку простых грамадзян. А з другога – што ён засяродзіў увагу на фактах маніпуляцый і "манеўравання" з боку "homo sovieticus", ігнаруючы той факт, што асоба перажывала крызіс і эвалюцыянавала адпаведна патрабаванням эпохі[16].

Зварот да крэатыўнага боку савецкага рэжыму і культываваных ім практык суб'ектывацыі (якім чынам савецкія грамадзяне стваралі сябе як "новых людзей", уключалі сябе ў праект пабудовы сацыялізму / камунізму) здзяйсняўся ў межах так званага культурнага (ці лінгвістыч-

[13] Фіцпатрык піша, што размова ідзе пра стратэгіі, "узятыя на ўзбраенне расійскімі сялянамі, каб справіцца з наступствамі ўдару, нанесенага ім дзяржавай у ходзе калектывізацыі, і тыя спосабы, пры дапамозе якіх яны спрабавалі паставіць калгасы на службу ўласным інтарэсам, а не толькі інтарэсам дзяржавы" (Фицпатрик Ш. Сталинские крестьяне. С. 11–12).

[14] Фицпатрик Ш. Повседневный сталинизм. С. 9.

[15] Kotkin S. Magnetic Mountain: Stalinism as a Civilization. University of California Press, 1995.

[16] Фокс М. Д. Семь подходов к феномену советской системы: Разные взгляды на первую половину "краткого" XX века // Американская русистика: Вехи историографии последних лет. Советский период: Антология. Самара, 2011. С. 34–35.

нага) павароту[17]. Узнік фактычна новы напрамак у вывучэнні савецкай гісторыі – "савецкая суб'ектыўнасць", тут самасвядомасць савецкага грамадзяніна вывучаецца найперш на падставе эга-дакументаў[18].

Вельмі важныя тэарэтыка-метадалагічныя напрацоўкі былі зроблены нямецкімі даследчыкамі, якія вывучалі нацысцкую дыктатуру ў Германіі. Альф Людтке[19], што даследаваў, у прыватнасці, паводзіны рабочых у часы нацыянал-сацыялізму, выступіў супраць спрошчанага разумення тэорыі таталітарызму, згодна з якой таталітарнае панаванне ліквідуе і зводзіць да нуля існаванне сацыяльных адносінаў ("панаванне як сацыяльная практыка"[20]). Зону

[17] Новы кірунак даследаванняў "савецкай суб'ектыўнасці" абапіраецца на метады культурнай гісторыі і тэкстуальнага аналізу і спрабуе прымяніць у аналізе сталінскага СССР тое разуменне суб'екта, якое склалася ў заходнім акадэмічным асяродку пад уплывам работ Мішэля Фуко. Гэты суб'ект – вынік працы дыскурсіўных практык, тэкстуальная дынамічная канструкцыя.

[18] Хелльбек Й. Повседневная идеология: жизнь при сталинизме [Электронный ресурс] // Неприкосновенный запас. 2010. № 4 (72). Режим доступа: http://magazines.russ.ru/nz/2010/4/he2-pr.html; Hellbeck J. Fashioning the Stalinist soul: the diary of Stepan Podlubnyi (1931–39) // Jahrbűcher fűr Geschichte Osteuropas. 1996. № 44. P. 344–373; Halfin I. Terror in my soul: communist autobiographies on trial. Cambridge: Harvard University Press, 2003. P. 209–273. Hellbeck J. Fashioning the Stalinist soul: the diary of Stepan Podlubnyi (1931–39) // Jahrbűcher fűr Geschichte Osteuropas. 1996. № 44. P. 344–373; Halfin I., Hellbeck J. "Rethinking the Stalinist Subject: Stephen Kotkin's Magnetic Mountain and the State of Soviet Historical Studies" // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1996. № 44. P. 456–463.

[19] Людтке Ф. История повседневности в Германии. Москва, 2010; Людтке А. Что такое история повседневности? Ее достижения и перспективы в Германии // Социальная история. Ежегодник. 1998/99. Москва, 1999; Людтке А. История повседневности в Германии после 1989 г. // Казус. 1999; Людтке А. История повседневности в Германии: новые подходы к изучению труда, войны и власти. Москва, 2010.

[20] Падыход "панаванне як сацыяльная практыка" накіраваны на вывучэнне схем дзеянняў і мадэляў паводзінаў, абумоўленых пэўнымі сацыяльнымі сувязямі і ўласнай логікай апошніх, якія не маюць самі па сабе нічога агульнага з камуністычным праектам, але ўпісаны ў адносіны панавання.

аўтаноміі суб'екта ён змясціў у такі важны для наступных даследаванняў канцэпт, як "свавольства" (Eigen-Sinn)[21]. Выявілася, што канцэпты Альфа Людтке прыдатныя для вывучэння любых адносінаў панавання[22], і не толькі ва ўмовах таталітарызму.

Істотнай напрацоўкай папярэдніх даследаванняў стала змяшчэнне фокуса з вывучэння гісторыі палітычных інстытутаў, структур, палітычных функцыянераў і іх непасрэдных праціўнікаў на вывучэнне гісторыі дыктатуры з пункту гледжання большасці[23]. У высновах, да якіх прыйшлі прадстаўнікі амерыканскага рэвізіянізму і прадстаўнікі германскай Alltagsgescichte, было шмат агульнага, у прыватнасці: таталітарны рэжым і гітлераўскай

[21] Сутнасць паняцця "свавольства" (Eigen-Sinn): тым, хто пануе, нягледзячы на ўсе высілкі, накіраваныя на індактрынацыю тых, над кім яны пануюць, на пастаяннае прадпісванне ім правілаў паводзінаў і на прымус іх да праяўлення лаяльнасці паноўнаму рэжыму, ніколі не ўдаецца наўпрост кіраваць мысленнем, адчуваннямі і воляй апошніх, адпаведна ў "падначаленых" заўсёды застаецца крыху аўтаноміі, крыху магчымасцяў дзейнічаць самастойна, хоць гэта і не праяўляецца адкрыта. Тэрмін "Eigen-Sinn" вычарпальна прааналізаваны ў прадмове да кнігі А. Людтке: А. К. Соколов, С. В. Журавлев. Alltagsgeschichte и изучение рабочей истории в России // Людтке А. История повседневности в Германии: новые подходы к изучению труда, войны и власти. Москва, 2010. С. 37–38. Гл. таксама Томаса Ліндэнбергера – http://docupedia.de/zg/Eigensinn_(english_version).

[22] Напрыклад, праект Цэнтра вывучэння найноўшай гісторыі (Патсдам) пад кіраўніцтва Т. Ліндэнбергера па вывучэнні штодзённага жыцця ў ГДР "Праўленне і свавольства пры дыктатуры" (Повседневная жизнь при социализме. Немецкие и российские подходы / под ред. Я. К. Берендса, В. Дубиной, А. Сорокина, с участием Е. Акопян. Москва, 2015. С. 17); Lindenberger Th. Herrschaft und Eigen-Sinn in der Diktatur. Studien zur Gesellschaftsgeschichte der DDR. Köln, 1999; Lindenberger Th. Volkspolizei. Herrschaftspraxis und offentliche Ordnung im SED-Staat. Köln, 2003.

[23] Адразу неабходна адзначыць, што размова не ідзе толькі пра так званую "гісторыю знізу". Прадмет вывучэння гісторыі штодзённасці – штодзённасць усяго грамадства, як тых, хто зверху, так і тых, хто знізу (Повседневная жизнь при социализме. Немецкие и российские подходы. С. 16).

Германіі, і сталінскай Расіі абапіраўся не толькі на тэрор і прапаганду, але і ў значнай ступені – на кансэнсус грамадства[24].

Важна адзначыць: у Германіі гісторыя штодзённасці (Alltagsgeschichte) паўставала ў тым ліку і з грамадскіх ініцыятываў. Яе прыхільнікі зыходзілі з таго, што дыктатура існавала не толькі дзякуючы тым, хто зверху, з якімі тыя, што знізу, не мелі нічога агульнага, але ёй спрыялі ўсе слаі і структуры грамадства. Alltagsgeschichte дазваляе паказаць, што ў "падначаленых" заўсёды застаецца крыху аўтаноміі, невялікая магчымасць дзейнічаць самастойна, хоць гэта і не праяўляецца адкрыта. Такім чынам, Alltagsgeschichte закранае злачынны саўдзел так званых "маленькіх людзей" у справах дыктатуры і не дае ім застацца толькі ў ролі ахвяр рэжыму. Для нямецкай гісторыі штодзённасці важна agency, г. зн. дзеянне гістарычных актараў, іх саўдзел[25].

У Расіі цікавасць да гісторыі штодзённасці выйшла якраз з акадэмічных і калянавуковых колаў[26]. На гра-

[24] Сталінскі перыяд цяпер супастаўляецца з перыядам нацызму ў Нямеччыне (гл., напрыклад: Geyer M., Fitzpatrick S. Beyond Totalitarianism: Stalinism and Nazism Compared. New York: Cambridge University Press, 2009).

[25] Повседневная жизнь при социализме. Немецкие и российские подходы. С. 260.

[26] У 1990 – пачатку 2000-х гадоў шэраг наватарскіх прац у галіне гісторыі штодзённасці быў выдадзены і расійскімі гісторыкамі. Гл., напрыклад, артыкулы ў зб.: Советское общество: возникновение, развитие, исторический финал: в 2 т. Т. 1. От вооруженного восстания в Петрограде до второй сверхдержавы мира / под общ. ред. Ю. Н. Афанасьева. Москва, 1995; а таксама зб.: Повседневный мир советского человека. 1920–1940. Ростов-на-Дону, 2009. 384 с.; Советская повседневность и массовое сознание, 1939–45. Москва, 2003; Нормы и ценности повседневной жизни: Становление социалистического образа жизни в России, 1920–1930-е годы. С.-Петербург, 2000; манаграфіі: Орлов И. Б. Советская повседневность: исторический и социологический аспекты становления. Москва, 2008; Лебина Н. Б. Повседневная жизнь советского города: Нормы и аномалии. 1920–1930 годы. С.-Петербург, 1999; Лебина Н. Б., Чистиков А. Н. Обыватель и реформы: Картины повседневной жизни горожан в годы нэпа и хрущевского десятилетия. С.-Петербург, 2003. 340 с.; Лебина Н. Б.

Энциклопедия банальностей: Советская повседневность: Контуры, символы, знаки. С.-Петербург, 2006. 444 с.; Журавлев С. В. “Маленькие люди” и “Большая история”: иностранцы московского Электрозавода в советском обществе 1920–1930-х г. Москва, 2000; Журавлев С. В., Мухин М. Ю. “Крепость социализм”: Повседневность и мотивация труда на советском предприятии, 1928–1938 г. Москва, 2004. 240 с.
Пытанням суадносінаў і размежавання гісторыі прыватнага жыцця і гісторыі штодзённасці, метадалагічным і гістарыяграфічным праблемам гісторыі штодзённасці прысвечаны шосты і сёмы выпускі штогадовіка “Социальная история”, які выдаецца Цэнтрам сацыяльнай гісторыі Інстытута ўсеагульнай гісторыі РАН: Социальная история. Ежегодник, 2004. Москва, 2005. 464 с.; Социальная история. Ежегодник, 2007. Москва, 2008. 367 с. Выдаецца даволі шмат дакументаў, якія характарызуюць штодзённае жыццё савецкіх людей (як правіла, скрозь прызму іх успрымання): Письма во власть. 1917–1927 г. Заявления, жалобы, доносы, письма в государственные структуры и советским вождям / сост. А. Я. Лившиц, И. Б. Орлов. Москва, 1998; Письма во власть. 1928–1939 г.: Заявления, жалобы, доносы, письма в государственные структуры и советским вождям / сост. А. Я. Лившиц, И. Б. Орлов, О. В. Хлевнюк. Москва: РОССПЭН, 2002; Советская повседневность и массовое сознание. 1939–1945 / сост. А. Я. Лившиц, И. Б. Орлов. Москва, 2003. 472 с.; Советская жизнь. 1945–1953. Москва, 2003.
Усё большую папулярнасць гісторыя штодзённасці набірае сярод гісторыкаў іншых былых рэспублік СССР. Напрыклад, даследаванні па сацыяльнай гісторыі і гісторыі штодзённасці з’яўляюцца прыярытэтнымі для аддзелаў гісторыі XX ст. Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны. Напрыклад: Повоєнна Україна: нариси соціальної історії (друга половина 1940-х – середина 1950-х рр.): у 3 ч. Київ, 2009; Нариси повсякденного життя радянської України в добу непу (1921–1928 рр.): у 2 ч. Київ, 2010; Мовчан О. М. Повсякденне жіття работників УССР, 1920-ті рр. Київ, 2010. Ва Украіне абаронены шэраг дысертацый па пасляваеннай штодзённасці, напрыклад: Вовк В. Побут та дозвілля міського населення України в 50−80-х роках XX ст.: автореф. дис. … к. і. н. Київ, 2007; Герасимова М. Повсякденне життя населення Донбасу в 1945–1953 рр.: автореф. дис. … к. і. н. Донецьк, 2007; Ісайкіна О. Побут і дозвілля міського населення України в повоєнний період (1945–1955 рр.): автореф. дис. … к. і. н. Київ, 2006; Прохоренко О. Повсякденне життя науково-педагогічної інтелігенції України в другій половині 40-х – першій половині 50-х рр. XX ст.: автореф. дис. … к. і. н. Київ, 2008; Хоменко Н. Повсякденне життя студентської молоді України (1950−1960-ті рр.): автореф. дис. … к. і. н. Київ, 2008 і інш.

мадскім узроўні гэтая цікавасць менш за ўсё суадносіцца з тэмай сталінізму і пераасэнсаваннем таго калектыўнага траўматычнага вопыту – да гэтага пытання ў Расіі апелюе хутчэй гісторыя памяці. Гісторыя ж штодзённасці рэдка закранае пытанні адносінаў улады і гістарычных актараў[27].

Відавочна, асноўныя тэарэтычныя дыскусіі аб вывучэнні штодзённасці ва ўмовах таталітарызму разгортваліся на падставе аналізу грамадства 1930-х г. Толькі на пачатку 2000-х узрасла цікавасць да пасляваеннага перыяду і постсталінізму. Даследчыкі ў значнай ступені працягваюць традыцыю, што склалася ў даследаваннях па згаданым перыядзе, але манаполія апошняга падарвана.

1944–1953 гады – гэта перыяд канца вайны і пасляваеннага наладжвання жыцця. Ці, як адзначае Ірына Кашталян, час, калі старая палітычная сістэма спалучылася са зменамі, якія ўзніклі ў час вайны, уключаючы доўгатэрміновае існаванне больш жорсткага заканадаўства. Яна піша, што чаканні пэўнай часткі грамадства ў сувязі з перамогай не спраўдзіліся – лібералізацыі не адбылося, хутчэй наадварот. Больш за тое, з’явіліся новыя катэгорыі нядобранадзейных і варожых элементаў: тыя, хто супрацоўнічаў з немцамі (у самым шырокім сэнсе; або падазраваўся ў гэтым), жыў на акупаванай тэрыторыі, знаходзіўся ў палоне або на прымусовых работах у Германіі, або ў арміі саюзнікаў, або проста выжыў у гета, ці нават калі ўсё пералічанае тычылася не асабіста іх, а іх сваякоў. Рэпрэсіўная палітыка прадугледжвала розныя меры адказнасці як адміністрацыйнага (звальненне з працы, выключэнне з партыі і г. д.), так і крымінальнага пакарання.

Але, як адзначае аўтарка, асноўны фокус вывучэння пасляваеннага дзесяцігоддзя ў беларускай гістарыяграфіі ўсё яшчэ канцэнтруецца вакол гераічнага аднаўлення. Выклікі сацыяльнага развіцця вельмі рэдка вывучаюцца праз псіхалогію мас, свядомасць людзей, праз іх патрэбы – усё гэта зводзіцца да нейкага прыдатка эканамічных

[27] Повседневная жизнь при социализме. Немецкие и российские подходы. С. 261.

механізмаў. З іншага боку, выкарыстанне такога падыходу, як гісторыя штодзённасці, дазваляе зазірнуць за паверхню гістарычнага працэсу. Гэты падыход унікальны тым, што вывучаюцца стратэгіі насельніцтва (ordinary people) у іх паўсядзённай руціне ў сістэме сацыяльна-палітычных і эканамічных узаемаадносінаў. Значная ўвага ў рабоце таксама аддадзена канструяванню новых пасляваенных катэгорый насельніцтва, працэсу іх адаптацыі ў сацыяльна-палітычных і эканамічных адносінах.

Мэта дадзенага даследавання – вызначыць асаблівасці штодзённага жыцця беларускага грамадства 1944–1953 г. пад уплывам рэпрэсіўнага фактару ўнутранай палітыкі ў СССР. Сярод задач: даследаванне штодзённых аспектаў жыцця асноўных груп насельніцтва БССР; выдзяленне жыццёвых стратэгій беларускага насельніцтва ў пасляваенных умовах; вывучэнне асаблівасцяў рэпрэсіўнага фактару, выкарыстанага савецкім рэжымам для адаптацыі Заходняй Беларусі, уключанай у склад БССР. Але тут узнікае пытанне, якім чынам пры даследаванні штодзённых аспектаў і стратэгій будзе вылучацца дзеянне менавіта рэпрэсіўнага фактару? Ці ўвогуле ўсе штодзённыя аспекты і стратэгіі таму і мелі месца менавіта ў такім выглядзе, што на іх уздзейнічаў гэты самы рэпрэсіўны фактар?

Як адзначалася вышэй, асаблівую важнасць для вывучэння розных аспектаў штодзённасці маюць эга-дакументы. Для разгляданага даследавання такую базу склалі найперш вуснагістарычныя крыніцы. Аўтарка адзначае, што менавіта шляхам аналізу аповедаў людзей яна даследуе не толькі і не столькі ўмовы іх штодзённага побыту, але і тыя стратэгіі, якія маглі быць актуалізаваны ў тых ці іншых умовах, а таксама якім чынам на іх выбар ці змену ўздзейнічаў рэпрэсіўны фактар.

У прадмове І. Кашталян дае вызначэнне, што менавіта будзе разумецца пад гісторыяй штодзённасці ў яе працы: найперш размова будзе ісці пра гісторыю жыцця, існавання звычайных людзей і ўспрыманне імі значных гістарычных падзей. Вельмі каратка згадвае дыскусіі, якія адбываліся ў 1990-я г. адносна таго, як трэба пісаць гісторыю

штодзённасці. Услед за Ш. Фіцпатрык выбірае канцэпцыю, якая вызначае штодзённую руціну (day-to-day) як штодзённыя інтэракцыі (day-to-day interactions), якія ў той ці іншай ступені ўключаюць удзел дзяржавы”[28].

Ірына Кашталян зазначае, што працэсы, апісаныя ў гэтым даследаванні, больш комплексныя, чым просты падзел насельніцтва на тых, хто адаптаваўся, і тых, хто супраціўляўся. Вельмі важна зразумець, што здарылася, чаму і як гэта ўспрымалася простымі людзьмі. У сувязі з гэтым, падкрэслівае аўтарка, сфакусаванне ўвагі на палітыцы дзяржавы як інтэгральнай частцы практычна ўсіх аспектаў штодзённасці беларускага грамадства выглядае цалкам зразумелым. А аналіз таго, як грамадзяне паводзілі сябе ў канкрэтных тыповых сітуацыях, у тым ліку і як яны выжывалі пад пагрозай рэпрэсій з боку дзяржавы, дапаможа нам вызначыць кірункі ў паўсядзённым жыцці БССР.

Адразу неабходна адзначыць: працу з шэрагу падобных вылучае таксама і тое, што тут закранута надзвычай шырокае кола пытанняў. Адзін пералік тэм, да якіх звярнулася даследчыца, заняў бы не адну старонку. Абазначым толькі асноўныя. Так, першы раздзел “Рэпрэсіўныя меры і штодзённае жыццё розных сегментаў беларускага грамадства” (Repressive Measures and Everyday Life of Different Segments of Belarussian Society) мае асобныя падраздзелы: рэструктурызацыя сацыяльных класаў БССР (рабочыя: “дэзерціры прамысловасці”; калгаснікі: голад і пазбаўленне іх правоў; інтэлігенцыя: патэнцыйныя касмапаліты); новыя сацыяльныя групы, створаныя вайной (ваенныя ветэраны: новыя прывілеяваныя; “здраднікі”: вінаватыя, што выжылі ў час вайны; “заходнікі”: новыя савецкія грамадзяне).

У раздзеле 2 асноўная ўвага аддадзена таму, што аўтарка назвала штодзённай руцінай (BSSR Day-to-Day Routine under Government Control), сярод пытанняў – падаткі; уключанасць дзяржавы ў планаванне сям’і; праблемы

[28] Фицпатрик Ш. Повседневный сталинизм. С. 9.

жылля; крымінал, справакаваны ваеннымі наступствамі (спекуляцыя, самагонаварэнне, крадзяжы).

Трэці раздзел прысвечаны стратэгіям звычайных (ці "маленькіх") людзей (ordinary people) перад тварам рэпрэсіўнай палітыкі савецкай дзяржавы (Strategies of Ordinary People in the Face of Repressive Policies of the Soviet State in the First Postwar Decade). Сярод вылучаных аўтаркай асноўных стратэгій ordinary people: актыўная адаптацыя (адаптацыя без веры; члены партыі; "замаскіраванае жыццё"; правільныя сувязі); пасіўны рэзістанс (даносы, скаргі, хадатайніцтвы; адыходніцтва, міграцыя); формы актыўнага рэзістансу (чуткі і дэкларацыі; актары на полі бою з дзяржавай)[29]. Дарэчы, тут знайшлося месца і для дзейнасці АК, пасляваеннай партызанкі, ОУН-УПА, моладзевых арганізацый у Заходняй Беларусі. Выражэнне рэлігійнасці ў тых умовах разглядаецца таксама як адна з формаў рэзістансу.

Даследчыца піша, што насельніцтва ў цяжкіх пасляваенных умовах вымушана было выбіраць розныя штодзённыя стратэгіі. Але ці мела яно нейкі выбар? Ці магчыма было ў тых умовах стварэнне больш-менш свабоднай асабістай прасторы? Такі падыход дазваляе паказаць крэатыўнасць, вынаходлівасць абывацеляў: прадметам увагі становіцца тое, як звычайная людзі робяць выбар у межах прапанаванага рэпертуару, ствараюць новыя камбінацыі і г. д., ці як яны, у тэрміналогіі Серто, "вынаходзяць штодзённасць"[30]. Але аўтарка не ставіць такога пытання, хутчэй, яна спрабуе вызначыць тыповыя рысы штодзённасці 1944–1953 г. ва ўмовах пасляваеннага сталінізму, паказаць стратэгіі, даступныя ў тых умовах, і іх верагодныя наступствы.

Акрамя архіўных дакументаў (у тым ліку калекцыі ўспамінаў) даследчыца выкарыстала апублікаваныя крыніцы (успаміны, перыёдыка, зборнікі дакументаў),

[29] Ірына Кашталян адзначае, што гэтыя стратэгіі яна выкарыстоўвае ўслед за Ш. Фіцпатрык.

[30] Certeau M. de. The Practice of Everyday Life. Translated by Steven Rendall. University of California Press. 1984.

вуснагістарычныя крыніцы, як з іншых калекцый (Zwangsarbeit 1939–1945; Visual History Archive of the Shoah Foundation Institute for Visual History and Education of the University of Southern California), так і з ініцыяваных (у адпаведнасці з тэмай даследавання) і запісаных самой аўтаркай (46 інтэрв'ю людзей, што нарадзіліся ў 1920–1930-я г., занатаваных пераважна ў сакавіку 2009 г.)[31]. У час інтэрв'ю І. Кашталян выкарыстоўвала паўстандартызаваную форму. Яна давала магчымасць атрымаць інфармацыю пра ўспрыманне рэспандэнтамі падзей, якія паўплывалі на іх штодзённае жыццё, а таксама ўбачыць, якія прыярытэтныя сюжэты захавала памяць інфармантаў. Пасля транскрыбавання інтэрв'ю аўтарка вылучала з іх фрагменты, звязаныя з успрыманнем пэўных падзей, і размяркоўвала іх па падтэмах (падаткі, калектывізацыя ў Заходняй Беларусі і г. д.), а пасля аналізавала вылучаныя фрагменты, уключала іх у больш шырокі кантэкст.

У падраздзеле "Траўматычны вопыт" паказана, як рэпрэсіі траўматызавалі асоб, змянялі іх стыль паводзінаў, як яны маглі ўплываць і на самі ўспаміны. Адзначаецца, што лакальная траўма павінна была накладвацца на больш глабальную траўму – вайну (а "вопыт вайны, несумненна быў найгоршым вопытам," – піша І. Кашталян). Даследчыца адзначае, што вельмі важна прыняць пад увагу стан памяці інфармантаў у час інтэрв'ю, што людзі імкнуцца памятаць добрае і забыцца на дрэннае. Зразумела, што большасць людзей пасля вайны хацелі нармальнага жыцця, а не канфліктаў з уладай. І нават тыя, чые сваякі былі палітычна рэпрэсаваныя, маглі ідэалізаваць рэжым і не хацелі гаварыць пра рэпрэсіі ды канфлікты з дзяржавай. Апавядаецца і пра "падсвядомую боязь" інфармантаў "дэманізаваць" савецкі лад жыцця, прычына гэтага – мінулы вопыт інфармантаў і палітычная сітуацыя ў краіне на пачатку 2000-х, калі запісваліся інтэрв'ю. Адзначаецца праблема мадэрнізацыі памяці (свядома ці падсвядома). На жаль, аўтарка не піша падрабязна,

[31] Інтэрв'ю захоўваюцца ў Беларускім архіве вуснай гісторыі (www.nashapamiac.org).

якім чынам яна апраўцоўвала інтэрв’ю, як выяўляла “шэрыя зоны”, не адзначае, пра што інфарманты гаварыць не змаглі / не захацелі, дзе яны свядома “памыліліся”, а дзе проста гаварылі “па-бальшавіцку”[32], бо не мелі іншай мовы.

Разам з тым уключаныя ў тэкст манаграфіі ўрыўкі інтэрв’ю даюць магчымасць пачуць голас “маленькага” чалавека, пачуць гісторыю жыцця, выкладзеную яго ўласнымі словамі і напоўненую яго ўласнымі сэнсамі. Гэтыя фрагменты не толькі інфармацыйныя, яны робяць даволі моцнае эмацыйнае ўздзеянне на чытача. Яны служаць важным доказам таго, што мы не толькі сведкі гісторыі, але і яе непасрэдныя ўдзельнікі, а выкарыстаныя аўтаркай канцэпты “стратэгій” паказваюць “маленькага” чалавека яшчэ і актыўным суб’ектам, які мае выбар, хай сабе і вельмі абмежаваны.

Некаторыя часткі манаграфіі напісаны па інтэрв’ю, некаторыя, як, напрыклад, пра актыўны супраціў і пасляваенную партызанку, – найперш па даследаваннях іншых аўтараў з выкарыстаннем даступных архіўных дакументаў ці без іх. Ёсць у манаграфіі і цалкам новыя для беларускай гістарыяграфіі сюжэты (пасляваенны голад у БССР).

Тыя, хто актыўна супрацоўнічае з рэжымам ці актыўна змагаецца з ім, ніколі не складаюць большасці грамадства. Большасць індывідуумаў ва ўмовах дыктатуры не робяць ні першага, ні другога, іх паводзіны скіраваны перш за ўсё на выжыванне. Натуральна, гэта не выключае неабходнасці даследаваць пытанні актыўнай падтрымкі рэжыму ці супраціўлення яму, калі даследчык хоча дасягнуць нечага большага, чым проста пацвярджэння ці абвяржэння “таталітарнага” характару партыйнай дыктатуры і яе інстытутаў, але не меншай увагі заслугоўвае і “маўклівая большасць”.

У высновах аўтарка піша: аналіз асноўных стратэгій выжывання беларускага насельніцтва ва ўмовах пасляваеннай разрухі паказвае, што звычайнымі людзьмі

[32] Kotkin S. Magnetic Mountain: Stalinism as a Civilization.

(ordinary people) выбар рабіўся зыходзячы з матывавання страху перад рэпрэсіямі і пазбягання канфрантацыі з дзяржавай; адзначае, што псіхалагічныя характарыстыкі людзей выконвалі галоўную ролю ў селекцыі патэрнаў паводзінаў: моладзь адчувала большую ўпэўненасць, была больш рызыкоўная і ідэалістычная, у той час як старэйшае пакаленне было больш асцярожным (316).

Неабходна адзначыць, што акцэнт у даследаванні хутчэй зроблены на абставінах і “маленькім” чалавеку ў гэтых абставінах, чым на яго магчымасцях і стратэгіях. Таталітарны падыход да вывучэння савецкага грамадства ў працы ў значнай ступені захоўваецца. Гісторыя “знізу” тут толькі складовая частка больш шырокага поля. У прынцыпе і мэтай кнігі заяўлена вывучэнне не толькі штодзённасці, але і ўздзеяння рэпрэсіўнага фактару на штодзённасць.

Ірына Кашталян прарабіла сапраўды грандыёзную працу, даследаванне ахоплівае неверагодна шырокае кола тэм. Больш за тое, яно ставіць новыя пытанні, фармулюе новыя задачы, а значыць – галоўная мэта дасягнута. Асабіста для мяне яна стала падставай яшчэ раз пагаварыць пра гісторыю штодзённасці, яе задачы і мэты. Многія з узнятых даследчыцай пытанняў заслугоўваюць асобных манаграфій.

Кніга будзе карыснай для даследчыкаў, яна, несумненна, вартая таго, каб быць перакладзенай на беларускую мову – такім чынам яна стане даступнай для ўсіх, хто цікавіцца пасляваенным перыядам, а тэмы, распрацаваныя Ірынай Кашталян, змогуць урэшце быць адаптаваныя беларускімі даследчыкамі, аўтарамі падручнікаў і рознага роду навучальных дапаможнікаў. Пафас гераічнага пасляваеннага аднаўлення не можа засланіць сабой усю складанасць разгледжанага перыяду.

# СНАПКОВСКИЙ, ВЛАДИМИР Е. История внешней политики Беларуси: пособие. Минск: БГУ, 2013. 495 с.

Аўтар разгляданай кнігі Уладзімір Снапкоўскі, доктар гістарычных навук, паставіў мэту паказаць знешнюю палітыку Беларусі на фоне гісторыі краіны. Выданне ўяўляе сабой дапаможнік для студэнтаў, якія вывучаюць гісторыю, паліталогію, міжнародныя адносіны, а таксама для ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй знешняй палітыкі і дыпламатыі Беларусі.

Кніга мае храналагічна-праблемную структуру, складаецца з уступу да выдавецкай серыі, непасрэдных уводзінаў, 15 раздзелаў, заканчэння, анатаванай храналогіі найважнейшых падзей гісторыі знешняй палітыкі і дыпламатыі Беларусі, спіса літаратуры, імяннога і геаграфічнага паказальнікаў. Кожны раздзел заканчваецца высновай у выглядзе пераліку асноўных ідэй-тэзісаў і кантрольнымі пытаннямі да патэнцыйных чытачоў (вучняў, студэнтаў). Аналізаваная праца – першае комплекснае і сістэматызаванае даследаванне па гісторыі знешняй палітыкі і дыпламатыі Беларусі ад яе пачаткаў да сучасных падзей. Пытанні знешнепалітычнай і дыпламатычнай дзейнасці разглядаюцца ў кантэксце міжнароднага, палітычнага, этнічнага, эканамічнага і рэлігійнага развіцця. Кніга напісана на рускай мове.

У гісторыі знешняй палітыкі і дыпламатыі Беларусі аўтар вылучае пяць вялікіх храналагічных перыядаў. Першы ахоплівае міжнародную актыўнасць старажытнабеларускіх княстваў у X – першай палове XIII ст. (раздзел I). Другі – дзейнасць Вялікага Княства Літоўскага ад моманту яго ўзнікнення да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. У знешняй палітыцы ВКЛ вылучаюцца два этапы: 1) ад узнікнення дзяржавы да Люблінскай уніі 1569 г. (раздзелы II, III, частка IV) і 2) ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай (1569–1795) (другая частка раздзела IV, раздзелы V–VII). Трэці перыяд ахоплівае 1795–1917 гады, калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі (раздзелы

VIII, IX). Знешняя палітыка Беларускай Народнай Рэспублікі і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (1918–1991) пададзена ў раздзелах X–XIV. Пяты перыяд датычыцца знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь у 1991–2012 г. (раздзел XV).

Выкарыстаныя У. Снапкоўскім крыніцы і літаратура выклікаюць пэўныя крытычныя заўвагі. Спецыфіка такога выдання, як дапаможнік, патрабуе ад аўтара пазначэння ў першую чаргу выдадзеных крыніц. Гэта вынікае з агульнага характару даследаваных праблем і шырокіх тэматычных і храналагічных межаў. Аднак у спісе крыніц пазначаны толькі 16 пазіцый. Большасць з іх (дзевяць) складаюць працы, што выйшлі ў Беларусі пасля 1993 г., шэсць выдадзены яшчэ ў савецкі перыяд і адно выданне, якое з'явілася ў Маскве і Варшаве. Няма ў спісе ніводнай згадкі пра зборнікі дакументаў на польскай ці літоўскай мовах. Абраныя такім чынам крыніцы падштурхоўваюць аўтара да аднабаковага разгляду апісваных падзей. Наўмысны беларусацэнтрызм крыніцазнаўчай базы несумненна адбіўся і на беларусацэнтрычным змесце разглядaнага выдання.

Падобным чынам выглядае і спіс літаратуры па пытаннях знешняй палітыкі і дыпламатыі на беларускіх землях у перыяд з X ст. да 1991 г. З 46 пазіцый у бібліяграфіі толькі дзве кнігі выйшлі за межамі Беларусі і СССР: Д. Міхалюк (Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości. Toruń, 2010) і Н. П. Вакара (Belorussia. The Making of a Nation. Cambrige, Massachusetts, 1956). У спісе літаратуры адсутнічаюць элементарныя польскамоўныя выданні па гісторыі ВКЛ, Рэчы Паспалітай Абодвух народаў, паўночна-ўсходніх ваяводстваў, што ўваходзілі ў склад Польскай рэспублікі ў міжваенны перыяд (Заходняя Беларусь). Не згадваюцца працы такіх даследчыкаў, як Ю. Бардах, Г. Блашчак, Е. Ахманьскі, А. Рахуба, Я. Сабчак, А. Е. Закшэўскі.

Аўтар, які даследуе беларускі нацыянальны рух, яго праекты і дзейнасць у дыпламатычнай сферы, павінен быў змясціць у спісе літаратуры наступныя працы: Chojnowski A. Koncepcje polityki narodowościowej rządów

polskich w latach 1921–1939 (Ossolineum, 1979), Gierowska-Kałłaur J. Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (19 lutego 1919 – 9 września 1920) (Warszawa, 2003), Paruch W. Od konsolidacji państwowej do konsolidacji narodowej. Mniejszości narodowe w myśli politycznej obozu piłsudczykowskiego (1926–1939) (Lublin, 1997), Śleszyński W. Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (Warszawa, 2007).

Асобна У. Снапкоўскі змясціў бібліяграфію, якая датычыцца знешняй палітыкі сучаснай Рэспублікі Беларусь: 21 выданне, з якіх 5 прац на польскай мове і адна на англійскай.

Несумненны плюс дапаможніка – яго "агульны", дакладней, абагульняльны характар, без чаго было немагчыма абысціся пры разглядзе тысячагадовага перыяду беларускай дзяржаўнасці. Праблематыка знешняй палітыкі і дыпламатыі паказана ад пачатку існавання дзяржаўных утварэнняў на беларускіх землях да моманту абвяшчэння ў 1991 г. незалежнай Рэспублікі Беларусь. Але гэта аўтарскае дасягненне часамі ператвараецца ў слабы бок працы. Аўтар шукае беларускую знешнюю палітыку там, дзе яе не было і быць не магло. Аснова правядзення самастойнай знешняй палітыкі – існаванне дзяржавы. Першай беларускай дзяржавай была Беларуская Народная Рэспубліка (1918–1920). У. Снапкоўскі добра ўсведамляе гэтую метадалагічную праблему. Прадметам даследавання ён вызначае знешнепалітычную дзейнасць беларускіх дзяржаў і дзяржаўных утварэнняў, нават тады, калі незалежнай беларускай дзяржавы яшчэ не існавала. Больш за тое, аўтар звяртае ўвагу і на такі аспект у знешняй палітыцы, як механізм функцыянавання беларускай дзяржаўнасці ў кантэксце адносінаў "цэнтр – перыферыя" (ВКЛ – Рэч Паспалітая, БССР – СССР). У сферы інтарэсаў У. Снапкоўскага апынуліся і знешнепалітычныя праекты беларускага нацыянальнага руху ў XIX–XX ст.

Пачатак знешняй палітыкі і дыпламатыі Беларусі аўтар бачыць ужо ў X ст. у Полацкім княстве – першым дзяржаўным утварэнні на беларускіх землях. Полацк у кнізе паказаны як першае княства, якое, знаходзячыся

ў складзе Кіеўскай Русі, змагло выйсці з-пад уплыву Кіева. Сама ж палітыка Полацкага княства функцыянавала ў трыкутніку "Кіеў – Полацк – Ноўгарад".

Іншай формай беларускай дзяржаўнасці на літоўска-беларускіх землях было Тураўскае княства, якое функцыянавала паміж Бугам і Прыпяццю. Яно знаходзілася на гандлёвым шляху, які ішоў з Кіева да Польшчы і далей на захад Еўропы. Тураўскае княства вяло сваю знешнюю палітыку з суседняй Польшчай, крыжаносцамі, балтыйскімі плямёнамі, а таксама з далёкай Візантыяй і мусульманскім Усходам.

Прынящце хрысціянства па ўсходнім узоры прывяло да таго, што Полацкае і Тураўскае княствы апынуліся ў сферы палітычнага, культурнага і рэлігійнага ўплыву праваслаўя. Такім чынам пазней "беларускія дзяржаўныя ўтварэнні" сталі схіляцца да Візантыі, а потым да Масквы.

Снапкоўскі сцвярджае, што старажытнабеларускія княствы пазбеглі знішчальных набегаў татар. ВКЛ паўстала як сумесная ініцыятыва Літвы і старажытнабеларускіх княстваў, якія аб'ядналі свае сілы супраць пагрозы крыжаносцаў Літве і татарскай пагрозы беларускім княствам. Гэтае сцверджанне супярэчыць пашыранаму ў польскай гістарыяграфіі меркаванню аб заваяванні аслабленых татарскімі набегамі і міжусобіцамі рускіх княстваў літоўскімі ўладарамі. Падобным чынам асвятляе гэтае пытанне і літоўская гістарыяграфія.

Вялікае Княства Літоўскае – літоўска-беларуская дзяржава – павінна было стаць славянска-літоўскім саюзам супраць, з аднаго боку, татарскай пагрозы, а з другога – небяспекі з боку Ордэна. Ваенна-палітычны саюз фактычна быў адказам на тагачасную міжнародную сітуацыю.

Значную ролю ў павелічэнні тэрыторыі ВКЛ выканаў Гедымін. Ён пашырыў межы сваёй дзяржавы на поўдні і ўсходзе, уключыўшы рускія землі, Падляшша і Валынь. Знешняя палітыка, якую ён праводзіў, фактычна была балансаваннем, з аднаго боку, у трыкутніку "Залатая Арда – Польшча – Масква", а з другога – паміж

каталіцтвам і праваслаўем. Пад час праўлення Альгерда ў склад ВКЛ увайшлі былыя землі Кіеўскай Русі, аслабленай татарскімі набегамі і феадальнай раздробленасцю.

Падпісанне ў 1385 г. Крэўскай уніі стала пачаткам асабіста-дынастычнай уніі, якая дапаўняла ваенна-палітычны саюз ВКЛ і Польскага Каралеўства. Польска-літоўская кааліцыя прывяла да разгрому крыжаносцаў. Вітаўт узмацніў свае пазіцыі ў Літве, але карону так і не атрымаў.

Аўтар паказвае галоўныя напрамкі знешняй палітыкі ВКЛ у перыяд з другой паловы XV да першай паловы XVI ст. Ён звяртае ўвагу на адносіны з Масквой, крыжаносцамі, Крымскім ханствам, дзяржавамі Заходняй Еўропы. Аналізуючы адносіны з Польшчай, У. Снапкоўскі адзначае ўмацаванне палітычнага саюзу дзвюх дзяржаў.

Перыяд, які пачаўся пасля падпісання Люблінскай уніі 1569 г., паказаны ў выданні як час барацьбы ВКЛ за незалежнасць ад Польскага Каралеўства. Аўтаномія ВКЛ на міжнароднай арэне, розніца знешнепалітычных інтарэсаў паміж Княствам і Каралеўствам вельмі часта і выразна падкрэсліваецца аўтарам даследавання. Вялікая роля ў справе абароны незалежнасці ВКЛ на мяжы XVI–XVII ст. адводзіцца віленскаму ваяводу, канцлеру і гетману вялікаму літоўскаму Льву Сапегу.

У працы паказаны войны Рэчы Паспалітай са Швецыяй, Расіяй, Турцыяй і казакамі Б. Хмяльніцкага ў XVII ст.; адзначаецца, што яны вялі да падзення сумеснай дзяржавы. Рэч Паспалітая Абодвух народаў пераўтварылася ў той час у Польскую Рэч Паспалітую, а ВКЛ стала яе правінцыяй. У працы вельмі дакладна апісаны механізм гэтай уніфікацыі федэратыўнай дзяржавы.

Пасля падпісання Люблінскай уніі ў Рэчы Паспалітай узнік новы сацыяльны пласт – “польскі шляхецкі народ”. Яго аб’ядноўвалі сумесныя прывілеі і правы, сумесная палітычная ідэалогія, каталіцкае веравызнанне і польская мова. Па меркаванні У. Снапкоўскага, падзел грамадства ВКЛ па сацыяльнай, этнічнай і рэлігійнай прыкметах стаў адной з прычын, якія вялі да аслаблення гэтай дзяржавы і яе пазіцый у польска-ліцвінскім федэратыўным саюзе, які рухаўся ў кірунку ўніфікацыі. Падзелы

Рэчы Паспалітаў ацэньваюцца ў кнізе як ліквідацыя польскай і беларуска-літоўскай дзяржаўнасці.

1772–1917 гады – перыяд, калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі. Аўтар аналізуе ўнутраную і знешнюю палітыку Расіі ў гэты час, царскую палітыку русіфікацыі беларускага і польскага насельніцтва, адзначае інтэграцыю беларускіх земляў у Расійскую імперыю, паказвае значнасць удзелу беларускага насельніцтва ў паўстанні 1863–1864 г.

У другой палове XIX ст. зарадзіўся беларускі нацыянальны рух са сваім бачаннем незалежнай беларускай дзяржавы, якое рэалізавалася ў выглядзе Беларускай Народнай Рэспублікі.

Аўтар працы сцвярджае, што Беларуская Народная Рэспубліка была першай гістарычнай спробай аднаўлення беларускай дзяржавы ў XX ст. Абвешчаная 25 сакавіка 1918 г. БНР фактычна стала першай беларускай дзяржавай, якая магла праводзіць знешнюю палітыку. Галоўнай задачай дыпламатыі БНР было атрыманне міжнароднага прызнання для беларускай дзяржавы і яе межаў. Аднак вялікіх поспехаў у знешняй палітыцы не было. БНР аказалася палітычна эфемерным утварэннем.

Прычыны дыпламатычнай слабасці БНР аўтар бачыць ў адсутнасці вопыту і ўменняў у яе дзеячаў. Такая выснова, несумненна, правільная. Праблема бачыцца яшчэ і ў агульнай слабасці новай дзяржавы, якая ў тагачасных умовах не магла мілітарна супрацьстаяць больш моцным суседзям.

Стварэнне маскоўскімі ўладамі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аўтар лічыць праявай знешняй палітыкі Савецкай Расіі, якая імкнулася на сваіх заходніх межах стварыць з савецкіх рэспублік буферную зону, што аддзяляла б яе ад капіталістычнага Захаду. Такая інтэрпрэтацыя падаецца нам не найлепшай. Існаванне асобных савецкіх рэспублік было хутчэй пытаннем унутранай палітыкі, чым праявай трактавання іх Масквой у якасці самастойных дзяржаўных суб’ектаў. Моцна цэнтралізаваная ўлада ў Савецкай Расіі была рэальнай палітыкай у дачыненні да дэкларацый аб

самавызначэнні і самастойнасці асобных рэспублік. Ідэалагічная праграма “самавызначэння народаў” была толькі праграмным варыянтам, які хаваў гэтую ўладу і ўплыў Масквы.

Ужо ў студзені 1919 г. Цэнтральны камітэт Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) – ЦК РКП(б) – вылучыў са складу БССР Віцебскую, Смаленскую і Магілёўскую губерні, якія ўключыў у склад Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі (РСФСР). На астатніх беларускіх землях пасля іх аб’яднання з Літвой узнікла Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (Літбел). Пасля распаду Літбела маскоўскія ўлады падтрымалі ўзніклую Літоўскую рэспубліку. 31 ліпеня 1920 г. зноў была абвешчана незалежнасць БССР. Гэтыя факты пацвярджаюць, што незалежнасць БССР была толькі тэарэтычнай.

Перыяд 1919–1923 г. Снапкоўскі лічыць першым этапам правядзення міжнароднай дзейнасці БССР у адносінах з дзвюма суседкамі: Польшчай і РСФСР. Функцыянаванне беларускай дыпламатыі ён разглядае ў складанай сітуацыі польска-савецкай вайны і фармавання межаў новых дзяржаў. Бачанне ў гэты час дыпламатычнай самастойнасці БССР, на наш погляд, выглядае перабольшваннем. Нягледзячы на тое, што Польшча фармальна прызнала незалежнасць БССР, у дыпламатычных адносінах з усходнім суседам партнёрам Варшавы часцей выступала Масква, чым Мінск.

Узнікненне СССР азначала ўзмацненне цэнтралізацыі ў правядзенні знешняй палітыкі. Пасля 1923 г. знікла нават бачнасць дыпламатычнай самастойнасці. Сама незалежнасць БССР мела фармальны і дэкларатыўны характар.

Уступленне Чырвонай арміі 17 верасня 1939 г. на паўночна-ўсходнюю тэрыторыю Польскай Рэспублікі і далучэнне яе да БССР аўтар называе “гістарычнай справядлівасцю для беларускага народа”. Выкарыстанне маральных і ідэалагічных аргументаў для апраўдання імперскай палітыкі СССР, які праз далучэнне Заходняй Беларусі да БССР парушыў усе міжнародныя дамоўленасці,

калі напаў на Польшчу, што вяла вайну з гітлераўскай Германіяй, падаецца метадалагічна неапраўданым. А тут асуджаецца імперская палітыка І. Сталіна ў дачыненні да Польшчы і адначасова ўсхваляецца далучэнне паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польскай рэспублікі (Заходняй Беларусі) да БССР.

Можна ў значнай ступені зразумець такую двухсэнсоўную пазіцыю аўтара, які ў навучальным дапаможніку, рэкамендаваным для студэнтаў, што вывучаюць міжнародныя адносіны, і які, дарэчы, мае грыф „Класічнае ўніверсітэцкае выданне", вымушаны лічыцца з афіцыйнымі падыходамі сучаснай беларускай гістарыяграфіі ў такім лёсавызначальным для гістарычнай палітыкі пытанні, як "уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР". У сваіх высновах ён, аднак, імкнучыся вытрымаць аб'ектыўнасць і пачуццё гістарычнай праўды, падкрэслівае разам з тым, што акт аб'яднання быў здзейснены сродкамі імперскай палітыкі, стаў вынікам змовы дыктатарскіх рэжымаў Сталіна і Гітлера.

Радасць уз'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі была азмрочана перадачай на падставе савецка-літоўскай дамовы ад 10 кастрычніка 1939 г. Віленшчыны разам з Вільняй Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Гэтыя землі беларускі нацыянальны рух лічыў і лічыць спрадвечна беларускімі. Вось ён, кошт, які БССР заплаціла за далучэнне Літвы да СССР. Гэтае рашэнне Сталіна яскрава паказвае інструментальнае трактаванне БССР у межах СССР.

Другая сусветная вайна скончылася вызваленнем беларускіх земляў з-пад нямецкай акупацыі. Пасля гэтага адбылася яшчэ большая інтэграцыя БССР у СССР. Краіна не магла выконваць істотную ролю ў моцна цэнтралізаванай дзяржаве Сталіна. У 1945 г. БССР увайшла у склад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ААН). Аднак гэта быў хутчэй тактычны крок Сталіна з мэтай павышэння імперскага значэння СССР, чым фактычнае ўзмацненне ролі БССР на міжнароднай арэне.

У 1991 г. Рэспубліка Беларусь абвясціла незалежнасць. Як паўнапраўны суб'ект міжнароднага права яна выйшла

на міжнародную арэну. У хуткім часе новая дзяржава набыла прызнанне і наладзіла дыпламатычныя адносіны з большасцю краін свету. Беларусь атрымала новы статус у ААН, відавочна, больш рэальны, чым папярэдні. Яна стала першай краінай, якая, маючы ядзерную зброю, добраахвотна адмовілася ад статусу ядзернай дзяржавы.

Да сярэдзіны 1994 г. знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь вызначалася Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў. Пасля рэферэндуму 1996 г. яе галоўныя вектары рэалізуе прэзідэнт. Адпаведна з Канстытуцыяй прэзідэнт адказвае за знешнюю палітыку, прадстаўляе Беларусь у адносінах з іншымі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі, вядзе перамовы, ратыфікуе міжнародныя пагадненні (дамовы), прызначае і адклікае дыпламатаў і амбасадараў. Установай, якая ажыццяўляе ўказанні прэзідэнта ў правядзенні знешняй палітыкі, выступае Міністэрства замежных спраў (МЗС).

У кнізе У. Снапкоўскі адзначыў праблему, з якой сутыкнулася Рэспубліка Беларусь у 1991 г.: дылема “стратэгічнага выбару” паміж Усходам (Расіяй) і Захадам (Еўрапейскі Саюз). Адзін з варыянтаў яе вырашэння – канцэпцыя “роўнай набліжанасці”. Захаванне раўнавагі паміж Усходам і Захадам адлюстроўвае сутнасць такой палітыкі. Гэта дазваляе аптымальна выкарыстоўваць як геапалітычнае становішча Беларусі ў міжнародным транзіце, так і гаспадарчы патэнцыял краіны. Значна лепш стратэгія “роўнай набліжанасці” была рэалізавана ў адносінах з Расіяй, у той час як з Захадам увесь час узнікаюць перашкоды і цяжкасці.

Аўтар згадвае прыярытэты прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі ад 1995 г., якія датычацца знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь: узмацненне нацыянальнага суверэнітэту, больш цеснае супрацоўніцтва з краінамі СНД пры паглыбленні сувязяў з Расіяй, развіццё адносінаў з заходнімі краінамі, у тым ліку з дзяржавамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, стварэнне карысных умоў для супрацоўніцтва з міжнароднымі арганізацыямі.

Акрамя гэтых заяў, галоўным прыярытэтам знешняй палітыкі выступае Расія. У працы паказаны этапы

палітычнай, эканамічнай і ваеннай інтэграцыі з гэтай краінай. 21 лютага 1995 г. была падпісана Дамова аб сяброўстве, добрасуседстве і супрацоўніцтве, а 8 снежня 1999 г. прэзідэнты Беларусі і Расіі падпісалі ў Маскве Дамову аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Гэты дакумент стаў асновай для стварэння 26 студзеня 2000 г. Саюза Беларусі і Расіі, які ў перспектыве павінен прывесці да гаспадарчай і валютнай інтэграцыі абедзвюх краін.

Вялікае значэнне ў беларуска-расійскіх адносінах надаецца ваенна-палітычнаму супрацоўніцтву. Абедзве краіны падпісалі дамову аб ваенным супрацоўніцтве, пагадненне аб рэгіянальнай бяспецы, зацвердзілі канцэпцыю сумеснай абарончай палітыкі.

У кнізе аўтар паказаў адносіны Рэспублікі Беларусь з СНД, суседнімі краінамі, Еўрапейскім Саюзам і ЗША, а таксама шматвектарную палітыку Беларусі (з нееўрапейскімі краінамі). Асобны пункт прысвечаны разгляду ролі Рэспублікі Беларусь у ААН і ўдзелу ў іншых міжнародных арганізацыях.

Нягледзячы на крытычныя заўвагі, варта адзначыць, што праца Уладзіміра Снапкоўскага з’яўляецца вельмі каштоўнай. Яна выступае важным голасам у гістарычным дыскурсе па пытанні дыпламатыі і знешняй палітыкі еўрапейскіх краін. Праца мае наватарскі характар. У ёй раскрываюцца новыя тэндэнцыі ў беларускай гістарыяграфіі. Галоўная заслуга выдання – глыбокі і дэталёвы навуковы аналіз. Праблема знешняй палітыкі Беларусі прадстаўлена аўтарам на фоне грамадскіх, палітычных, нацыянальных, рэлігійных, прававых і гаспадарчых працэсаў. Асабліва падрабязна і цікава ў кнізе адлюстраваны пытанні знешняй палітыкі і дыпламатыі Вялікага Княства Літоўскага. Кнігу можна лічыць прыкладам таго, як у складаных умовах працы гісторыка ў Беларусі можна ствараць сур’ёзную навучальную літаратуру па гістарычнай тэматыцы, у тым ліку па гісторыі міжнародных адносін і знешняй палітыкі Беларусі.

Беласток *Анджэй Смалярчык*

## ХАЯСАКА, МАКОТА. Літва. Уплыў гістарычнай традыцыі на фармаванне нацый. "Краёвая ідэя" з перспектывы сучаснасці. Токіа, 2017. 428, 112 с. (на японскай мове).

Імя японскага прафесара Макоты Хаясакі (Makoto Hayasaka) досыць вядомае ў славістычных колах. Нарадзіўся Хаясака 19 лістапада 1948 г. у горадзе Сапара. Пасля заканчэння тамтэйшага ўніверсітэта ў 1975 г. праходзіў навуковую стажыроўку ў Польшчы (пераважна ў Варшаве і Кракаве; 1975–1979). Ужо тады ён наведаў Падляшша – памежны рэгіён, дзе побач жывуць палякі, беларусы і ўкраінцы, рэгіён, які захаваў свой стракаты культурны ландшафт. У 1983 г. атрымаў у сваёй "альма матэр" навуковую ступень (Ph.D) і стаў выкладаць ва ўніверсітэце Ібаракі (ад'юнкт, дацэнт, прафесар; 1983–1996). З 1997 г. і да сёння працуе прафесарам тэхналагічнага інстытута ў Токіа, у гэты перыяд стажыраваўся ў Расіі (1992–1993), Польшчы (1993), Літве (1996–1998). Быў і ва Украіне ў 1992 г. (Кіеў, Днепрапятроўск, Львоў). Свабодна валодае польскай і рускай мовамі, чытае і разумее па-беларуску і па-ўкраінску. Спачатку займаўся праблемамі паланістыкі (у прыватнасці, дзейнасць Міхала Чайкоўскага – Садык-пашы), потым русістыкі (гісторыя стараверaў), а пазней усё больш увагі стаў аддаваць украіністыцы і беларусістыцы. Так, у 1994 г. выдаў у Токіа манаграфію "Украіна. Як адбудаваць сваю айчынную гісторыю", якая была заўважана спецыялістамі і атрымала станоўчыя водгукі. Кола асноўных інтарэсаў навукоўца – усходняе і заходняе славянства ў XIX–XX ст. У 1999 г. у Токіа выйшла чарговая манаграфія Хаясакі "Адна з крыніц ідэі рэвалюцыйнай дыктатуры: расійскае якабінства і польскае пытанне". Вялікую цікавасць украіністаў і беларусістаў выклікала кніга вучонага "Беларусь. Гісторыя Памежжа: разважанні над мінулым Беларусі" (Токіа, 2013, больш за 450 с.), на якую мы адгукнуліся станоўчай рэцэнзіяй[1]. Ця-

[1] Мицик Ю. Нове дослідження японського славіста // Український археографічний щорічник. Вип. 18. Київ, 2013. С. 731–734.

пер жа ён выдаў новае фундаментальнае даследаванне – рэцэнзаваную манаграфію «Літва. Уплыў гістарычнай традыцыі на фармаванне нацый. “Краёвая ідэя” з перспектывы сучаснасці”.

Гэтая кніга, як і іншыя манаграфіі Хаясакі, выдадзена на японскай мове, таму мы не можам даць тут іх шырокі агляд, бо не валодаем японскай (як, дарэчы, амаль усе славісты). Але зыходзячы з разгорнутага аўтарскага рэзюмэ на беларускай, польскай, літоўскай мовах (рэзюмэ на беларускую мову перакладзена Аляксандрам Смаленчуком), з фундаментальных спасылак, а таксама з асабістага знаёмства з аўтарам (з 1978 г.), можна скласці анатацыю гэтага важнага выдання, каб зацікаўленыя маглі даведацца пра кнігу, а пры неабходнасці і скарыстацца арыгіналам.

Ва ўводзінах гаворка ідзе пра ўзнікненне ў канцы XIX ст. і развіццё канцэпцыі агульнасці нацый канкрэтнага рэгіёну, прааналізаваны ідэі такіх мысляроў, як Э. Рэнан (Францыя), Г. Елінек (Германія), Т. Урублеўскі (Польшча), В. Ліпінскі (Украіна) і інш.

У першым раздзеле “Гісторыкі на памежжы” разглядаюцца працы М. Ромера, а таксама публіцыстыка М. Ромера і Л. Абрамовіча на старонках “Газеты Віленьскай” і “Пшэглёнду Віленьскага”, гістарычна-паліталагічныя працы Віктара Сукенніцкага, які ўважліва аналізаваў падзеі той часткі Еўропы ў перыяд ад Першай сусветнай вайны да ўзнікнення “Салідарнасці” ў Польшчы, а яго вучнямі і паслядоўнікамі сталі Чэслаў Мілаш і Юліуш Бардах, у навуковай і літаратурнай дзейнасці якіх “краёвая ідэя” зрабілася стрыжнёвай. Менавіта Бардах – даследчык гісторыі Вялікага Княства Літоўскага – стаў піянерам даследавання “краёвай ідэі”, а вакол яго аб’ядналіся шматлікія гісторыкі з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай (Польшча, Літва, Беларусь, Украіна), што шукалі ўмовы для разумення і стварэння новай супольнасці народаў, і іх мысленне ўжо кардынальна адрознівалася ад мыслення камуністычнага тыпу.

Раздзел II мае назву “Паміж гістарычнай Літвой і Паўночна-Заходнім краем пад панаваннем Расійскай

імперыі”. Тут аналізуецца працэс распаду “гістарычнай Літвы”, спробы яе адраджэння ў перыяд ад Венскага кангрэса 1815 г. да Версальскага міру 1919 г. і ператварэння яе ў “этнаграфічную Літву”, што было вынікам узнікнення магутнага нацыянальнага руху сярод літоўцаў, а часткова і беларусаў. Адпаведныя змены зазнала і нацыянальная філасофія: ад асветніцкага паняцця нацыі праз месіянізм і манархічныя і рэспубліканскія канцэпцыі рамантыкаў да ідэі інтэгральнага нацыяналізму тыпу “ідэі сучаснага паляка”, агучанай Раманам Дмоўскім. Гэта адбывалася на фоне палітыкі германізацыі (Нямеччына) і русіфікацыі (Расія), якая асабліва ўзмацнілася пасля польскага паўстання 1863 г. і паскорыла заняпад шляхты. Парадаксальна, але палітыка русіфікацыі спрыяла абуджэнню этнічнай свядомасці літоўцаў і беларусаў, што засведчыў, у прыватнасці, і перапіс насельніцтва 1916 г., праведзены ў Нямеччыне. Мясцовае насельніцтва часта вызначала сябе “тутэйшым”, што між іншым давала шанец да ўласнага сацыяльнага авансу і пераўтварэння ў шляхту. Варта адзначыць, што погляды дзеячоў “гістарычнай Літвы” (Б. Ліманоўскі, Ё. Шлюпас, Ё. Басанавічус і інш.) значна адрозніваліся, але па сутнасці праблемы былі ідэнтычнымі. Адчуваліся ўплывы варшаўскага пазітывізму і рускага народніцтва, якія папулярызавалі ідэю дэмакратызацыі мясцовай супольнасці. З іншага боку, выяўляўся ўплыў ідэі “нацыянальнага эгаізму” Рамана Дмоўскага, развітай у яго кнізе “Myśli nowoczesnego Polaka”, якая спрычынілася да фармавання мясцовага польскага нацыянальнага руху. Варта падкрэсліць, што краёўцы ў цэлым былі далёкія ад нацыяналістычных тэндэнцый. Няма сумневу ў тым, што эндэцкі інтэгральны нацыяналізм Дмоўскага нарадзіўся пад уплывам унутранай палітыкі аб’яднанай Нямеччыны і Расійскай імперыі. Супрацьлегласць нацыянальнаму эгаізму ўвасаблялі прыхільнікі “краёвай ідэі”, якія ў 1905 г. выступілі пад лозунгам яднання народаў. Хоць Ромер і Абрамовіч не згаджаліся з ідэяй спалучэння “тутэйшасці” з “краёвай ідэяй”, аднак верылі ў перспектыву аднаўлення “гістарычнай Літвы”. Сучасная беларуская навука разглядае “краёвую ідэю” адным са спосабаў

ідэалізацыі дзяржавы, называючы яе "ліцвінскай ідэяй", роўнай дактрыне "заходнерусізму". Зыходзячы з гэтага беларускія гісторыкі стварылі вобраз дзяржавы, які нагадвае сучасную Рэспубліку Беларусь. "Краёвая ідэя" стала зыходным пунктам для шматлікіх дыскусій і розных інтэрпрэтацый.

У III раздзеле ("Адраджэнне літоўскага народа і Міхал Ромер") даецца кароткая біяграфія М. Ромера, аналізуюцца яго галоўныя працы "Stosunki etnograficzne na Litwie" (Кракаў, 1906), "Litwa. Odrodzenie narodu litewskiego" (Львоў, 1908), якія і сёння не страцілі навуковага значэння, а таксама погляды літоўскіх клерыкалаў, дыскусія паміж прыхільнікамі "этнаграфічнай" і "гістарычнай" Літвы.

Раздзелы III, IV і V (адпаведна «"Aušra" і заслуга Ёнаса Басанавічуса», "Рост літоўскага нацыянальнага руху ў час рэвалюцыі 1905 г.", "Партрэты палітычных дзеячоў і мысляроў гістарычнай Літвы") прысвечаны літоўскаму нацыянальнаму руху і ролі ў ім вядучых літоўскіх палітыкаў (Ё. Басанавічус, Ю. Гэрбачэўскі, О. Мілаш, І. Мілеўскі і інш.), працэсу стварэння і дзейнасці літоўскіх палітычных партый, іх узаемаадносінам з царскім урадам, развіццю "мітынговага руху", працы Вялікага Сейма ў Вільні, становішчу літоўскага нацыянальнага руху ў гады рэакцыі. У прыватнасці, характарызуецца дзейнасць Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі, заснаванай у 1905 г. арцыбіскупам Эдвардам фон Ропам, якая прызнавала магчымасць абрання мовы дадатковага набажэнства і тым самым спрыяла нацыянальнаму адраджэнню беларусаў.

У VI раздзеле "Пачаткі дзейнасці краёўцаў" аналізуюцца час рэвалюцыі 1905–1907 г. і роля дэмакратычнага выдання "Gazeta Wileńska", палітычная дзейнасць М. Ромера, удзел "краёўцаў" у выбарах у Дзяржаўную Думу Расійскай імперыі. Асаблівую ўвагу прыцягваюць падраздзелы, прысвечаныя Сялянскаму саюзу ў Мінску, "Краёвай партыі Літвы і Беларусі", дзейнасці Рамана і Канстанцыі Скірмунт, у тым ліку барацьбе супраць агрэсіі эндэкаў, ідэалізацыі беларускасці ў канцэпцыі Рамана Скірмунта, пазіцыі М. Ромера ў дачыненні да беларускага

нацыянальнага руху. Аддаецца ўвага таксама каталіцкай публіцыстыцы Канстанцыі Скірмунт, яе спрыянню "Беларусі", адмаўленню ёю тэрміна "крэсы", паколькі гэты тэрмін быў праявай дыскрымінацыі народаў, асабліва ў перыяд ІІ Рэчы Паспалітай. Цікавасць выклікае падраздзел пра дзейнасць масонскіх ложаў у гады Першай сусветнай вайны (гаворка пра гэта ідзе і ў VIII раздзеле), а таксама пра заняпад краёвай ідэі напярэдадні Другой сусветнай вайны.

Раздзел VII "Гуманітарызм адваката Тадэвуша Урублеўскага" звязаны з папярэднім. Тут разглядаецца біяграфія, погляды і дзейнасць Урублеўскага, асабліва ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 г., сталыпінскай рэформы. Асобны падраздзел прысвечаны нацыянальнаму самавызначэнню ў канцэпцыі Урублеўскага, праблеме земства ў Літве і Беларусі, абароне правоў беларусаў, якія дыскрымінаваліся польскім урадам.

Раздзел VIII "Выбух Першай сусветнай вайны і яе наступствы" асвятляе перш за ўсё перыяд нямецкай акупацыі, дзейнасць Віленска-Ковенскай камісіі, нямецкай акупацыйнай камісіі "Ober-Öst", нямецкі перапіс 1916 г., мемарыял Ромера "Litwa wobec Wojny" (1915), у якім аналізавалася становішча палякаў, літоўцаў, беларусаў і яўрэяў на тэрыторыі гістарычнай Літвы. У канцы аналізуецца працэс нараджэння новых дзяржаў на абломках Расійскай імперыі.

У раздзеле IX "Віленская справа" разглядаюцца польска-літоўскія адносіны пасля Першай сусветнай вайны (Тарыба, абвяшчэнне незалежнасці Літвы, заключэнне літоўска-польскага міру 12.07.1920 г., бунт Л. Жалігоўскага і ўтварэнне Сярэдняй Літвы), польска-савецкая вайна і Рыжскі мір, Ліга Нацый і спроба вырашыць літоўскае пытанне, праект прэзідэнта П. Гіманса, інкарпарацыя Віленшчыны ў Польшчу, "вайна не вайна" Польшчы і Літвы, пачатак Другой сусветнай вайны і далучэнне Віленшчыны да Літвы, "пакт Молатава – Рыбентропа" і анексія Літвы СССР.

Апошні сюжэт ёсць таксама ў раздзеле X "Вяртанне ў Еўропу". Тут галоўная ўвага аддаецца поглядам

і дзейнасці Ежы Гедройца (рэдактара парыжскай "Культуры") і Чэслава Мілаша (паэта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі). Гэта, як і пазіцыя рымскага папы Яна Паўла ІІ, арцыбіскупа Юргіса Матулайціса, спрыяла пераадоленню старых міжэтнічных канфліктаў, перамозе "Салідарнасці" і "Саюдзіса", аднаўленню незалежнасці Літвы, ліквідацыі камуністычнага рэжыму ў Польшчы, паляпшэнню адносін паміж польскім, літоўскім, беларускім, украінскім народамі. У той жа час расправа савецкіх салдат над мірнымі пратэстоўцамі пад тэлевежай у Вільні паказала імкненне Крамля аднавіць імперыю нават узброенай сілай. Дадамо, што расійская агрэсія супраць Грузіі і Украіны пацвярджае ўзмацненне рэваншысцкіх памкненняў Крамля. У апошнім раздзеле разглядаецца ідэалагізацыя ідэі ў яе развіцці ад "тутэйшасці" да "краёвасці" як выражэння дэмакратызацыі грамадства, ідэі "ліцвінства" як выражэння гістарычнай свядомасці беларусаў. На думку аўтара, ідэя "краёвасці" прывяла Польшчу і Літву ў Еўрапейскі Саюз, адкрыла такую ж перспектыву для Украіны і Беларусі, значна паменшыла напружанне ў міжнацыянальных адносінах народаў рэгіёну.

Напрыканцы змешчаны заўвагі, паказальнік крыніц і літаратуры, спіс скарачэнняў. Кніга ўключае ў сябе шмат фотаздымкаў, малюнкаў, карт, як унутры тэксту, так і ў дадатках, дае цікавы матэрыял не толькі навукоўцам, але і шараговаму чытачу.

Такім чынам, у чарговай манаграфіі японскага прафесара разглядаюцца вельмі важныя і актуальныя праблемы Усходне-Цэнтральнай Еўропы, у прыватнасці Беларусі.

Кіеў *Юрый Мыцык*

# Spatial concepts of Lithuania in the long Nineteenth Century / ed. by DARIUS STALIUNAS. Boston: Academic Studies Press, 2016. VI + 471 pp.

Акадэмічныя дыскусіі пра прастору, тэрытарыяльнасць, межы рэгіёнаў і "нацыянальны абшар", "тэрыторыі" і іх "нацыяналізацыю" ў гістарыяграфіі не спыняюцца. Яны хутчэй дапаўняюцца новымі падыходамі, даследаваннямі і матэрыяламі. Натуральна, не абмінаюць гэтыя дыскусіі і Усходне-Цэнтральную Еўропу з яе складанай спадчынай тэрытарыяльных канфліктаў і супярэчнасцяў[1]. Сведчанне гэтага – апублікаваны бостанскім выдавецтвам "Academic Studies Press" зборнік даследаванняў "Прасторавыя канцэпцыі Літвы ў доўгім дзевятнаццатым стагоддзі" пад агульнай рэдакцыяй Даруса Сталюнаса, намесніка дырэктара Інстытута гісторыі Літоўскай акадэміі навук. Зборнік – частка серыі "Літоўскія даследаванні без межаў".

Уражвае высокі акадэмічны ўзровень і ўзважанасць гэтага зборніка, у якім кожнае з даследаванняў дэманструе вельмі насычаную і ўсебаковую карціну фармавання прасторавых вобразаў Літвы ў сувязі з інтэлектуальным, сацыяльным, культурным і палітычным кантэкстамі. Усяго ў кнізе 7 раздзелаў, кожны з якіх прысвечаны аналізу прасторавых канцэпцый Літвы ў расійскім імперскім, польскамоўным літоўскім, літоўскім літоўскамоўным, польскім, беларускім, яўрэйскім і нямецкім дыскурсах у перыяд ад 1795 г. (апошні падзел Рэчы Паспалітай) да 1914 г. (пачатак Першай сусветнай вайны). Аўтары пры неабходнасці звяртаюцца да ранейшых перыядаў гісторыі для больш поўнага асвятлення тэматыкі сваіх раздзелаў, аднак толькі ў тых выпадках, калі зразумела, што канцэпцыі прасторы XIX ст. склаліся раней (3–4).

Дарус Сталюнас выступае не толькі рэдактарам тома, але і аўтарам ці суаўтарам чатырох з сямі раздзелаў.

[1] Johnson L. R. Central Europe: Enemies, Neighbors, Friends. New York – Oxford, 1996.

Таксама трое (Дарус Сталюнас, Вольга Масцяніца, Зіта Медзішаўскене) з пяці аўтараў зборніка – супрацоўнікі Інстытута гісторыі Літоўскай акадэміі навук.

Гэтая калектыўная праца вельмі важная і цікавая для беларускіх даследчыкаў. Зборнік можна назваць узорам таго, якой сёння павінна быць навуковая манаграфія. Сама яна абапіраецца ў значнай ступені на навукова-даследчы даробак літоўскіх гісторыкаў апошняй чвэрці стагоддзя.

Разам з тым тэарэтыка-метадалагічную базу для міждысцыплінарнага зборніка, якой прытрымліваюцца ўсе яго аўтары, складаюць "прасторавы" і "тапаграфічныя" павароты ў гуманістыцы, а больш канкрэтна – канцэпцыя прадукавання прасторы французскага марксіста Анры Лефеўра (Henri Lefebvre). Яна тычылася ў першую чаргу ўрбаністыкі, гарадской прасторы і рухаў "права да горада" ў кантэксце таго, што ён разглядаў як "позні капіталізм" 1970-х г. Канцэпцыя ўяўляе сабой тэарэтычную трыяду наступных узаемазвязаных працэсаў:

1) "прасторавую практыку", якая ўключае ў сябе фарманне розных сацыяльных сетак, сацыяльную дзейнасць, а таксама ўзаемадзеянне праз іх, тут жа адбываецца і матэрыяльнае прадукаванне;

2) "рэпрэзентацыю прасторы", якая прадугледжвае стварэнне вобразаў, якія характарызуюць прастору (звычайна гэта розныя дыскурсіўныя практыкі, якія ўключаюць у сябе не толькі пісьмовыя тэксты, але і прасторавае планаванне, карціны, карты);

3) "сімвалічнае стварэнне прасторы", або сімвалічнае вымярэнне прасторы, уяўляе сабой больш агульную ідэю, а адпаведнымі сімваламі могуць быць як прыродныя аб'екты, так і аб'екты, створаныя чалавечымі рукамі (будынкі, помнікі) (5).

Што цікава, спасылак на працы самога Лефеўра ў зборніку няма. Калектыў аўтараў на чале з Дарусам Сталюнасам хутчэй карыстаўся другаснымі працамі, якія аналізавалі і вылучалі прынцыповыя элементы і падыходы ў кантэксце "прасторавага павароту" і даробку французскага марксіста, якія былі неабходнымі для рашэння іх задач. Але гэта зусім не закід на адрас літоўскіх калег ці

недахоп. Наадварот, гэта паказвае, наколькі неабходная падобнага кшталту літаратура, якая ў значнай ступені спрашчае працу даследчыка.

Гэты падыход у тэкстах асобных даследчыкаў дапаўняецца і іншымі, не менш цікавымі канцэпцыямі. Напрыклад, Васіліюс Сафронавас (Vasilijus Safronavas), які аналізуе нямецкі і літоўскі дыскурс адносна прасторы прускай Літвы, ці Малой Літвы (Mažoji Lietuva / Kleinlitauen), згадвае вельмі цікавую канцэпцыю культурнага трансфера француза Мішэля Эспаня (Michel Espagne) (372).

Важнае для тэкстаў зборніка і паняцце “кагнітыўная карта”. У зборніку выкарыстоўваецца азначэнне гэтага тэрміна як суб’ектыўнага адлюстравання асяроддзя вакол нас. Больш сцісла, аднак, азначэнне паняцця падкрэслівае тое, што гэта працэс, які складаецца з серыі псіхалагічных трансфармацый, з дапамогай якіх індывід атрымлівае, кадзіруе, перахоўвае, прыгадвае і дэкадзіруе інфармацыю пра адноснае размяшчэнне і ўласцівасці феномена ў штодзённым прасторавым асяроддзі (7).

З гэтым таксама звязана і такое паняцце, як “геаграфічнае цела” (geo-body), якое апісвае разуменне тэрыторыі ў нацыяналістычным дыскурсе (9–10). Больш складаная сітуацыя тады, калі сустракаюцца нацыяналізмы, што маюць вобраз сваёй уяўнай тэрыторыі, які супадае з межамі імперыі, як было ў выпадку расійскага нацыяналізму ў імперыі Раманавых.

Тэксты зборніка звяртаюцца да пытання таго, ці рэгіён у кантэксце прасторавых практык нацыянальных эліт супадаў з канцэпцыяй нацыянальнай тэрыторыі. Для гэтага розныя дыскурсіўныя практыкі параўноўваюцца з нацыянальнай палітыкай (у выпадку расійскага імперскага кантэксту) (5). Галоўнай мэтай даследавання было не толькі паказаць разнастайнасць канцэпцый Літвы ці іншых прасторавых вобразаў, але і раскрыць прычыну іх фармавання (444).

Афіцыйны імперскі адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел і адміністрацыйна-бюракратычныя практыкі мелі вялікі ўплыў на вобразы нацыянальнай тэрыторыі (geo-images) (120, 101, 118, 131). Тым не менш, напрыклад,

афіцыйная забарона на назву *Літва* не прывяла да яе знікнення як канцэпцыі тэрыторыі і як гістарычнай спадчыны са свядомасці мясцовых эліт.

Наадварот, расійскія імперскія практыкі спрыялі таму, што Гродзенская, Віленская, Ковенская, а часам і Сувалкаўская губерні лічыліся на афіцыйным узроўні літоўскімі на пачатку XX ст. Гэта тлумачыць тое, што ў мемарандуме 1905 г. да расійскага ўрада літоўская інтэлігенцыя ўжывала катэгорыі імперскага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання (202–203). Але гэта быў адзіны такі выпадак, бо, як правіла, іх згадак пазбягалі (445). Імперскія ўлады яўна пераацэньвалі ўплыў на ментальныя карты мясцовых эліт і насельніцтва скасаванага ў 1911 г. інстытута Віленскага генерал-губернатарства. Хоць сам факт таго, што наяўнасць такой адміністрацыйнай адзінкі надавала "Паўночна-Заходняму краю" ці "Заходняму краю" пэўную рэгіянальную ідэнтычнасць, што прывяло да яго ліквідацыі, а самі гэтыя назвы не павінны былі згадвацца ва ўказе аб скасаванні, гэта не дае канчатковай карціны расійскай бюракратычнай логікі ў сэнсе абгрунтавання і стварэння пэўных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (73–74).

Што ж датычыць беларускага нацыянальнага руху, то нацыянальныя актывісты не бачылі нічога дрэннага ва ўжыванні назваў афіцыйных імперскіх адміністрацыйных адзінак (294–295) для вызначэння нацыянальнай тэрыторыі на падставе этналінгвістычнага крытэрыю, які на рубяжы XIX і XX ст. стаў нарматыўным.

Яўрэйскі дыскурс таксама трымаўся ў асноўным афіцыйнага тэрміна "Беларускія губерні", калі гаворка ішла пра "Райсн" (Беларусь) (336). А вось сучасная цэнтральная і заходняя часткі Беларусі на захад ад ракі Бярэзіны вызначаліся ў яўрэйскім дыскурсе як "Літэ" (Літва) (336). Гэта, праўда, істотна дапаўнялася распаўсюджаннем на тэрыторыі рэгіёну "Райсн" уплываў рэлігійнага хасідскага руху Хабад, на што ўказалі Уладзімір Левін (Vladimir Levin) і Дарус Сталюнас (333–335).

Гэта зусім не азначае, як можна пераканацца, чытаючы раздзелы зборніка, што менавіта імперскі дыскурс быў

галоўным для нацыянальных эліт у фармаванні прасторавых канцэпцый Літвы. Да XIX ст. ролю сістэмы каардынатаў, якія спрашчалі камунікацыю, выконвалі водныя бар'еры, галоўным чынам рэкі, а ў Расійскай імперыі пачынаючы з гэтага стагоддзя аналагічную функцыю адыгрывалі межы губерняў і іншых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (445–446).

Імперскі дыскурс і звязаны з ім адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел меў вялікі ўплыў, але толькі да пэўнай ступені. Ён знаходзіўся ў дыялогу з іншымі моцнымі чыннікамі, якія фармавалі вобразы нацыянальных тэрыторый, фармавалі прасторавыя вобразы Літвы сярод беларусаў, літоўцаў, палякаў і яўрэяў. Такімі чыннікамі выступалі культурныя ці нацыянальныя ідыёмы (ідэі эпохі рамантызму, канцэпцыі этнакультурнай ці этналінгвістычнай нацыі і інш.), а таксама спадчына мінулага (444–446). У той жа час такі чыннік, як геаграфічны дэтэрмінізм, прэтэнзіі на “натуральныя межы” выступалі ў выпадках, калі імкнуліся знайсці дадатковыя аргументы, якія дапамаглі б вызначыць нацыянальную тэрыторыю “больш аб'ектыўна” (445). Зрэшты, якраз “прасторавы паварот” у гуманістыцы аспрэчвае “натуральнасць” межаў.

У выпадку ж прускай, ці Малой, Літвы назіралася адначасовае вызначэнне яе межаў паводле этналінгвістычнага крытэрыю пры функцыянаванні адміністрацыйных адзінак, якія выступалі як літоўскія, але не супадалі этналінгвістычнымі межамі. Гэта ўплывала на прасторавы вобраз названага рэгіёну.

Трэба ўсё ж адзначыць, што ў зборніку аналізуецца пытанне “нацыяналізацыі мас” і распаўсюджанне адпаведных прасторавых вобразаў Літвы сярод літоўскамоўнага насельніцтва, а не толькі элітны дыскурс. Вельмі цікавы ў гэтым сэнсе тэкст Зіты Медзішаўскене (Zita Medišauskienė), якая разглядае функцыянаванне тэрытарыяльных вобразаў і іх гістарычнага кантэксту ў зборніках касцельных гімнаў, лемантароў, календароў і брашур у першай палове XIX ст. (152, 155, 157–172), скіраваных на сялянскую аўдыторыю.

Можна пагадзіцца з Дарусам Сталюнасам і Вольгай Масцяніцай у тым, што з'яўленне з цягам часу, а асабліва на пачатку XX ст., у польскім дыскурсе складанага тэрміна "Літва і Беларусь" было сведчаннем усведамлення польскім грамадствам пашырэння беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў (243–244). Аўтары ўдакладняюць, што не ахапілі ўсіх наяўных крыніц па згаданым пытанні, але такую тэзу можна прыняць. Гэта, аднак, павінна стымуляваць даследчыкаў з Беларусі і Літвы да больш глыбокага далейшага вывучэння крыніц па названым пытанні і пашырэння дыскусіі вакол яго.

Цікавасць і неадназначную рэакцыю, асабліва сярод беларускіх чытачоў, можа выклікаць гіпотэза, высунутая Вольгай Масцяніцай у тэксце, прысвечаным стварэнню нацыянальнай тэрыторыі беларускім нацыянальным рухам. Адметна тое, што беларускай праблематыцы прысвечаны самы невялікі па памерах тэкст у зборніку, што, аднак, не азначае яго горшай якасці параўнальна з іншымі.

Даследчыца піша, што ідэя стварэння адзінай аўтаномнай Літвы пад час рэвалюцыі 1905–1907 г. у поглядах беларускай інтэлігенцыі абапіралася на пэўны разлік. Паводле даследчыцы, беларускія актывісты былі перакананы, што беларуская нацыянальная свядомасць узмоцніцца ў рамках аўтаномнай Літвы, і гэта пазней дазволіла б ім дамагацца аўтаноміі этнаграфічнай Беларусі як асобнай палітычнай і тэрытарыяльнай адзінкі. Літоўскі ж бок разгадаў такую логіку і адкінуў у траўні 1906 г. прапанову аб'яднання літоўскіх і беларускіх сацыял-дэмакратаў. Але В. Масцяніца сваю гіпотэзу называе "далікатнай", настойваючы, што сустрэча сацыял-дэмакратаў і некаторыя праграмныя дакументы БСГ дазваляюць сфармуляваць такое меркаванне. У той жа час усведамленне супадзення ўяўных нацыянальных тэрыторый беларусаў і літоўцаў ("этнаграфічнай Літвы" і "этнаграфічнай Беларусі"[2]) не прывяло да публічнага абмеркавання гэтай супярэч-

[2] Mačiulis D. and Staliūnas D. Lithuianian Nationalism and the Vilnius Question, 1883–1940. Verlag Herder-Institut, Marburg, 2015. P. 38, 49.

насці. Беларускі бок, як піша Вольга Масцяніца, не быў зацікаўлены ў гэтым (302).

Прасторавыя вобразы і канцэпцыі, якія функцыянавалі ў розных дыскурсах, мелі ўзаемаўплыў. Напрыклад, у канцы XIX і пачатку XX ст. літоўцы ў Прусіі сталі апісваць "сваю ўласную" тэрыторыю паводле крытэрыяў, вызначаных нямецкімі навукоўцамі ў XIX ст. (448)[3]. Можна пагадзіцца з высновамі аўтараў і рэдактара зборніка, што геа-ідэалагічныя вобразы не былі сталымі, яны змяняліся ў залежнасці ад культурных ідыём і інтарэсаў. У той жа час яны залежалі ад прасторавых вобразаў, якія склаліся гістарычна. Таксама пераканаўчай выглядае тэза аб тым, што новыя ідэалогіі сучаснай ідэнтычнасці ва Усходне-Цэнтральнай Еўропе не столькі замянілі тагачасныя лакальныя, рэгіянальныя ці палітычныя ідэнтычнасці, колькі былі ў сталым дыялогу з імі (449).

На завяршэнне хацелася б падкрэсліць яшчэ раз высокія стандарты даследчыцкай працы, якіх прытрымліваюцца і самі задаюць спецыялісты, што працавалі над гэтай калектыўнай манаграфіяй. За выключэннем некаторых памылак у транслітарацыі беларускіх назваў і невялікай колькасці моўных штампаў гэта практычна бездакорная праца, да якой будуць звяртацца спецыялісты па гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы і Усходне-Цэнтральнай Еўропы ў цэлым. Знаёмства з кнігай трэба рэкамендаваць як спецыялістам, так і тым, хто цікавіцца новай і найноўшай гісторыяй Беларусі, Літвы і іх суседзяў. Яна, безумоўна, пашырыць уяўленне пра складанасць і неадназначнасць працэсаў фармавання нацый і нацыянальных ідэнтычнасцяў, дапаможа ўзбагаціць метадалагічную і тэарэтычную базу даследчыкаў, якія займаюцца гэтай праблематыкай, павысіць узровень і якасць акадэмічнага дыскурсу.

Горадня – Варшава *Аляксандр Пагарэлы*

[3] Liulevicius V. G. The German Myth of the East. 1800 to the. Present. Oxford-New York, 2009. P. 106–107.

## ХАЎСТОВІЧ, МІКОЛА. Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў. Warszawa: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, 2014. Т. 1. 300 с.; 2016. Т. 2. 300 с.; 2017. Т. 3. 360 с.

Нарэшце мы маем права сцвярджаць, што справа навуковага выдання мастацкіх тэкстаў і разнастайных па змесце гісторыка-літаратурных матэрыялаў, звязаных з прыгожым пісьменствам Беларусі XVIII–XIX ст., знайшла годны працяг. У гэтым пераконваюць тры важкія тамы, што ўбачылі свет у Варшаве рупнасцю аднаго даследчыка – Міколы Хаўстовіча – пры фінансавай падтрымцы Міністэрства навукі і вышэйшай школы Рэспублікі Польшча ў межах "Нацыянальнай праграмы развіцця гуманістыкі" (2012–2015) і Камітэта навуковых даследаванняў гэтай краіны.

Варта нагадаць пра існаванне некаторых папярэдніх выданняў падобнага кшталту, напрыклад навуковага зборніка "Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі", выпускі якога з 1958 г. рыхтаваліся Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы, а з 1973 г. – Гомельскім дзяржаўным універсітэтам, выпускі пачатку 1990-х г. гісторыка-літаратурнага зборніка "Шляхам гадоў" і, зразумела, без перабольшвання этапную ў нашай літаратуразнаўчай навуцы працу "Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст." (1977, 2-е выд. 2003), укладзеную Генадзем Кісялёвым. Значным вопытам падрыхтоўкі спецыялізаваных профільных навуковых выданняў валодае і сам М. Хаўстовіч, плёнам дзейнасці якога сталі два выпускі навукова-літаратурнага альманаха "XIX стагоддзе", што выйшлі ў 1999 і 2000 г. Таму ў тэксце "Замест прадмовы", якім пачынаецца першы том варшаўскіх "Даследаванняў і матэрыялаў", уяўляецца ўсё ж празмерна катэгарычным наступнае выказванне: "Фактычна, навуковым выданнем літаратурных тэкстаў XVIII–XIX стст. у нас ніхто не займаўся (як выключэнне – спроба Юрася Пацюпы тэксталагічнага апрацавання *Тараса на Парнасе* і *Двух д'яблаў*)". У падрадковай спасылцы пазначана: Вераніцын К. Тарас на Парнасе: Паэмы. Мінск, 2009. 79 с. Гэтая кніжка, відавочна, прымеркаваная да 120-годдзя

з часу першай публікацыі тэксту славутай паэмы, выдавецтвам “Мастацкая літаратура” цалкам правамерна пазначана як “літаратурна-мастацкае выданне”. Нягледзячы на палкую “спробу” Ю. Пацюпы выступіць супраць эдыцыйнай практыкі “саматужных тэкстолагаў” (па яго тэрміналогіі), названае выданне 2009 г. залічыць да катэгорыі “навуковых” не выпадае, бо ў ім чытачам прапануецца не “аўтэнтычны” тэкст вядомага спіса са сшыткаў А. Рыпінскага, а яго рэканструкцыя і найбольш адпаведная, па меркаванні ўкладальніка, адаптацыя да нормаў сучаснага правапісу. Між тым, тэкст паэмы “Тарас на Парнасе” прынамсі двойчы быў надрукаваны на аснове навуковых прынцыпаў пры падрыхтоўцы публікацыі. Да гэтага спрычыніліся ў 1960 г. І. Бас і ў 1990 г. В. Скалабан (Гл.: Бас І. С. Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы “Тарас на Парнасе” // Беларуская літаратура: даследаванні і публікацыі / АН БССР, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск, 1960. [Т.] 3. С. 213–233; Узьлезши на Парнас, што видзиу там Тарас? // Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік / уклад. Г. Кісялёў. Мінск: Маст. літ., 1990. С. 236–245). Такім чынам, сцвярджэнне “ў нас ніхто не займаўся” відавочна супярэчыць фактам, але сапраўды займаліся вельмі мала і, безумоўна, недастаткова.

Пішучы “Замест прадмовы”, М. Хаўстовіч не толькі дзеліцца сваімі планамі, але і сцісла характарызуе змест уласнай працы: “Дадзены том нашага выдання (якое плануецца як штогоднік), не прэтэндуючы на вычарпальнасць, знаёміць чытача з пяццю літаратарамі, што стаялі ля вытокаў новай беларускай пісьменнасці. Чацвёра з іх – Францішак Рысінскі, Ян Баршчэўскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Ялегі Пранціш Вуль – нязменна акцэнтавалі сваё беларускае паходжанне (ва ўсякім разе так характарызавалі іх сучаснікі), а Ігнацы Быкоўскі, народжаны на Міншчыне, традыцыйна падкрэсліваў сваю ліцвінскасць”. На маю думку, ужо адно гэта павінна не толькі лашчыць слых, але і прыцягнуць увагу даволі шматлікіх у апошні час палемістаў у сецівe, якія горача канфрантуюць на ўзроўні, як ім здаецца, канцэптуальнай дыферэнцыяцыі *беларускасць / ліцвінскасць*. Пра кожную асобу з пададзенага ў першым томе квінтэту можна даведацца шмат новага. Перыпетыі жыццяпісаў, літаратурныя творы і рэцэнзіі на іх, мемуары і дзённікі, карэспандэнцыя

і архіўныя дакументы па-рознаму, але нязменна дакументальна аргументавана раскрываюць постаці літаратараў на агульным фоне іх эпохі. Ключавы прынцып, абраны М. Хаўстовічам у працы, можна сфармуляваць так: "Хочаш спазнаць эпоху? Чытай не толькі пра яе рэпрэзентантаў, але і самі тэксты, народжаныя ёю!" Першы том "Даследаванняў і матэрыялаў" мае багата ілюстрацый, пераважна фотаздымкаў, забяспечаны ён таксама імянным паказальнікам, так што выхад яго цалкам мог прэтэндаваць на навуковую падзею, а не проста на чарговае дыхтоўнае ўвасабленне ў кнізе заяўленай тэматыкі. Навуковай грамадскасцю як падзея ён і быў ацэнены. М. Хаўстовіч заслужана атрымаў прэмію імя Зоры Кіпель V Кангрэса даследчыкаў Беларусі (Коўна, 2015) за найлепшую манаграфію ў галіне гуманітарных навук.

Выхад другога тома "Даследаванняў і матэрыялаў", які мае падзагаловак "Творы невядомых аўтараў", адбыўся ў 2016 г., парушаючы намеры выдаваць штогоднік. Гэтым разам укладальнік цалкам засяродзіўся на публікацыі ананімных беларускамоўных тэкстаў і іх розных спісаў пераважна XIX стагоддзя. У кнізе надрукавана 28 твораў, сярод якіх ёсць як хрэстаматыйныя – "О мой Божа, веру табе", "Казанне (Вот цяпер які люд стаў…)", "Вясна, голад, перапала", "Гутарка Данілы са Сцяпанам", "Гутарка старога дзеда", "Панскае ігрышча" і іншыя, так і малавядомыя або зусім невядомыя нават спецыялістам – "Парай, міласцівы пане…", "Павіншаванне пана", "Павіншаванне папа", "Цуда Божае: Поп і Кірык", "Жыдоўская вайна", "Лямант немца" і іншыя, якія складаюць каля паловы рэпертуару ўсіх прапанаваных тэкстаў. У тым, што творы без аўтарства знаходзяцца не на перыферыі, а ў цэнтры даследчых зацікаўленняў М. Хаўстовіча, пераконвае змест "структуралісцкага" артыкула "Беларуская ананімная літаратура XIX стагоддзя: праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі", якім, пасля вядомай па папярэднім томе "Замест прадмовы", і адкрываецца том другі. Даследчык прапануе ўласную класіфікацыю твораў "праблемнага" аўтарства, падзяляючы іх на тры катэгорыі – "Неатрыбутаваныя творы", "Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй" і "Творы з няпэўнай атрыбуцыяй". Па гэтай схеме скрупулёзна размяжоўваюцца ўсе творы з так званых рукапісаў А. Рыпінскага, рукапіснай хрэстаматыі Б. Эпімах-

Шыпілы, вядомых друкаваных хрэстаматый і зборнікаў тэкстаў, што ўбачылі свет на працягу XX–XXI ст. І гэта добра. Аднак выклікае пытанні стылістыка афармлення некаторых вывадаў, якая міжволі ставіць пад сумненне ступень іх навуковасці. Напрыклад, такое: “Дыскусіі па праблемах атрыбуцыі ў нас фактычна яшчэ не было, хоць былі падставы для дыскусіі. У 1990-я гг. раз-пораз чуліся галасы пачаць такую дыскусію. Але літаратуразнаўцы не прыслухаліся: за лепшае лічылася друкаваць у хрэстаматыях (у тым ліку школьных) і зборніках так, як прыходзіла ў галаву” (21). Такім чынам акрэсленая праблема больш праблематызуецца на ўзроўні не аргументаў, а эмоцый, набывае публіцыстычны модус. Зрэшты, гэта прыватная заўвага ніяк не змяншае значэння вялікай працы ўкладальніка па выяўленні і публікацыі пры высокай тэксталагічнай падрыхтоўцы спісаў 28 ананімных твораў, якія і ўяўляюць галоўную каштоўнасць матэрыялаў тома. А ўвесь корпус тэкстаў невядомага аўтарства, па меркаванні М. Хаўстовіча, павінен складаць больш чым 100 адзінак.

Трэці том “Даследаванняў і матэрыялаў” (2017) мае традыцыйныя ўжо структурныя кампаненты: “Замест прадмовы”, ілюстрацыі, імянны паказальнік. Змест жа яго вызначаецца прозвішчамі і псеўданімам дзеячоў культуры і літаратараў, якім прысвечаны асобныя раздзелы кнігі, – Аляксандр Ельскі, Бранціслаў Эпімах-Шыпіла, Ядвігін Ш. Не магу абмінуць увагай, бадай, звычайную для М. Хаўстовіча (як лектара? як выкладчыка?) не недаацэнку, а нейкую спецыфічную іранічнасць ці нават саркастычнасць у адносінах да вынікаў і плёну працы папярэднікаў. Мяркуйце самі: “Даробак А. Ельскага ўсё яшчэ застаецца па-за межамі беларускага навуковага дыскурсу: у выдадзеным у навукова-папулярным фармаце зборніку *Выбранае* тэксты не зусім удала адаптаваныя, тут адсутнічае варты гэтых тэкстаў каментар і – самае галоўнае – надрукавана нязначная колькасць з аграмаднай спадчыны таленавітага самавука-навукоўца з фальварка Замосць”. Не буду спрачацца: проста адзначым як факт. Аднак у такой сітуацыі любому рэцэнзенту апрыёры застаецца толькі канстатаваць, што пасля публікацыі ў томе артыкула “Аляксандр Ельскі і беларускае адраджэнне ў другой палове XIX ст.”, 15 твораў у раздзеле “Аляксандр Ельскі: Літаратурныя

і публіцыстычныя тэксты" і 14 лістоў розных адрасантаў да пісьменніка, што ў сукупнасці заняло больш за 200 старонак выдання, яго творчая спадчына нарэшце трапіла ў межы таямнічага "беларускага навуковага дыскурсу". Але ж кожнаму даследчыку хочацца мець альтэрнатыву і апастэрыёры прыходзіць да самастойных высноў. М. Хаўстовіч – аўтар рэцэнзіі на том А. Ельскага "Выбранае" (2004), які выйшаў у "Беларускім кнігазборы" (гл.: http://elib.bsu.by/bitstream/123456789/165007/1/121-122.pdf). З яе можна даведацца, што, па меркаванні рэцэнзента, ёсць канкрэтная асоба, на якую трэба ўскласці адказнасць за незайздросны стан сучаснага "ельсказнаўства". Ухвальна, калі асабістыя амбіцыі робяцца стымулам для плённай працы, але вельмі шкада, калі яны разам з тым нараджаюць непрыхаваную прадузятасць.

Другі раздзел тома ўключае публікацыю найкаштоўнейшага тэксту рукапіснай "Беларускай хрэстаматыі" Б. Эпімах-Шыпілы і каментарыі да твораў, змешчаных у ёй. Трэці – пераклад на беларускую мову апавядання У. Гаршына "Сігнал" (1891), водгук на выпуск яго асобным выданнем, а таксама цыклы кароткіх навел Ядвігіна Ш. "Успаміны" і "Мінулае". Несумненна, названыя публікацыі выводзяць маладаступныя раней тэксты з арбіты недасягальнасці для патэнцыйных чытачоў.

З 2010 г. Мікола Хаўстовіч – прафесар кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Пачынаючы з 2001 г. і з улікам рэцэнзаваных тут, ён аўтар 9 манаграфічных навуковых даследаванняў, укладальнік і каментатар 7 кніг, сярод якіх навукова-літаратурны альманах, зборнікі тэкстаў і хрэстаматыі, перакладчык на беларускую мову блізу 10 буйных празаічных польскамоўных твораў, рэдактар многіх рознага кшталту навуковых выданняў. Такой працаздольнасці і прадуктыўнасці хапіла б на цэлую навукова-даследчую структуру. Але асноўны і любімы аб'ект даследавання – гісторыя літаратуры Беларусі XIX ст.

На заканчэнне прывядзем думку Уладзіслава Сыракомлі, якую цалкам падзяляем: "Спадзяемся, што гэтыя прыяцельскія заўвагі не саб'юць аўтара з пахвальнай дарогі… бо інакш цяжкі грэх узялі б на сваё сумленне".

Мінск *Ігар Запрудскі*

## ЦЫМБАЛ, АЛЯКСАНДР Г. Праваслаўная царква ў Заходняй Беларусі (1921–1939). Мінск: МДЛУ, 2016. 124 с.

У заходняй гістарычнай навуцы атрыманне навуковай ступені немагчыма ўявіць без выхаду ў свет навуковай манаграфіі. У Беларусі, на жаль, кніжнае выданне пасля атрымання ступені кандыдата навук – з'ява рэдкая, калі не сказаць унікальная. Менавіта такой з'явай можна лічыць кнігу Аляксандра Цымбала, прысвечаную становішчу праваслаўнай царквы ў Заходняй Беларусі ў 1921–1939 г. Ва ўводзінах аўтар адзначае, што аснова прапанаванай чытачу працы – дысертацыйнае даследаванне на тэму "Палітыка польскіх улад у адносінах да Праваслаўнай царквы ў Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.)" (4).

Можна меркаваць, што структура дысертацыі вызначыла і структуру манаграфіі. Яна складаецца з трох раздзелаў – тэарэтычнага, прысвечанага гістарыяграфічнаму і крыніцазнаўчаму аналізу і метадалогіі даследавання, і двух фактаграфічных. Аўтар выкарыстаў праблемны прынцып у выкладанні матэрыялу і вылучыў дзве асноўныя праблемы: падпарадкаванне праваслаўнай царквы ў Заходняй Беларусі інтарэсам Польскай дзяржавы (раздзел 2) і пазіцыя праваслаўнай царквы па нацыянальным пытанні (раздзел 3).

Трэба адзначыць, што крыніцазнаўчай базай працы сталі перш за ўсё архіўныя матэрыялы. А. Цымбал выкарыстаў фонды васьмі архіваў Беларусі і Польшчы: Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Занальнага дзяржаўнага архіва ў Маладзечне, Архіва новых актаў і Архіва праваслаўнай мітраполіі ў Варшаве, Дзяржаўнага архіва ў Беластоку. Яны былі дапоўнены апублікаванымі дакументамі, статыстычнымі матэрыяламі і публікацыямі ў перыядычным друку міжваеннай Польшчы.

Што тычыцца гістарыяграфіі праблемы, то А. Цымбал прааналізаваў працы беларускіх, польскіх, украінскіх і расійскіх даследчыкаў і вылучыў тры асноўныя этапы ў яе развіцці: міжваенны перыяд, 1940-я – канец 1980-х г., 1990-я гады – пачатак XXI ст. Трэба, аднак, заўважыць, што першы раздзел манаграфіі напісаны пераважна з пазіцыі канстатацыі фактаў, а не іх аналізу. Аўтар пераважна пералічвае пытанні, якія разглядаюцца ў розных навуковых даследаваннях, у той час як метадалогія і аналіз навуковых ацэнак і высноў, да якіх прыйшлі вучоныя, у працы падаюцца рэдка.

У другім раздзеле А. Цымбал разглядае пытанні ўсталявання аўтакефаліі праваслаўнай царквы, прасочвае станаўленне яе інстытуцыянальных, прававых і арганізацыйных асноў, аналізуе эканамічныя ўмовы дзейнасці і засяроджвае ўвагу на працэсе рэвіндыкацыі праваслаўных храмаў. Варта заўважыць, што аўтар не абмяжоўваецца аналізам выключна "польскіх умоў", а разглядае падзеі ў шырокім гістарычным кантэксце. Ён аналізуе пазіцыю праваслаўнай царквы ў Расійскай імперыі і змены, якія адбыліся ў рэлігійным пытанні ў Савецкай Расіі, а потым у СССР.

У манаграфіі зазначаецца, што пры выпрацоўцы прынцыпаў узаемадачыненняў польскай дзяржавы з праваслаўнай царквой вызначальнымі сталі знешнепалітычны, унутрыпалітычны, нацыянальны і ідэалагічна-рэлігійны фактары (15–16). Іх улік зрабіўся падмуркам для распрацоўкі двух варыянтаў стаўлення да праваслаўя ў Польшчы. З аднаго боку, разглядалася магчымасць ліквідацыі ці выцяснення ўплыву праваслаўнай царквы як мага далей на ўсход, а з другога – арганізацыйная перабудова царквы ў патрэбным дзяржаве кірунку. Менавіта на апошні варыянт, як вынікае з тэксту, і была зроблена стаўка польскага кіраўніцтва. Аўтар аналізуе развіццё адносінаў паміж Рускай праваслаўнай царквой, праваслаўнымі святарамі ў Польшчы і польскім урадам, а таксама апісвае складаны шлях праваслаўнай царквы да аўтакефаліі (1925), прызнанне якой не было ўспрынята святарамі і вернікамі аднадушна станоўча.

Значная ўвага ў кнізе аддаецца высвятленню інстытуцыянальных, прававых і арганізацыйных асноў функцыянавання праваслаўнай царквы ў польскай дзяржаве. А. Цымбал характарызуе асноўныя заканадаўчыя, міжнародныя і нарматыўныя акты, якія рэгулявалі яе дзейнасць, і вылучае чатыры перыяды ва ўзаемаадносінах урада і царквы па пытанні заканадаўчага ўнармавання яе становішча. З тэксту манаграфіі выразна бачыцца уплыў, які польскія ўлады аказвалі на ўнутраную сітуацыю ў праваслаўнай царкве. Канчатковае падпарадкаванне царквы адміністрацыйным уладам Польшчы адбылося пасля публікацыі Дэкрэта прэзідэнта ад 18 лістапада 1938 г. аб адносінах дзяржавы да Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (ПАПЦ). Толькі пасля гэтага, як зазначае аўтар, быў зацверджаны ўнутраны статут ПАПЦ і адбылася рэарганізацыя яе тэрытарыяльнай структуры.

Характарызуючы эканамічнае становішча праваслаўнай царквы, А. Цымбал папярэджвае, што крыніцы не даюць дакладных звестак, а таму можна гаварыць толькі пра спробу рэканструкцыі гэтага аспекту ў гісторыі царквы. Ён адзначае цяжкасці з вызначэннем прававога характару нерухомасці праваслаўнай царквы, прэтэнзіі на яе ўладанні з боку каталіцкай царквы і паказвае, якім чынам на заканадаўчым узроўні адбывалася рэгуляванне яе маёмаснага стану. Пры гэтым аўтар засяроджвае ўвагу не толькі на нерухомай маёмасці, але і на пытаннях матэрыяльнага забеспячэння праваслаўнага духавенства.

Як вядома, адным з найбольш балючых пытанняў у рэлігійнай палітыцы польскіх улад была праблема рэвіндыкацыі праваслаўных святынь, якая мела палітычна-рэлігійны і матэрыяльны характар. У працы пададзена характарыстыка трох этапаў рэвіндыкацыйных працэсаў (1918–1924, 1929–1934, 1937–1939), вызначаны іх асаблівасці і паказана негатыўная ацэнка гэтай з’явы з боку праваслаўнага насельніцтва, якое ўспрымала рэвіндыкацыю як форму нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту (57). А. Цымбал зазначае, што ў тагачасных умовах дзяржаўныя ўлады Польшчы былі вымушаны, з аднаго боку,

падпарадкоўвацца ціску каталіцкай большасці ў справе перадачы маёмасці каталіцкай царкве, а з другога – прытрымліваца нормаў закону і паважаць інтарэсы праваслаўнай царквы (55).

Асобны раздзел прысвечаны аналізу стаўлення праваслаўнай царквы ў Польшчы да нацыянальнага пытання. Аўтар вылучае дзве канцэпцыі палітыкі польскага ўрада адносна нацыянальнага характару царквы: дзяржаўнай асіміляцыі і нацыянальнай асіміляцыі. Па меркаванні А. Цымбала рэальная палітыка адносна праваслаўнай царквы і яе прыхаджан у Заходняй Беларусі першапачаткова схілялася да нацыянальнай асіміляцыі, а пасля перавароту 1926 г. – да дзяржаўнай асіміляцыі. Менавіта гэта прывяло, пачынаючы з 1922 г., да актыўнай паланізацыі царквы. Яна праяўлялася ва ўвядзенні польскай мовы ў якасці мовы набажэнстваў (а пазней і справаводства), прызначэнні лаяльнага да польскіх уладаў духавенства, спробах увесці грыгарыянскі каляндар, паўплываць на нацыянальную свядомасць беларусаў, якія, як лічылася, пры адпаведнай палітыцы і пад уплывам польскай культуры павінны былі ператварыцца ў палякаў праваслаўнага веравызнання. У гэтай сувязі значныя спадзяванні ўскладаліся на дзейнасць арганізацый праваслаўных палякаў, якія знаходзілі ўсебаковую падтрымку з боку мясцовых органаў улады.

Аўтар паказвае, што праваслаўныя іерархі ў пераважнай большасці, з аднаго боку, выступалі супраць экспансіі каталіцызму і польскасці, а з другога – супраць нацыянальных памкненняў беларусаў і ўкраінцаў. Пры гэтым епіскапат хутчэй пагаджаўся на паланізацыйныя працэсы, чым на фармаванне нацыянальнай царквы. Што тычыцца шараговага духавенства, якое адмаўлялася ўводзіць польскую мову ў набажэнствы, то ўлада рэагавала на гэта пазбаўленнем фінансавых датацый або прыкладала намаганні, каб пазбавіцца такога святара (звольніць, перавесці ў іншае месца і г. д.). Увогуле ў кнізе прыводзіцца багаты фактычны матэрыял, які адлюстроўвае стаўленне органаў улады розных узроўняў да праваслаўнай царквы. Цымбал зазначае, што пазіцыя ваяводаў, як і мясцовых

дзеячоў больш нізкага ўзроўню, істотным чынам адрознівалася ад пазіцый Варшавы і часам нават ішла насуперак ім.

У рабоце даецца песімістычная ацэнка спробам беларусізацыі праваслаўнай царквы ў міжваеннай Польшчы. Сярод прычын няўдач на гэтай ніве аўтар называе супрацьдзеянне польскіх улад, негатыўнае і нават адмоўнае стаўленне да беларускага руху асноўнай часткі духавенства, адсутнасць падтрымкі з боку саміх вернікаў. А. Цымбал пагаджаецца з меркаваннем, што спробы беларусізацыі праваслаўнай царквы адлюстроўвалі погляды маладой беларускай палітычнай эліты, а не шырокіх мас сельскага насельніцтва (79). Немагчымасць ажыццяўлення ідэі беларусізацыі праваслаўнай царквы ён тлумачыць наступнымі фактарамі: сацыяльная абмежаванасць руху за беларусізацыю рэлігійнага жыцця, абмежаванасць беларускага руху Віленскай епархіяй, пераважна негатыўная пазіцыя праваслаўнага духавенства на магчымасць увядзення беларускай мовы, супраціўленне беларусізацыі царквы з боку польскіх улад, якія рабілі стаўку на яе паланізацыю (81).

Важную інфармацыйную частку манаграфіі ўтвараюць спіс тэрмінаў і ўмоўных абазначэнняў (110–111) і асабліва тры дадаткі (112–123). У іх прыводзіцца пералік міністраў рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы міжваеннай Польшчы (імя, прозвішча і час займання пасады), архірэяў – кіраўнікоў епархій Заходняй Беларусі (епархія – епіскап – тытул – час кіравання), разнастайныя статыстычныя звесткі (колькасць духавенства, вынікі парцэляцыі, стан духоўных уладанняў, бюджэтныя выдаткі і матэрыяльнае забеспячэнне праваслаўнага духавенства і інш.), падаецца тэкст прысягі для кіраўнікоў праваслаўных прыходаў і карта тэрытарыяльна-адміністрацыйнай структуры праваслаўнай царквы ў Польскай Рэспубліцы.

Несумненна, разгляданая праца мае высокі навуковы ўзровень, вылучаецца паказам падзей у шырокім кантэксце, аналізам розных фактараў, якія ўплывалі на становішча праваслаўнай царквы ў Заходняй Беларусі

ў 1921–1939 г. Разам з тым раім аўтару ў новых даследаваннях па гісторыі праваслаўнай царквы звярнуць увагу на лёс бежанцаў, якія, пакінуўшы родны край у 1915 г., вярталіся дадому ў 1918–1921 г. У манаграфіі ёсць згадкі пра праваслаўных святароў, якія, як піша А. Цымбал, вярнуліся з эвакуацыі, а іх далейшы лёс вызначала перш за ўсё мясцовая адміністрацыя. Аднак акрамя святароў кожная царква мае сваіх вернікаў, якія бачаць сітуацыю не з афіцыйнага пункту гледжання, а з пункту гледжання штодзённага жыцця. У якасці прыкладу такога роду крыніц па гісторыі праваслаўнай царквы можна назваць выданне ўспамінаў “Бежанства 1915 года”[1] і працу Анэты Прымака-Онішк “Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы”[2].

Манаграфія Аляксандра Цымбала несумненна з’яўляецца важнай у беларускай гістарыяграфіі. Яна раскрывае новыя сюжэты ў гісторыі як Заходняй Беларусі, так і гісторыі Польшчы ў міжваенны перыяд, дазваляе разглядаць і ацэньваць падзеі з розных пунктаў гледжання.

Мінск *Любоў Козік*

[1] Бежанства 1915 года. Выд. 2-е, дап. Беласток, 2015.

[2] Prymaka-Oniszk A. Bieżeństwo 1915. Zapomniani uchodźcy. Wołowiec, 2016.

## BURMISTR, SVETLANA. Die "Minsker Zeitung". Selbst- und Fremdbilder in der Nationalsozialistischen Besatzungspresse. Berlin: Metropol, 2016. 364 s.

Манаграфія Святланы Бурмістр прысвечана гісторыі "Мінскай газеты", якая з 15 красавіка 1942 да 28 чэрвеня 1944 г. выдавалася ў сталіцы Генеральнага камісарыята Беларусі – Мінску. Аўтар паспяхова скончыла дактарантуру Цэнтра па даследаванні антысемітызму Тэхнічнага ўніверсітэта Берліна, дзе пад кіраўніцтвам прафесара Марлена Познер-Ландша і прафесара Вольфганга Бенца выконвала дысертацыйную працу па гісторыі гэтага нямецкамоўнага друкаванага выдання. Асноўнае праблемнае поле даследавання палягае ў выяўленні ступені адлюстравання ў "штодзённай газеце для Беларусі", якая была трыбунай нацысцкай палітыкі, ідэалогіі і прапаганды на гэтай частцы беларускай тэрыторыі, планаў германскай акупацыйнай улады і гістарычнай рэчаіснасці на месцах. Вывучэнне ваенных, гаспадарчых, сацыяльных і іншых падзей, якія знаходзілі поўнае ці частковае адлюстраванне ў выданні, даследчыца правяла не толькі на аснове скрупулёзнага аналізу зместу 680 нумароў 8-старонкавага газетнага матэрыялу, але і на шырокай базе дакументальных крыніц з фондаў 12 архіваў Беларусі і Нямеччыны. Спроба адэкватна ацаніць і пераканальна паказаць рэальную карціну тых падзей вачыма нямецкага даследчыка сёння важная не толькі для прафесійных ваенных гісторыкаў, але і для шырокай чытацкай аўдыторыі, а таксама ўсіх зацікаўленых, хто хацеў бы знайсці адказы на пакуль што малавывучаныя, дыскусійныя і праблемныя пытанні "вайны Гітлера на ўсходзе"[1]. Такая праца, праведзеная, на жаль, чарговы раз не айчыннымі гісторыкамі, мае для сучаснай беларускай гістарыяграфіі асаблівую навуковую каштоў-

[1] Müller R.-D., Ueberschär G. R. Hitlers Krieg im Osten. Ein Forschungsbericht. Darmstadt: Wissenschaftliche Buchgesellschaft, 2000. 451 S.

насць, бо працягвае справу, распачатую некалькімі гадамі раней таксама нямецкім гісторыкам Бабетай Квінкерт у грунтоўным даследаванні пра вядзенне германскім бокам "духоўнай" вайны супраць грамадзянскага насельніцтва і партызан у Беларусі ў 1941–1944 г.[2].

Кніга С. Бурмістр складаецца з 7 раздзелаў, у тым ліку ўводзінаў і заключэння. Такая структура дазваляе аўтару заглыбіцца ў сутнасць вывучанай тэматыкі, акцэнтуючы ўвагу на важных дэталях гістарычнага спазнання праблемы. З уводнай часткі вынікае, што галоўны акцэнт даследчыца факусуе на падзеях мірнага жыцця ва ўмовах вайны і акупацыі, складаючы іх агульную карціну шляхам паказу фактаў з франтавых зводак, закранаючы розныя аспекты з гісторыі асваення нямецкай адміністрацыяй усходніх тэрыторый і вырашэння пры гэтым неадкладных задач у сферы палітыкі, эканомікі, культуры, рэлігіі і інш. Заслугай аўтара можна лічыць тое, што ў працы яна імкнулася выкарыстаць прынцып паўнаты крыніц, якія дазвалялі ўсебакова прааналізаваць розныя факты ў дачыненні да аб'екта даследавання. Важна адзначыць, што С. Бурмістр, зыходзячы з магчымасці вывучэння аўтэнтычнага друкаванага матэрыялу, ставіць перад сабой мэту даследаваць спецыфіку нацысцкай выдавецкай палітыкі ў Беларусі, паказваючы пры гэтым яе на прыкладзе аднаго друкаванага органа – "Мінскай газеты" – і разглядаючы гэтую з'яву ў кантэксце супярэчлівага развіцця створаных палітычных, гаспадарчых і адміністрацыйных умоў (32). Сярод галоўных задач, якія вызначае і паспяхова вырашае даследчыца, – адлюстраванне складанасці і паказ асноўнага характару падзей, што ўзнікалі ва ўмовах не запланаванага

[2] Quinkert B. Propaganda und Terror in Weißrussland 1941–1944. Die deutsche "geistige" Kriegsführung gegen Zivilbevölkerung und Partisanen. Paderborn; München; Wien: Zürich: Ferdinand Schöningh, 2009. 420 S.
Гл. таксама: Новікаў С. [Рэцэнзія] Ваенная Беларусь у найноўшых нямецкіх даследаваннях // Беларускі гістарычны часопіс. 2010. № 10. С. 17–20. – Рэц. на кнігу: Quinkert, B. Propaganda und Terror in Weißrussland 1941–1944. Die deutsche "geistige" Kriegsführung gegen Zivilbevölkerung und Partisanen. Paderborn; München; Wien: Zürich: Ferdinand Schöningh, 2009.

працягу баявых дзеянняў на ўсходнім фронце і зменлівага стану германскай інфармацыйнай палітыкі на саміх акупаваных тэрыторыях. Да ліку асабліва важных аўтар таксама адносіць задачу паказу трагічных старонак вайны і драматычных наступстваў германскай акупацыі ў Беларусі (35). Вызначаныя мэты і пастаўленыя задачы разам з іншымі неабходнымі для гэтай часткі працы палажэннямі даволі кампактна пададзены ва ўступным раздзеле манаграфіі.

Другі (37–79) раздзел уводзіць чытача ў агульны кантэкст, паказвае тыя перадумовы і патрабаванні, у якіх у германскім Райху пасля прыходу да ўлады Гітлера і ўсталявання таталітарнага рэжыму забяспечвалася правядзенне ўнутранай палітыкі, на што быў скіраваны ўвесь наяўны патэнцыял апарату дзяржаўнага друку і нацысцкай прапаганды, у тым ліку працаваў вялікі корпус журналістаў розных газет. У даследаванні паказана, што пасля ўстанаўлення аўтарытарнай улады цэнтрам правядзення такой палітыкі стала выдавецтва самой нацысцкай партыі – НСДАП.

У трэцім (80–115) і чацвёртым (116–170) раздзелах аўтар знаёміць чытача, па-першае, з перадумовамі і асноўнымі ўмовамі ўзнікнення новага тыпу нацыянал-сацыялістычнага друку – акупацыйных газетных выданняў, а па-другое – раскрывае гэтую з’яву на прыкладзе “Мінскай газеты” як адной з неад’емных частак “вялікай нямецкай сям’і замежных газет” (80), знаёмячы чытача са спецыяльна створаным таварыствам у складзе выдавецтва і друкарні, якія месціліся ў будынку былой савецкай дзяржаўнай друкарні ў Мінску (116). У першым выпадку размова вядзецца пра з’яўленне новага тыпу нямецкіх органаў друку, якія на акупаваных тэрыторыях павінны былі стаць праверанай крыніцай рознай інфармацыі і забяспечваць вырашэнне актуальных задач, ствараючы тым самым надзейныя “масты з радзімай” (83). Такім чынам аўтар імкнецца паказаць, што друк на акупаваных тэрыторыях павінен быў заставацца «духоўным “вермахтам” нацыі», а самі журналісты лічыліся “салдатамі народа”, якія па даручэнні фюрара павінны былі абараняць гонар нацыі і жыццёвую прастору Райха. Ва ўмовах распачатай у Еўропе вайны, як адзначае С. Бурмістр, журналісты павінны былі прыкладаць намаганні для таго, каб узаконіць правамернасць

ваенных злачынстваў і правядзення маштабнага тэрору на акупаваных тэрыторыях. У другім выпадку аўтар разглядае гісторыю стварэння і структуру мінскага выдавецтва і друкарні з іх нямецкім персаналам, галоўным рэдактарам, рэдактарамі і асобнымі журналістамі “Мінскай газеты”, а таксама адводзіць месца для эпізадычнага паказу лёсу мясцовага насельніцтва, у тым ліку яўрэяў і ваеннапалонных. Так, праз 4 месяцы пасля выхаду першага нумара аўтар з апорай на паведамленне Генеральнага камісарыята Беларусі прыводзіць важныя звесткі пра агульную колькасць тых, хто ў сярэдзіне жніўня 1942 г. забяспечваў працу друкарні ў мінскім выдавецтве і выхад “Мінскай газеты”. Сярод 335 работнікаў немцы складалі 12,8%, ці 43 чалавекі; беларусы – 85,4 %, ці 268 чалавек; яўрэі – 6,8%, ці 23 чалавекі (124). Як адзначае аўтар, у значнай меры дзякуючы яўрэйскім і беларускім рабочым стаў магчымым вынас з друкарні шрыфтоў і неабходных друкарскіх формаў, без чаго мінскія падпольшчыкі не здолелі б падрыхтаваць і выдаць першы нумар гарадской падпольнай газеты “Звязда” ў траўні 1942 г. У працы зроблены важны вывад, што пераслед, эксплуатацыя, стварэнне гета і ліквідацыя беларускіх і дэпартаваных яўрэяў так і не сталі адной з важных тэм для газетных карэспандэнцый.

У пятым раздзеле (171–210) аўтар спрабуе вызначыць ступень залежнасці паміж зместам нямецкай 8-старонкавай штодзённай газеты, з аднаго боку, і мэтавымі групамі чытачоў – з другога, што адбудоўвала асноўны механізм дзейнасці газеты ў кантэксце вырашэння пастаўленых высокіх ідэалагічных задач, звязаных з неабходнасцю адлюстравання ў акупацыйным друку падзей не толькі з Райху, акупаванага рэгіёну, але і іншых месцаў Еўропы. Шырокі спектр тэматыкі патрабаваў пошуку адпаведных шляхоў для іх усебаковага адлюстравання, аднак недахоп прафесійных журналістаў у рэдакцыі, а таксама палітычныя рамкі падачы матэрыялаў на старонках газеты не заўсёды дазвалялі рэалізаваць гэта ў поўнай меры. Журналістам часта даводзілася выконваць заданні разам з іншымі службамі Генеральнага камісара В. Кубэ, а таксама ва ўстанове прапаганды Мінска, асновай якіх была выключна нацыянал-сацыялістычная палітыка, ідэалогія і прапаганда (200).

Шосты раздзел (211–326) – самы вялікі ў плане аб'ёму і асабліва важны па сутнасці раскрыцця тэмы. Тут С. Бурмістр вырашае галоўную задачу, паказвае тыя складанасці, якія пастаянна павінны былі пераадольваць работнікі выдавецтва і журналісты "Мінскай газеты" ў працэсе рэканструкцыі галоўных сюжэтаў паўсядзённага жыцця ва ўмовах нарастання праблем і супярэчнасцяў, што ўзнікалі на ўсходнім фронце і патрабавалі ўнясення пэўных зменаў у адлюстраванне германскай акупацыйнай палітыкі. Кажучы пра вайну і германскую акупацыю Еўропы, журналісты газеты зыходзілі з ідэі легітымацыі вайны і акупацыі, бачылі ў гэтым аснову для стварэння новай карціны будучыні. Па ацэнцы аўтара, новы лёс Еўропы пад германскім кіраўніцтвам пасля паразы германскага Вермахта пад Сталінградам быў непасрэдна звязаны з перамогай ці разгромам Нямеччыны. Для гэтага ва ўсведамленні людзей неабходна было замацоўваць ідэю аб "новай Еўропе" (223). У гэтай сувязі задачы газеты палягалі ў тым, каб знайсці паслядоўнасць у падачы, форме і характары адэкватнага адлюстравання палітычных і ваенных падзей. Аўтар пераканана, што ва ўмовах значнага пашырэння вайны, калі гітлераўскі Райх павінен быў весці вайну адразу з некалькімі краінамі, у тым ліку СССР, ЗША і Англіяй, менавіта з новых умоў выцякала патрэба ў асвятленні такіх тэм, як духоўныя каштоўнасці і ідэнтычнасць нямецкага народа, што вызначаліся ў якасці асновы існавання "адзінай народнай супольнасці" (247). На гэтым грунце газета павінна была падтрымліваць міф пра тое, што ахвярнасць, рашучасць і гатоўнасць усіх і кожнага выконваць любыя задачы, пастаўленыя зверху, прывядуць у канчатковым выніку да дасягнення доўгачаканай перамогі.

Разглядаючы другі бок акупаванага грамадства, аўтар ставіць у цэнтр даследавання рэальную карціну жыцця тых, хто апынуўся пад германскай уладай у Беларусі. На старонках газеты пра іх пісалася наступнае. Так, у дачыненні да яўрэяў журналісты выкарыстоўвалі адзіны падыход – паказвалі іх выключна як варожыя элементы ў грамадстве. Гэта вынікала з нацысцкай палітыкі антысемітызму, адкуль наступствы германскай акупацыі, звязаныя з пераследам яўрэяў на тэрыторыі Беларусі, замоўчваліся ці выводзіліся за межы іх

абмеркавання журналістамі непасрэдна на старонках газеты. Аўтар зыходзіць з таго, што тэма трагедыі яўрэйскага народа, нягледзячы на тое, што на акупаванай тэрыторыі Беларусі гэта датычылася лёсу больш чым паўмільёна толькі мясцовых яўрэяў, а таксама факты аб маштабных акцыях па іх знішчэнні, як і ліквідацыі дзясяткаў тысяч дэпартаваных яўрэяў, так і не знайшлі ўсебаковага адлюстравання. У гэтым жа раздзеле аўтар звяртае ўвагу чытача таксама на тыя тэмы, якія ці агулам, ці толькі мімаходзь закраналіся на старонках газеты: факты гвалту ў дачыненні да мірнага насельніцтва, партызан, прыцягнутых да прымусовай працы і іншых, хто фактычна застаўся амаль незаўважаным журналістамі “Мінскай газеты”. У працы адзначаецца, што пра беларускую гісторыю, традыцыі і мову журналісты пісалі не сістэматычна, а хутчэй спарадычна. Культура зводзілася выключна да фальклору, а ў цэнтр асобных паведамленняў ставілася залежнасць беларускай культуры ад рускага, польскага і бальшавіцкага ўплываў (277). Беларускі народ быў “невядомым народам Еўропы”, які доўгі час знаходзіўся пад савецкім прыгнётам, таму адзіным яго выратаваннем магло быць усталяванне германскай улады і вызваленне ад прыгнёту бальшавіцкага рэжыму. На фоне гэтага газета павінна была паказваць неабходнасць пастаяннага змагання з “бальшавіцкімі бандамі”, а на справе цалкам замоўчвала факты нарастання ўплыву партызанскага руху ў Беларусі. Журналісты імкнуліся паказаць, што беларускае насельніцтва толькі церпіць ад іх дзейнасці, аднак пры гэтым газета не пісала пра рэальныя вынікі тых акцый, якія акупанты праводзілі ў дачыненні да партызан. У карэспандэнцыях для газеты не знаходзілі адлюстравання і драматычныя наступствы дзейнасці германскіх акупантаў супраць партызан, пад час якіх ахвярамі рабілася мірнае беларускае насельніцтва. Як падкрэслена ў працы, пра гэта на старонках газеты не было ніводнага паведамлення (292).

Да ліку тэм, якія даволі абмежавана траплялі на старонкі “Мінскай газеты”, належалі праблемы паўсядзённага жыцця мірнага насельніцтва, у тым ліку працоўнай занятасці, безгаспадарлівасці, рэлігійнага веравызнання беларусаў, пытанні аховы здароўя. Як адзначае аўтар, на старонках газеты лакальныя тэмы абмяркоўваліся менш інтэнсіўна

і не так падрабязна, перадаваліся толькі фрагментарна. Заходы ж беларусаў да стварэння ўласных органаў самакіравання знаходзілі журналісцкі інтарэс і былі адлюстраваны ў шматлікіх карэспандэнцыях, дзе размова ішла пра Беларускую народную самапомач, Саюз беларускай моладзі, Цэнтральную беларускую раду і інш. (300–301). Тут аўтар працы бачыць прычыну, чаму ў савецкі час газета не была адкрыта для беларускіх і замежных даследчыкаў і чытачоў.

У заключэнні С. Бурмістр падсумоўвае атрыманыя напрацоўкі, спрабуючы вызначыць рэальнае месца "Мінскай газеты" сярод іншых акупацыйных газет, якія выходзілі ў 14 краінах Заходняй і Усходняй Еўропы, у тым ліку ў Беларусі. Гэта была новая форма не толькі камунікацыі ў медыйнай прасторы, але і прапаганды палітыкі нацыянал-сацыялізму. Падзеі з месцаў трапплялі на старонкі даволі рэдка, не былі такімі дэталёвымі, яны замяшчаліся паказам агульнай карціны Беларусі. Кажучы ўвогуле пра эфект уздзеяння газеты на мясцовае насельніцтва, даследчыца звяртаецца да выказванняў аднаго з відавочцаў тых падзей – акадэміка АН БССР М. Нікольскага, які наступнымі словамі характарызаваў нямецкі друк у Мінску ў 1942–1944 г.: "гэта была памыйная яма, якая дрэнна пахла", "нахабная хлусня" і "бязглузды паклёп" (334). Як заўважае даследчыца, выкананую працу нельга разглядаць як цалкам завершаную даследчую работу па акупацыйнай "штодзённай газеце для Беларусі", а хутчэй толькі як новы імпульс для далейшага вывучэння тэмы. З гэтым можна цалкам пагадзіцца, асабліва з улікам магчымасці правядзення параўнальнага аналізу гісторыі адлюстравання падзей штодзённага жыцця на яе старонках, з аднаго боку, а з другога – на старонках 16 іншых акупацыйных перыядычных выданняў Мінска і ўсёй Беларусі, агульны штодзённы наклад якіх амаль у 4 разы перавышаў наклад "Мінскай газеты".

Што да аўтара манаграфіі С. Бурмістр, то яе сапраўды можна назваць галоўным нямецкім экспертам па акупацыйным друку ў Беларусі. Беларускія ж даследчыкі чарговы раз пазбавілі сябе магчымасці ў навуковым спазнанні адной з малавядомых старонак беларускай ваеннай гісторыі – больш чым двухгадовага перыяду дзейнасці "Мінскай газеты".

Мінск *Сяргей Новікаў*

## STAŚKIEWICZ, ŁUKASZ. Ameryka Łacińska w polityce zagranicznej Republiki Białoruś. Toruń: Adam Marszałek, 2016. 189 s.

Актуальнасць тэмы, узнятай нашым польскім калегам, не выклікае сумненняў, паколькі лацінаамерыканскі вектар знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь яшчэ не атрымаў сур'ёзнага навуковага абгрунтавання. Існуе толькі некалькі манаграфій і артыкулаў – у тым ліку аўтара гэтай рэцэнзіі. Аўтар працы ў 2014–2015 г. быў стыпендыятам Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. Машэрава. Гэта і дапамагло яму сабраць у цэлым комплексны матэрыял лацінаамерыканскага вектара знешняй палітыкі беларускай дзяржавы. Манаграфія складаецца з 8 раздзелаў, ілюстрацый і бібліяграфіі, у якую ўвайшлі прававыя дакументы, матэрыялы з інтэрнэту, артыкулы і манаграфіі беларускіх, расійскіх і польскіх аўтараў.

Першы раздзел прысвечаны аналізу канцэпцыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь, як яе разумее сам аўтар. Гэтая частка складаецца з двух параграфаў: "Станаўленне знешняй палітыкі Беларусі ў 1991–2000 г." і "Шматвектарная палітыка ў 2000-я гады". Тут аўтар базуе свае высновы на працы польскага даследчыка беларускага паходжання Яўгена Мірановіча "Знешняя палітыка Беларусі", які вылучае два этапы: з 1991 да 1994 і 1994–2000 г. Адзначаецца расійскі ўхіл знешняй палітыкі пасля прыходу да ўлады А. Лукашэнкі; звяртаецца ўвага, што доля Расіі да 2000 г. складала 65% гандлёвага звароту Беларусі (10).

Шматвектарнасць знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь стала фармавацца з 1997 г. ва ўмовах нарастальнай ізаляцыі Беларусі ад дзяржаў Захаду. Рэзка ўзрасла цікавасць да лацінаамерыканскага кантынента. Былі наладжаны дыпламатычныя адносіны з краінамі Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі. Беларусь увайшла ў Рух недалучэння. Да 2015 г. яна ўсталявала сувязі з 31 з 33 дзяржаў кантынента, аддаючы перавагу Венесуэле, Кубе і асабліва Бразіліі. Пасольствы Рэспублікі Беларусь былі адкрыты

ў Аргенціне, Бразіліі, Венесуэле, Перу і на Кубе (16). Аддаючы належнае аўтару, варта адзначыць, што размова тут вядзецца ўсё ж не пра канцэпцыю знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь (яе да гэтага часу пакуль няма), а проста характарызуюцца азначаныя вышэй два этапы гэтай палітыкі: да 1994 года і пасля.

Пачынаючы з другога раздзела аўтар дае досыць аб'ектыўную характарыстыку двухбаковых адносін і падкрэслівае зацікаўленасць Беларусі ў развіцці ўзаемадачыненняў з лацінаамерыканскім кантынентам. На наш погляд, у гэтай частцы даследавання парушаны прынцып прыярытэтнасці. Гледзячы гістарычна, на першае месца варта было б паставіць Аргенціну з вялікай беларускай дыяспарай, а потым Кубу, паколькі яна яшчэ ў савецкія часы мела самыя цесныя сувязі з Беларуссю. Калі ж вылучаць эканамічны інтарэс, то тут на першым месцы, па-за ўсялякімі сумненнямі, павінны стаяць Бразілія і Венесуэла. Апошняя была прыярытэтным кірункам у знешняй палітыцы Беларусі з 2006 да 2013 г. дзякуючы намаганням У. Чавеса. На маю думку, пасля яго смерці адбыўся рэзкі заняпад гэтых адносінаў.

Аўтар правёў цікавае даследаванне, звярнуўшы асноўную ўвагу на патэнцыйныя магчымасці кожнага партнёра Беларусі. Гэта важны момант працы, бо іншыя даследчыкі, што пішуць на гэтую тэматыку, абмяжоўваюцца толькі поспехамі або праблемамі ў гандлі двух суб'ектаў. Л. Стаськевіч не абмежаваўся гэтым. У кожным раздзеле, асабліва ў тым, што тычыцца Венесуэлы, праведзены аналіз і гуманітарнай сферы, які паказвае, што пры У. Чавэсу, які пяць разоў наведваў нашу дзяржаву, яго краіна сапраўды ператварылася ў стратэгічнага саюзніка Беларусі.

Для напісання манаграфіі аўтар выкарыстаў вялізную колькасць крыніц і літаратуры, прадэманстраваўшы здольнасць абагульняць і аналізаваць разнастайны матэрыял. Прававых актаў мы налічылі каля 50, манаграфій і артыкулаў – 56, матэрыялаў з інтэрнэту – каля 300. Аднак я лічу, што выкарыстанне такой вялікай колькасці крыніц, асабліва з сеціва, не пайшло на карысць

даследчыку, паколькі багацце інфармацыі "забіла" аналіз, праблемнасць у адносінах Беларусі з краінамі Лацінскай Амерыкі. Гэта датычыць найперш невысокай ступені абазнанасці партнёраў, ведання патэнцыйных магчымасцяў кожнага боку, інертнасці мыслення кіраўнікоў суб'ектаў гаспадарання як беларускіх, так і лацінаамерыканскіх. Такія моманты добра адлюстраваны ў працах беларускіх вучоных – прафесара У. Снапкоўскага і дацэнта А. Ціхамірава, але іх прозвішчаў ці прац рэцэнзент не заўважыў ні ў тэксце манаграфіі, ні ў бібліяграфічным спісе. Вядома, мы ўдзячныя аўтару за спасылкі на тры манаграфіі рэцэнзента, але разам з тым было б дарэчы спаслацца і на яго першы артыкул "Беларусь открывает окно в Латинскую Америку" ў часопісе "Латинская Америка" за 2008 г., а таксама на артыкул 2013 г. у тым самым часопісе, прысвечаны 60-годдзю У. Чавеса. У гэтай сувязі, напэўна, было б істотна больш ясна вызначыць храналагічныя рамкі працы, бо адны раздзелы пачынаюцца з 1991 г., а іншыя – больш познім часам. Ды і завяршаюцца яны рознымі часамі.

Тым не менш, нягледзячы на заўвагі, лічу, што Л. Стаськевіч правёў вялікую працу па даследаванні беларуска-лацінаамерыканскіх адносінаў, вылучыў тыя дзяржавы, якія будуць у XXI ст. выконваць усё большую ролю на міжнароднай арэне, нягледзячы на негатыўныя тэндэнцыі эканамічнага і палітычнага характару, што праяўляюцца апошнім часам. Манаграфія была б карыснай для студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў у Беларусі, калі б яе ўдалося выдаць у перакладзе.

Мінск *Аляксандр Чалядзінскі*

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2017 г.

## На ступень доктара гістарычных навук

Жаркенова, А. Социально-демографическое развитие населения Северного Казахстана во второй половине XIX – начале XXI в. : 07.00.03 / Жаркенова Айгуль ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 47 с. – Библиогр.: с. 40–46 (46 назв.).

Ходзін, С. М. Беларуская вёска: савецкая мадэрнізацыя ў 1921–1939 гг. : 07.00.02 / Ходзін Сяргей Мікалаевіч ; Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2017. – 46 с. – Бібліягр.: с. 34–43 (78 назв.).

## На ступень кандыдата гістарычных навук

Афанасенко, Ю. Ю. Митрополит Григорий Цамблак в общественно-политической и церковной жизни Восточной Европы : 07.00.03 / Афанасенко Юрий Юрьевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (16 назв.).

Бараненка, В. В. Беларуская абнаўленчая царква (1922–1938 гг.) : 07.00.02 / Бараненка Віктар Віктаравіч ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2017. – 29 с. – Бібліягр.: с. 23–26 (27 назв.).

Бригадин, Д. П. Преступность в Беларуси во второй половине XIX – начале XX в. : 07.00.02 / Бригадин Денис Петрович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 22 с. – Библиогр.: с. 18–19 (7 назв.).

Глазырын, С. Я. Паўстанне 1863 года ў Віцебскай і Магілёўскай губернях : 07.00.02 / Глазырын Сяргей Яўгенавіч ; Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2017. – 22 с. – Бібліягр.: с. 18–19 (10 назв.).

Диханова-Внуковская, Л. А. Миссионерская деятельность иезуитов в Индии и на Дальнем Востоке в

1541–1603 годах : 07.00.03 / Диханова-Внуковская Любовь Андреевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (11 назв.).

Зданович, Е. Ф. Исторические взгляды Е. Е. Замысловского : 07.00.09 / Зданович Елена Францевна ; Гродненский гос. ун-т. им. Я. Купалы. – Минск, 2017. – 21 с. – Библиогр.: с. 17–18 (14 назв.).

Ивицкий, А. М. Материально-техническое и продовольственное обеспечение партизан Беларуси в годы Великой Отечественной войны : 07.00.02 / Ивицкий Андрей Михайлович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 25 с. – Библиогр.: с. 21–22. (13 назв.).

Йоцюс, В. А. Государственная политика по переселению трудовых ресурсов из БССР (1921–1941 гг.) : 07.00.02 / Йоцюс Виталий Альгимантович ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2017. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (14 назв.).

Казак, О. Г. Этнокультурное развитие восточнославянского населения Подкарпатской Руси в условиях венгерской оккупации (1939–1944 гг.) : 07.00.03 / Казак Олег Геннадьевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 25 с. – Библиогр.: с. 19–22 (22 назв.).

Кежа, Ю. М. Станаўленне і развіццё княжацкай улады ў Полацкай зямлі X–XII стст. : 07.00.02 / Кежа Юрый Мікалаевіч ; Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2017. – 26 с. – Бібліягр.: с. 21–23 (21 назв.).

Клецкина, О. С. Становление и развитие театра Радзивиллов в 1724–1810 гг. : 07.00.02 / Клецкина Ольга Сергеевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 26 с. – Библиогр.: с. 20–23 (29 назв.).

Коршикова, А. О. Концепция ориентализма Эдварда Саида: истоки, содержание и влияние на историческую науку : 07.00.09 / Коршикова Анастасия Олеговна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (10 назв.).

Кузьмин, А. Д. Социокультурный облик чиновничества белорусских губерний (1864–1914 гг.) : 07.00.02 / Кузьмин Андрей Дмитриевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (18 назв.).

Матусевич, Ю. В. Медицинская помощь партизанам и населению партизанских зон Беларуси в годы Великой Отечественной войны : 07.00.02 / Матусевич Юлия Владимировна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 27 с. – Библиогр.: с. 20–24 (25 назв.).

Некрашевич, Ф. А. Отдельный Литовский корпус: создание, структура, деятельность (1817–1831 гг.) : 07.00.02 / Некрашевич Филипп Анатольевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (17 назв.).

Пустаход, Т. С. Навукова-педагагічная і асветніцкая дзейнасць М. К. Баброўскага (1784–1848 гг.) : 07.00.02 / Пустаход Таццяна Сяргееўна ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2017. – 22 с. – Бібліягр.: с. 18–19 (14 назв.).

Рэут, У. Р. Урадавая палітыка па падрыхтоўцы і ўвядзенні інвентароў у памешчыцкай вёсцы Беларусі (1818–1857 гг.) : 07.00.02 / Рэут Уладзіслаў Рыгоравіч ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2017. – 27 с. – Бібліягр.: с. 22–24 (19 назв.).

Скварчэўскі, Д. В. Фарміраванне і развіццё астранамічных ведаў у Вялікім Княстве Літоўскім у XIV–XVII стст. : 07.00.02 / Скварчэўскі Дзмітрый Вячаслававіч ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2017. – 24 с. – Бібліягр.: с. 20–21 (16 назв.).

Страленя, А. А. Деятельность земских начальников на территории Беларуси (конец XIX в. – 1914 г.) : 07.00.02 / Страленя Анна Анатольевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 22 с. – Библиогр.: с. 18–19 (10 назв.).

Трубчык, А. Г. Палітыка польскай улады ў сферы школьнай адукацыі на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў 1919–1921 гг. : 07.00.02 / Трубчык Алена Генадзьеўна ; Ін-т гісторыі Нац. акад. на- вук Беларусі. – Мінск, 2017. – 26 с. – Бібліягр.: с. 18–23 (38 назв.).

Худаир, Д. Формирование и деятельность Партии национального единства в Ираке : 07.00.03 / Худаир Дахам Али Худаир ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2017. – 23 с. – Библиогр.: с. 23 (5 назв.).

*Наталля Анофранка*

# In Memoriam

## Ганна Леанідаўна Харашкевіч (28.03.1931–1.05.2017)

Вестка пра смерць Ганны Леанідаўны Харашкевіч ускалыхнула супольнасць гісторыкаў, вельмі многія на яе адгукнуліся. І гэта зразумела, бо даследчыца была не толькі спецыялістам самага высокага класа, але і сапраўднай асобай, маральным аўтарытэтам. Такіх людзей ніколі не бывае многа, і адыход кожнага з іх – незаменная страта.

Нарадзілася Ганна Харашкевіч 28 сакавіка 1931 г. у Маскве. Яе продкі паходзілі з дваран Чарнігаўскай губерні, і гэта, відаць, адыграла сваю ролю ў навуковых зацікаўленнях даследчыцы. Украінская і беларуская тэматыка заўсёды была адным з галоўных кірункаў яе навуковай дзейнасці. У 1954 г. Ганна Харашкевіч скончыла гістарычны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, і з таго часу ўсё яе жыццё было звязана з гістарычнай навукай. Яе навуковым настаўнікам стаў славуты вучоны, адзін з самых буйных знаўцаў расійскай сярэднявечнай гісторыі акадэмік М. Ціхаміраў. Пад яго кіраўніцтвам яна падрыхтавала і ў 1958 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную гандлю Вялікага Ноўгарада з Прыбалтыкай і Ганзай у XIV–XV ст. Праз пяць гадоў выйшла манаграфія. Своеасаблівым працягам гэтай тэмы стала даследаванне гісторыі Полаччыны, якая на той час была вельмі мала распрацавана, хоць магчымасці для гэтага існавалі. Вынікам шматгадовых штудый Г. Харашкевіч стала яе доктарская дысертацыя “Нарысы сацыяльна-эканамічнай гісторыі Паўночнай Беларусі ў XV стагоддзі”, якую яна абараніла ў Інстытуце гісторыі АН СССР у 1974 г. Апублікаваным падагульненнем дысертацыі стаў славуты збор “Полацкія граматы XIII – пачатку XVI ст.”, пяць выпускаў і паказальнікі да якога выйшлі ў 1977–1989 г.

Кола навуковых інтарэсаў Ганны Леанідаўны было надзвычай шырокім і разнастайным. Гэта і праблемы сацыяльна-эканамічнага развіцця, і міжнародныя адносіны,

і гістарычны лёс усходнеславянскіх народаў. Асобна стаяць археаграфія і крыніцазнаўства. Метадычныя рэкамендацыі па выданні актаў Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага аўтарства Г. Харашкевіч і С. Каштанава на доўгі час вызначылі стандарты працы ў гэтым кірунку. Паралельна з распрацоўкай правілаў выдання гістарычных крыніц даследчыца актыўна займалася і іх выданнем. Тут яна асабліва шмат зрабіла для публікацыі матэрыялаў Метрыкі ВКЛ, а таксама твораў сваіх любімых замежнікаў: Герберштэйна, Міхалона Літвіна, Баплана, Штадэна і інш.

Калі працуеш з гэтымі выданнямі, здзіўляешся шырокай навуковай эрудыцыі і неверагоднай працавітасці аўтара. Іх дапаўняюць вывераны навуковы стыль і высокая культура мовы: адначасова простай, яскравай і вобразнай. Ганна Леанідаўна была спецыялістам вельмі высокага ўзроўню, але стыль яе пісьма адрозніваўся ад вучонага акадэмізму ў яго прынятым разуменні. Яна магла даволі іранічна выказацца пра залішнюю “вучонасць” той ці іншай публікацыі.

У даследаваннях Г. Харашкевіч аддавала перавагу працы з фактычным матэрыялам, якім выдатна валодала. Разам з тым яна не рабіла выгляду, што ведае абсалютна ўсё, і не саромелася спытацца пра тую ці іншую рэч, якая была для яе новай. Маючы вельмі вялікія веды, яна, тым не менш, не пераставала іх пашыраць і ўдасканальваць. Нават у лакальных, на першы погляд, сюжэтах і падзеях яна бачыла адлюстраванне буйных гістарычных працэсаў, на якія заўсёды старалася выйсці. Важнай рысай навуковых поглядаў вучонага было тое, што яна заўсёды аддавала асаблівую ўвагу гістарычным асобам – людзям. Яна не стамлялася паўтараць, што за кожнай гістарычнай падзеяй, за кожным фактам трэба бачыць чалавека.

Вельмі шмат дапамагала маладым вучоным. Не скупілася на пахвалу, і гэта шмат значыла, гэта натхняла. Была сціплым чалавекам з далікатным пачуццём гумару. Але разам з тым была асобай эмацыйнай, імпульсіўнай, часам магла даволі рэзка выказацца і пра людзей, і пра падзеі. Але гэтыя яе рэзкія выказванні былі выклікаsucceeded

ў першую чаргу адносінамі да сваёй навуковай справы, якую яна ставіла вышэй за ўсё. Яна была энергічным чалавекам і раіла дзеля дасягнення навуковых вынікаў грукацца ва ўсе дзверы. І, трэба сказаць, што дзякуючы менавіта яе ініцыятыве і намаганням было задумана і паспяхова рэалізавана некалькі буйных даследчыцкіх і выдавецкіх праектаў.

Ганна Харашкевіч заўсёды займала актыўную грамадзянскую пазіцыю. Чалавек дэмакратычных поглядаў, яна ў апошнія гады жыцця вельмі перажывала за пераход расійскай гістарычнай навукі да ранейшых імперскіх пазіцый. Яе ўласная навуковая пазіцыя: “Няхай цвітуць усе кветкі!” – цяпер там не ў пашане.

Па-сапраўднаму ўражвала яе адданасць справе. Маючы ўжо за восемдзесят гадоў, сур’ёзна хворая, яна, тым не менш, працягвала працаваць – праўда, ужо ў іншых жанрах, якія не патрабавалі наведвання архіваў і буйных бібліятэк. З-пад пяра даследчыцы ў той час выходзілі пераважна рэцэнзіі на кнігі і водгукі на падзеі навуковага жыцця.

Неаднаразова наведвала Беларусь, з цеплынёй пра яе адгукалася. А тут яе добра ведалі і высока цанілі. Яна прыклала шмат высілкаў дзеля таго, каб вывесці эпоху Вялікага Княства Літоўскага з перыферыі беларускай гістарыяграфіі, падтрымлівала беларускіх вучоных, якія займаліся гэтым перыядам. Была сталым і актыўным членам рэдакцыйнай рады “Беларускага Гістарычнага Агляду”. Асабліва дарагой і блізкай заўсёды заставалася для яе полацкая тэматыка, а сама яна з задавальненнем залічвала сябе да навуковай супольнасці “палачан”.

Ганна Леанідаўна Харашкевіч не дасягнула высокіх акадэмічных пасад і званняў. Кажучы па праўдзе, яна да іх не асабліва і імкнулася – хоць, бясспрэчна, заслугоўвала такога прызнання. Аднак яе ўнёсак у навуку такі важны і такі важкі, што яе постаць, несумненна, застанецца адной з самых значных у расійскай медыявістыцы 2-й паловы XX – пачатку XXI ст.

*Васіль Варонін*

## Аўтары нумара

**Wojciech Walczak**
Institut Historii
Uniwersytet w Białymstoku
Pl. Uniwersytecki 1
15-420 Białystok

**Аляксандр Гужалоўскі**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт
вул. Чырвонаармейская, 6
220030 Мінск

**Diana Siebert**
Universität Siegen
Historisches Seminar
Adolf-Reichwein-Straße 2
57068 Siegen

**Юрій Мицик**
Національний університет
"Києво-Могилянська Академія"
вул. Г. Сковороди, 2
04655 Київ

**Ryszard Radzik**
Akademia Pedagogiki Specjalnej
im. Marii Grzegorzewskiej
ul. Szczęśliwicka 40
02-353 Warszawa

# BELARUSIAN HISTORICAL REVIEW

Volume 24 Fascicles 1-2 (46–47) December 2017

## Contents

### Articles



### Classical Works of Lithuanian Historiogtaphy



### Archivalia



### New Literature: Reviews

**In Memoriam**